ББК 84.4П
К78

Серыя заснавана ў 1983 г.



Прадмова і пераклад з польскай мовы
Пятра Бітэля

Пераклад зроблены з выдання:
Kraszewski J. I. Chata za wsią.—
Kraków: Wydawnictwo literackie, 1963.

Польский романист Ю. И. Крашевский (1812—1887) был одним из наиболее плодовитых писателей в мире. Оставленное им наследие составляет 600 томов. В них отражена история Польши начиная с древних времен. В повести «Хата за селом» показана жизнь волынского села І-й пол. XIX в., в эпоху существования патриархальной крепостной деревни. Повествование основано на образах с натуры, на живых, взятых из народного быта материалах.

К $\frac{4703000000-093}{М 302(03)-89}$ 153—89
ISBN 5-340-00172-5 (беларус.)

## АД ПЕРАКЛАДЧЫКА

Класік польскай літаратуры Юзаф Ігнацы Крашэўскі паходзіў са шляхецкага роду, быў сынам харунжага з в. Доўгае каля Пружан. Нарадзіўся ён 28.7.1812 года ў Варшаве. Пачатковую і сярэднюю адукацыю атрымаў у Свіслачы, там прайшлі яго дзіцячыя і юнацкія гады. Пасля заканчэння гімназіі вучыўся ў Віленскім універсітэце, спачатку на медыцынскім аддзяленні, пасля перайшоў на факультэт рыторыкі і вольных навук.

З маладых гадоў захапіўся Крашэўскі гісторыяй і мастацтвам, а з часам гэта захапленне пашырылася на археалогію і этнаграфію.

У 1830 годзе за агітацыю сярод моладзі супраць царскага самадзяржаўя і чыноўніцкіх злоўжыванняў быў арыштаваны і каля двух гадоў адбываў турэмнае зняволенне. Пісаць пачаў рана, першыя яго творы з'явіліся ў друку ў 1830 і 1831 гадах.

Не могучы напачатку забяспечыць сабе літаратурнай творчасцю дастатковага даходу, з 1837 да 1853 года жыў у сваім невялікім маёнтку і займаўся сельскай гаспадаркай. Пазней, заняўшы пост акруговага інспектара школ, да 1860 года жыў у г. Жытоміры. Праз увесь гэты час інтэнсіўна займаўся літаратурнай творчасцю. У 1837—1851 гадах ён супрацоўнічае з «Тыгоднікам Пецярбургскім» і «Газетай Варшаўскай», рэдагуе віленскі часопіс «Атэнэум». У гэты перыяд некалькі разоў наведвае Адэсу і Варшаву, а ў 1858 годзе выязджае за мяжу, каб пазнаёміцца з Італіяй, Францыяй і Германіяй.

У 1860 годзе, атрымаўшы пасаду рэдактара «Газеты польскай», пасяліўся ў Варшаве, але, абвінавачаны ў 1863 годзе ў спачуванні паўстанцам, быў выселены са сталіцы і мусіў выехаць у Германію. Там спыніўся ў г. Дрэздэне і заняўся выдавецкай дзейнасцю, набыў нават уласную друкарню, але праз нейкі час быў вымушаны яе прадаць. З 1873 года аддаўся выключна пісьменніцкай працы. Некалькі разоў наведваў Познань, Кракаў і Львоў, а ў 1883 годзе яго арыштавалі ў Берліне нямецкія жандары, абвінаваціўшы ў падрыўной рабоце на карысць Францыі. Суд у Лейпцыгу прыгаварыў яго да трох з паловай гадоў Магдэбургскай крэпасці. У 1885 годзе стараннямі сяброў, з прычыны хваробы лёгкіх, ён быў выпушчаны на волю пад залог. Пасля таго жыў нейкі час у Швейцарыі і Італіі. Памёр у Жэневе 19.3.1887 года.

Польскае літаратуразнаўства лічыць Крашэўскага стваральнікам новага польскага рамана. Яго літаратурная спадчына, апроч мноства артыкулаў у часопісах і вялікай асабістай карэспандэнцыі, складае 600 тамоў. За 57 гадоў літаратурнай дзейнасці ён напісаў 232 раманы і аповесці, з іх 144 на грамадска-палітычныя, бытавыя і народныя тэмы і 88 на гістарычныя.

Беларускі край быў яму родны, і ён пісаў пра яго з вялікай любоўю, пра што сведчыць не адна кніга, і ў першую чаргу кніга падарожжаў «Успаміны Палесся, Валыні і Літвы». Апроч гэтага, ён пісаў пра Вільню, пра Бабруйскі павет і іншыя мясцовасці. Ю. І. Крашэўскі старанна вывучаў мінулае нашага краю, займаўся археалогіяй і этнаграфіяй. Ён трымаў цесную сувязь з такімі сучаснымі яму вучонымі, як браты К. і Я. Тышкевічы, А. Кіркор, К. Гаворскі, Т. Нарбут, У. Сыракомля і іншыя, і зрабіў значны ўклад у развіццё названых навук.

Апрача ўсяго гэтага, Крашэўскі займаўся паэзі-

яй і драматургіяй. Ён стварыў некалькі паэм, вершаваных казак, драматычных твораў і напісаў многа вершаў. Займаўся таксама перакладамі з розных моваў. Вядомы, напрыклад, яго пераклад «Боскай камедыі» Дантэ і іншых твораў замежных пісьменнікаў і паэтаў.

Вельмі шырокай была дзейнасць Крашэўскага і на ніве літаратурнай і мастацкай крытыкі, якім прысвяціў ён шмат сваіх артыкулаў у розных перыядычных выданнях. Неацэнны яго ўклад і ў развіццё сусветнай літаратуры як выдаўца шматлікіх вядомых твораў розных аўтараў.

Нельга не адзначыць, што Крашэўскі быў таксама выдатным мастаком. Ён вучыўся ў Вільні ў мастака Б. Дамброўскага і набыў папулярнасць як аўтар не абы-якіх акварэльных пейзажаў і партрэтаў. Яго мастацкія творы захоўваюцца ў розных польскіх і замежных музеях.

Прапанаваную тут аповесць «Хата за вёскай» Крашэўскі напісаў у 1854 годзе. Гэта адзін з найлепшых яго грамадска-бытавых твораў, дзе ўзнята тэма, якой дагэтуль пісьменнікі пазбягалі, лічачы жыццё найбяднейшых, прыгнечаных і няшчасных людзей нявартым мастацкага адлюстравання. З вялікай сімпатыяй і любоўю ставіцца аўтар да ўсіх абяздоленых, ён услаўляе іх працавітасць, сумленнасць, пачуццё чалавечага гонару, маральную чысціню і нястомнае імкненне да дасягнення вызначанай мэты. Гэтыя якасці простага народа ён супрацьпастаўляе разбэшчанасці, бязвольнаму эгаізму і самадурству пануючага класа, прадстаўніком якога з'яўляецца пан Адам.

Падзеі, паказаныя ў аповесці, адбываюцца на фоне жыцця невялікай групкі вандроўнага народа — цыганоў. На фактах іх галоднага і халоднага жыцця Крашэўскі спыняе ўвагу прадстаўнікоў дзяржаўнай

улады і наогул чытачоў. Ен нікога не абвінавачвае ў галечы гэтых абяздоленых, не дае рэцэптаў для паляпшэння лёсу цэлага народа, а толькі сцвярджае, што такая праблема існуе і чакае свайго вырашэння. Наогул аповесць адлюстроўвае сельскае жыццё першай паловы XIX стагоддзя, эпоху існавання патрыярхальнай, прыгоннай і цёмнай вёскі.

Як ужо было сказана, Крашэўскі пісаў надзвычай многа і на розныя тэмы. Ён амаль ніколі не вяртаўся да напісанага раней, бо яму проста не хапала на гэта часу. Таму стыль яго твораў не заўсёды гладкі і адшліфаваны.

Дасужы чытач можа і ў «Хаце за вёскай» заўважыць нязначныя хібы, якія, аднак, ні ў якім разе не змяншаюць мастацкай вартасці гэтага выдатнага твора польскай класічнай літаратуры.

*П. Бітэль*

Нябожчык Сыракомля — хай будзе душы яго лёгка — у адным сваім пісьме прасіў у мяне на памятку малюнка, але хацеў, каб я прыслаў яму што-небудзь хатняе, сваё, што б напамінала яму радзіму.

І пайшлі тым часам прыхопленыя дзесьці ў падарожжы «Старыя вароты», якія яшчэ няўна можна было бачыць у нас ля гумнаў і двароў. З гэтых старых варот паэт стварыў паэму, а малюнак паслужыў яму за ілюстрацыю.

Вось гэтак і мы з выгляду ляпянкі, якая стаяла на раздарожжы за валынскай вёскай і была пазалочана апошнім праменьчыкам вячэрняй зары, вылепілі гэту «Хату за вёскай». Чытаючы, няцяжка здагадацца, што пісалася яна ў той шчаслівы час, калі ў нас былі вёскі і мы маглі жыць у вёсцы, калі нашы вочы цешыліся лясамі і зелянінай, нашы вушы штодня чулі гутарку народа і мы цэлы дзень сутыкаліся з народным жыццём. Вось дзеля таго «Хата за вёскай» і аснавана на вобразах з натуры, на жывых, узятых з народнага побыту матэрыялах.

Ад 1852 года, калі яна пісалася, мінае амаль дваццаць гадоў, таго народу і таго жыцця ўжо няма. Тое, што было малюнкам, сталася амаль гісторыяй. Змяніліся адносіны двара і вёскі, маёмасці, працы, звычаяў, мова — застаўся толькі краявід і даўнейшы фон.

Аповесць была надрукавана перш у «Біблія-

тэцы Варшаўскай», пасля асобна выйшла ў М. Вольфа ў Пецярбургу.

З гэтага выдання быў зроблены рускі пераклад, які надрукавала «Библиотека для чтения», а ў 1856 годзе павінен быў з'явіцца ў Бруселі французскі. Таго апошняга мы ніколі не бачылі і даведаліся пра яго з запісак пана Эстрайхера.

Цыганскую мову і звычаі вывучаў я паводле даступных мне малавядомых крыніц; у тыя часы няцяжка было сустрэцца ў нас на Валыні з цыганамі; яны былі кавалямі, аселымі ў вёсках, і шмат можна было пра іх наслухацца.

Тэма ўзята цалкам з валынскага побыту, бо аўтар тады яшчэ жыў у гэтым прыгожым, вясёлым і праўдзівым кутку, пачынаючы ад 1836 года аж да 1859-га. Быў ён сельскім гаспадаром і няспынна меў перад вачыма вёску, сялян, краявіды і тагачаснае жыццё, якое ўжо ніколі не вернецца... З волі і міжвольна адбілася яно ў гэтай аповесці.

Дрэздэн, чэрвень 1871 г. *Ю. І. Крашэўскі.*

# ХАТА ЗА ВЁСКАЙ

Вельмі рэдка чалавек, пастаўлены шчаслівым лёсам у трохі лепшае становішча, хоча звярнуць вока на тое, што адбываецца ніжэй яго; карыстаемся дабротамі, не жадаем вучыцца, не любім разважаць. А ўважлівы погляд не раз выклікаў бы слязу, напомніў бы пра цяжкія, ускладзеныя на нас абавязкі. Але мы лічым за лепшае вандраваць далей з узнятай да летуценняў або звернутай да сябе галавой і тое, што пад нагамі, мінаем. Гэтак ідучы, колькі ж прапускаем міма сябе сапраўдных таямніцаў жыцця, якіх не знойдзем ні ў якай кнізе, ні на якім малюнку, ні ў самым фантастычным летуценні!

О! сапраўды шкада, бо толькі адзін бог пазірае згары на тысячы ўбогіх стварэнняў, якія маюць у сабе больш сілы, прыгажосці, энергіі і прыстойнасці, чым тыя, што лезуць нам у вочы ў драмах, якім хіба толькі бліскучыя рамкі даюць права на людскую зацікаўленасць і памяць.

Неаднойчы, прыглядаючыся да абдзёртага жабрака, да ўбогага вясковага дзіцяці, якое засталося сіратой і харчавалася запляснелым жабрачым хлебам, я думаў: колькі ж навукі магло б выявіцца з мікраскапічнага позірку на гэтае поўнае болю, прыніжэнняў, галечы і нягод жыццё няведамых, няшчасных, адкінутых, ледзь прыкметных на свеце істотаў...

Мы добра ведаем, як плывуць гадзіны ў шчаслівых, багатых, знатных, ад нараджэння спавітых у цянюсенькія пялёнкі і тых, што спачываюць у бронзавых грабніцах; ведаем, як іх водзяць на паясках, як наму-

штроўвуюць іх для будучыні; як яны ходзяць, як кланяюцца, што ядуць, як убіраюцца, жэняцца, зводзяцца і разводзяцца, старэюць, дурнеюць, пазяхаюць і паміраюць. А хто калі расказаў пра формы жыцця бедняка? Гэтыя ж дзве экзістэнцыі, з якіх адна так блішчыць, а другая гэтак непрыглядна схавана, аднолькава вялікія і значныя перад богам і ў вачах даследчыка людзей.

Матыль і самы мізэрны чарвяк маюць аднолькавае права на жыццё. Даследчыкі прыроды аднолькава вывучаюць як інстынкты дробнай мушкі, так і велічэзнага арла. Чаму ж бы пісьменнік не меў такога самага права падрабязна апісваць жыццё аднаго з тых вусеняў, якія, прапаўзаючы па чорнай зямлі, гінуць незаўважаныя і непашкадаваныя, затаптаныя абыякавай нагой? Колькі ж яшчэ існуе цёмных, недаследаваных і пакінутых закуткаў у велічэзным і некранутым прасторы гісторыі чалавецтва!

Як тыя пісьменнікі, што, мінаючы дробныя стварэнні, ішлі перш пазнаёміцца з тымі, якія трапілі ім на вочы дзеля сваёй велічыні, формы ці колеру, мы таксама аж да пярэсыці і празмернасці намалявалі розных надзвычайных карцін з чалавечай гісторыі, мінаючы аднолькава займальныя, толькі меншыя, сціплейшыя і не такія лёгкія для ўспрыняцця.

Толькі цяпер пачынаем заўважаць, што мы моцна памыляліся, што ўсе нашы адлюстраванні грамадства няпоўныя і кульгавыя, што ў іх не хапае аднаго боку, што мы прымалі частку за цэлае і аднялі ўсякую важнасць ад таго, што, па сутнасці, можа, з'яўляецца самым важным.

Трэба прызнаць, што гэтыя карціны адносна іх мастацкасці праходзяць і павінны праходзіць, як эстампы парыжскіх мод, што з часам становяцца смешнымі. Тое, што мы прывыклі называць вышэйшым грамадствам, амаль заўсёды і ўсюды з'яўляецца касмапалі-

тычнай амальгамай, на якой больш адбіваецца колер прывілеяваных сталіц моды, чым краіны, з якой яны паходзяць. Як некалі Афіны, пасля Рым, сягоння Лондан і Парыж надаюць канвенцыянальнаму свету, называнаму вышэйшым, тон і каларыт. Самы парадны салон гэта якраз той, які найбольш набліжаны да чужаземнага ідэалу.

У Лондане быў ідэалам Парыж, у Парыжы трохі пераймаюць Лондан, па ўсім свеце — абедзве сталіцы, і нідзе, толькі ў нас малпуюць усё, што чужое. Ці ж вартае такога прыніжальнага шалу рысаванне ўзорчыкаў і ўвекавечванне так нечувана свайго адмаўлення, падданства ўяўнай вышэйшасці? Не ведаю. Адно пэўна, што хоць жыццё вышэйшых слаёў грамадства можа здацца надзвычайна мілым, з нейкага погляду свабодным (супраць выбрыкаў стаіць на варце канвенанс), я гэтага шнураванага і накрухмаленага жыцця не люблю — прынамсі, маляваць. Калі мусім у ім жыць — што ж! жывём; мусім пад пракляццем малпаваць заграмічных балваноў,— малпуем, але каб нашы куртатыя сфранцужаныя гутаркі заслугоўвалі намалявання і даследавання!.. Nego! nego! nego!

Гляньма ніжэй! — Брудна — скажаце? На жаль, сапраўды брудна. Але як для мастака дзядзінец пакінутай хаты з'яўляецца лепшым аб'ектам для карціны, чым вываскаваны салон з каланадай, так і для пісьменніка больш маляўнічы лахман, чым накрухмаленая бальная сукня ці лакіраваны чаравік элеганта.

Увесь гэты раздзел мае на мэце выясніць чытачу (бо не думаю апраўдвацца перад крытыкай, рамяство якой у нас — гарлапаніць і чарніць), вытлумачыць прадмет гэтай аповесці. Даруйце мне, што ўвяду вас у абдзёрты натоўп, у цесную хатку, што загадаю вам дакрануцца да лахманоў і гадзіну жыць у кампаніі людзей, якія не ведаюць французскай мовы і ніколі не вучыліся граць на раялі! Магчыма таксама, што ў кан-

цы гэтай казкі вы знойдзеце і для свайго жыцця карысны сэнс маральны, які часта міжвольна насоўваецца аўтару, бо кожны аўтар бярэ прыклад з божага твора, а ў божых творах маральны сэнс захоўваецца ў кожным каменьчыку. Справа толькі ў тым, каб каменьчык загаварыў, а чалавек зразумеў.

Была гэта сабе... вёска (на жаль, на жаль, зноў на паграніччы Валыні і Падоліі), трохі яшчэ валынская і ўжо крыху падольская, размешчаная ў даліне, падобнай на нейкі яр. Над ёй на шырокай раўніне цягнуліся залацістыя палеткі збожжа, папраразаныя невялікімі чорнымі лясочкамі; сярэдзінай сяла бегла ледзь бачная рачулка, сабраная ў даволі значны стаў. Хаты папрылепленыя да схілаў узгорка, весела бялелі сярод зялёных дрэў, пазіраючы з вышыні ў бок става, які адбіваў іх у чыстых водах.

Ціха, зелена, спакойна, добра неяк было ў гэтай даліне, напэўна спецыяльна пракладзенай водамі патопу, кіраванымі рукой, якая ведала, што некалі тут паселяцца людзі. І дрэвам, і хатам, і людзям было там як у бога за пазухай; амаль заўсёды свяціў над імі ясны кавалак неба, зрэдку прыносілі сюды апякунскія духі спакойны асвяжальны ветрык, а навальніцы заўсёды праходзілі бокам на лясы і бары.

Селішча, разрастаючыся ўсё далей і далей, пасоўвалася ярам над рэчкай, і што раз то новая хата пачынала бялець і свяціцца між цярноўнікаў і ляшчыны, што кусціліся абапал расселіны. На высокай плошчы ўзгорка ўзнімаў над вёскай свае крыжы могільнік; быў ён вельмі сумны, і я не ведаю, як людзі, прызвычаеныя да такіх вясёлых хатак, маглі пасля спаць на гэтым закінутым прасторы. Напэўна, уставала там шмат прывідаў, якія вярталіся начамі ў свае зацішныя сялібы.

Гэты могільнік быў адзінай непрыгожай часткай паселішча, калі часткай назваць яго можна. У рэчаіс-

насці ён амаль злучаўся з вёскай; хаты, чапляючыся за гару, падыходзілі аж да яго і рассыпаліся ўздоўж дарогі. На вяршыні ўзгорка была брама на поле, і аж да яе прыпіраўся могільнік. Не ведаю, ці прыгледзеліся вы калі-небудзь да вясковага могільніка ва ўрадлівай акрузе, дзе дарагая кожная пядзя зямлі? Як скупа адмерана там грунту памерлым! Як там ім цесна і душна! Суседзі, баючыся, каб могільнік не ўрэзаўся ў іхняе поле, аперазалі яго валам і ровам, але ніхто не здагадаўся пасадзіць дрэўца, якое б шумела і плакала над магіламі; толькі трохі крапівы і дзяванны, прыбранай у залацістыя званочкі, зелянее дзе-нідзе на гэтай акропленай бязлікімі слязьмі раллі...

Але затое які ж тут лес крыжоў і крыжыкаў! Не кожны мог здабыцца на моцны вялікі дубовы і маляваны крыж, бяднейшыя выстругалі яго з кіёў, выпілавалі з крохкай драніцы і ўваткнулі крыва, нядбайна, ненадоўга; першая навальніца паваліць іх, за некалькі гадоў зробяцца яны ў парахно. Там жаўцее свежая магіла, на якой яшчэ не мела часу насеяцца і ўсміхнуцца зелянінай трава, побач замест горбіка толькі ўвагнуты дол. Вось так бывае і з жалем, як з магіламі: там, дзе рос угару, пакідае толькі пустату... На вале, на рове адзін уваход, адна цесная брамка, але нябожчык праходзіць праз яе, і яшчэ яна яму зашырокая, над ёй — крыжык, а варотцы здаўна сталі мастком, бо яго дылі, лежачы глыбока ў рове, разваліліся і згнілі.

Калі ў зацішным сяле не чутно ветру і навальніцы, то затое нябожчыкаў на гэтай гары не абміне ніякі віхор; шмат ён ужо тут крыжыкаў накрышыў! Уявіце, як сумна, як цяжка павінна быць тут памерлым, а што ж казаць пра жывога!

Бо вось тут жа, толькі праз дарожку, за шэсць крокаў ад брамы,— ці бачыце? — стаіць хатка, прыпёртая адной сцяной да абрыву гары, другой звернутая да могільніка.

Хатка!.. ой!.. благая гэта назва — хіба ляпянка і то гэта, можа, зашмат — будан, але ўжо не будан. Стаіць штосьці, чаго нельга назваць, але гэта не звярыная яма, гэта несумненна жыллё чалавека. Цяжка ўявіць сабе нешта бяднейшае.

Перш за ўсё таму, што тут бязлессе, збудавана яна з кавалкаў дрэва, назбіраных дзесьці па дарозе, прынесеных, можа, ветрам ці бурай, бо лепшыя і большыя палешкі носіць, як разгуляецца, віхор. Але чаго не змогуць двое: чалавек з нядоляй! За дзве сцяны служыла вогкая гара, выгладжаная дажджамі, дзве другія злеплепыя, як ластаўчына гняздо.

І сапраўды знойдзеш у ёй тое, што і ў гняздзечку гэтай хітрамудрай птушыны: дрэва, салому, гліну, гразь, збітыя разам і па-мастацку злітыя ў адно цэлае, якое трымаецца і стаіць. Дахам служаць накіданыя калкі і плота, крывое лясное галлё, салома і яшчэ невядома што, прыкрытае дзярнінай! Рэшту закончыў бог, пасеяўшы на гэтай плошчы буйное быллё, крапіву, дзяванну, траву і густалістае зелле, што звязала крохкае покрыва ляпянкі. Шуміць там на страсе цэлая ніва дробнага і вялікага пустазелля, як на магіле!

Спаміж зялянiны выступае, выплецены з галля, аблеплены глінай і прыкінуты кавалкам старой маты, дымаход, які таленавіта прыкідваецца комінам — камедыянт!

Не нудзіцеся, не нудзіцеся, дарагія чытачы! Гэта сапраўды нешта цікавейшае, чым апісанне палаца, пабудаванага ў стылі рэнесансу або гатыцкай дачы! Ідзем далей.

Сцены, каб не абвальваліся — давяраць ім цалкам не выпадала (што ж на свеце не здраджвае? нават калкі!) — абвёў хітрамудры архітэктар прызбай, якая іх трымае і не пускае. Зверху ўжо хіляцца, знізу — ні ў якім разе. Дзве ці тры крывыя жэрдкі служаць падпорамі. У гэтых дзвюх сценах прамінулі мы не менш вар-

тыя апісання дзверы і вокны. Вокны? Не ведаю, ці можна так назваць дзве нароўнастароннія, аблепленыя глінай адтулінкі з устаўленымі ў іх без рам некалькімі кавалкамі бруднага шкла. Вядома, гэта ж вокны, бо хоць не прапускаюць паветра і святла даюць нямнога, ашукваюць прахожых, сцвярджаючы, што ў хаце павінна быць відна.

З дзвярмі будаўніку было выкручвацца цяжэй, але галеча — вялікі дойлід, яна творыць з нічога, ніякі Паладыё гэтага не зможа. А дзверцы — сапраўдны цуд, вы толькі на іх зірніце. Дастаюць, гарэзы, аж да самага даху і, здаецца, гавораць: «Не трэба ўваходзячы згінацца». Але і яны разам з вокнамі і комінам іграюць камедыю, бо, падышоўшы бліжэй, убачыш, што яны табе па пояс. Аднак і над гэтымі дзверцамі трэба было шмат папрацаваць. Хто ж так пакінуў бы ў бязлеснай ваколіцы дошку, каб можна было яе ўзяць, не сказаўшы нават «дзякуй»! А той, хто стаўляў гэту ляпянку, відавочна, павінен быў пасылаць па плату да бога.

Аддаў бы я гэтыя дзверцы ў музей, каб тыя, хто цэніць старажытны посуд, пабітыя кавалкі, змаглі з разбітых дзверцаў прачытаць, колькі ўздыхаў ламала грудзі таго, хто над імі працаваў! Зірніце, колькі тут старанна прыладжаных кавалачкаў, колькі клінкоў, устаўак, дзірак, пазабіваных калкамі, дручкоў, ператвораных у дошчачкі тупой сякерай і слабай рукой! Колькі сышлося тут відаў драўніны, здзіўленых, што ім давялося выконваць адну службу: сасна, дуб, асіна, бяроза і нават ганарысты граб, які прывык служыць толькі млынарам, павінны былі даваць калкі. Хапіла ж тут працы, хапіла, але гэта было даўно, бо дажджы і паветра ахінулі адным пакрываламм усіх гэтых прышэльцаў, няроўнасць паходжання якіх цяпер ледзь толькі можна было пазнаць.

Уявіце ж сабе такую хатку, такое сховішча без назвы, прылепленае да гары супраць могільніка на лы-

сым узгорку, за гоні ад вёскі, і вы, напэўна, запытаецеся: «Хто ж мог там будавацца і жыць?» Той, хто звычайна жыве ў ляпянках — убогі; стварэнне часта само вінаватае ў сваёй галечы, часта не вінаватае перад богам, хоць праклятае людзьмі: бедная істота, якая спяшаецца памерці, каб адпачыць, бо няма нашто ёй жыць.

Ці ж мог быць для бедняка больш адпаведны від, чым месца вечнага спачынку?

Вёска, якую мы бачылі, называлася Ставіскі. Далей у яры, трохі вышэй пад гару, каля павароту рэчкі раскінуўся панскі двор, які бялеў здалёк у клубах зеляніны. Двор прыгожы, новенькі, чысценькі і так зручна размешчаны, што з яго было відаць тое найпрыгажэйшае, створанае богам: вада, горы, хаткі, цэркаўка, касцёлак і ўдалечы лясы. Могільніка адтуль ані следу, бо навошта ж там могільнік?

Хто жыў у двары, даведаемся пазней, цяпер звернемся да хаткі.

Некалькі дзесяткаў гадоў таму назад, калі яшчэ не стаяў гэты цудоўны двор і англійскія агароды не занялі месца варыўных, прыцягнулася ў Ставіскі грамада цыганоў, важак якой, як звычайна, займаўся кавальствам, сваякі былі падручнымі, а сям'я варажыла і крала. Дзеля таго, што ўжо і тады штораз радзейшымі станавіліся вандроўкі гэтых загадкавых бадзяг, мова і паходжанне якіх дагэтуль пакрыты непрабіўнай таямніцай, усе свабодныя ад працы жыхары вёскі выбеглі паглядзець на прышэльцаў, што пасля сотняў гадоў вандравання яшчэ насілі на чале след свайго паходжання аднекуль з смуглявага Усходу ці Поўдня.

Сапраўды, у тварах і вопратцы гэтых прыблудаў было штосьці настолькі не наша, такое чужое, што на-

ват абыякавы селянін быў змушаны звярнуць вочы на гэтых людзей з іншага свету і іншага жыцця, не могучы зразумець ані іх выгнання, ані добраахвотнай вандроўнай долі.

Усе бабы, нават тыя, што мясілі хлеб, павыбягалі з сяней з закасанымі па локці рукавамі, ведучы за рукі цікаўных і напалоханых дзяцей у стра́ху, каб цыганы іх не схапілі. Усе старыя выйшлі аж на дарогу, а тыя, хто вяртаўся з поля — бо гэта быў летні вечар,— запыняліся з плугамі сярод вуліцы.

Грамада гэтых цыганоў налічвала болей за дзесятак асоб, якія паволі сунуліся ў бок карчмы. Найбольш паглядны рослы мужчына кіраваў павозкай, на якой былі відаць малы палатаны кавальскі мех, складзеная палатка, пераноснае кавадла і іншыя жалязякі і манаткі. Сярод гэтага хламу сядзела невыгодна скурчаная сярэдняга ўзросту жанчына з дзіцём ля грудзей. Гэта была сапраўдная ведзьма: чорныя валасы ападалі вакол яе загарэлага твару, вочы мела бліскучыя і шырокія каралавыя вусны. Акрывала яе вялікая пафалдаваная хустка. На каленях у жанчыны ляжала зусім голае дзіця, прычапіўшыся вуснамі да матчыных грудзей.

Позірк гэтай жанчыны, на твары якой адбіваліся стомленасць, боль і смутак, не адрываўся ні на хвіліну ад дзіцяці, быццам яна нешта аб ім марыла, а на астатні свет не жадала нават зірнуць. Мужчына, які дужай рукой вёў іх падарожны воз, быў незвычайна шыракаплечы, вельмі рослы і меў насупленую фізіяномію. Чорны, з адкрытымі, зарослымі чорнымі кудламі грудзьмі, апрануты толькі ў дзіравую зашмальцаваную кашулю і парваныя нагавіцы, чалавек ішоў босы, з голай галавой, якую ад сонца і ветру ахоўвалі толькі кучаравыя валасы. Аднак, нягледзячы на лахманы, ішоў ён такім ганарыстым крокам, з такім паважным выглядам, што адразу можна было пазнаць у ім правады-

ра грамады ромаў (гэтак называюць сябе часта цыганы).

Побач з ім і следам валаклася рэшта сям'і: трое рознага ўзросту голых дзяцей (ад васьмі да дванаццаці гадоў), юнак гадоў за дваццаць, стройная дзяўчына прыгожага стану, гадоў, можа, васемнаццаці, трохі акуратней апраненая і арыгінальна прыгожая; адрахлелая баба, пастарэлы, з кіем, з кучарамі на лобе каржакаваты нізкі чалавек, а ззаду яшчэ дзве ці тры жанчыны, абвешаныя паласатымі коўдрамі, якія цягнуліся па зямлі.

Усе яны ішлі моўчкі, быццам чакаючы загаду правадыра і калі-нікалі на яго пазіраючы. Воз спыніўся каля карчмы, старэйшы падняў галаву і азірнуўся навакол.

Якраз тым часам на парозе гэтага будынка з'явілася некалькі гаспадароў на чале з войтам у высокай баранавай шапцы. Яны глядзелі і чакалі, з чым адзавуцца падарожныя. Цыган палічыў іх вачмі і інстынктыўна ці, магчыма, па новай шапцы пазнаў войта, падышоў да яго і нізка пакланіўся.

— Бог з вамі, пане гаспадар,— загаварыў ламанай мовай з украінскім акцэнтам, але голасам моцным і поўным асаблівага нейкага гучання, як быццам за той пазычанай мовай скрывалася іншая, свая.— Напэўна, вы тут старэйшы?

— А калі так, дык што? — адказаў даволі ганарыста і звысоку Максім Лях.

— А калі так,— сказаў цыган, абціраючы з лоба астаткам падзёртага рукава пот,— то я прасіў бы вас дазволіць нам пераначаваць у вёсцы.

— Ну, ну, а заўтра б у нас якога-небудзь каня не хапіла! — сказаў, смела беручыся ў бокі, войт.

— Няма чаго баяцца,— адказаў з уздыхам і паўусмешкай цыган.— У вас самога, быццам бы коней няма, а мы не з тых цыганоў, што на чужое азіраюцца.

Сваімі рукамі на хлеб зарабляем, *цюрханаў* (зладзеяў) між намі няма.

— Але скуль жа ты, чарцяка, ужо можаш ведаць, што ў мяне няма коней? — выкрыкнуў са здзіўленнем і ажно падскочыў Максім Лях.

— Цыган, дабрадзею, усё ведае,— абыякава буркнуў правадыр табара.

— Вось ліха,— чырванеючы і азіраючыся на сваіх, працягваў неспакойны пан войт,— каб вам не было патрэбы для злачынства ўсё ведаць, дык вы не стараліся б дабыць гэтыя звесткі. Паглядзіце на яго! Ледзь толькі ўвайшоў у вёску, а ўжо ведае, што ў мяне няма коней. Во знахар!

— Які там знахар? — прамовіў, варухнуўшы плячыма, цыган.— Вось зараз вам раскажу, адкуль што я ўзяў, і вы перастанеце дзівіцца з маёй мудрасці. Мы ўжо тыдзень сядзім у Пянткоўцы, што за паўтары мілі адгэтуль; хвала богу, людзі там на Апраша не крыўдуюць, шмат работы перавалілася там праз нашы рукі. Як мы адыходзілі, паказаўшы дарогу ў Ставіскі, мне раілі, пане войце, звярнуцца да вас, а стары Мурынец дадаў: «Толькі коней яму не падкуяце, бо ў яго іх няма». Вось і ўвесь сакрэт!

Пакуль ішла гэта гутарка, рэшта цыганоў, стомленая дарогай, як стаяла, так і пасела на зямлі. Старэйшыя паапускалі галовы, маладзейшыя ўзнялі іх, прыглядаючыся да вёскі. А цыганская дзяўчына стала побач з правадыром, прыняўшы прынадную паставу, і, здавалася, хацела змякчыць чорнымі вачыма сялян, якія пазіралі злосна і недаверліва.

— Ну, ну, як там яно ёсць, так ёсць,— адазваўся Максім Лях,— а вы рушцеся з богам далей!

— Але ж мы просім дазволу толькі пераначаваць!

— Сонца яшчэ не зайшло, дацягнецеся да другой вёскі, у нас тут цыганоў не бывала, і абыдземся без іх.

Старэйшы ўздыхнуў, памаўчаў хвіліну, а потым,

абапёршыся на пугаўё, памалу ўзняў галаву. Падступілася дзяўчына.

— А што ж благога могуць зрабіць вам цыганы? — адазвалася смела, выразна і чыста па-ўкраінску.— Вас тут столькі, а нас маленькая жменька, брыдка вам абы-чаго баяцца. У Пянткоўцы сядзелі мы цэлы тыдзень і, дзякуй богу, не ўцяклі адтуль, а добрыя людзі правялі нас добрым словам і прасілі вярнуцца.

— Ціха, Аза-*ора*, ціха! — тупнуўшы нагой, перапыніў яе цыган.— Чаго табе сюды ўмешвацца? За воз, малая, да баб!.. Не праганяйце нас, пане войце, лепш раздумайцеся, пара цяпер рабочая, каваль за дзве вярсты, не аднаму з вас трэба траціць дзень, каб паправіць лемеш ці нарогі; дазвольце нам прыпыніцца, дык і мы будзем мець кавалак хлеба, і вы з нас карысць. За што з вас іншы возьме злот або два, бедны цыган зробіць за дзесятку ці за паўзлотку, і дзень зберажаце, а гэта таксама значыць капейку. Паветра ад вас, ні зямлі, ні вады не забяром з сабой, а месца таксама нам шмат не трэба. Вось,— дадаў, паказваючы,— кавалак выгану, абы палатку паставіць і кацялок павесіць, дык і хопіць з нас...

Калі цыган гэта гаварыў, гаспадары пачыналі, ківаючы галовамі, пазіраць адзін на аднаго, відаць было па іх, што спакушаліся на каваля. Сам войт пачухаў галаву, паправіў некалькі разоў шапку і моўчкі паглядзеў на сваіх, быццам чакаў іхняй парады.

Апраш адчуў, што выйгрыш за ім, і няўлоўная ўсмешка праслізнула па яго спечаных вуснах. Пачаў гаварыць паспешліва, куючы жалеза, пакуль было гарачае, а гаварыў так перакананаўча, спрытна і трапна, што неўзабаве, нягледзячы на варожасць, якую адчуваў войт да цыганоў, завялі іх на дзірван каля става і дазволілі паставіць там палатку.

Цыганам толькі гэтага і трэба было — кавалка зямлі, на якой можна было ўбіць чатыры калкі іх перанос-

нага дамка, месца для вогнішча і надзеі на які-небудзь заробак.

У першы дзень нават не рассыпаліся, як звычайна бывае, па сяле, жанчыны не валачыліся па хатах. Апраш нічога не пазычаў. Паставілі кузню, прымацавалі мех, убілі кавадла і ўжо пад вечар падкавалі аднаму з сялян за невялікую цану каня. Платай быў чэрствы хлеб, аброк каню і худая курыца, якая здаўна без патрэбы кудахтала.

Назаўтра ў цыганскую кузню паплыла работа, а на трэці дзень, каб нават і хацеў Апраш адправіцца і злажыць палатку, дык, думаю, сяляне затрымалі б яго сілай — так многа было неадкладнай працы, такі завоз быў на выгане. Трэба сказаць, што гэты *ром* (цыган) быў надзвычай спрытны: выдатна каваў, лячыў і выпраўляў коней, ахвотна пускаўся ў гутарку, не скупіўся на параду і вельмі добра ведаў, як да каго загаварыць. На сяле, так як і ўсюды на свеце, таму найлепш, хто ў пару ўмее сябе паказаць і пахваліцца сваёй працай, падкрэсліць яе якасці. А Апраш быў мастак пахваліцца нават найменшай дробяззю.

— Вось паглядзі,— гаварыў селяніну, які моўчкі і ўжо дачасна здзіўляўся,— прыглядзься, што гэта за падкова! Ці бачыў ты калі такую? Вунь які ў тваёй кабылы крохкі і задзірасты капыт, а яна тут так гладка прыстала, як прырасла! Зірні, як рукавічка! І каняка твая не закульгае, не бойся, бо я не закую! Падзякуйце і будзеце ўспамінаць Апраша.

Адным словам, усе ў акрузе кавалі, якія абслугоўвалі сялян са Ставіскаў, адразу страцілі кліентаў. Цыган перацягнуў да сябе ўсіх, каму патрэбна было яго рамяство. Праз тыдзень усе верылі, што ніхто на свеце не валодае так молатам і абцугамі, як гэты цудоўны Апраш, і ўжо загадзя пачыналі стагнаць, падумаўшы, што тады будзе, як яго не стане.

Трэба адзначыць, што і паводзіны ўсёй цыганскай

грамады значна прычыніліся да такога ахвочага прыёму. Ніколі дагэтуль не бачылі такога сяляне: шпілька не прапала ў сяле, цыганкі сядзелі ўсе дні пры возе, нават іх не было чуваць. Бабы ўжо самі прыцягваліся да іх па лекі і варажбу, аднак нялёгка было атрымаць жаданае: варажбіткі сядзелі сумныя, дзікія, асцярожныя.

Праз тыдзень цыган, спяшаючыся далей, хацеў складаць палатку і пакаваць воз, але дзе там! Столькі яшчэ было зламаных лемяхоў і босых коней, столькі яму занятку! Сам войт яго затрымліваў.

Сядзелі і сядзелі цыганы ў Ставісках, а неўзабаве так абжыліся, што Апраш загадаў выкапаць яму, абдажыў яе дзёрнам, і пад палаткай неспадзявана з'явілася зямлянка. Ніхто супроць гэтага не сказаў ні слова, і людзі, пакінуўшы ранейшых, цешыліся з уласнага каваля. І нават з іншых вёсак пачалі ісці ў Ставіскі людзі са сваімі нарогамі і сякерамі.

Сям'я гэтых прышэльцаў, як мы ўжо сказалі, складалася ■ самога правадыра, з той жанчыны ■ дзіцём, якая, відаць, была яго жонкай, з трох падлеткаў, дваццацігадовага юнака, дарослай маладой дзяўчыны — арыгінальна прыгожага стварэння, якое адчувала сваю прывабнасць,— старой бабы, паслугача, які напамінаў сваёй пачварнасцю Калібана, і трох жанчын, звязаных з сям'ёй нейкім невядомым вузлом.

Але ці была гэта сям'я? Хто тут быў бацькам, маці, сястрой, братам, жонкай, мужам, з упэўненасцю сказаць было нельга. Зваліся ўсе дзіўнымі іменнямі, і толькі ўлада аднаго дэспатычна імі кіравала. Двое старых не мелі тут належнай іх узросту павагі, абыходзіліся ■ імі, як ■ паслугачамі, і яны пакорна падпарадкоўваліся, як дзеці. Зрэшты, гэта не быў звычайны цыганскі зброд, але як быццам нешта больш высакароднае іграла на іх загарэлых тварах і ў бліскучых чорных зрэнках, асаджаных на малочных бялках. З іх позіркаў

біла туга выгнаннікаў, стомленасць асірацелых, пляма прысуду Каімавых дзяцей.

Тая жанчына, Апрашава жонка сядзела пад рогам палаткі з дзіцём, цэлымі днямі не спускаючы яго з каленъ. Маўклівая, як статуя, нерухомая, са слепа ўтаропленымі ў другі кут вачыма, яна ні слова не гаварыла, не краталася да ежы, нічога не рабіла. Часамі муж звяртаўся да яе, але яна яму не адказвала. Прыбягалі да яе дзеці-галякі, але яна і на іх не звяртала ўвагі. І толькі, калі заплача немаўля, прыціскала яго мацней да сваіх грудзей, і дзве раўналеглыя зморшчкі праразалі яе хмарнае чало. Старая баба слугавала ёй таксама моўчкі, а каржакаваты Калібан (якога па-цыганску называлі Цынонам — нізкім) завіхаўся каля кузні. Тры жанчыны варылі страву, пільнавалі дзяцей, а юнак стаяў з Апрашам ля кавадла і моўчкі памагаў майстру, робячы больш за яго.

Гэты цыган, хоць у рысах яго твару, вачах і вуснах прабівалася цыганская кроў, вельмі адрозніваўся ад сваіх аднапляменнікаў *ромаў*, як быццам зародак чужога племя, чужыя думкі і жаданні ігралі ў яго душы. Волас яго не меў чарнаты верана і Апрашавай кучаравасці, а спадаў простымі пасмамі на шырокія плечы; твар яго быў таксама бялейшы, іншаю была аправа вока і яго выраз. Падоўжаны авал твару меў у сабе штосьці з украінскага, мяшанага з крывёй вандроўнікаў, тыпу.

Хлопец гэты, хоць і слухаўся загадаў правадыра, хоць і працаваў з ім разам, не быў яму так падлеглы, як іншыя, часта не менш жвава адказваў на вострыя словы і мерыўся позіркам з Апрашам. Старэйшы не раз падымаў у дрыготкай далані свой молат, як быццам для ўдару, сціскаў зубы, моршчыў бровы, і словы яго сыпаліся, як іскры. Аднак праз хвіліну звада спынялася і наставала глухое, толькі ўдарамі молата парушанае маўчанне.

Пасля дзённай працы малады цыган не адпачываў разам з супляменнікамі ў палатцы і рэдка падсоўваўся да кацялка з іхняй стравай, ён бег з сухім кавалкам хлеба на ўзгорак, сядаў у задуменні, і там, аблітага вячэрняй расой, заставала яго ноч, абымаў сон.

Упартая маўклівасць жонкі і частыя спрэчкі з чаляднікам не засталіся незаўважанымі сярод сялян, якія са здзіўленнем і неспакоем глядзелі на гэту сямейную тайну. Нават яны, не прызвычаеныя штосьці даследаваць і за чымсьці сачыць, адчувалі тут нейкую драму, поўную крывавых таямніцаў у тым вузле, які звязаў гэтых дзівосных валацуг. Тая маці, якая, як здавалася, жыла выключна для малога, той памочнік, які даваў сваю працу і не хацеў аддаць начальніку душу і сябе, урэшце, тыя старыя, што, як жывёла, выконвалі найцяжэйшыя паслугі, і тая зграбная, прыгожая і какетлівая дзяўчына, якая, магло здацца, кіравала ўсімі, нават і правадыром, будзілі цікавасць і рой здагадак.

З усёй грамады найбольш выразна цыганамі былі Апраш і Аза. Гэтая красуня магла мець гадоў васемнаццаць і, апрача грацыі свежай маладосці, мела тую, не нашу, дзікую, асаблівую, бронзавую і вогненную прыгажосць, якой узоры бачым у індыйскіх статуэтках і ў малюнках, што ўпрыгожваюць старадаўнія паэмы. Яе чорныя вочы сеялі агонь і быццам паланілі непераможным позіркам, перад якім апускалася найсмялейшае павека; нос яе правільна выгнуты, вусны крыху выпуклыя, а шчокі аднастайнага цёмна-залацістага колеру акружалі эбенавыя пасмы валасоў так шчодра, так буйна, што імі былі абведзены галава і шыя, а рэшта сплеценая ападала на плечы...

На яе чале, у вачах, вуснах і ўсёй постаці яшчэ ў калысцы напісаў сатана ці анёл: «Ты будзеш валадарыць!» І яна смела ішла за сваім наканаваннем, упэўненая ў заўтрашнім дні; і было штосьці дзівоснае ў

гэтай галечы і лахманах, накрытых пурпуровым плашчом адчування сваёй моцы.

Стан яе, бо і стан мае сваю магутнасць, быў прывабнейшы нават за твар; пад гладка аблягаючымі фігуру лахманамі адчувалася цела, выкаванае ■ бронзы па нейкім узоры даўно мінулых стагоддзяў, якія дакрануліся да ідэалу людской істоты. Яе чароўная ножка, чорная, але малая рука вартыя таго, каб таптаць залацістыя кілімы і падушкі і абмотвацца дарагімі тканінамі Усходу. На гэтых грудзях абы-якая палатняная заслона ператваралася ў багатае адзенне і паслухмяна фалдавалася, як найцянейшы шоўк. Аднак пагэтая прыгажосць не была звычайнай: не кожны яе пазнаў бы, рэдка хто б ёю захапіўся; каб адгадаць захаваны ў ёй цуд, патрэбна было адчуванне бессмяротных тыпаў хараства.

Смейцеся, калі хочаце, сяло лічыла яе даволі непрыгожай маладой цыганкай, а паэт бег бы за ёй, як за дзівам.

О, умела ж, умела прыхарошвацца какетка! Кавалак белага палатна, пярэстая хуста, чырвоны пояс, шнур пацерак, жменя стракатых палявых кветак, бліскучыя шкельцы — усё было ёй упрыгожаннем і ўсё было да твару. Станавілася над вадой, на хвіліну задумвалася, а пасля пачынала што раз, то інакш абвешвацца ■ ног да галавы сваімі бядняцкімі бліскоткамі. Часта з гадзіну так мілавалася сама з сябе, але калі вярталася ў шэрую закураную палатку, то яснела сваёй абноўленай прыгажосцю так, што ажно Апраш падымаў галаву ад работы, каб паглядзець на яе, а глянуўшы, чагосьці сумна ўсміхаўся.

Толькі юнак, той дзікі цыган, што неаднойчы асмельваўся спрачацца ■ правадыром, не глядзеў на сваю прыгожую сяброўку, ды ўсё ж здавалася, што было гэта хутчэй моцным пастанаўленнем, чым добрай воляй.

Прыхінуўшыся да палаткі, паблісківаючы ў прыцемку чорнымі палымянымі вачыма, Аза спявала або словамі, як атрутнымі стрэламі, развярэджвала яго душу. Аднак гэтыя словы былі як апалыя на ваду лісты: вада зморшчыцца, лісток паплыве і зноў праглядваецца ў ёй неба. Тумры — гэтак зваўся юнак — не слухаў, не глядзеў, не адказваў. Часам хмурнеў, калі-нікалі сам сабе ўсміхаўся і каваў жалеза, як нежывы молат, як паслухмяны інструмент, пазіраючы, ці хутка зайдзе сонца і згасне агонь на гарне, каб уцячы на гару і адзінока адпачыць.

Апраш і дзяўчына часам цэлы дзень дакучалі яму з'едлівымі папрокамі, насмешкамі, смехам або лаянкай. Ён цярпеў, хоць часам абураўся на старога, пырскаў словам на дзяўчыну, але найчасцей маўчаў, дабываў да канца дня і ўцякаў. Іншым днём і стары і Аза стараліся прылашчыць яго песняй, мядовым слоўцам, змястоўным павучэннем ці салодкімі абяцаннямі, але Тумры ўпарта маўчаў або прыкідваўся глухім.

Усё гэта і многа іншых сцэн драмы не адзін раз бачылі сяляне, чакаючы сваіх лемяхоў ці нарогаў, і не маглі зразумець, што адбывалася пад палаткай гэтага вандроўнага Тубалькаіна [1]. Усе гарачыя дыскусіі прышэльцаў адбываліся на той недаследаванай мове, якой ніхто дагэтуль добра не зразумеў, ніхто не вывучыў, бо гэта мова сумысля змяняецца, фарбуецца штораз інакшай і, як вуж, хаваецца ад людзей пад травы і лісты. Хто ведае, колькі краін, стагоддзяў, людзей і помнікаў стварыла гэту мову, сплеценую з найдзівачнейшых гукаў! Можа, у ёй гучаць яшчэ словы, што злятали з Вавілонскай вежы, можа, гучыць закляцце служыцеляў Брахмы ці Азірыса, можа... але хто ж гэта разгадае?

Аднак быў нехта адзін у Ставісках, хто мову *ромаў* разумеў,— цыган, які з хвіліны з'яўлення сваіх братоў

---

[1] Тубалькаін — персанаж з Бібліі.

замкнуўся ў хаце, каб іх не бачыць. І ўсё ж, прыпяканы непераможным жаданнем хоць здалёк пачуць гукі мовы, якую помніў, нібы сон дзяцінства, падкрадаўся тайна ўночы пад шацёр і цэлымі гадзінамі, лежачы на зямлі, піў голас роднай мовы, што адзывалася да яго то ў песні Азы, то ў нараканнях жанчын, то ў загадах Апраша.

Стары Ляпюк у сапраўднасці быў цыганскага паходжання, але ў ім пра гэта засталася толькі памяць, бо за доўгае жыццё цалкам перамяніўся, і мала хто мог вычытаць з ягонага твару яго род. Людзі расказвалі, што некалі даўно цяжкой зімой на дарозе паміж Ставіскамі і Рудняй пад гурбай снегу знайшлі два замерзлыя трупы. Былі гэта голыя цыган і цыганка. Яны, відаць, заспетыя марозам і мяцеліцай, зразумеўшы, што давядзецца загінуць, ратавалі сваё дзіця; смяротны сон змарыў іх скурчаных над некалькігадовым дзіцём, якое выжыла, заслоненае лахманамі і акасцянелымі трупамі бацькоў. Нейкі літасцівы гаспадар, акрыўшы дзіця кажухом, завёз яго дадому, адхукаў, а змерзлых цыганоў пахавалі на ростанях без крыжа, і тая магіла, якую дагэтуль засыпаюць каменнем і ламаччам, называецца Цыган-Цыганіха. Вось Ляпюк і быў тым знайдам. Яго ахрысцілі, выхоўваўся ён у Ставісках, вырас, пераняў сялянскі звычай, мову, постаць і нават твар, і здавалася, што навек забыўся пра сваіх. Гаспадар, які выратаваў яго, даў яму за жонку сваячку; так атрымаў ён хату, гаспадарку, прозвішча, выхаваў дзяцей і ўжыўся ў вёску, як у сваю.

Аднак... о сіла ўспамінаў! моц крыві! незгаданыя цуды! непарваныя вузлы! Калі б ні здарылася ўжо старому Ляпюку праходзіць каля магілы на раздарожжы, ён спыняўся там і доўга думаў і ўздыхаў. А як прыблукаліся ў сяло цыганы, Ляпюк страціў галаву. Адчуў, што ў ёй муціцца, што старое астылае сэрца праехала ўдоўж і ўпоперак грудзей, быццам хацела адтуль вы-

скачыць. Кінуўся да дзвярэй, замкнуў іх на засаўку ад самога сябе, уночы не спаў, днём хварэў. Пасля пачаў уцякаць ад аднапляменнікаў, каб з імі не спаткацца, баяўся, каб яны не вычыталі на яго чале адступніцтва. А начамі падкрадваўся пад Апрашаў шацёр і плакаў над песняй, якой спачатку не разумеў.

Мова яго дзяцінства быццам драмала ў ім, але забытай не была; спала яна дзесьці ў сэрцы ці ў галаве, а як іскра пачуцця закранула яе, яна прачнулася і ўстала. Спачатку Ляпюк амаль нічога не разумеў, чуў толькі нейкі шум, нейкі шоргат, нібыта едзе, спяваючы, гаманлівы натоўп — схопліваеш песню, а зразумець яе не можаш. Пасля па адным — хто ж ведае, якое слова спала глыбей, ляжала цяжэй прыкрытым? — пачалі выдзяляцца, ажываць і рушыцца словы; яны станавіліся ўсё яснейшымі, адно другога вяло за руку, і нарэшце ўсе да аднаго ўзняліся і заспявалі старому прыгожую песню маладосці.

А стары плакаў горкімі слязьмі і сароме́ўся сваіх вачэй і хаваўся з імі, а боль і сорам прыгняталі яго каменем. Любіў мінулае, а вярнуцца да яго баяўся.

Ён адзін чуў сярод ночы дзіўныя размовы бадзяг, бачыў Тумрага, як той выбягаў ■ шатра, як назірала за ім Аза, як лаяўся Апраш і як яго жонка глядзела нерухомымі вачыма на дзіця, якім жыла. Нараз, калі засыналі пад возам старыя паслугачы, пад палаткай палымнеў ящчэ агеньчык і доўга чуўся пошум слоў, быццам дробныя іскры адскоквалі ад распаленага вугалля.

— Слухай, Аза-*ора*, гэта дарма,— гаварыў аднойчы Апраш дзяўчыне, якая, выцягнуўшы руку, пагражала ёю Тумраму, што сядзеў воддаль на глінiстым абрыве,— трэба забыць гэтага здрадніка. Гэта не наша кроў, гэта кроў *гадзяў* (нецыганоў), ён сын майго брата, але не маёй сястры; маці яго была светлавалосай *гадзяй* (нецыганкай). Абы кропля іх крыві змяшалася

з нашай, перамагае іхняя. Вялікі дух *Мродэн-ора* (бог) асудзіў нас на ўсякае вынішчэнне. Калі б мы не злучыліся ■ іхнім родам, чужая кроў заглушыць кроў *ромаў*. Пакіньма яго той долі, якая яго чакае, няхай ідзе на зламанне карка, як адслужыць мне тое, што вінен за навуку.

— Абы вы яго адапхнулі, дык ён пойдзе! — сказала дзяўчына.— Птушку прынаджваюць зернем, а не стралой...

— Ці ж мала я прынаджваў яго і лашчыў? ты і я?

— Я — магчыма, а ты не вельмі, ты заўсягды бачыў у ім чужога.

— Ці ж я павінен любіць чужых? — насмешліва адказаў Апраш.— Праз іх няма нам на зямлі ні кутка, ні кроплі вады, ні ценю, ні адпачынку. Ці прывітаў нас хто-небудзь ветлівым словам, ці развітаецца з добрым пажаданнем, хто адзавецца да нас словам «браце»?.. Праклятыя мы і таму змушаныя праклінаць.

— А чым вінаваты Тумры, што яго нарадзіла светлавалосая маці?

— Вінаваты невінаваты, кожны пакутуе за чужыя грахі; за нашы будуць мучыцца нашы ўнукі, мы цярпім за прадзедаўскія,— і на ўсю моц: — Слухай, Аза,— казаў далей,— хопіць гэтага прынаджвання і прыцягвання!.. Ён думае, што без яго мы не зможам абысціся, і паказвае сваю ганарыстасць. Ты знойдзеш сабе другога мужа, а яго няхай хоць *бынк* схопіць.

Цыганка ўсміхнулася, і з-пад румяных вуснаў бліснулі два рады белых зубоў, аднак у воку яе ўсмешкі не было... вусны яе задрыжалі і замкнуліся маўчаннем. На працягу гэтай размовы цыган некалькі разоў кінуў вокам на жанчыну з дзіцём, наблізіўся да дзяўчыны і прашаптаў, прыклікаўшы ізноў *бынка* (чорта):

— Або вось гэта! або гэта! бачыш яе? І ў ёй грае кроў чужых людзей, кроў *гадзяў*. Ужо тры гады маўчыць і нават слязы не пусціць, вандруе з намі, а сэрца

пакінула дзесьці за сабой. Не, не! Нельга братацца цыганам з белавалосымі: наша доля — выгнанне, наш лёс — вандроўкі, а гэта слімакі, навек прыкаваныя да шкарлупіны. Яны нараджаюцца для аднаго месца, і як толькі трацяць яго з вачэй, павольна паміраюць...

— Не чапай ужо яе,— адказала Аза,— яна ўжо выплакала слёзы, выстагнала словы; я ўпэўнена, што, як толькі дзіця адпадзе ад яе грудзей, яна зваліцца мёртвай...

Апраш толькі абыякава павярушыў плячыма, выйшаў за шацёр, паглядзеў на зоры і зваліўся на зямлю, як мёртвая глыба. Аза засталася на месцы, загледзеўшыся ўдалячынь.

У той час у двары ў Ставісках жыў малады, нядаўна выпушчаны ў свет чалавек, імя яго было Адам, а прозвішча... ды навошта вам прозвішча? Ледзь толькі светлы пушок пачынаў прабівацца на яго губе і барадзе, калі не памятаў яшчэ дваццаці вёснаў, калі толькі будзіўся да жыцця, не чуў ужо яго смаку. Нараджаюцца так людзі ў стагоддзях праклятыя без сілы і ахвоты жыць, без агню ў душы, без цікавасці ў галаве, без ніякай цягі і жаданняў, нават без жывёльнага шаленства. Адплюшчваюць лянівыя вочы на бясколерны свет, і абыякавы сон іх закрывае. Нічога такіх людзей не займае, нішто не разагравае, нішто не гоніць з высланай пер'ем калыскі на скалістую і крывавую дарогу надзеяў, працы і расчараванняў... Смерць і жыццё для іх аднолькавыя, людзі-браты — абыякавыя, свет — непатрэбная выцвілая дэкарацыя.

Адным з такіх старэчаў маладога ўзросту быў Адам. Выпесцілі яго змалку на мёртвага чалавека, дык і не хапала яму да жыцця ахвоты і матэрыялу. Ён смяртэльна нудзіўся, а праз тое, што нуда прыводзіць гнеў і злосць, дык гневаўся і злаваў на ўсё, што яго

акружала. А чым жа былі вінаватыя свет і людзі, што быў ён гэтакі мёртвы?

Часам, убачыўшы, як іншыя весела і ахвотна адразалі сваю лусту нават аржанога жыцця, узрываўся са сну і спрабаваў чым-небудзь заняцца, але неўзабаве ад стомы апускаліся яго рукі, шырокім пазяханнем канчалася песня, галава ападала на грудзі, павекі стульваліся. Находзілі на яго таксама ахвота палявання, нейкае хваравітае жаданне крыві, нейкая цяга дзіўнага кахання, моцных хваляванняў, баёў, смерці, пакуты, пачуццяў, вогненнай купелі, якая б яго адрадзіла... Аднак гэтыя хаценні хутка знікалі, спавітыя лянівымі снамі. Адам яшчэ ніколі не кахаў, хоць цэлы гарэм дзяўчат на змену абымаў яго сваімі белымі рукамі і абліваў яго слязамі прымусу, хоць не адно, можа, заплакала для яго маладое сэрца... Забаўляўся толькі жанчынай і не мог адгадаць, дзе у яе б'ецца сэрца, як можна яе кахаць. Здаволены, спустошаны, хутчэй адпіхаў, чым жадаў новых спроб кахання, перакананы, што быў на дне раю, які іншым здаецца бяздонным.

Жыццё яго так валаклося, валаклося, паўзло гэтак памалу, што часта дзень выцягваўся ў век, мінута здавалася годам. І былі хвіліны, калі глядзеў ён на стрэлку гадзінніка і не мог дачакацца, каб яна зрушылася з месца.

Аднаго вечара пасля доўгага пазяхання ўстаў памалу Адам, прывялі яму каня, гатовыя былі сабакі і сябры. Адпрэчыў кіўком каня, сабак і таварышаў і пайшоў пешкі адзін, сам не ведаючы куды, каб разысціся, адчуць, што яшчэ жыве! Лёс гнаў яго на выган да цыганскай палаткі. Сонца свяціла перад захадам чырванню, і яго косыя прамені ў залатыя і чорныя палоскі, як усходні кілім, упрыгожвалі зямлю, што ў змроку зацішных куткоў была ўжо ўкрыта серабрыстай расой... Свет у гэтых дзіўных бляcках, здавалася, адрозніваўся ад штодзённага, было ў ім штосьці фан-

тастычнае, урачыстае, пышнае. Гэты малюнак крануў здранцвелае вока Адама, ён спыніўся і паглядзеў навокал. Было гэта якраз насупраць палаткі Апраша.

Перад ім сядзела з распушчанымі чорнымі валасамі прыгожая свежай маладосцю смуглая цыганка. Быццам два кавальскія вугалі палымнелі ў яе дзікіх вачах. Позірк беднай выгнанніцы закраўся пад павекі асавелага хлопца, і Адам задрыжаў. Аза заўважыла гэта і ўсміхнулася, два рады белых, як снег, зубоў выплылі з-пад ружовых вуснаў. Какетніца адкінула галаву назад, на плечы, падняла вочы, выгнула прыгожую фігуру, як быццам хацела пахваліцца ўсімі скарбамі сваіх семнаццаці гадоў.

Адам стаяў, глядзеў і ўпіваўся; нават сэрца яго пачало біць мацней, жвавей паплыла кроў, і, можа, першы раз на сваім жыцці ён пажадаў мацней, амаль пакахаў.

Калі ў такія сухія сэрцы ўпадзе іскра, дык імгненна пачне ў іх нястрымна, неўтаймавана, знішчальна бухаць полымя, як у засуху пажар. Так было і з Адамам, бо перш, чым рушыў з месца, сказаў сабе: «Яна павінна быць маёй! — і сцішка дадаў: — Хоць бы мне крывёю заплаціць за яе прыйшлося!»

Ледзь толькі ён памалу адышоўся, цыганка пабегла з усмешкай радасці да старога Апраша.

— Слухай, бацька,— сказала,— слухай, *дадос*, кінь гэты молат, адпачні, цяпер зможаш адпачыць. Дзіўныя робяцца справы! *Раклёра* (дзяўчына) злавіла рыбку!

— А што там зноў прымроілася ў тваёй маладой галаве? — запытаў цыган.

— Што? Ведаеш, я знаюся на людзях! Бог, які выправіў нас на вечнае вандраванне па свеце, даў нам нюх, як старому *шукелі* (сабаку), які ўмее знайсці сабе лекі. Мы таксама інстынктам вычуваем людзей і чытаем у іх лепш, чым яны ў сваіх кніжках. Хвіліну

таму назад праходзіў тут каля палаткі *рай* (пан) тутэйшай вёскі, малады дзедзіч, пра якога ведаеш што кажуць? Што ў яго жылах замест крыві плыве вада. І праўда! О, бедны хлопец! Выглядае так, што яму да заўтрага сілы не хопіць!.. Аднак мае́ вочы яго распалілі. О, бо я добра, так добра глядзела на яго, што аж задрыжаў, аж скруціўся, як вуж, калі на яго наступіш нагой. І памалу румянец выступіў на яго твар, рукі пачалі дрыжаць, ён страпянуўся і паляцеў, як шалёны.

Пляснула ў далоні.

— Аза-*ора* будзе мець багатыя *буцакі* (сукенкі), золата на галаве, золата ў косах, чырвоныя паясы, што толькі захоча!

— О, ты б прадалася, *раклёра?* — насуплена запытаўся стары цыган.

— Я? На век — не... на гадзіну, чаму ж не? Усё на свеце прадаецца, справа толькі ў цане. Чаго не купіш за грош, можаш купіць за мільён! Сэрца яму не прадам, але вока, касу і халодную руку... Чаму не? чаму не?

— Распусніца! — крыкнуў стары праз зубы.— Распусніца! *Бынка гасіна* (чортава дзіця)!

Аза адскочыла, як ударная перуном, зрок яе запалаў.

— Слухай, стары! — крыкнула грозна.— Яшчэ няма ў цябе права ганьбіць мяне і аддаваць *бынку*; ты не ведаеш, што я думаю. Я прадамся, але не ўкачаюся, бо ён атрымае за грошы толькі тое, што я даю іншым: смех, позірк, песню... А ты думаеш, што я доўга вытрываю ў гэтых вашых лахманах і брудзе! Не, не! Я га́джуся і вас і сама сябе. Я створаная на *рані* (паню) да багацця і дастатку, мне патрэбны сукенкі, ланцужкі, бліскоткі, шкельцы і панства... А пасля,— дадала, сумна задумаўшыся,— як гэтая бура маладосці міне, як загасне ўва мне тое, што цяпер палае... прыбярыце

зноў мяне ў лахманы, і я, як сабака, паслухмяна пайду за вашым возам.

Каваль толькі паківаў галавой, але абцугі і молат у руках у яго дрыжалі.

— Сабачая натура,— замармытаў,— не можа сабе цыгана занадзіць, дык будзе паніча казытаць. Не выцерпіць! Ой, маладосць! Ой, маладосць!

— Ты ніколі не быў малады,— адказала хутка Аза,— бо толькі жанчыны ўмеюць быць маладымі, а мужчыны ўжо ■ пялёнак старыя. Ваша доля праца, а наша — спевы... Як спяваць у голадзе і нястачы?

— Галава ў цябе заварочваецца!

— Завярнулася! — выкрыкнула, прытанцоўваючы па палатцы, цыганка.— Шалею, выстройваюся ў думках, спяваю, гуляю. Заўтра буду ў *кгэра* (палацы, доме), заўтра буду *рані*. Будзь здароў, стары каваль!

З цяжкай галавой вярнуўся Адам дамоў. На ганку сустрэлі яго сабакі і сябры, а ён сеў і ні рукой, ні словам не захацеў прылашчыць ні тых, ні другіх. Хмара навісла над яго чалом, вочы раптам набраклі гвалтоўнай пажадай, і — вось дык цуд! — хацеў, прагнуў, кахаў! Хацеў вярнуцца назад, падаць цыганцы руку і весці яе ў свой дом, каб не страціць хвіліны прагі, але саромеўся сам сябе і сяброў, наогул людзей.

Усю ноч ён змагаўся, як пракляты, і гэта ноч здалася яму кароткай, хоць сон не стуліў яго павекаў. Бляск сонца абліў яго сорамам, і ён пачаў смяяцца сам з сябе.

— Во, во! Паніч закахаўся ў цыганку, у чорную, брудную цыганку, якая сядзела зашмальцаваная пад палаткай цыгана. Паніч, які на ківок мог бы мець белую прыгажуню са сталіцы, дзе прадаюцца булкі і дзяўчаты, зажадаў аржанога хлеба галечы! Гэтага не можа быць, недарэчна! — казаў сам сабе і смяяўся.

Адганяў думку, а тая, як п'яўка, упілася ў яго дзесьці каля сэрца, каля галавы і бязлітасна дакучала. Ён раздзяліўся на два чалавекі, як гэта звычайна бывае, калі нас раздзірае моцнае пачуццё, мацнейшае за розум і сорам. Як тыя злачынцы, асуджаныя на разарванне дзікімі коньмі, мы ў той час бываем разарванымі напалам, і адзін з нас насміхаецца, а другі гаруе. У пакуце кожнай пажадлівасці ёсць такое раздваенне чалавека.

Пад вечар таго дня апанаваў пана вялікі гнеў, і ён загадаў склікаць людзей, каб запытацца ў іх, хто дазволіў цыганам разгасцявацца пад вёскай на пустым выгане. Не пасмеў ужо сам ісці да палаткі, а захацеў, каб палатка прыйшла да яго, і ў гневе, у небывалым гневе загадаў прывесці цыганоў да сябе.

Ізноў, калі заходзіла ўжо сонца, Аза сядзела каля палаткі, ад рання прыбраная і радасная, а Апраш кпіў з яе неміласэрна. Калі прыйшлі па цыганоў пасланцы — напалоханы войт і некалькі ўстрашаных сялян — Аза аж пляснула ў далоні.

Людзі глядзелі на яе, як на вар'ятку, бо баяліся панскага гневу, які ёй адной быў зразумелы.

Гнеў гэты быў жаданнем, бо гнеў бывае розны, ён можа быць нянавісцю, каханнем, пажаданнем і, як вопратка, прыкрываць розныя постаці.

Апраш ішоў у двор задуменны, а Аза — падспеўваючы, вясёлая, выстраеная, прыгожая. Яна выдатна ўмела зрабіцца мілай і зграбнай, абы толькі гэтага захацела, а цяпер яна хацела быць прыгожай, каб канчаткова ачараваць паніча...

На ганку не было ні сабак, ні сяброў, толькі пан адзін. Аза ішла смела проста да яго з усмешкай сілы, і пераможным позіркам. Адам аж спалохаўся гэтых чорных вугалёў яе вачэй, і, замест гневу, бледная ўсмешка, якой прасіў літасці, праслізнула па яго вуснах.

— Хто дазволіў вам тут спыняцца? Адкуль вы сюды прыйшлі? — запытаў праз нейкую хвіліну.

— Мой стары не ўмее добра гаварыць,— хутка выступіўшы наперад, сказала цыганка,— дазвольце растлумачыць мне... Маўчы, Апраш, і дай мне з ім расправіцца,— дадала па-цыганску.

Пасля гэтага прыступілася бліжэй, падсунулася да ганка, адкінула, як птушка, галоўку назад, падперла яе даланёй і, уляпіўшы ў юнака вужаватыя вочы, пачала штосьці ціха, незразумела мармытаць, як быццам закліананне. Адам глядзеў хвіліну, хацеў адвярнуцца, адчуўшы, што зрок цыганкі рве штосьці ў глыбіні яго грудзей, як нічыё дагэтуль словы ці вока... але было ўжо позна. Спрытная дзяўчына трымала ўжо яго ў сваёй сетцы: спусціў галаву, маўклівы, бязвольны, аблытаны...

Назаўтра Аза была ў двары, а цыганы ■ кузняй на выгане, аднак Азы не пазнаць! Чорная цыганка ўстала пад панскім дахам казачнай каралевай з-над Інда, марай санскрыцкіх паэм, і, можа, не хапала ёй толькі кветкі лотасу ў руках, каб стаць падобнай да багіні Лакшмі, да сваячкі Вішну і Брахмы.

Адам ляжаў ля яе ног, а на плячах маладога чалавека спачывалі дзве, упрыгожаныя пярсцёнкамі, ружовыя ножкі і таптталі язычніка, раба. Колькі было старога багатага адзення, што засталося ад бабак і прабабак, колькі дарагіх рэчаў пасля памерлых у гэтым доме бяздзетных герояў,— усё гэта ўпрыгожвала дзіця бадзяг, якое абвешвалася парчой, жэмчугам, карункамі. Наймякчэйшы пух акружаў яе цела, найдалікатнейшы водар калыхаўся над ёй у паветры. Сабакі і ўчарашнія сябры стаялі ў сенях, а Адам цэлыя дні і тыдні ляжаў ля ступняў чараўніцы.

І кожны дзень мінаў у асаблівым занятку: яна глядзела, ён слухаў. Часам ударыць яго, як кінжалам, бадлючай насмешкай, то зноў бліснe позіркам, нібы той

барэц, што змагаецца з утаймаваным дзікім зверам. Адам гарэў, а яна смяялася з яго і штодзень жадала большага, паводзіла сябе больш нахабна, становячыся больш ганарыстай і дзічэйшай. Па меры таго як упэўнівалася ў сваім становішчы, мацней і бязлітасней панiча прыгнятала.

Беднае здрабнелае дзіця вялікіх прадзедаў! Што гэта рабілася! У тым двары, дзе яшчэ кружыліся ў паветры шчырыя святыя пахі старасвецкай тухліны, гэты парастак вялікіх бацькоў у пакоі, благаславёным іх пакутамі і працай, сядзеў ля ног валацугі, якую прыбраў у зняважаныя рэліквіі і памяткі! І сцены не абрынуліся над імі, не праваліліся падлога! Толькі ўвесь дух мінуўшчыны вынесся з гэтага хорама кудысьці ў паднябесную далячынь.

Пераможная Аза жыла толькі сваім трыумфам, не трэба было ёй нічога, апроч быць прыгожай і пражыць хвіліны жыццём багатых, жыццём, якога дагэтуль не каштавала, упіцца ўсім тым, што ап'яняла. Гэты бледны, хваравіты, стомлены мужчына, які ляжаў ля яе ног, якога паліла гарачка бяссільнай пажаднасці, не выклікаў нават у ёй літасці. Яна была дзіця пакут, якое прызвычаілася бачыць мужчыну працаўніком і мужам, дык прыглядалася да гэтага недаростка з нейкім зацікаўленым пагарджаннем. Часам насміхалася з яго або падкідала спрагнёнаму, як косць сабаку, двухсэнсоўную ўсмешку.

У ім каханне кіпела гневам, але ён не меў настолькі сілы, каб выбухнуць абодвума, яны толькі палілі яго нутро.

Аза ляжала і забаўлялася ўсімі цацкамі, якія назапасілі ў старым доме бяздзейнасць, раскоша і фантазія. Штодзень патрэбны былі ёй новае ўбранне, новая цацка, новы занятак. За ўсё гэта плаціла толькі дзіўнай сваёй усмешкай і дзіўнейшым позіркам чорных вачэй.

Адам не атрымаў ад яе нават халоднага пацалунка, бо дзяўчына ведала, што моц яе ў жаданні аджытага юнака, якое магло пагаснуць у першых абдымках. Дзьмухала ў гэту іскру вачыма і вуснамі, даглядала яе і жыла, жыла хутка, вогненна, усімі грудзьмі так, як чалавек жыве цудоўным сном, ад якога ўвесь час баіцца прачнуцца. Хацела паспытаць усяго, дакрануцца да ўсяго, спажыць усё тое, што знаходзілася пад рукой у гэтай кароткай гадзіне яе долі. А калі ўспамінала пра свой убогі лахман, яе бралі дрыжыкі, і тады яна, як страус, заплюшчвала вочы, каб не бачыць блізкай небяспекі.

Доўга трываць так не магло, аднак трывала даволі доўга... Дзяўчына паліла завялага паніча на жар і попел, ён абураўся, але, адчуўшы ў сабе першы раз абуджанае жыццё, не рваўся з яго. Аза думала пра заўтрашні дзень, пра брудны цыганскі шацёр, пра стары лахман, які скінула, як вуж, што пераапранаецца вясной, пра існаванне ў нястачы пад голым небам. Думала і сама ■ сабой змагалася...

Тут яе трымалі бліскоткі, туды цягнула цыганская воля. Чатыры маляваныя сцяны замыкалі нявольніцу, а праз акно віднелася ўсё тая ж сумная цёмна-зялёная галіна сасны, нахіленая над дахам дома. Не адчувала ветру, што толькі свістаў, шумеў і гудзеў у комінах, не піла жывога паветра, якое кружылася навокал дома, не бегла да невядомага, як прывыкла, і сумавала па ўсім даўнейшым, а нават трохі і па галечы.

Хто ж зразумее людскую натуру і прачытае людское сэрца? Часта ахопліваюць яго і тармосяць самыя супярэчлівыя жаданні, аднак абодва яны такія нам дарагія, што ніводнае з іх прагнаць не маем сілы. Так было з Азай. Тут цешылі яе і забаўлялі мяккія падушкі і багатыя ўборы, туды цягнуў сум па шырокім боджым свеце. Бо гэта было дзіця *эрруманселяў* (цыганоў), бяздомных выгнаннікаў, якое вырасла пад кры-

ламі навальніцы, якое калыхалі вятры, паліла сонца, мыла ранняя раса; вандроўка развівала яму, як буслам, крылле, гонячы ад гнязда да гнязда, заўсёды ў тузе па чымсьці невядомым.

Праз тыдзень Аза плакала, хацела ўцякаць, бо адчувала, што вяне, сумуе, заміраe, але шкада было блі-скотак, прыгажосці, якую яны ёй давалі, і жыцця, якога пакаштавала. Бледны, стомлены і аслабелы каханак быў для яе пагарджанай істотай, і яна літавалася з яго, але яшчэ больш ім брыдзілася. Пасля дотыку яго высахлай без работы рукі выцірала сваю далонь, як ад жабінай сліны. Адам маўчаў, гарэў, кахаў, але жыў.

Аднойчы вечарам выглянуў з-за дрэў месяц і Аза з дрыжаннем падбегла да акна. А калі заблішчала ёй начная зорка, адчыніла акно, уляпіла ў неба вочы і выставіла грудзі на вячэрняе паветра. Гэты серабрысты месяц напомніў ёй усе з дзяцінства вандроўкі па свеце і, здавалася, заклікаў да новых.

— Што з табой? — запытаў Адам.

— Што? — адказала са з'едлівай усмешкай, ледзь павярнуўшыся да яго.— Альбо ж ты, пане, зразумееш? Шкада мне галечы, холаду, голаду і майго бадзяння, бо мы, відаць, прызначаныя на вечнае блуканне па свеце... Праўда, што табе незразумелы сум па чорным хлебе, па чорнай долі і па бясконцым вандраванні? Нашы бацькі расказваюць, што ў краіне, з якой мы выгнаны, ушаноўвалі тую птушку, што залятае і да вас... Глядзі, вунь яе гняздо на дрэве. Гэты *церык* (птушка) завецца ў вас буслам. Бусел, паводле цыганскага падання, праклятая птушка, як і мы, цыганы.

— Штосьці я цябе, дзяўчына, не разумею,— сказаў, пазяхаючы, пан Адам.

— Пачакай, можа, зразумееш. Бусел, як і мы, не мае сваёй зямлі. Даўно, вельмі даўно, гадоў таму стольki, колькі зярнят пяску ў выспе, колькі зор на зімовым

небе, напаткала людзей вялікая бяда. У той час людзі былі адной вялікай сям'ёй, але ўжо падточвалі яе чэрві... І богу не спадабалася яго тварэнне. *Мродэн-ора* вырашыў яго знішчыць. Між людскімі сынамі быў толькі адзін сівабароды стары са сваёй сям'ёй якога бог вызначыў на аднаўленне роду. Гэты стары зваўся *Ноа-ора*. І загадаў яму бог збудаваць вялікі карабель, у якім маглі б змясціцца ўсе звяры па пары і трохі выбраных людзей. Калі адчынілася нябесная брама і пачалі выліваецца на зямлю струмені вады, усё жывое пачало бегчы ў той карабель і развітвацца з маці-зямлёй позіркамі жалю і суму. Не было вачэй, якія б, растаючыся з родным кутком, не заплакалі, толькі адзін бусел нават не азірнуўся на сваё гняздо і ўвайшоў на судна з жабай у дзюбе. *Мродэн-ора*, які глядзеў з вышыні, пракляў яго за гэту абыякавасць і асудзіў на вечны сум. А як пасля воды апалі, бусел распачаў вечную вандроўку ад адной зямлі да другой, бо бог так зрабіў, каб толькі адной шкадаваў і па адной плакаў. Гэты бусел — цыганы, паночку,— дадала дзяўчына.— Сумуем заўсёды, вечна ідзём, і нідзе няма нам радзімы і адпачынку.

Гаворачы гэта, цыганка страпянулася і кінулася да дзвярэй, як быццам хацела ўцякаць, але Адам затрымаў яе разнятымі рукамі.

— Ты павінна быць са мной! — выкрыкнуў.

— А чаму ж бы табе не пайсці са мною? — ганарыста адказала цыганка.— Ты мне ані мілы, ані патрэбны, я патрэбная табе. Ахвярай быць не жадаю, бо хоць бы я ўліла ў цябе нават усю сваю маладосць, заўтра яна ў гэтых ільдах застыла б і згасла.

— Але ты не пойдзеш! — крыкнуў, амаль у роспачы, Адам.

— Не, яшчэ не сягоння,— холадна адказала Аза.— Як месяц стане ў поўні, *ціамот-ора* (месяц) пакажа дарогу... кажу табе, што тады пайду, і пайду.

Так было ў двара, а пад палаткай Апраша, як і ў перцы дзень, грукаў молат, не спыняліся праклёны і звады. Жанчына з дзіцём каля грудзей сядзела нерухома, голыя хлапчукі бегалі па выгане. Тумры [redacted] захадам сонца ўцякаў з шатра. Адзін Апраш сумаваў па чорных вачах Азы, па яе вясёлай ці сумнай песні і па яе насмешлівых гутарках.

А з вёскі бедны стары Ляпюк, у якім кіпела кроў *ромаў*, кожную ноч хадзіў пад палатку братоў, каб паслухаць хоць бы гуку галасоў, якія адтуль разыходзіліся, і піць забытую [redacted] маленства мову. А дома ў яго сядзела на прызбе доўгімі вечарамі, падпершыся локцем у задуменні яго дачка Матруна і чагосьці ўвесь час пазірала за вёску.

Матруне было гадоў семнаццаць, і непадобная была яна да вясковых дзяўчат настолькі, што калі ішла між імі ў царкву, дык можна было вылучыць яе сярод іх, як зерне грэчкі ў кучцы залатой пшаніцы. У яе твары змяшалася кроў адрынутага люду са славянскай крывёю, а ў яе сэрцы лагоднасць і любоў да спакою [redacted] сумам і вечнай трывогай выгнаннікаў. Была яна прыгожая, як цыганка, і мілая, як украінка, і калі з яе вачэй пабліскваў жар поўдня, то [redacted] вуснаў смяялася белае і яснае, як снег, жыццё поўначы. Дачка Ляпюка была адна з найпрыгажэйшых у сяле і адна [redacted] самых ганарыстых, як быццам змалку несла на чале напісанае, што больш за сваіх равесніц і адважней за іх перанясе і выцерпіць. Не любіла смеху, ані танцаў, ані ўсяго таго, што вяселіць дзяўчат, насіла ў сабе будучы смутак, як нераскрытая пупышка. Ніхто ніколі не запрашаў яе на танец, не навучыў песні; а наймілейшай яе забавай было сесці на высокім узгорку і глядзець далёка, далёка, як быццам нехта клікаў яе [redacted] другой паловы свету.

Маці яе памерла даўно, бацька дагэтуль не вельмі на яе глядзеў, хоць і любіў, браты, якія былі светла-

валосыя па маці і вясёлыя, жвавыя, не разумелі яе маркоты. Пакутай было ёй выседзець доўга ў хаце, яна часта плакала, адчуваючы сябе прыкаванай да прызбы, а як здаралася нагода ісці па ваду, то ляцела да самай далёкай студні, каб толькі праверыць якую-небудзь няведамую сцежку.

Аднойчы вечарам, ідучы з вядром, Матруна сустрэла Тумрага, які блукаў па ўзгорках; раз толькі зірнулі і, не ведаю чаму, не маглі ўжо адно аднаго забыць. Тумры быў настолькі ганарысты, што не хацеў наблізіцца да дзяўчыны, якая магла яго пагардліва адапхнуць, а Матруне не хапала адвагі самой яго зачапіць. Аднак мацнейшая за іх воля лёсу і сіла таго, што нараджалася, пачуцця зводзіла іх заўсёды, стаўляючы насупраць. Удзень Матруніна дарога часта ішла каля цыганскага шатра, а вечарам Тумры, блукаючы, штодня праходзіў каля Лепюковай хаты. У яго душы нараджаліся разам два пачуцці, якія часта бываюць у непарыўнай сувязі: прывязанасць да дзяўчыны і патрэба, прага прыкаваць свой лёс да кутка, на які б магла выліцца частка перапоўненага каханнем сэрца.

Тумры ніколі не любіў бадзяцца, а цяпер, больш чым калі, уздыхаў па ўласнай хаце, па ўласным кавалку зямлі, [redacted] якога б не зганяў біч бадзяння. Марыў ён аб доме, аб жыцці ў ім і аб спакойнай смерці пад сваім дахам.

Тым часам расло ў ім каханне да Матруны, якое, хоць маўкліва, аднолькава жыло ў сэрцах абаіх. Не хапала толькі аднаго слова, аднаго кіўка, каб гэтая таямніча пачатая сувязь выплыла наверх.

Сустрэліся аднойчы за сялом; яна ішла з апушчанай галавой з поля, ён, кінуўшы молат, выбег з шатра на вольнае паветра, у начную цішу. Над вёскай узнімаліся клубы шэрых дымоў, асенняй імглы і водар жніва; над імі на сівых хмарах вісела туга. Зірнулі адно на аднаго, але ўжо так знаёма і сардэчна, па-

брацку, як быццам разам перажылі не адзін год. Матруна несла бярэмя сухога галля, пад якім аж гнулася. Тумры пашкадаваў яе.

— Гэй! — сказаў, набліжаючыся.— Калі б вы мне дазволілі паднесці да вашай хаты вось гэта, было б вам лягчэй...

— Але ж вы ідзяце ў другі бок!

— Я нікуды не іду.

— А беглі?

— Ат, на паветра, каб трохі адпачыць! Наглытаўся даволі іскраў і дыму.

— Дык вы, пэўне, стаміліся?

— Эй, не.

Сказаўшы гэта, Тумры ўзяў галлё, лёгка закінуў сабе на плечы і, пазнаёміўшыся з дзяўчынай, пайшоў разам з ёй у вёску. Вёска была недалёка, але час... час... гэта ніколі не зразуметая загадка; за кароткую хвіліну можна выказаць усю душу.

Што яны там самі сабе выказалі! Усё жыццё і ўсе надзеі!

Пакуль падышлі да хаты Лепюка, былі ўжо добра знаёмымі. Ён ведаў усё, што ведаць быў павінен, яна ведала ўсё цыганова мінулае. У марах і гутарцы дайшлі так да падворка, і Матруна, прыпомніўшы, што могуць застаць тут бацьку, хацела ўзяць сваю ношку, а Тумрага адправіць, калі гулкі голас абудзіў іх ад борнай лаянкай. Ляпюк стаяў, абапёршыся аб вароты, з люлькай у руках і такім строгім зрокам мераў дачку і яе спадарожніка, што ў Матруны сэрца застыла ад страху.

— Го! го! — закрычаў стары.— Што ты сабе думаеш, цягаючыся па начы з цыганамі?! Бачыце яе! А і ты смелы, абадранец, што ўжо прымазаўся да гаспадарскай дачкі! Што гэта значыць?

Тумры аж абліўся халодным потам, а калі Матруна знікла за пералазам, адказаў:

— А што ж гэта такі вялікі грэх, што я памог вашай дачцэ?

— Абыдзецца без гэтых паслуг! — насмешліва, з кепска схаванай злосцю казаў стары.— Ідзіце сваёй дарогай і не заводзьце тут знаёмстваў, бо можаце незнарок пазнаёміцца з дубовым кіем, які стары Ляпюк трымае на дачку і няпрошаных гасцей.

Гаворачы гэта, стары аж дрыжаў і, вытрасаючы попел з люлькі, мармытаў сабе пад нос:

— Га! — таго толькі не хапала, каб ізноў цыганская кроў прыблукалася да маёй! Эй! *Бынка цява* (чортаў сын), глядзіце, ужо знюхаліся! Але я гэта выб'ю ў Матруны з галавы! Усё-такі кроў крывёй! Цыган ёй пахне! Ніяк не выцерабіцца з гэтага цыганства! Столькі гадоў працую, каб людзі пра яго забыліся, а тут мне гэты зноў улазіць на дарогу. Трэба зараней зарадзіць, а то скажуць, што стары цыган сумысле яе сваяку пасватаў. О, о, недачаканне ваша!

І ў старога моцна білася сэрца. Ускочыў у хату, дзе ўжо дачка ўвіхалася каля печы, засопшыся ад ледзь стрымованага гневу.

— Слухай, Матруна! Слухай, не адварочвайся і не прыкідвайся, што ў гаршку хаваеш вушы і галаву. Са мной жартаў няма! Што табе да цыганоў? Што цыганам да цябе? Будзе дрэнна, кажу, што будзе дрэнна, я гэтага не пацярплю! Ты гаспадарская дачка, а табе пахнуць цыганы!

Дзяўчына маўчала нейкую хвіліну, а ўрэшце ўзняла галаву.

— А што ж тут благога, што прычапіўся? — адазвалася сціпка.— Я яго не прасіла.

— Дык трэба было адправіць!

Варухнула плячыма.

— А як мне памог, дык што тут благога сталася?

— Глядзіце, якая мудрая! Яна мне тлумачыць! А ведаеш ты, дурная галава, ад чаго пачынаецца бла-

гое і як канчаецца найлепшае? Не, сягоння нічога не здарылася, а заўтра быў бы табе знаямейшы і смялейшы, ■ пазаўтра, можа, ты сумавала б па ім, і, хто ведае, можа б, я цябе пасля кіем з хаты за ім пагнаў!

Дзяўчына маўчала.

— Эй, прэч! — дадаў Ляпюк, кінуўшыся на лаву.— Прэч ад такіх знаёмстваў! Няма ў нас дружбы з цыганом, ён заўтра пойдзе, як дзікі звер, у свет, а што будзе, як пакіне пасля сябе пляму старому бацьку на сівы волас? Ну! ну! Матруна, пільнуйся! Я не дарую, ты мяне знаеш!

Некалькі тыдняў, у час, як у двары царавала Аза, Матруна і малады цыган сустракаліся за вёскай на ўзгорку, толькі асцярожна, абачліва, так, што не заўважыла іх людское вока. Матруна, нягледзячы на бацькавы пагрозы, ішла за сваёй доляй, а Тумры вырашыў у сваім сэрцы не пакідаць Ставіскаў і застацца тут пасля таго, як цыганы пойдуць далей.

У галечы, нястачы, прыніжэнні рэдка здараюцца моцныя гарачыя пачуцці, бо ім таксама патрэбны сонца, свабода, адпачынак; аднак, калі незнарок народзіць іх сэрца, якое сябе не ведала, выбухаюць страшна, гвалтоўна, нестрымана. Нічога ўжо іх не зломіць, бо што ж можа пагражаць таму, хто ўсё пазнаў і выпрабаваў? У нашых салонах кволае каханне звычайна не супраціўляецца таму непрыемнаму ўражанню, якое робіць выцертая вопратка, не супрацівіцца думцы, што прыйдзецца кахацца ў благой хаціне, у працы, без паслугі і дастатку, а там нічога не палохае, нават пакуты голаду, пабояў і жабрацтва. Наша прывязанасць як аранжарэйныя кветкі, якія не вытрымліваюць ні рэзкага ветру, ні прымаразкаў; каханне сялян — рэдкая кветка, што расцвітае раз на сто гадоў, але яна ўмее перанесці навальніцы, холад, боль і кпіць ■ лёсу. Та-

кой выключнай прывязанасцю была сувязь гэтых дзвюх істот; у Матруны яна перамагла боязь бацькі, ў Тумрага нават тую думку, што дзве галечы ў сто разоў цяжэйшыя за адну. Абое, не заклінаючыся і не прысягаючы, былі ўжо ўпэўненыя, што перамогуць і бацьку, і людзей, і галечу.

Гатоўнасць абаіх на якія б ні былі нягоды была ў іх нібы прадчуваннем іх неабходнасці; а тыя пачаліся хутка адна за адной, не даючы апамятацца двум бедным стварэнням, любоў якіх падвойвала іх ахвярнасць. Няма нічога больш узбуджальнага для пачуцця, чым, так званыя ў мове старых рамансаў, перашкоды; не адна гарачая схільнасць паўстала пад уплывам іх дзеяння. Перашкода дражніць чалавека і прыцягвае яго.

Даволі доўга стаялі Апраш і яго чарада на выгане пад Ставіскамі; кавáлі, пакуль было што каваць, а рэшту часу адпачывалі і, асмеліўшыся, завіхаліся па вёсках і бліжэйшых хутарах. Аза гэтым часам панавала ў дварэ, а Тумры лётаў за прыгожай Матрунай.

Аднойчы асеннім вечарам з'явіўся ў дварэ ля адчыненага акна стары цыган з наморшчаным брывом і суровым поглядам. Праз акно слязліва пазірала сумная, бледная і стомленая прыгожая цыганка. Яна глядзела на месяц і думала. Адама каля яе не было.

— Слухай, Аза, ці доўга будзе гэта цягнуцца? — запытаўся з'едліва стары поўным гарчыні голасам.

— А ці я ведаю? — сумна адказала цыганка.— Мяне тут нічога не трымае за сэрца, а неяк цяжка адляцець. Усё роўна як чалавек трапіць у дарозе на *кашт* (дрэва) і выседзіць пад ім на дзярне выгаднейшае месца, дык яму з яго ўстаць не хочацца. Не ведаю, што са мной робіцца, хвілінамі сумую па нашым вандраванні, то зноў баюся нашай галечы і шкада мне гэтага ціхага даху, пад якім столькі людзей панараджалася і памерла. Хто знае? Ёсць штосьці такое, што звязвае месца і чалавека; я ўжо гатова засумаваць па вас,

калі б тут засталася, а па гэтых шэрых сценах, калі б адгэтуль пайшла.

— Сапсавалася ты, Аза, сапсавалася, гаворыш ты гэта не па-цыганску,— сказаў пагражальна Апраш.— А нам пара далей, бо апусцімся мы тут ды і рабіць тут ужо няма чаго — увесь *траст* (жалеза) выкаваны... Хто знае? Можа, табе шкада твайго паніча?

Стары засмяяўся з прыглушаным гневам.

— А мо і шкада,— адказала задуменна дзяўчына,— хоць сапраўды, павер мне, стары, хіба толькі літасць і жаль. Гэта беднае стварэнне, якому няма свету, як сляпому з нараджэння; ён ужо сваё пeражыў, перш чым вырасла ў яго барада. А такі ён адрахлелы, такі бедны, хваравіты і нудны. Што з ім станецца, як не будзе мяне?

— Што? Знойдзе другую! — сказаў стары, варухнуўшы плячыма.

— Такой другой не знойдзе! — адазвалася, патрасаючы галавой, цыганка.— Я яго зразумела, я ўмела трымаць яго ў лейцах і ўзбуджаць, а нехта іншы не зможа.

— А, дык думаеш з ім застацца! — перапыніў яе Апраш, бліснуўшы вокам, як быццам адгадваў не думкі.

— Я? Застацца тут? Тут?! Тут?! Ох, бацька, як вы мяне не знаеце...— жвава абрушылася дзяўчына.— Застацца з гэтым трупам, зачыненай між чатырма сценамі, каб ён мяне заўтра, як не буду яму цікавай і патрэбнай, прагнаў? Ой, не! не, стары! Скіну я гэтыя бліскоткі і пайду з вамі ў свет. Жыццё тут надакучыла мне, дзень да дня так падобныя, як дзве пацеркі, гадзіны цягнуцца, як кульгавыя коні; чалавек адчувае, што дранцвее і засынае. А ўсё ж, што скажаш, стары? Шкада мне будзе і гэтай хаты: панясу адгэтуль у свет задуму доўгую, доўгую, можа, аж да старасці...

— Ой, дзяўчына, дзіўнае з цябе стварэнне! — пакі-

ваў галавой стары Апраш.— Я ніколі не сумняваўся, што, калі згарну палатку і ўзлажу яе на воз разам з *какабіяй* (кацялком), ты вылеціш з двара і басанож пабяжыш за намі, бо ты сапраўдная *цяй ромаў* (цыганская дачка). Горш, мабыць, з Тумрым!

— Ну? А што з ім сталася?

— Тыдзень таму мінуў апошні год яго чаляднііцтва, дык пакінуў шацёр, нават галавой не кіўнуўшы мне на развітанне за *мандру* і *тонь* (хлеб і соль), за прытулак і навуку.

— Адзін падаўся ў свет?

— Ды не, як быццам закахаўся ў вясковую дзяўчыну і толькі чакае нашага адыходу, каб застацца тут назаўсёды. Ён ніколі не любіў вандравання, бо мае ў сабе белую кроў, і вось карціць яму асесці і драмаць. Аднак яго справы пойдуць не так лёгка, як ён думае. Бацька дзяўчыны, ёсць чуткі, сам *эрумансель*, нізашто не аддасць яму дачкі і прысягнуў на свае сівыя валасы, што, пакуль жыве, да жаніцьбы не дапусціць. Выкрасці дзяўчыны ён не зможа, бо куды ж бы ён з ёй дзеўся? Загіне Тумры, як *шукеля* (сабака).

— А шкада яго, стары! Ой шкада нам!

— Шкада? Што за шкада? Хоча прападаць, дык няхай ідзе лобам на дно. Нам будзе цяжэй без яго рук, але лягчэй без яго злосці і ўпартасці. Ну дык ты, Аза, рыхтуйся ў дарогу! А каб нам не мець бяды, каб нас пасля не даганялі, пакінь там тое ўсё, што табе твой паніч панадароўваў, надзень лахманы і гайда ў свет!

— Так! У свет! у свет! Далей і далей! — паўтарыла цыганка, хаваючы твар у сплеценыя рукі.— Увесь час далей і далей, без канца, да астаткаў, да смерці і нават пасля смерці...

— Э, баба! *Эгашы* (жанчына),— крыкнуў Апраш,— не стагні. Пасаромейся! Столькі твайго, што ты які дзень украла ад галечы, даволі стаяць і ўрастаць у пух. У дарогу! у дарогу!

— Заўтра! — жвава адказала дзяўчына, зачыняючы акно.— Заўтра!

— Так! Помні, заўтра!

Наступнага дня з раніцы, калі Аза была яшчэ ў двары пана Адама, цыганскі шацёр знік з выгану. Усе дружна ўпакоўвалі *вэрдэн* (воз), дзеці цягнулі кацялкі і малаткі, падаючы́ іх старому, жанчыны скручвалі *плясты* (коўдры, пакрывалы), маўклівая ж маці толькі глядзела на ўсю гэту падрыхтоўку сухім вокам нямой абыякавай роспачы. Старыя бабы завіхаліся каля яе, сварыліся і крычалі.

З вяршыні высокага ўзгорка глядзеў Тумры на гэтыя зборы з дзіўным пачуццём у сэрцы. Не шкада было яму старога Апраша і цыганоў, адзіных родзічаў на шырокім свеце, аднак у хвіліну расставання, калі павінен быў апынуцца зусім адзін, чамусьці кроў пачала біцца ў скронях і калаціцца сціснутае сэрца.

Будучыня ўставала перад ім чорнай і напоўненай страшнымі таямніцамі, як бурная асенняя ноч, у глыбінях якой толькі свішчуць вятры і матляюцца чэрці. І ўсё ж Тумры рашыў тут застацца; без кавалка хлеба, без хаты, без сяброў — дзеля адной дзяўчыны, бацька якой не дазваляў нават здалёк на яе зірнуць.

— Што будзе заўтра? — пытаўся ў самога сябе, засынаючы пад голым небам у яры каля кустоў шыпшыны.— Можа, памру з голаду, можа, зловяць мяне як злачынца? Хто ведае? А мо здабуду цярплівасцю дзесьці рог саламянага даху і спакойны куток?..

Надзея абяцала няшмат, боязь палохала прывідамі, цісну́ў жаль па тых, што адыходзілі, аднак, калі заскрыпеў цыганскі *вэрдэн*, Тумры не варухнуўся, толькі заплюшчыў вочы і ўпаў у нейкае соннае задуменне, якое не было ні явай, ні летуценнем, але нечым да іх падобным.

*Вэрдэн* быў ужо ў канцы вёскі, калі праз агароды і палі прыскочыла да яго задыханая, у сваёй даўнейшай цыганскай вопратцы, зарумяненая паспешлівым бегам, маўклівая і чагосьці загневаная Аза.

— З'явілася? — сказаў Апраш з усмешкай.— Я ўжо сумняваўся.

— Як бачыш, стары, але май жа літасць, рушмася жвавей, бо мяне штосьці назад цягне, не магу азірнуцца, сумна мне, цяжка мне. Ой, у дарогу! У дарогу з цыганскай песняй. Далёка і хутка!

— *Эгашы!* — буркнуў праз зубы Апраш, паганяючы каня.— Ну, сама зацягні вясёлую песеньку, заплюшч вочы, накрый галаву, а калі і гэта табе не паможа, дык нахілі бляшанку, выпі *таргімом* (гарэлкі), гэта развее тваё сэрца...

— А Тумры?

— Сабачы сын! кроў *гадзяў*! Застаўся дзесьці са сваімі, і няхай яго чэрві сточаць!

Так размаўляючы паўсловамі, цыганы спусціліся ў яр, і вёска раптам знікла з іх вачэй. Аза ішла хутка спераду, не азіраючыся. Яна маўчала і, як быццам баючыся пагоні, штораз прыспешвала свой крок так, што грамада ледзь за ёй спраўлялася.

Раптам дарога загрымела, закурылася, загудзела, і, мінаючы Апрашаў воз, нейкі конны прыскочыў да цыганкі, якая нават не падала голасу, калі ён схапіў яе за плячо.

— Што гэта такое,— адазваўся хрыплы і дрыготкі голас Адама,— што гэта такое, Аза? Скажы мне, што гэта такое?!

— Што? — абыякава, адвярнуўшыся, адказала цыганка.— А што мае быць? Ідзём далей!

— Ты ідзеш з імі?

— Можа, ты хацеў, каб я засталася ў той вашай клетцы?

— Але ты не пойдзеш!

— Я? а чаму?

— Бо я цябе не пушчу!

Дзяўчына дзіка ўсміхнулася.

— Якім правам?

— Ты мне абяцала застацца.

— Ніколі! ніколі! А чаго ж бы я там засталася? — дадала, спыняючыся.— Каб праз паўгода ці праз тыдзень ты мяне выгнаў або кінуў, як абгрызеную костку, якому-небудзь свайму лёкаю, як гэта было з іншымі?

Адам аслупянеў.

— Я табе дам,— сказаў, задыханы,— я табе дам, што толькі захочаш...

— О! о! — пакручваючы галавой, пачала дзяўчына.— А калі я раптам захачу ад цябе шлюбнага пярсцёнка?

— Ты насміхаешся!

— Як бачыш. Але каб запатрабавала?

— Гэтага не можаш патрабаваць, бо ведаеш, што даць не магу...

— А я вось не хачу ні цябе, ні твайго пярсцёнка, ні дома і нічога на свеце... Ты думаеш, што я выжыла б,— дадала гарачэй з зыркім, як жар, вокам,— там у тваёй *кгэра* (доме), у той клетцы, зачыненая, як раба? О! гэта жыццё не для мяне, а для вас, здзяцінелых, без крыві і сэрца старых пестуноў... Даволі было мне спрабаваць... Бывай, пане, здароў! Паганяй каня, Апраш! Паганяй *грамі* (каня)!

Зарыпеў цыганскі воз, цыганка пусцілася наперад, а пан Адам, як прыкаваны да зямлі, застаўся бледны, гнеўны, бяссільны, ганяючы ў галаве сухія, жоўтыя, халодныя і нежывыя, як апалыя асеннія лісты, думкі...

Урэшце шырока пазяхнуў, завярнуў каня і ступою, мармычучы штосьці сабе пад нос, пацягнуўся ў свой стары двор.

Тумры, застаўшыся адзін, спачатку быў змушаны хавацца ад Лепюка, які высачыў, што хлопец адстаў ад сваіх і блукае каля вёскі. Шчасце ўцекачу было тое, што каваль у сяле быў вельмі патрэбны, дык некалькі гаспадароў, даведаўшыся пра яго жаданне пасяліцца, надумалі затрымаць яго ў Ставісках. Сяляне ведалі, што Тумры быў правай рукой Апраша і вельмі спрытным рамеснікам, таму рады былі яго затрымаць. Пайшлі тады да пана і павялі з сабой хлопца.

Але пан Адам якраз праклінаў усіх на свеце цыганоў і кляўся помсціць усяму племю *ромаў*. Пасольства з'явілася не ў пару, яго былі прагналі з лаянкай і гневам, дык Тумры [redacted] дрыжаннем, разам са сваімі апекунамі, пакінуў панскі дом.

— Усё прапала! прапала! — сказаў з адчаем на парозе.— Надзея страчана, засталося або павесіцца, або ўцякаць.

— Цыц! ну цыц! — спыніў яго войт, паклаўшы руку на плячо.— Калі не ведаеце людзей, дык не кажыце наперад нічога. Пан лае і кляне ды гоніць заўсёды толькі спачатку, аднак калі яго крыху панудзіць ды няхай выспіцца, дык забудзе пра свой гнеў. Як не будзе каму падкаваць яго верхавога, усё ўладзіцца. Тым часам папрацуйце ў мяне і цярпліва пачакайце.

Так і сталася, як войт радзіў і прадбачыў. У хуткім часе пан Адам перахварэў свой гнеў і сваю журбу і пад уплывам гувернанткі-францужанкі, трыццацігадовай авантурысткі, якую адбіў у некага [redacted] суседзяў, забыўся і пра цыганоў і пра цыганак. А тая і непрыгожая, і немаладая ўжо ўдава (якая, аднак, ніколі не была замужам), пазнаўшы добра пана Адама, павяла яго, як на паяску, аж да алтара. І ў хуткім часе войт без цяжкасці атрымаў дазвол пасяліцца цыгану ў Ставісках.

Ляпюк, які на ўсё гэта глядзеў збоку, стараўся, наколькі мог, перашкодзіць, аднак быў не ў сіле ісці адкрыта супраць пана і ўсёй вясковай грамады. Даве-

даўшыся пра панскі дазвол, ледзь не лопнуў ад злосці. Яго ўласнае цыганства перашкаджала выступаць супраць Тумрага; калі найбольш хацелася гаварыць, трэба было маўчаць.

«А! — сказаў сабе.— Дазволілі яму пасяліцца, няхай сядзіць, але чорта з'есць, пакуль я дазволю яму пры маім жыцці наблізіцца да Матруны. Не хачу больш у маім родзе цыганскай крыві!»

Калі справа дайшла да вызначэння месца ў сяле пад хату і кузню, Ляпюк так стараўся тайна і адкрыта, што двор, аканом і грамада, быццам грэбуючы цыганом і, як агню, яго баючыся, адапхнулі яго аж за вёску пад могільнік і там на пустэчы дазволілі будавацца. Спачатку гаспадары абавязаліся разам з дваром дапамагчы паставіць хату, але як дайшло да справы, Тумры зразумеў, што іншых памагатых, апроч сваіх дзвюх рук, мець не будзе. Не сказаў нікому ні слова; атрымаў тое, што хацеў,— кавалак зямлі і дазвол пасяліцца, а большага дамагацца не смеў, каб не страціць і таго.

Сумнае было тое месца, дзе паказалі яму будавацца, хутчэй выгнанне, чым людская сяліба, насупраць могільніка, далёка ад вёскі, дзе не чутно людскога галасу; ніадкуль агню, ніскуль вады, ні ценю, ні кавалка зямлі на агарод. Аднак выгнанніку, які ніколі не меў нічога свайго, і гэта здавалася добрым. Тумры лёг спаць на голай зямлі і ўсю ноч прадумаў, як тут склеіць хату. На нікога не мог разлічваць, нікога прасіць — Ляпюк шкодзіў яму ва ўсім.

Назаўтра рана ўстаў бядак, аблітьі расой. Разглядаючыся па сваёй пустцы, заўважыў абрыў гары, да якога мог прычапіцца адным бокам ляпянкі, і радасна ўсміхнуўся. Гліна на абмазку была тут блізка, але з чаго зрабіць сцены і дах?

Падумаўшы з гадзіну, пайшоў да войта, які якраз з плугам і хлопцам цягнуўся на свой шнур.

— Ну што, пане майстар? — жартаўліва запытаў стары.

— А што ж, пане войце,— адказаў Тумры,— штосьці бачу, што ні двор, ні грамада не маюць ахвоты хату мне ставіць, відаць, нічога з гэтага не выйдзе.

— Не ведаю, не ведаю...— прамармытаў павольна Лях,— не вельмі і я на гэту талаку спадзяюся. А што ж вы думаеце?

— Думаю будавацца сам!

— З кім? як? наймам?

— Вы ж ведаеце, што няма ў мяне граша за душой, аднак жа двое рук — не жарты.

— Калі вы самі пакладзіце хоць адно паленца і людзі ўбачаць, што берацеся самі, дык ніхто вам і пальцам не варухне.

— Ці так, ці гэтак, усё адно.

— А як жа вы самі дасце рады?

— Памаленьку склею ляпянку. Не будзе гэта *кгэра*, а *букінія* (не дом, а буда на адлюддзі),— дадаў пасвойму цыган.

— А хто ж вам прывязе дрэва?

— Я яго прынясу.

— Ого-го! — сказаў войт.— Нешта вы пачынаеце плесці абы-што.

— Дастаньце мне толькі квіток у лес на матэрыял і падарыце хоць старую *товэз* (сякеру).

— Сякеры я не пашкадую, пасля мне за яе адробіце,— сказаў войт.— Ёсць якраз тупіца яшчэ не зусім збітая, кідаючы ад сябе, яна варта не менш за залатоўку. А квіт можаце мець заўтра. Аднак ці ж такі сапраўды думаеце самі брацца за работу?

— А што ж,— сказаў цыган,— няма чаго чакаць, паспрабую.

Назаўтра зранку, з'еўшы сухі кавалак хлеба, капаў ужо Тумры драўлянай лапатай, адкідаў цвёрдую гліну

і збіваў пустазелле, ачышчаючы некалькі локцяў плошчы пад сваю зямлянку. Чалавек прыгнечаны, пакінуты адзінокім і змушаны працаваць шмат можа: намнога больш, чым мы сабе ўяўляем. Праўда, ён укладвае на кожным кроку падвойную сілу цела і душы, аднак укладзенае вяртаецца да яго павялічанае тройчы. Амаль цудам была змайстравана адной сякерай і дзвюма рукамі тая ліхая цыганская будыніна. Кожны кавалак дрэва трэба было яму прынесці з лесу на плячах або, запрогшыся, поцягам саматужна валачы праз яры і ўзгоркі; кожнае бервяно самому абчасаць і дадумацца, як яго пакласці, стварыць цэлае невядомае яму рамяство. А калі канчаткова тупела яго старая сякера, Тумры быў змушаны, не маючы кавальскіх прыладаў, ісці за дзве вярсты да каваля і служыць яму па два дні памагатым, каб гэтым коштам зноў яе навастрыць і загартаваць.

Тым часам, калі яго не было пры будове, тыя, што ехалі дарогай або прыйшлі з вёскі, кралі яго крывавым потам назбіранае дрэва, слота псавала працу, намоклая гара абсоўвалася, дрэнна спаяныя бярвянчукі разыходзіліся і распадаліся, і не ведаю, колькі разоў, развальвалася будоўля, пакуль ён змог прыкрыць яе ліхімі бэлечкамі і латамі, паставіўшы замест кроквaў тонкія калочкі. Адзін бог толькі палічыў, колькі там кропляў поту ўпала на зямлю, колькі працы пайшло марна, колькі было пакладзена сілы і цярплівасці!

Аднак не раз тыя ж супраціўнасці і перашкоды падахвочвалі чалавека, каб ён іх перамог. Яны ўмацоўвалі яго адвагу, выклікалі ахвоту, будзілі думку. Насміхаліся людзі, пазіраючы на гэту, што памалу падымалася ад зямлі, ліхую і непрыглядную ляпянку, якая пры ўсёй сваёй беднасці была цудам вынаходлівасці і працы. Тумры так прывязаўся да свайго тварэння, так з ім з'яднаўся, што не меў спачынку, пакуль яго не закончыў. Толькі два разы на дзень пакідаў пра-

цу, каб выскачыць на сустрэчу з Матрунай, зірнуць на яе, усміхнуцца да яе здалёк ці прамовіць слова.

Аднак рэдка гэта ўдавалася, бо стары Ляпюк стаяў на варце і не даваў ім наблізіцца. Дарма стараючыся прагнаць цыганчука з вёскі, прысягаў, што, хоць бы Матруне прыйшлося звекаваць у дзеўках, ён яе за валацугу і прыблуду не аддасць. Матруна, каб не цвяліць бацьку, цярпліва маўчала, але калі прыйшлі да яе сваты, нягледзячы на лаянку і пагрозы, адправіла іх ні з чым. Ляпюк праклінаў, біў яе, але нічога не памагло. Дзяўчына ўсё зносіла, адказваючы адным словам: «Не хачу!»

Аднаго рання, калі Тумры быў заняты пры найцяжэйшай частцы сваёй хаты, стараючыся паставіць штосьці, што магло б замяніць бэлькі і дах, заўважыў, што ў імгле ўсходу набліжаецца да яго крадком Ляпюк. Абапёршыся на грубы кій, стаў у задуменні ля дарогі і ўляпіў у хлопца гнеўныя вочы.

— Будуй, будуй,— замармытаў нарэшце ўпаўголаса пасля доўгага маўчання,— на галаву сваю, на галаву! — І са злосцю дадаў мацней: — Што ты сабе думаеш, лепячы гэты хлеў, чуеш?

— Што думаю? што буду ў ім жыць,— адказаў спакойна Тумры, не спыняючы працы.

— Чаго ты сюды на сваю бяду прывалокся? — прадаўжаў стары.— Нашто? Мала табе было свету? чуеш? га?

— А чым жа я вам замінаю — запытаўся цыган.— Паветра не выдыхаю, вады не вып'ю, хлеба не ад'ем, хопіць гэтага нам усім.

— Але чаму табе ўзбрыло ў галаву прычапіцца да нашай вёскі?

— Альбо ж гэта вам шкодзіць?

— Гэй! Каб цябе чорт узяў! Не прыкідвайся дурнем,— ускіпеў Ляпюк,— бо я не збіраюся доўга бalaкаць. Вось, у двух словах: калі пойдзеш, куды цябе во-

чы панясуць, дык я заплачу табе за работу і куплю гэты хлеў. Чуеш? Абы ты вынесся не азіраючыся, а як не...

— То што, пане гаспадару?

— То што? Скажу табе толькі, што цэлым ты тут не ўседзіш.

Чым жа я вам перашкаджаю?

— Го! го! Ты лепш ведаеш, за што я маю на цябе зуб, не трэба доўга гаварыць. Пра Матруну думаць не смей, нічога ■ гэтага не выйдзе, а цябе чэрці возьмуць!

Тумры маўчаў, абчэсваючы крывое бярозавае палена.

— Чуеш? Чэрці цябе возьмуць! — паўтарыў Ляпюк, якога раздражняла стрыманасць цыгана.

— Хто можа знаць, каго *бынк* схопіць! — холадна адказаў хлопец.— Убачым.

— «Убачым»!.. І не думаеш адгэтуль пайсці? Кажы!

— Не пайду, дарма ўсё гэта, не пайду, пане гаспадару.

Ляпюк стукнуў кіем аб зямлю, скрыпнуў зубамі, павярнуўся і хутка аддаліўся.

Праз тыдзень пасля таго, калі ўжо хацінка наблiжалася да заканчэння, Тумры, як звычайна, падаўся з затупленай сякерай да суседняга каваля і прабыў там тры дні. Вяртаючыся, марыў і прыпамінаў сваю сустрэчу з Лепюком, яго пагрозы і свае надзеі. Раптам на паваротцы дарогі, адкуль паказваліся Ставіскі, убачыў на спакойным вячэрнім небе стужку сіняга дыму, якая неслася ў паветры... Кранула яго штосьці, бо выглядала, што агонь гарыць у тым месцы, дзе стаяла яго незакончаная халупа. Прыбавіў кроку і неўзабаве спыніўся як укапаны, убачыўшы, што яго праца стала жменяй попелу. На зямлі віднеліся недатлелыя галавешкі, куча друзу і непатухлае яшчэ вогнішча.

У Тумры не было сілы падысці бліжэй, так адняло яму адвагу пажарышча, такі боль пранізаў грудзі. Першы раз ад дзяцінства дзве слязы кінуліся з яго чорных вачэй, апякаючы не прызвычаены да іх твар. Стаяў і глядзеў [redacted] заламанымі рукамі, як звар'яцелы, прыгнечаны, не думаючы, не ведаючы, што рабіць.

Аднак гэта страшная нямая роспач, якая магла, калі б не выцекла слязой, перайсці ў шал і помсту, трывала толькі хвіліну. Цыган узняў галаву, уздыхнуў, страпянуўся і, вяртаючыся да прытомнасці і адвагі, жвавым крокам падсунуўся бліжэй да сваёй знішчанай ляпянкі.

Думка яго зноў павярнулася да трывання і працы.

«Што я зрабіў раз, змагу зрабіць і другі,— сказаў у думках,— можа, лягчэй, можа, нават лепей і ўсё ж на сваім пастаўлю. Няхай Ляпюк шалее, бо гэта яго работа, а я не дамся выкурыць, як пчолы [redacted] вулля ці камары з хаты!»

З гэтым рашэннем падышоў да самага пажарышча, шукаючы цікаўным вокам, што яшчэ можна з яго выратаваць, але агонь не пакінуў ні калочка, усё дрэва згарэла, дымілася толькі яшчэ крыху вуголля і попелу. Азірнуўся сумна цыган і зваліўся на зямлю побач [redacted] глiнiстым абрывам, які, апалены агнём дачырвана, крышыўся і асыпаўся. Задумаўся, звесіўшы галаву.

Праз нейкі час пачуў, што па дарозе ідуць людзі і сунецца па зямлі перавернуты плуг. За плугам ішоў войт. Стары здалёк убачыў каля папялішча цыгана, прыпыніўся, адкрыў вусны, але не пасмеў яго зачапіць, адчуўшы, што павінна было адбывацца ў яго душы.

Тумры сам жвава падняўся і падышоў да яго.

— Добры вечар, пане войце.

— Ой, не вельмі для вас добры,— памалу, з ноткай спачування сказаў селянін.— Колькі ж вы напрацаваліся, і ўсё дарма! Адна іскра — і ўсё пайшло з дымам!

— Іскра тут не вінаватая, а чыясьці рука,— адказаў з уздыхам цыган.— Аднак, што ж рабіць, не павешуся ж я з гэтага...

— А што намерваецеся?

— Што? — сказаў Тумры спакойна.— Заўтра ў лес і зноў будавацца.

— Ці ты, хлопча, [redacted] глузду з'ехаў? А дзе ж табе хопіць сілы?

— О, о! яшчэ яе хапае,— выкрыкнуў цыган.— Толькі вось думаю, як мне забяспечыцца, каб мой сябра зноў не напаліў вугалля, перш чым пастаўлю кузню,— паўжартам дадаў юнак.

Асцярожны войт замоўк, не распытваючы і не выказваючы сваёй думкі, на каго падала падазрэнне, хоць не сумняваўся, што цыган мае на ўвазе Лепюка.

— І сапраўды,— загаварыў праз хвіліну,— думаеце нанава будавацца? Праўда?

— Не пазней як заўтра,— упэўненым голасам сказаў Тумры.— Сякера вострая, пры кавадле я трохі адпачыў, пайду ў лес!

— Ну што ж, памагай бог! — паганяючы валоў, замармытаў войт.— Хвацкі з вас хлопец, шкада толькі, што цыган!

Апошніх войтавых слоў Тумры ўжо не пачуў. Вярнуўшыся да папялішча, разгарнуў дрыготкай рукой гарачы прысак, выняў з-за пазухі некалькі бульбін, каб нарыхтаваць з іх і кавалка сухога хлеба вячэру. Аднак, забыўшыся пра ежу, задумаўся зноў, і тыя бульбіны сатлелі. А світаннем устаў, як зламаны ці збіты, закінуў за плечы сякеру і падаўся ў лес.

Шчасцем, дзялянка, з якой назначаны быў яму лес, знаходзілася не вельмі далёка, хоць аддзялялі яе ад папялішча ўзгоркі і два яры. На сцежцы, па якой ішоў, відаць былі сляды яго толькі што змарнаванай працы, якія напаміналі бедаку яго ўчарашнія крывавыя намаганні. Дзе-нідзе валяліся адламаныя сухія сукі, а

калодкі, цягнутыя па зямлі, павыразалі раўчукі; месцамі відаць былі то дубовая галінка, то абрывак вяроўкі, то абчасаны калок. Усё гэта запыняла Тумрага, і ён пачаў тое-сёе падбіраць з намерам выкарыстаць пазней. Учарашні жаль ужо перагарэў у яго сэрцы, замянілі яго моцная воля і жаданне працы, якая найлепш тушыць усе болі.

З думкай аб сваіх справах, не гледзячы наперад, спусціўся Тумры ў яр, і тут раптам разбудзіў яго знаёмы голас:

— Дзень добры, Тумры, добры дзень!

За некалькі крокаў перад ім стаяла з гаршчочкам-спарышом у руках прыгожая Матруна, пачырванелыя вочы якой сведчылі аб нядаўніх слязах.

— Добры дзень,— сказаў з усмешкай цыган, падыходзячы да яе.— А што чуваць?

— Хіба вы нічога не ведаеце? Былі вы каля хаты?

— Э! начаваў там каля агню,— прыкідваючыся абыякава вясёлым, адказаў юнак.— Ну што ж, згарэла, трэба думаць пра другую.

— Ізноў тое самае? Ды вы ж зарэжацеся! — спачувальна і з глыбокім позіркам сказала дачка Лепюка.

— Нічога мне не станецца! — выкрыкнуў бадзёра цыган.— Будзьце спакойны, трэба свайго дабіцца, нічога не паможа.

— А ведаеце, ад чаго згарэла хата? — акінула яго дапытлівым вокам дзяўчына.

— Ведаць не ведаю, а здагадацца лёгка: твой бацька, напэўна, яе спаліў.

Матруна сумна апусціла галаву.

— Ведаеш? — сказала ціха, аглядаючыся.— Заўчора зноў Рыгор Скарабагаты прысылаў да мяне сватоў. Бацька паклікаў мяне ў камору і пагражаў мне, але нічога не памагло, я сказала, што не пайду... Вечарам, як шалёны, кудысьці пабег, узяўшы з сабой торбачку з крэсівам. Кранула мяне зараз, што будзе тут

няшчасце, пайшла я ў гарод плакаць, а праз гадзіну бачу дым на гары каля могільніка; тут і людзі павыбягалі з хат, глядзяць, крычаць: «Цыганская хата гарыць!» Прыйшлося мне схавацца, бо ўсе на мяне глядзелі, а я аж раўла... Не хутка вярнуўся бацька, чамусьці тросся, быў злы, лёг без вячэры, накрыўся кажухом і цяпер хварэе.

Матруна цяжка ўздыхнула.

— Ой, на нашу гэта бяду,— дадала пасля,— прысталі мы адно да аднаго на бяду і нядолю... але, відаць, так нам суджана! Не адабраць душы, калі хто каму яе даў... Ужо і гэта не лёс, калі бацька не благаслаўляе, а кляне.

— Слухай! — сказаў усхвалявана цыган, узяўшы яе за руку.— Калі табе страх маёй долі і бацькавага праклёну, скажы слова, Матруна... Я, хоць і цыган, сумленне маю... губіць цябе не хачу... пайду адгэтуль!

Матруна ўзняла на яго свае чорныя вочы, выціраючы іх ад слёз фартухом.

— Не адабраць душы, калі яе хто каму даў,— паўтарыла,— не пара нам вяртацца! Воля божая! Суджана так!

— Няхай бог заплаціць табе за добрае слова,— сказаў, яшчэ больш хвалюючыся, Тумры.— Не пашкадуеце таго, што вы мне зрабілі. Пакажу вам, што цыганскія рукі жалезныя і сіла жалезная; не перамогуць мяне тут ні бяда, ні людзі... Бачыш, Матруна, я ізноў ішоў з сякерай у лес. Пачну новую хату і, дасць бог, закончу яе хутчэй і лепш, чым першую, не прападзём!

Гаворачы гэта, хацеў яе абняць, але Матруна, толькі зірнуўшы на яго, нібы спалоханая, кінулася сцежкай у бок поля.

— Браты на ніве чакаюць абеду, трэба спяшацца. Твая буханка хлеба пад каменем, як заўсёды.

Кіўнула яму галавой і пабегла азіраючыся, пакуль не знікла за кустамі каліны.

Цыган пастаяў хвіліну на месцы, а пасля, забыўшыся пра хлеб, пусціўся ў лес на працу. Вопыт даваў яму ўменне, якога ён не меў, пачынаючы майстраваць першую ляпянку. Цяпер ён лепш мог рыхтаваць дрэва, хутчэй ачасаць і спрытней запрагаўся ў калоды, калі прыходзілася іх цягнуць, а таксама нагледзеў менш крутыя сцежкі. І ўсё ж не на шмат здалося гэта яго ўменне, падвоіць сілы не магло і не магло зрабіць лепшай ляпянку. Ізноў пачаў складаць з такіх самых кавалкаў, аднолькава нязграбна, толькі трохі хутчэй. На гэты раз падзяліў працу так, што перш высек у лесе ўсё, што было трэба, схаваў падрыхтаваны матэрыял у бяспечным месцы і толькі пасля таго пачаў сцягваць яго на вызначанае месца.

Праз некалькі тыдняў куча дрэва ляжала ўжо каля могільніка, а цыган ізноў скопваў апаленую гару, на сцены ляпянкі. Вяскоўцы, праходзячы дарогай, спыняліся,ківалі галовамі, не верачы сваім вачам, так ім упартасць і сіла цыгана здаваліся няпраўдападобнымі. Старыя бабы шапталіся паміж сабой, паказваючы пальцамі здалёк на распачатую ляпянку:

— Нездарма цыган! Ён нешта ведае!

Падазравалі яго, што знаецца з сатаной, і гэта думка лёгка прынялася. Нават бедная Матруна, хоць пакручвала галавой, чуючы гэта, аднак крыху баялася. Але сэрца, якое ўмее вытлумачыць што хочаш, разагнала гэту хвілінную боязь.

Тым часам стары Ляпюк хварэў і, не падымаючыся з тапчана, страшным праклёнам кляў дачку, абы яна паказалася яму на вочы. Не асмельваўся ні ў кога запытацца пра цыгана, так грызла яго думка, што, магчыма, ён застаўся, хоць і згарэла яго хата.

Аднойчы ў нядзелю прыйшлі праведаць хворага двое суседзяў, селі каля яго, распытваючы, чаго яму нядобрыцца, і па-свойму раячы звярнуцца да знахаркіяўрэйкі ці да баб, якія ўмелі замаўляць хваробы. Ля-

пюк толькі моўчкі слухаў. Праз гадзіну трохі разрухаўся, выправіў па пляшку гарэлкі, выпіў некалькі кілішкаў, вочы яго заблішчалі, і ён падняўся з тапчана.

— А што там чуваць у сяле? — запытаўся хрыплым голасам.

— А што будзе чуваць? — сказаў Скарабагаты.— Як заўсёды. На паншчыну гоняць і гоняць, людзі стогнуць, хлеба мала, а бяды хапае.

— Чаму ж вы не раскажаце пра цыгана? — перапыніў яго другі.— Тут ёсць што паслухаць!

Ляпюк здрыгануўся і працягнуў да гарэлкі дрыготкую руку, пасля выпіў яшчэ кілішак.

— Пра цыгана? Пра цыгана? — прамармытаў, азіраючыся навокал.— Ну, гаварыце, калі ўжо пра гэту бэстыю пачалі гутарку. Ці яшчэ ён у вёсцы?

— І сядзіць, і не чуваць, каб збіраўся адыходзіць,— сказаў Скарабагаты.— Усе кажуць, што нешта знае, і гэта напэўна. Мы думалі, што як згарэла зямлянка, дык плюне на ліха і Ставіскі пакіне, а ён ужо пачаў другую ставіць.

Ляпюк сарваўся з тапчана, лаючыся з вялікай злосці непрытомна па-цыганку, чаго звычайна асцерагаўся, і толькі хіба ў найбольшым гневе вырываўся ў яго голас старой натуры.

— *Бынка цява* (чортаў сын)!

Але, пачуўшы гэтыя словы, апамятаўся і зноў сеў, азіраючыся са страхам, як яго зразумелі. Тросся ўвесь, але надрабляў усмешку.

— А гэта праўда,— павярнуў раптам,— што цыган цвёрды! Другі і не падумаў бы нанава рабіць. Нагледзеўся я, як ён бярвенне з лесу саматугам цягнуў або на плячах насіў. Я думаў, што ў яго вочы на лоб павылазяць і кроў праз нос хлыне, але не! І яшчэ раз запрогся да свайго! Ну, ну! Упорыстая натура!

Гэтыя словы вымавіў хутка, відаць, маючы намер загаварыць сваіх гасцей прытворным супакоем, але за-

лішне быў гнеўны, каб здабыцца на маляваную абыякавасць. Вочы яго, запаленыя пад бровамі нецярплівым раздражненнем, лcraталі, грудзі высока ўздымаліся, далонь трэслася як у ліхаманцы.

— Эй, лепш прыляжце! — сказаў, устаючы, Скарабагаты.— Вы яшчэ нездаровы, гэта адразу відаць, а з хваробай нельга жартаваць. Каму як каму, а нам, старым, найменш.

Гаспадары развіталіся і пайшлі. Ляпюк, мармычучы, лёг. Вечар мінуў у панурым маўчанні. Надыходзіла ноч, усе ўжо клаліся спаць, калі стары пачаў стагнаць і енчыць. Падбегла да яго дачка, але ён адштурхнуў яе з лаянкай і моцным голасам паклікаў старэйшага сына. Запалілі лучыну, усе паўставалі — сыны, наймiты, жанчыны і дзеці.

— Што табе, тата? — запытаўся, падышоўшы, старэйшы сын.

— Што? — сказаў, паўтараючы па народнай звычцы пытанне, Ляпюк.— Вось прыйшла пара паміраць... Ды каб жа пара! Няхай Янка едзе па ксяндза, а ты слухай, што я табе скажу.

Разгледзеўся па хаце, насупіў бровы.

— Вон, бабы! — закрычаў.

Жанчыны выйшлі ў сенцы і ў бакоўку, а ён застаўся толькі з сынамі.

— Ведаеце,— прамовіў,— што Матруна злюбілася з гэтым цыганом... Я спаліў яго хату. Нічога не памагло, чую, будуецца зноў і будзе на яе кваліцца. Я сам цыганскага роду,— дабавіў цішэй, разглядаючыся па хаце,— але не хачу больш крыві цыганскай, каб на нас людзі пальцамі не тыцкалі. Не аддавайце Матруны за цыгана, хоць бы яна ў вас з плачам па нагах качалася, хоць бы памірала! Чуеце? чуеце?! Калі ўпрэцца няўдзячніца, дык вы ганіце яе з хаты, як сабаку, і ні латы на кашулю, ні граша пасагу не давайце! Я так хачу, чуеце?!

— А як двор дазволіць? — запытаў ціха старэйшы сын,— дык што нам тады рабіць?

— Тое, што я кажу. Захоча ісці на загубу і ганьбу, дык няхай ідзе, але гэта будзе ні ваша сястра, ні мая дачка. Прэч з ёй!

Доўга яшчэ гаварыў так стары, [redacted] Матруна, прытуліўшыся да няшчыльных дзвярэй бакоўкі, слухала, [redacted] плачам, аднак не смела адазвацца і толькі з енкам паўтарала, як непрытомная:

— Ой, доля ж мая, доля! О, няшчасная доля!

Пад паўноч над'ехаў ксёндз, а світаннем стары Ляпюк у гарачцы, непрытомны, з крыкам, кідаючыся, спяваючы незразумелыя песні і расказваючы нейкія цыганскія падзеі, памёр. Прысутныя аж дрыжалі, гледзячы, як цяжка мучыўся ён у апошнюю гадзіну, не знаходзячы іншых слоў, апроч слоў свайго дзяцінства. Можа, ён адчуваў, што сам адкрываецца са сваім паходжаннем і затоенай сваёй натурай, але не мог паўстрымацца, бо свая мова як быццам падбурала яго ў штораз большую раз'юшанасць.

Урэшце не хапіла сілы на змаганне, вочы сталі слупам, на вуснах выступіла пена, з разбітых грудзей вырваўся цяжкі, гучны, жахлівы крык...

У той час у хаце ўзняўся гоман і плач, які разбудзіў суседзяў. Матруна засталася ў бакоўцы адна, скурчаная, прыбітая да сцяны; яна плакала горкімі слязьмі без енку, паўтараючы адны і тыя словы: «О, доля ж мая, доля!»

Ледзь змаглі браты і брацíхі загнаць яе да працы, бо ў жыцці селяніна не звальняе ад яе нават найцяжэйшае гора: няма кім выручыцца. Бог так даў бедным, каб заняткам асалоджвалі журбу.

Тым часам бядняцкая ляпянка за сялом зноў пачала памалу ўзнімацца. Стаялі ўжо шулцы, у якія закідваліся мізэрныя калкі, што пазней павінны былі абмазацца глінай, а крывыя вушачкі вызначалі месцы цэс-

ных дзверцаў і невялічкага акна. Тумры, нацягаўшы дрэва, спакайней завіхаўся на сваім пляцы, больш старанна пільнуючы свайго дабра. Бярэмя саломы, ускінутай на прыпёртыя касяком жэрдкі, ахоўвала яго ад дажджу і было яго часовым сховішчам. Часам выбягаў ён у яр, каб падпільнаваць Матруну, якая там у пэўны час раней прыходзіла, але вось ужо некалькі дзён не мог яе ўбачыць. І таму, што ■ вясковымі людзьмі, апроч войта, амаль не сутыкаўся, дык не ведаў ні пра хваробу, ні пра смерць Лепюка і лічыў, што Матруна баіцца бацькі і таму стала асцеражнейшай.

Аднаго дня пад вечар, калі абчэсваў бэльку, пачуў спевы і плач, якія набліжаліся да могільніка. Не адно ўжо пахаванне прайшло так побач ■ яго хатай. У час праходжання працэсіі павінен быў Тумры стаяць ■ голай галавой, абапёршыся аб сценку сваёй хаціны, ушаноўваючы памяць смерці, вялікай *Мутэс-ора*, якую і *ромы* звычайна сустракалі са страхам.

Сякера яго перастала цюкаць, Тумры адступіўся некалькі крокаў, задумаўся, скрыжаваў рукі на грудзях, і вочы яго з забабоннай трывогай павярнуліся ў бок яра, паверх якога ўжо пачалі пакалыхвацца вярхі каляровых харугваў, а між імі чорны прапар смерці. Працэсія пасоўвалася па дарозе і памалу сцягвалася. Ішлі братчыкі, дзяк, ксёндз, і, нарэшце, два сівыя вялікія валы, ступаючы памалу, цягнулі на гару просты воз з белай сялянскай трунай, на якой ляжаў на старым ручніку бохан хлеба — апошні развітальны хлеб.

За возам убачыў Тумры двух Матруніных братоў і Матруну, якая пакутліва галасіла. На хвіліну перастала біцца яго сэрца, утаропіў вочы, пабялеў, здагадаўся, што *Мутэс* забрала яго ворага. Дзікае дзіця вандроўнікаў не адчула ні літасці, ні жалю: нейкае язычніцкае адчуванне радасці і неспатольнай помсты ўзрушыла яго сэрца. Аднак услед прыйшоў сорам, і Тумры схаваўся за вугал ляпанкі, каб не стаяць перад вачыма

ў пераможаных. Матруна не зірнула нават на хатку свайго каханага, каля якой спыніўся жалобны воз. Праз браму могільніка ён уехаць не мог, і труну да раней выкапанай ямы панеслі на плячах.

Праз увесь час сумнага абраду не чуў цыган ні спеваў, ні галашэння, гэтак моцна хвалявала яго адроджаная надзея дасягнуць мэты — завалодаць Матрунай.

«Стары памёр,— паўтараў у думках,— стары памёр, браты пярэчыць не будуць, войт мне паможа, яна мая! Абы я закончыў хату, яна стане маёй!»

Не агледзеўся, як сухая зямля засыпала цела старога Лепюка; зарыпеў воз, людзі разышліся, і зноў запанавала на ўзгорку цішыня, якая парушалася толькі карканнем сабраных на слоту варон. Неспакой падганяў яго да працы; ён схапіў сякеру і выбег з-за вугла, кідаючы вокам ў бок могільніка. Нікога ўжо там не было, толькі жоўтая свежая магіла насупраць брамы і сляды колаў ды людскіх ног на дарозе сведчылі пра пахаванне, якое без гэтых знакаў магло б здацца цыгану сном.

Нікога не заўважыўшы, ужо ўзнімаў сякеру, як нехта ціха з ім прывітаўся. Адвярнуўся, спалоханы. Амаль побач стаяў войт ■ заклапочаным тварам, абапёршыся на кій.

— А што ж вы, Тумры,— прамовіў стары,— працуеце, працуеце і не думаеце адпачыць?

— Покуль хопіць сілы, пане гаспадар. Пачатае трэба закончыць, кажа цыганская прыказка і цыганская натура.

— А мы вось прыйшлі сюды не ў пару з гэтым наведваннем,— дадаў Лях, ківаючы галавой,— і прывялі суседа, якому ўночы мо і не вельмі рады будзеш.

Цыган трохі збянтэжыўся, але задумаў прыкінуцца, што не ведае, хто гэта памёр.

— А каго ж гэта хавалі? — запытаў абыякава.

— Выццам не ведаеце? — адказаў войт.— Гэта ж

Ляпюк, і без пары. Грызся, кажуць, згрызаўся з Матрунай і не вытрываў.

Цыган маўчаў, апусціўшы галаву.

— А ўсё ж,— дадаў войт,— і паміраючы, свайго не дараваў, бо, чуваць, сынам строга загадаў, каб Матруны за вас не аддавалі.

Тумры ўвесь скалануўся, страсянуў галавой.

— Што вы кажаце? — выкрыкнуў.— Праўда?

— Без сумнення... я чуў ад суседкі, якая падслухала ў сенцаў, як ён вучыў перад смерцю сыноў. Ну, што думаеце цяпер?

— Што ж? — сказаў павольна хлопец.— Не спалохаўся я старога, не збаюся і яго сыноў. Што бог дасць, тое дасць, а я сваё рабіць буду.

— Эй, мо пакінулі б,— адказаў войт,— хату сабе будуйце, кузню стаўляйце, а гаспадарскую дачку пакіньце, бо браты ўзяць яе не дазволяць, ды і грамада за іх... хіба б вы яе гвалтам укралі.

— А хто ж бярэ жонку гвалтам?! — выкрыкнуў Тумры.— Гэта ж нябачаная рэч, ды і куды ж бы я яе павёў? Не будзем лепш, пан гаспадар, пра гэта гаварыць.

Войт адчуў, што не пераканаў яго, дык толькі моўчкі сцепануў плячамі.

— Што ж, ваша воля, можна не гаварыць... не хочаце слухаць добрай рады, дык як сабе пасцелеце, так і выспіцеся... што мне тут за справа! Вось месяц узыходзіць, пара дамоў, дабранач!

— Дабранач,— адказаў цыган і пільна ўзяўся за сваю работу.

Ужо і сонца зайшло, і поўня выплыла на неба, а рэшткі вячэрніх водбліскаў і начнога святла, мяшаючыся, утварылі празрысты змрок, у якім Тумры не пераставаў цяслярыць. Праца была яму патрэбная, бо яна не давала думаць, журыцца і плакаць. Адпачываць жа таксама не мог побач з гэтай свежай магілай,

якую вочы яго сустракалі ўсюды, якая множылася навокал і ўяўлялася ў тысячах формаў.

Усю гэту першую ноч правёў пры святле поўні на чыстым небе, з запалам секучы ўсё, што трапляла пад рукі, жахаючыся штохвіліны ад кожнага шолаху недалёкай вярбы, бо шум яе здаваўся яму смехам нябожчыка. Халодныя дрыжыкі прабягалі па яго плячах, калі думка, расхваляваная пачуццём, выклікала з магілы Лепюка, а разам з ім тысячы нябожчыкаў, якія ўставалі яму на дапамогу.

Нават начная цішыня, сярод якой кожны ўдар яго сякеры далёка разлягаўся дзіўным гучаннем, палохала Тумрага. Пот ліўся ■ яго ручаём, сілы вычэрпваліся, вока зацягвалася імглой, сярод якой скакалі жоўтыя магілы. Ён сек, махаў сякерай аж да світання, а як сонца зарумяніла хмарны ўсход, кінуўшы нарэшце сякеру, зваліўся непрытомны на сыры пясок. За ноч кончыўся амаль увесь запас дроў, з якога засталіся толькі бясформенныя кавалкі.

Калі прачнуўся, сонца пякло моцна, а ўдалечыні гудзела, надыходзячы, навальніца. Віхор, апярэдзіўшы яе, круціўся па ўзгорку, і ён гэта, халодзячы грудзі Тумрага, спыніў той ягоны сон, сон гарачкі і стомы. З дрыжаннем і з засмяглымі вуснамі, азірнуўшыся па небе, ледзь змог запаўзці пад сваю стрэшку на бярэмя сухой травы, на якую зваліўся, адчуваючы, што жалезная рука хваробы цісне яго галаву і грудзі.

Учарашнія падзеі, пахаванне, размова з войтам, начное трызненне — усё змяшалася ў яго галаве ў заблытаны клубок рознакаляровых нітак, якія *Насуо-ора* (хваробы) бязлітасна матала і раскідала.

— Паміраць... дык памру! — выкрыкнуў цыган, валячыся на сваю бядацкую пасцель.— Так будзе лепш, чым мучыцца.

Неўзабаве Тумры зноў страціў прытомнасць. Думкі, як бура, як хмары на небе, віліся, імглістыя, яс-

ныя, чорныя, перуновыя, і пачалі пралятаць праз распаленую галаву. Час, месца, усё знікла, і засталася толькі нейкая невыказна дзіўная і адначасова прыемная пакута, штосьці накшталт сну, сатканага з зямных успамінаў і нябесных прывідаў.

Была там і бядняцкая маладосць, і песні *ромаў*, і іхнія выкрыўленыя твары, і танец Азы, і стук Апрашавага молата, і дымы цыганскага катла, і скрыпенне іх воза, і Матруна, і стары Ляпюк, пахаванне, магіла, ноч, пажар, невыказныя прадчуванні, нейкія невядомыя страшныя і прыгожыя постаці і ўсё, чым гучыць жыццё і чым гаворыць, наступаючы, смерць.

Яму здавалася, што ён памірае, а памерці не можа... што ляжыць мёртвы ў адной [redacted] цыганом Лепюком труне, а ў яго грудзі ўбіваюць крыж і не могуць убіць, бо яго выпіхае ўсхваляваная кроў.

Пасля натоўпу прывідаў пачало неяк цішэй рабіцца ў яго душы, як быццам ён ужо памёр; адступіліся дакучлівыя здані, шэрасцю зацягнуўся краявід, і халодным магільным крылом агарнуў яго бязмоўны супакой.

Адплюшчыў вочы, і яму здалося, што ён яшчэ спіць, бо ўбачыў перад сабой заплаканую Матруну, якая, нахіляючы да яго вуснаў збанок, сачыла за астаткамі яго жыцця. Кропля вады ўзбадзёрыла яго, цені гарачкі пачалі распаўзацца, у вачах у яго паяснела; паварушыўся і памалу падняўся. Гэта быў не сон: прыгажуня Матруна, аблітая слязьмі, стаяла перад ім на каленях і штосьці да яго гаварыла, але слоў яе ён зразумець яшчэ не мог. Гудзелі яны ў яго вушах, як нейкая гучная песня, якую ён дарма стараўся ўлавіць.

— Тумры, Тумры! — клікала дзяўчына,— што [redacted] табой? Адкажы мне! Што сталася?

— Што са мной сталася? Нічога. Нічога. Было пахаванне, пасля я ўсю ноч сек, потым заснуў, сніў навальніцу, магілы і, не ведаю, колькі часу, спаў.

Дзяўчына пляснула ў далоні.

— Ды ўжо ж трэці дзень, як майго бацьку пахавалі! — выкрыкнула.— Ты хворы, ты тры дні ляжаў без памяці!

— Хворы? Магчыма...— слаба адказаў Тумры.— Але што ж зрабіць хваробе? Або голад і сон яе перамогуць, або яна чалавека; на гэта доктар толькі *Мродэн-ора*...

— Я пайду ў двор,— перапыніла яго дзяўчына,— да пані... Можа ж, не пакінуць без ніякай дапамогі, не дадуць так чалавеку памерці. Яны знаюцца, яны парадзяць...

Тумры нічога не адказаў, але яго ненармальны бяссільны і бяздумны позірк, якім ён глянуў на дзяўчыну, напалохаў яе канчаткова. Матруна ўскочыла.

— Вось тут вада, вось хлеб,— сказала,— а я палячу ў двор! Калі не захочуць нічога зрабіць, вярнуся адна. Няхай мяне браты заб'юць, калі хочуць, а я цябе так не пакіну!

І заплаканая дзяўчына пусцілася наўпрасткі праз яры і кусты ў бок панскага двара з заклапочанай думкай, як і каго папрасіць. І не заўважыла бядачка сама, як той лёс, які часта бывае такі разумны, што ў некаторых выпадках варта было б яго благаслаўляць, занёс яе ў прыгожы сад, якім быў акружаны панскі дом.

Жыў тут пан Адам, але ўжо жанаты, бо выкрадзеная гувернантка пані Ле Рокс хутка правяла справу жаніцьбы, не агледзеўся нават каханак, як стаў мужам. Вялікія змены адбыліся ў двара, у якім панаваў ужо не пан, а валадарыла пані, захапіўшы моцнай рукой і мужа, і ўсё, што яго акружала. Пан Адам быў, усім на здзіўленне, усё яшчэ ў яе закаханым і першым яе слугой, хоць ужо некалькі месяцаў мінула ад пачатку яго шчасця. Гэтым пастаянствам абавязаны быў ён не не-

звычайнаму веданню людскога сэрца і ўмеласці кіраваць.

Гэта была адна з найлепшых гувернантак, з ліку тых, якія, гнаныя галечай ці надзеяй знайсці шчасце, прыехалі да нас. Паспытаўшы шмат чаго на свеце, нагледзеўшыся на людзей зблізку, пані Ле Рокс, а іншыя казалі, паненка Ле Рокс, выдатна пазнала свет і чалавека.

Калі для любой іншай утаймаванне такога тыпа, як пан Адам магло здацца немагчымым, то для яе яно аказалася дробяззю. Яна змагла яго зацікавіць, прыгарнуць, паўстрымаць і кіраваць ім, выкарыстоўваючы для гэтага самую звычайную спружыну — эгаізм, бо разлічваць на іншыя пачуцці тут было немагчыма. Абагатвораны Адам адчуваў з удзячнасцю, як у ім нараджаліся больш чулыя пачуцці, і, згнуснелы, даваўся весці сябе туды, куды загадвалі.

Прыпомнім, што падзеі нашай аповесці адбываліся некалькі дзесяткаў гадоў таму назад, дык мо адгадаем, як выглядала француза. Быў гэта астатак тых сентыментальных жанчын, якія, настройваючыся на ноту стагоддзя, без ніякага сапраўднага адчування ігралі няспынную экзальтацыю і расчуленасць. Пані Адаміха інвечна кружыла ў тых д'Арлінкуртаўскіх сферах з Інсібое і між іншымі падобнага тыпу гераінямі раманаў, пазіраючы на свет вокам, якое хацела бачыць усюды тое, што вычытала ў кніжцы. Раман быў яе заняткам, азартам, стравай, а мэтай жыцця — паляванне на пачуцці. Аднак у яе сэрцы панаваў непарушны супакой, бо ўсё тое захапленне было справай збаламучанай галавы. Халодная, разважлівая, асцярожная, яна іграла экзальтацыю самаахвярнасці, пакутлівасці і так шукала па свеце кніжных авантур, як Дон Кіхот — прыгнятальнікаў нявіннасці і зняволеных гераінь.

На сваё няшчасце, мала тэм знаходзіла пані Адаміха ў штораз больш празаічных часах, сапраўднае

аблічча якіх з усёй іх паэзіяй праходзіла ёю незаўважаным.

Якраз у тую хвіліну, калі заплаканая Матруна трапіла ў панскі сад, пані хадзіла ўздыхаючы па сцежцы над вадой, хоць ёй вельмі хацелася пазяхаць, з сентыментальнай кніжкай, якая расказвала пра лёс і прыгоды нейкай незнаёмай. Шолах лістоў разбудзіў яе ад здранцвення. Перш падумала, што з кустоў выступіць рыцар, прыкленчыць, заламае рукі і выкажа перад прыгажуняй, якой яна сябе лічыла, свае палымяныя пачуцці. Вельмі здзівілася, убачыўшы заплаканую вясковую дзяўчыну, якая бегла ў бок двара з прыкметамі страху і неспакою.

Аднак дзеля таго, што Матруна, нягледзячы на сваё вясковае ўбранне, была прыгожай дзяўчынай, а журба надавала ёй яшчэ больш прывабнасці і ўзнёсласці, пані Адаміха, прадчуваючы ва ўсім гэтым нейкую рамансавую авантуру, трохі нават маючы падазрэнне на мужа, што яе спалохала, затрымала дзяўчыну. Знаходжанне ў Польшчы настолькі навучыла яе мове сялян, што яна ўжо магла яе дастаткова разумець, дык падступілася да заплаканай дзяўчыны і запыталася, куды яна і чаго так спяшаецца.

Матруна, якая шукала пані і толькі на яе разлічвала, пачала ёй расказваць, склаўшы рукі, найперш пра цыгана, пасля пра сябе, а потым, падганяная пытаннямі, расказала ўсю сумную кароткую гісторыю знаёмства, кахання, смерці бацькі і хваробы Тумрага.

Французка слухала з напружанай увагай, хціва ловячы словы, шчаслівая, што ў жывым свеце знайшла закаханых, ганенне, каханне і цэлы раман, праўда, у зрэбнай вопратцы, з героем цыганом, ды ўсё ж для яе, вельмі галоднай на ўражанні, прынадны і цікавы.

Схапіла дзяўчыну за руку і, загортваючы кніжку, забылася нават зазначыць тое месца, на якім спыніла чытанне, вельмі ажыўленая, пабегла ў двор. Пан Адам

драмаў пасля абеду; разбудзіў яго стук шкляных дзвярэй, а пасля такі хуткі расказ жонкі, што спачатку, кідаючы вокам то на яе, то на заплаканую Матруну, ён нічога не мог зразумець.

Крыху апрытомнеўшы, заўсёды стомлены і абыякавы, дазволіў зрабіць усё, чаго прыгожая француженка пажадала. Неадкладна выправілі падводу па цыгана і брычку ў мястэчка па лекара, парушылі ўсіх дваровых, якія плявалі і клялі валацугу, што змусіў іх сабой займацца. І вось, пакуль зайшло сонца, Тумры ляжаў у батрацкай, а ў галавах яго сядзела Матруна, стаялі пані Адаміха і доктар.

У хворага, апрача гарачкі, выявілася знясіленне, выкліканае не толькі хваробай, але і недастатковым харчаваннем, галечай, аднак натура яшчэ моцна змагалася ў ім і старалася ўсімі сіламі маладосці паставіць яго на ногі. Больш за ўсё былі яму патрэбны адпачынак, суцеха і харч. Усё гэта ў маёнтку знайшлося, а пані Адаміха адразу занялася лёсам закаханых і паклялася, што мусіць іх злучыць.

Пані Адамісе, якая ўжо тады, быццам каб падбадзёрыць мужа падарожжам, а ў сапраўднасці каб наведаць Францыю і любы Парыж, выбіралася за мяжу, нягледзячы на тое, што цыганова хата не была закончана, што нядаўна памёр Матрунін бацька, завінулася з уласцівай ёй жвавасцю злучыць закаханых.

Як толькі лекар супакоіў яе адносна здароўя Тумрага і запэўніў, што ён будзе жыць, загадала клікнуць у двор Матруніных братоў. Прыйшлі яны сумныя, затурбаваныя, не ведаючы, як зрабіць, і здагадваючыся, у чым тут справа, бо ўжо ўсе ў вёсцы ведалі, што цыгана забралі ў двор і сама пані ім заапекавалася.

А як ні сама пані, ні пан Адам не адчувалі сябе здольнымі на пертрактацыі з сялянамі, выправілі да іх вядомага доку капітана Гарасімовіча, які прыбыў у двор неўзабаве пасля панскай жаніцьбы. Слоўца пра

пана капітана не зашкодзіць. Быў гэта паранены калісьці ў нейкай турэцкай кампаніі, у сіле веку, здаровы, велічэзнага росту і статнай выпраўкі чалавек. Невялікі свой маёнтачак з дзвюма хатамі прыгонных здаваў у арэнду, а сам абіваўся то тут, то там, вандруючы ад хаты да хаты, з аднымі палююючы, з другімі гуляючы ў карты, а [redacted] іншымі п'ючы і весела гуляючы.

Быў гэта як бы спецыяльна на гэта народжаны секундант да ўсіх паядынкаў, прэтэндэнт да кожнай маладой удавы і госць на ўсіх імянінах, адным словам, гатунак паразіта, якому ўласная, хоць і дробная, маёмасць давала трохі незалежнасці і дазваляла падымаць угору галаву. Апроч гэтых заняткаў, капітан гандляваў ганчакамі, стрэльбамі і ўсім, што меў, а меў ён заўсёды прыгожыя рэчы, як быццам спецыяльна для спекуляцыі. З паняй Ле Рокс знаўся ён ужо некалькі гадоў, а зайздроснікі сцвярджалі, што яны знаходзіліся ў вельмі блізкіх і чулых адносінах. Адно было пэўнае, што адразу пасля перасялення пані Адаміхі ў Ставіскі з'явіўся і ён і заняў кватэру ў флігелі, дзе разгаспадарыўся, прывёў ганчакоў, і так выглядала, што збіраўся тут затрымацца надоўга. Пан Адам абяцаў яму даверыць на час сваёй паездкі за мяжу маёнтак. Недалужнасць пана Адама, які рад быў кожным выручыцца, дала капітану магчымасць захапіць ужо цяпер уладу ў маёнтку і адчуваць сябе ў Ставісках паўнаўладным гаспадаром. Яго зваротлівы розум, моцны характар і перавага, якую лёгка было яму ўтрымаць над дзедзічам, умацоўвалі яго ў гэтым становішчы з кожным днём. З паняй згаворваліся яны адным позіркам і, як сцвярджалі дваровыя, зналіся, як лысыя коні. Яны так асядлалі знуджанага пана Адама, што ў сваім доме быў ён як кватарант на ласкавым хлебе. Песцілі яго за гэта, ліслівілі колькі ўлезе, а ўлазіла ўсё, што яны хацелі.

Капітан быў высокай думкі аб сваіх здольнасцях,

прыгажосці, спрыце і наогул аб усіх якасцях, якімі натура яго абдарыла; нічога не здавалася яму цяжкім. Дык выйшаў да Лепюкоў з грамаўладнай мінай, з цыбуком, адзін канец якога хаваўся ў яго вусах, а другі амаль валокся па зямлі, падпёрся рукой у бок і быў упэўнены, што толькі рэкне слова і адразу іх перакапае.

— Ну,— сказаў, сядаючы на лаўцы ў ганку насупраць двух сялян,— ці ведаеце ж вы, чаго вас паклікалі ў двор.

— Не, ясны пане! — нізка кланяючыся, адказалі браты.

— Ну тады,— дадаў, усміхаючыся, капітан,— хочаце, каб я вам сказаў, у чым справа? Дык слухайце.

— Слухаем,— шапнулі, узнімаючы галовы, сяляне.

— Пані і пан хочуць, каб вы сваю сястру Матруну выдалі за таго цыгана, які тут пасяляецца на кавальстве. Гэта іх воля, і так павінна быць.— Лепюкі зірнулі адзін на аднаго і замоўклі. Праз хвіліну старэйшы выступіў з новым паклонам аж да зямлі і, камечачы ў руках шапку, адазваўся:

— Дык, мы б, ясны пане, не супраць, але ёсць адна вялікая перашкода.

— Якая? Што за перашкода? — выгукнуў капітан.

— А што ж парадзіць з нябожчыкам, які гэтага не хацеў і закляў нас, каб мы Матруну за гэтага валацугу не аддавалі? Слова бацькава — слова божае, сын павінен слухаць, а не разважаць.

Капітан, які агульную мараль лічыў выдатнай справай для сялян і зусім неабавязковай для сябе, пагардліва ўсміхнуўся.

— Што там бацька,— сказаў, махнуўшы рукой.— Бацька памёр, а вы рабіце тое, што вам загадваюць.

— Калі ж мы бацьку абяцалі,— сказаў Ляпюк.

— Як вы маглі абяцаць тое, што не ў вашай моцы зрабіць? — гучней выкрыкнуў капітан.— Дзяўчына гэ-

тага хоча, двор дазваляе і загадвае, дык што вы можаце супраць?

— Матруна не можа гэтага хацець, калі ведае, што бацька не дазволіў,— умяшаўся малодшы Ляпюк.

— Ціха! — выгукнуў капітан, стукнуўшы з энергічным жэстам люлькай.— Няма чаго тут пярэчыць. Чуеце загад і выконвайце, вось і ўсё тут. Пан так хоча, так быць павінна!

Браты, быццам радзячыся, зірнулі адзін на аднаго, трохі напалоханыя запальчывасцю Гарасімовіча.

— Але, ясны пане...— асмеліўся старэйшы.

— Тут няма «але»,— спыніў яго вусач,— нічога іншага, толькі паслушэнства, і канец. Дасце Матруне тое, што ёй належыць, справіце вяселле...

Малодшы Ляпюк падняў галаву, неяк асабліва закрануты абсалютным загадам капітана, румянец выступіў на яго твар, рука задрыжала.

— Калі такая воля паноў, а мы супраць гэтага нічога не можам зрабіць, то што тут гаварыць? Але для нас воля бацькі святая, [redacted] ён, паміраючы, казаў, што калі Матруна пойдзе за цыгана, то ён адмаўляецца ад яе як ад дачкі, а мы не будзем лічыць яе сястрой. Няхай паны робяць што хочуць, а мы вяселля не справім і нічога [redacted] хаты не дамо, хоць бы нас не ведаю як збіраліся пакараць.

Сказаўшы гэта, Ляпюк замоўк, закусіўшы губы, а капітан, абураны неспадзяванай непакорлівасцю, аж падскочыў [redacted] лавы.

— Што ты мне смееш гаварыць?! — Закрычаў.— Лайдак паршывы! Будзеш супраціўляцца панскай волі?! А ведаеш, чым гэта пахне?

Ляпюк не здрыгануўся, не паварушыўся і не збянтэжыўся, толькі звярнуў халодныя вочы на капітана і стаяў моўчкі, але ў ім відаць былі такая сіла волі, такое несакрушальнае супраціўленне, што Герасімовіч ад-

чуў сябе збітым з тропу і, не ведаючы, як быць далей, толькі замармытаў:

— Пайшлі прэч! А што я сказаў, павінна быць зроблена! А з табой будзе асобны разрахунак,— дадаў пагражальна малодшаму Лепюку.

Браты пакланіліся і пайшлі, а капітан, крыху супакоіўшыся, аднак прыкметна збянтэжаны, памалу ўціснуўся ў салон.

Насустрач выбегла з іскрыстымі ад цікаўнасці вачыма пані Адаміха.

— А што, дарагі капітане? — запытала, прылашчваючыся.

— Нічога, мужыкі як мужыкі: трохі ўпіраюцца, але так павінна быць, як вы жадаеце.

— Кажаш, упіраюцца?

— Ат! плятуць, што бацька, паміраючы, забараніў ім аддаваць гэту дзяўчыну за цыгана, што ад яе адмовяцца... глупства плятуць. Мы зробім так, як вы, пані, загадаеце.

— Як гэта? Кажаш, што не згаджаюцца?

— Ды хто ж бы ў іх пытаўся!

— Значыць, з іх боку ёсць перашкоды?

— Дзяцінства! Твая воля, пані, тут усяўладная.

— Але я не хачу ёю злоўжываць, я — за лагодныя метады.

Капітан варухнуў плячыма.

— Што там лагодныя метады! Я прызнаю толькі адзін метад на ўсё: кій. Ён дзейнічае лепш і з большым вынікам, чым самыя пераканаўчыя аргументы. Будуць супраціўляцца, дык загадаем іх адсцябаць, і ўсё тут!

Чуллівая француженка ўздрыганулася, упала на крэсла і закрыла белымі рукамі твар.

— Ах, гэта ж варварства, капітан! Хіба пан жартуе! Я гэтага не хачу, я гэтага не дазваляю! Я абураюся ад адной толькі думкі аб насіллі.

— Ну тады рабі, пані, як хочаш,— адказаў капітан, пацiснуўшы плячыма,— я ні ў што не ўмешваюся.

— Пан мусіць умяшацца і мусіць зрабіць, як я загадваю! — нецярпліва выкрыкнула француженка, тупаючы нагамі.— Вярні гэтых людзей і пастарайся ўлагодзіць іх падарункамі, грашыма, чым хочаш, але толькі не кіем!

— Але ж злітуйся, пані! За гэта я не вазьмуся! — абурыўся нахлебнік.— Сягоння іх вяртаць, каб высока насы задзёрлі? Заўтра пагаворым з імі далікатна, будзь, пані, спакойная.

Так скончылася ў пакоі размова акурат з прыходам пана Адама, які ўсунуўся, пазяхаючы, у прадчуванні набліжэння гадзіны чаяпіцця. А мы разам з Лепюкамі перанясёмся ў вёску.

Каля карчмы чакалі іх некалькі больш паважаных сялян, якія ведалі пра выклік у двор і цікавіліся, што збіраюцца рабіць паны. Настрой людзей, хоць спачатку не лішне непрыхільных, усё ж больш хіліўся на бок Лепюкоў. Яны прадчувалі, што двор будзе супраць іх, і абураліся, што паны ўмешваюцца ў іх сямейныя справы. Праз гэта і цыган, дзеля якога паны ўтыкаліся не ў сваё, штораз больш станавіўся ім варожы. Дагэтуль не мелі [redacted] яго ніякай карысці, і вось узнікла пагроза, што ён [redacted] імі будзе братацца, а гэта ўсім было нямілым. Пакуль Лепюкі вярнуліся з двара, пра гэту жаніцьбу і яе вынікі ішла ў грамадзе жвавая гутарка.

— Што гэта? — казаў Скарабагаты, папраўляючы пояс і, як меў звычай, падскокваючы на адной назе.— Што гэта? Каб прыблуда, валацуга ў нас з-пад носа браў гаспадарскіх дачок і сяліўся на нашай бацькаўшчыне? Гэтага ніколі ў нас не было! Што пану за справа да нашых дзяцей? Ці ж не наша гэта кроў, пра якую толькі пан бог пытацца мае права?

— А гэта праўда,— дабавіў баязлівы Сымяка.— Але не гаварыце так моцна! Яшчэ хто пачуе! Тс! Цыц!

А вось і Лепюкі. Хадзем з імі ў іхнюю хату, бо тут каля карчмы небяспечна і не агледзімся, як нехта з дварні данясе, што вёска бунтуецца, і будзе бяда.

Скарабагаты пацісnуў плячыма, але, паслухаўшыся рады, падаўся да Лепюковай хаты, куды ішлі са спушчанымі галовамі абодва браты.

— А што? — запытаў з цікавасцю.— Ці такі пра Матруну?

Браты, каб пачуць раду дасведчанага суседа, перадалі яму змест гутаркі з капітанам і яго апошні прысуд. Маладзейшы паўтарыў тое, што яму трохі згарача нагаварыў.

— Ты добра сказаў, чалавеча,— прамовіў Скарабагаты,— так і трэба было, так і рабіце, двор змякчэе, тая хранцузка спалохаецца, а капітан... Ой-ой! Слаўны бубен за гарамі! Альбо ж гэта пан? Нічога яны вам не зробяць...

— А ўсё ж, калі ўпруцца? — запытаўся малодшы Ляпюк.

— Дык няхай аддаюць яе за ўсіх чарцей! — горача падхапіў стары.— Няхай аддаюць яе, за каго хочуць. А калі цыган яе возьме, дык уся вёска адрачэцца і ад яе і ад цыгана, ніхто да іх слова не загаворыць, ніхто ім рукі не падасць, ніхто іх знаць не захоча. Вось што будзе...

Скарабагаты паглядзеў на грамаду і зразумеў, што ўсе з ім згаджаліся, што падтаквалі яму.

— Так, так! — падхапіў нехта з прысутных.— Няхай сядзяць у хаце пад могільнікам і нават не паказваюцца ў вёску, бо сабакамі іх зацкуём!

— Сабачы сын, цыган! — падхапіў другі.— Будзе тут нашых дзевак падбіраць! Го-го!

Такім чынам браты, падтрыманыя грамадой у сваім супраціўленні, прысягнулі не аддаць дабром сястры і, вярнуўшыся дахаты, нічога не казалі Матруне, але былі хмурыя, як ноч.

Яна адчула настрой вёскі, бо бачыла, як ішлі браты ў двор, як вялі раду са Скарабагатым, і здагадалася, што ёй быў вынесены прысуд, аднак прыкідвалася, што нічога не ведае і што гэта яе не цікавіць. На яе як на самую маладзейшую звалілася ўся самая цяжкая хатняя работа. БрацІхі глуміліся з яе няспынна, а яна маўчала і толькі плакала. Цяпер цяжка было ёй вырвацца ў двор, каб убачыцца [redacted] цыганом, бо не спускалі [redacted] яе вока і на паншчыну выпраўлялі не яе, каб не даць ёй магчымасці зазірнуць у фальварак.

Назаўтра вечарам зноў паклікалі ў двор абодвух Лепюкоў, і капітан, атрымаўшы новую інструкцыю, выйшаў да іх амаль з усмешкай.

— Ну,— сказаў,— напэўна, вы надумаліся за гэты час. Няма што ваду таўчы. Матруна павінна выйсці за цыгана, дык зладзьце ёй людскае вяселле.

Ляпюк пакланіўся да зямлі, бо валынскі селянін кланяецца па прывычцы і тады, калі не збіраецца падпарадкавацца.

— Няхай паны робяць што хочуць,— адазваўся пакорна і [redacted] нейкай дзіўнай рэзігнацыяй,— вяселля ёй мы не справім, бо не можам згадзіцца на тое, што бацька нам забараніў. Гэта мы вам, пане, сказалі ўжо ўчора.

Капітан глянуў у вочы селяніну і здзівіўся, сустрэўшы ў іх той самы позірк, як быццам халодны, невымоўна цвёрды, што збянтэжыў яго ўчора. Ён вычытаў у ім безуладнае супрацiўленне чалавека, які падрыхтаваўся да ўсяго і чакае, што з ім зробяць, не збіраючыся паддацца ні просьбам, ні пагрозам, ні цялеснаму пакаранню. Гэтым разам Гарасімовіч не прыкрыкнуў, хоць яго гэта добра закранула, ён толькі ўсміхнуўся.

— Каб гэта была мая справа,— адазваўся паволі,— дык я ведаў бы, што рабіць. Вашы паны занадта добрыя і літасцівыя, яны не хочуць вас няволіць, воля іх. Дык вось, скажу вам ад імя вашых паноў, што пані бярэ на сябе і кошт вяселля, і Матрунін пасаг і абяцае

ўзнагародзіць вашу паслухмянасць, але патрабуе, каб вы так зрабілі, як яна загадвае.

Ляпюк ізноў схіліўся да зямлі.

— Вельмі дзякуем панам...— адазваўся стрымана,— але ж такая была воля бацькі.

Капітан ужо нерваваўся, цыбук свярбеў у яго ў руках.

— Ну! Пані дае вам пару валоў, абы вы так зрабілі, як ёй падабаецца... Чуеце?!

Лепюкі глянулі адзін на аднаго, старэйшы зноў сагнуўся, уздыхнуў і сказаў:

— Што ж мы зробім, калі бацька гэтага не хацеў!

— Дык што, да сотні тысяч чарцей! — закрычаў капітан.— Дык і гэта адкідаеце?!

— Воля панская і божая,— уздыхнуў старэйшы.

Дарма капітан яшчэ ўпрошваў, выкрыкваў, пагражаў, гневаўся, прапаноўваў грошы — нічога не памагло. Лепюкі засталіся пры сваім і пацягнуліся дамоў, падрыхтаваныя да ўсяго, што можа прынесці лёс.

Грамада аднагалосна выказалася за іх, і цяжка сказаць, якія пачуцці выклікаў у ёй гэты як быццам малазначны выпадак. Чым мацней налягаў двор, тым настойлівей стаялі на сваім браты, а ўся гэтая справа выклікала ў Ставісках варожасць да пана і яшчэ большую нянавісць да цыгана.

Нарэшце пані Адаміха, пераканаўшыся, што інакш, як сілай не пераможа, загадала забраць Матруну ў двор, паслала на запаведзі і, супраць волі ўсіх, занялася веселлем, прыспешыўшы яго з прычыны выезду за мяжу, які павінен быў наступіць неадкладна.

Сумнае было гэта вяселле! Дарма наставілі гарэлкі, піва і багата рознай ежы, з сяла ніхто не прыйшоў, браты не паказаліся, ні адна вясковая дзяўчына не захацела быць дружкай, ні адзін дзяцюк сватам ці маршалкам. Усіх удзельнікаў вясельнага абраду прыйшлося выбраць з чужых людзей, пераважна дваровых. За-

цятай упартасці вясковай грамады немагчыма было перамагчы.

Ніхто, апроч паноў, не благаславіў беднай дзяўчыны. З бацькоўскай хаты не далі ёй ані латачкі. Браты, каб не сустрэцца з ёю, пахаваліся. Усё гэта бачыў і разумеў Тумры і прадчуваў, якое чакае іх жыццё. Ён ужо намерваўся вырачыся свайго шчасця і ўцячы, але слёзы Матруны, боязь пакінуць яе на помсту сям'і і, нарэшце, каханне перамаглі.

Дзявочы вечар сышоў амаль без песняў, каравай спяклі ў двары без тых абрадаў, якія звычайна суправаджаюць замешванне і рыхтаванне вясельнага пірага; у царкве — пуста, у сяле — як вымерла, а вечарам на танцах толькі дваровыя, п'яны зброд. Нікога са сваякоў, нікога ■ сяброў, няма каму прытуліць сірату, пацешыць, асмеліць. Матруна залівалася слязьмі, так палохала яе будучыня, якая яе чакала. Цыган сядзеў задуменны, напалоханы сваім лёсам і маўчаў, быццам статуя журбы, толькі з-пад насупленага брыва паблісквала яго чорнае вока.

На гэтым, напэўна, вы думаеце, павінна закончыцца гэта аповесць. О не! Гэта толькі ў кніжках вяселле ўсё замыкае, а ў жыцці людзей гісторыя толькі пачынаецца. За ім ідуць першыя прыемнасці, пакуты, надзеі, няўдачы, расчараванні, праца і цэлы рад толькі з назвы ведамых раней пачуццяў і здарэнняў. Уласна кажучы, героі павінны былі б ажаніцца ў першым раздзеле, але такім чынам аповесць стала б сумнейшай, хоць, магчыма, больш займальнай, абадранай з надзеі, замкнутай у рэчаіснасці. Пакуль каханне (а каханне, на жаль, не з натуры намалявана, але настолькі праўдзівае, як пейзаж Бухера ці Вато) бывала адзіным прадметам аповесці, апошнім яе лістом мусіў быць шлюб. Сягоння зусім інакш: прадметам аповесці з'яў-

ляецца само жыццё з усімі яго праявамі і ва ўсёй яго разнастайнасці, а каханне і вяселле — гэта толькі адна кароткая хвіліна аповесці.

Вяртаемся да Матруны і цыгана.

Назаўтра пасля іхняй жаніцьбы пан Адам з жонкай выруішылі за мяжу, пакінуўшы кіраванне маёнткам капітану, не вельмі турбуючыся пра лёс маладых. Француўжанка лічыла, што, злучыўшы навек неразрыўным вязьмом закаханую пару, выканала свой абавязак, аднак не падумала пра тое, што назаўтра пасля шлюбу ў маладых людзей не будзе нават кавалка хлеба.

І так было сапраўды. Хата Тумрага стаяла незакончаная, нават падрыхтаванае дрэва папсаваў ён той ноччу, калі завалодаў ім дзіўны страх. Пані пакінула ім толькі адну карову, браты не далі нічога, і муж з жонкай назаўтра пасля вяселля не ведалі, куды дзецца і чым харчавацца.

Капітан, які застаўся ў Ставісках пасля выезду дзедзічаў, зусім не збіраўся клапаціцца пра лёс маладых. А як пакой, у якім прытулілі цыгана падчас хваробы, аказаўся патрэбным і не было каму сіротамі заапекавацца, дык, аддаўшы ім з хлява самую найгоршую карову, загадалі шукаць кватэры ў вёсцы.

І вось, як толькі змоўклі скрыпкі, засталіся бедакі без даху, без прытулку, не ведаючы, куды дзецца, маючы ўсю вёску супраць сябе. Нельга было падумаць пастукацца ў дзверы якой хаты, ніхто б іх не прыняў. Выгнаны з двара цыган узяў за руку Матруну, якая несла пад пахай толькі невялічкі клуначак, і яны моўчкі падаліся ў бок могільніка.

Увесь іхні запас быў кавалак учарашняга каравая. Тумры, каб не весці жонку праз вёску, знайшоў сцежку за агародам, якая хоць была вельмі нязручная, але лепш было ісці па ёй, чым сустракацца з варожа настроенымі людзьмі, зносіць іх кпіны. Ішоў задуменны, разважаючы, як сабе парадзіць. У хаце не хапала

страхі, часткі сцен, дзвярэй, вокнаў, печы і ўсіх гаспадарскіх прылад. Не было ні граша, ні мукі, ні хлеба, ні нават збана, каб зачэрпнуць вады. Што рабіць? З чаго пачаць? Дзе зачыніць гэту кароўку? Чым яе карміць?

Матруна плакала і цішком ламала рукі, успамінаючы бацькава пракляцце. Ішлі вось гэтак, не смеючы адно да аднаго загаварыць, вузкай сцяжынай пад гару аж да распачатай батрацкай хаты. Здавалася, што абое былі б рады прадоўжыць гэту дарогу, адцягнуць хвіліну рашучай размовы, аднак сцежка, карацейшая за іншыя, прывяла іх да дзвярэй могільніка і ляпянкі.

Тумры прывязаў моўчкі карову да слупка, а Матруна абаперлася аб сцяну і ўставіла непрытомныя вочы ў могільнік, на якім яшчэ жаўцела бацькава магіла.

Балелі яе слёзы няшчаснаму цыгану, які адчуваў, што цяклі яны па яго віне. Хоць знясілеў і пакутаваў сам, ды змусіў сябе на ўсмешку і адвагу.

— Не плач,— сказаў ёй ціха,— плач не дапаможа, трэба падумаць, што нам рабіць. Хату да зімы я скончу, а тым часам за некалькі дзён зачыню хоць адну каморку, але жыць не будзе з чаго, найперш трэба нам прадаць карову.

Матруна была гатовая згадзіцца на ўсё, хоць у сэрцы шкадавала гэтага стварэння, якое было ёй больш чым грашовай падачкай, яно было заняткам, кампаніяй, надзеяй.

— Шкада кароўкі! — прашаптала.— Але што ж рабіць? Як трэба, дык няма на гэта рады...

— Чым жа мы яе пракармілі б, а з чаго жылі б самі? Цяпер жа восень.

— Пайшла б да братоў...

— Да братоў? — падхапіў, насупіўшы бровы, цыган.— Ніколі, ніколі! Каб мы нават канаалі з голаду, не працягнем да іх рукі, мы павінны самі сябе забяспе-

чыць. Не гавары мне пра гэта... Нельга траціць часу, ідзі з кароўкай у горад, прадай яе, ведаеш, што патрэбнае ў гаспадарцы, купі, а я мушу спяшацца з хатай... Толькі смела, Матруна, няхай ворагі шалеюць, а я ім пакажу, што я штосьці варты.

Гаворачы гэта з нейкім запалам, пацалаваў яе ў лоб, скінуў з сябе апанчу, схапіў сякеру, вочы яго заіскрыліся, кінуўся да работы. Матруна глядзела на гэта, і адвага памалу ўступала ў яе сэрца. Хвіліну падумала, пасля адвязала кароўку ад слупка, выцерла фартухом слёзы і з нерашучасцю, моўчкі развітаўшыся з мужам, скіравалася на дарогу, якая вяла ў горад.

Тым часам цыган, як у гарачцы, ірваўся да работы. З чаго пачынаць? Як пераадолець цяжкасці? То ў роспачы адчуваў сваю бездапаможнасць і рукі яго ападалі, то зноў падтрымоўвала яго і заахвочвала жаданне паказаць сваю сілу, цвёрдую волю. А пры такім настроі работа пасоўвалася хутка, рукі падымалі цяжар, які хіба толькі душа памагала падняць, бо звычайна нават не адважыўся б за яго ўзяцца. Нейкі асаблівы быў выгляд гэтага чалавека з нахмураным лобам, з зацятымі вуснамі, аблітага потам, чалавека, які кідаўся, як цыклоп, сярод навалу рознага дрэва, што аж хрусцела ў яго дужых далонях.

Сякера звінела ў яго ў руках, трэскі ляцелі, свішчучы, у паветры, а воля тварыла цуд. Тое, што задумаў, рабіў з такой упэўненасцю, з такім нейкім прадчуваннем выніку, што не захістаўся перад немагчымым. Не падумаў нават пра ежу, адпачынак, і чым больш працаваў, тым лягчэйшай здавалася яму праца. І не заўважыў, як надышла пахмурная ноч і раптам зусім сцямнела. Павёў вокам па захмараным небе, дастаў крэсіва, распаліў ■ трэсак і ламачча агонь і зноў узяўся за работу. Вецер гнаў яму ў вочы едкі дым, мігцела то раздзьмуханае, то пагаслае святло, але Тумры ні на што

не зважаў, а сама праца, уздымаючы яго дух, павялічвала ў ім усе сілы, якія цяпер перавышалі звычайныя межы.

Трэба было яму закінуць такую-сякую столь на меншую каморку, у якой хацеў даць жонцы прытулак; зранку не было яшчэ бэлек, трэба было іх усцягнуць, а латы і калы, прыпёртыя да іх, вечарам ужо так-сяк замянілі дах. Закідаў іх Тумры саломай, зямлёй, трэскамі, чым меў, незашклёнае акенца замацаваў выструганай наспех засаўкай, а вось дзвярэй не было з чаго змайстраваць.

Дзе тут дастаць хоць якіх дошак ці дранкі? Задумаўся Тумры, але нічога не прыходзіла яму ў галаву: на дзверы не было рады.

Надыходзіла ўжо поўнач, ужо ў сяле спявалі пеўні і месяц, разгарнуўшы хмары, нахіляўся над зямлёй паловай свайго твару, калі стомлены цыган сеў, думаючы-перадумваючы над дзвярмі. Калі б нават і мог купіць дранкі, дык як яе прывезці? Сябра войт, трымаючыся пастановы грамады, не памог бы яму, бедаку.

Урэшце сон стуліў павекі запрацаванага, але і ў сне дзверы не давалі яму спакою. Цела заснула, а душа ўсё яшчэ працавала, лятаючы па свеце неспакойнымі думкамі. І, як часта здараецца пры моцным жаданні, толькі ў сне знайшоў Тумры свае дзверы. Перад самым могільнікам, насупраць ляпянкі ў рове, ляжаў збуцвелы, спарахнелы масток, масток зусім бескарысны, бо яго места займалі цяпер пакладзеныя ўпоперак варотцы ад могільніка. Тумры мог забраць некалькі гнілых дошак, нікому не робячы крыўды.

Ад гэтай думкі забілася ў ім сэрца, ён прачнуўся і працёр вочы: гэта трэба было зрабіць зараз жа, каб удзень хто-небудзь не ўбачыў. І хоць баяўся падыходзіць да свежай магілы, гарачая воля папіхвала яго сілком — пайшоў да могільніка.

Месяц як быццам сачыў за ім: закрыты на нейкую хвіліну, паказаўся зноў, заяснеўся і пасвяціў бедаку, які, улезшы пад масток, намацаў некалькі дошак, схапіў і ўцёк, адчуваючы, што гоніць яго надмагільнае паветра.

Доўга яшчэ пасля таго дыхаў неспакойна, але радасць перамогі надавала яму адвагі. Нарэшце лёг ізноў, накрываючы сабой сваю вільготную здабычу, і заснуў.

Прачнуўся, калі быў ужо ясны дзень, і, прыпомніўшы, што мае з чаго зрабіць дзверы, схапіўся зноў за работу. Аднак, ледзь толькі пачаў часаць і прымерваць тыя дошкі, лоб яго спахмурнеў: убачыў на іх глыбока выразаны крыж, год і знакі, па якіх лёгка было выкрыць яго крадзеж. Рукі яго апалі ізноў.

Абсекчы гэтыя знакі было немагчыма. Спрабаваў іх вычысціць, але сырасць пераела дошку амаль наскрозь, і крыж, хоць здзёрты, прабіваўся ў глыбіні дрэва прыкметнай чорнай плямай. Нейкага забабоннага страху нагнаў на яго гэты незнішчальны знак, ён падхапіў усе дошкі, перабег з імі дарогу і закінуў іх пад масток.

Толькі нядоўгую хвіліну трывалі хістанне, боязь, няўпэўненасць; сунуў сякеру за пояс і падаўся ў лес. Не сустрэўшы на полі ні жывой душы, убег у зараснік, які шумеў сухім асенням шолахам, і пачаў глядзець навокал, не ведаючы, за што ўзяцца. Думка яго працавала так хутка, што ўсе дошкі, якія дзе сустракаў у сваім жыцці, прыходзілі яму на памяць. Бачыў іх з усімі шчылінамі, сукамі, цвікамі, якія ў іх тырчалі, але, на жаль, ні адной з іх не мог выкарыстаць.

Ішоў без сцежкі і дарогі, ведзены нейкім інстынктам, усё далей і далей, і раптам спалохаў яго гучны смех, які азваўся дзесьці зусім блізка. Чакаючы ў кожным чалавеку сустрэць ворага, Тумры спыніўся, насупіў бровы і падрыхтаваўся да абароны, але, глянуўшы ўбок, заўважыў пад сасной малога чалавечка.

Гэта быў добра знаёмы цыгану юнак, якога ў вёсцы называлі дурным Янакам. Дзіўнае было гэта стварэнне — паўвар'ят, паўмудрэц, асаблівая істота, чалавек не такі, як усе іншыя. Дурному Янаку было крыху больш за дваццаць гадоў, аднак выглядаў ён нашмат старэйшым. Твар яго быў бледны, зжаўцелы і выкрыўлены цяжкай, перанесенай калісьці хваробай, і не расло на ім ні аднаго воласа, толькі вытыркалі цёмныя маленькія вочкі, як дзве ягады цярноўніку. Росту быў ён малога, рукі яго былі вельмі доўгія, а ногі тонкія і непрапарцыянальна кароткія, што здавалася яшчэ больш дзіўным пры непамерна вялікай галаве. Янак быў падобны да тых лясных пачвар, якімі народная фантазія засяляе пусткі, бары і нетры.

Прызнаны з дзяцінства за нядужага і няздатнага да працы на гаспадарцы, Янак валачыўся, дзе ўздумае, і рабіў, што хацеў: ляжаў на печы ці за печчу на гарохвінах або цягаўся па лесе. Ведалі яго ў вёсцы ўсе сабакі і ўсе дзеці; адны заўсёды на яго брахалі, а другія бязлітасна яму дакучалі. Сваякі, сёстры, браты — усе трымалі яго ў паняверцы і часцяком горка ўпікалі яго выпрашаным мізэрным кавалачкам хлеба, аднак вельмі несправядліва, бо Янак дабрахоць рабіў найцяжэйшыя паслугі. Ён насіў ваду, цягаў дровы, збіраў грыбы, абіваў каноплі і ахвотна браўся за такую работу, якой ніхто больш рабіць не хацеў.

Нягледзячы на прызнаную за ім неразумнасць, Янак зусім не быў дурны, але за тое, што ён часта высмейваў усё бачанае, людзі паціскалі плячыма і называлі яго шалёным. Дзіўнае становішча беднага недаростка не раздражняла яго супраць людзей; ён быў заўсёды ў добрым настроі, да кожнага ўсміхаўся, ахвотна ўступаў у гутарку, хоць шапялявіў і гаварыў з цяжкасцю, адным словам, быў ён шмат больш варты за не аднаго разумнага. Але ж у сяле, як і на шырокім свеце, калі каго назавуць дурным, дык няхай ён пасля

таго дакажа адваротнае! Янак заставаўся дурным і гэтым забяспечваў сабе волю.

Яны сустракаліся з цыганом у лесе ўжо не раз, і бедны калека адчуў да падобнага да сябе бедака нейкае спачуванне, уступаў ім у гаворку, падказваў яму, дзе якія трэба шукаць дрэвы, часам даваў яму частку сабраных грыбоў. Тумры памалу асвойтаўся з дурным Янакам і не лічыў яго непрыяцелем.

— А! А! — калека прамовіў, седзячы пад дубам, і, як заўсёды, усміхнуўся, хоць яго ўсмешка была падобная да крыўляння.— Добры дзень, пан малады! Чаго гэта ты ізноў у лесе шукаеш?

Цыган пацёр лоб, саромеўся сказаць ды і не верыў, што Янак зможа яму памагчы.

— Можа, калінавага стала? Можа, цісавага парога да хаты? — прадаўжаў хлопец і пачаў спяваць нейкую песеньку пра калінавы мост.

Зацягнуў пісклявым голасам, потым раптам змоўк і падышоў да цыгана.

— Гавары, даражэнькі! — прамовіў умільна.— Чаго ты такі сумны і задуменны? Што з табой? Ды гэта ж брыдка назаўтра пасля вяселля разглядацца па лесе, быццам шукаючы сука. Ну, чаго табе трэба? Можа, я табе памагу?

— Мусіць, што ні ты, ні хто іншы не паможа, хіба толькі чорт,— нахмурана сказаў Тумры.

— Э, фэ, даражэнькі цыганок, сэрцайка, галубок! — пачаў шапялявіць Янак.— Навошта табе выклікаць гэтага шляхціца ў такім цёмным лесе? Я яго і на полі баюся! Ты лепш скажы, чаго табе не хапае, і я табе напэўна памагу і без яго.

— Ды дзе там! — сказаў цыган.— Хату як хату неяк зляплю, але дзвярэй, хоць лопні, не маю з чаго зрабіць. Дошкі не выпілую, і ні купіць яе, ні ўкрасці.

— А ты ўкраў бы? — смеючыся і пагражаючы пальцам, папытаўся Янак.— Цыганок даражэнькі, ця-

пер я не дзіўлюся, што таго ягамосця ўспамінаеш. Фэ, галубок! Навошта табе браць чужое, калі і так можна выкруціцца?

— Якім спосабам? — папытаўся цыган.

— Вось там у лесе ёсць старая будыніна,— зашаптаў хлопец,— вельмі старая, ледзь толькі не разваліцца. Калісьці жыў у ёй нейкі ляснік, але, кажуць, павесіўся на дзвярах. Ад гэтага часу хата пустуе, а дрэва з яе ніхто не бярэ. Мажа б, ты быў адважнейшы? Я-то яго не ўзяў бы, а ты ў чорта (не гаворачы благога слова) хацеў прасіць дошак, дык і тут узяць можаш.

— А дзе гэта? — ажыўлена запытаўся цыган.

— Хадзі, я цябе завяду,— сказаў Янак і, схапіўшы доўгі, вышэйшы за сябе кій, пашыбаваў праз карчы, пні і кусты.

Хоць нязграбны і каратканогі, Янак так быў спрактыкаваны ў хадзьбе і так добра ведаў лес, што цыган ледзь за ім паспяваў. Янак часам азіраўся, усміхаўся, прыпыняўся, а потым ізноў хутка крочыў далей. А па дарозе то хапаў грыб у торбу, то вырываў куст з зямлі, то цікаваў за вавёркамі, якія весела пераскоквалі з дрэва на дрэва. Тумры ішоў моўчкі, не спускаючы яго з вока.

Кружылі па лесе, можа, з гадзіну, і нарэшце ў гушчары маладых зараснікаў Янак спыніўся і паказаў цыгану пальцам здалёк на штосьці накшталт разваленай хаты. Цяпер ужо цяжка было вызначыць, чым была даўней гэтая руіна, бо страха яе абвалілася, сцяны парассоўваліся, шулы пакасіліся, комін асеў, а пустазелле і трава ўзялі гэту даўнейшую людскую сялібу пад сваю абладу.

Пры адной трохі заслоненай ад непагадзі сцяне стаялі бясформенныя дзверы, на якіх вісеў яшчэ канец вяроўкі, што не згніў. У цыгана аж засвяціліся вочы, ён кінуўся да гэтага скарбу, схапіў, але дзверы, ледзь толькі ён да іх дакрануўся, рассыпаліся ў яго ў руках.

— Вось маеш! — выкрыкнуў Янак.— Шкада нашых ног, цыганочку! Тут толькі парахно!

Але не было гэта яшчэ зусім парахно. Частка дошак, хоць і падзіраўленых, магла спатрэбіцца. Тумры падзякаваў свайму дарадчыку, закінуў на плечы некалькі лепшых дошак і пайшоў.

— Што ж, ты думаеш адзін усё забраць? — адазваўся спадарожнік.— А мне, галубок, нічога не дасі?

— Альбо ж ты панёс бы? — усміхнуўся са спачуваннем цыган.

— Дай мне палову, дык убачыш! — адказаў Янак.

Вельмі здзівіўся Тумры, убачыўшы, як гэтае ▪ выгляду нехлямяжае стварэнне лёгка, без натугі панесла, падпяваючы, сваю ношу.

І не агледзеліся, як па-сяброўску размаўляючы, апынуліся на краі лесу. Тут Янак палажыў свае дошкі, пакланіўся цыгану, зняўшы свой саламяны капялюш, і шапнуў:

— Далей, даражэнькі, ідзі адзін, бо калі б мяне з табой вясковыя ўбачылі, дык сказалі б, што мы абодва чараўнікі, і мне ў хаце, можа б, за гэта і хлеба не далі. Бывай здароў! Вось бачыш, што і дурны Янак на нешта здаўся. Ха! ха! Які я вялікі пан, што нават іншаму памагаю! Гвалт! гвалт! Гэта ж цуд!

Узяўся ў бокі, пастаяў, а пасля, паўтараючы сваё «ха-ха!», хутка пабег у вёску.

Матруна ішла памалу са сваёй кароўкай у горад і ўсю дарогу плакала, бядачка, так, што за слязьмі не бачыла свету. Ішла праз вёскі, народу было шмат, і кожны, хто праходзіў міма, звяртаў увагу на прыгожую, маладую, хараша прыбраную жанчыну, якая ішла плачучы, з худой каровай. Гандляры-яўрэі, здагадваючыся, што карова прадаецца, а слёзы былі доказам таго, што неабходна было яе пазбыцца, некалькі

разоў спынялі Матруну. Давалі ёй за яе старэнькую штораз менш, бо худыя бакі рагулі і яе натапыраная поўсць былі не вельмі добрай рэкламай. Так даплялася жанчына да мястэчка.

Вецер трохі асушыў яе слёзы, разварушылася, гледзячы на божы свет, трэба было думаць пра будучую гаспадарку, і Матруна запынілася на рынку, не вельмі ведаючы, што рабіць далей.

Тут абступілі яе яўрэі, яўрэйкі і яўрэяняты і сяляне, і торг пачаўся. Непрэзентабельнасць, а тым самым і таннасць жывёліны прынадзіла ўсіх бяднейшых. Не паспела агледзецца, як пляснулі рукі, адлічылі грошы, узялі ■ рук повад і кароўка знікла ■ вачэй. На далані маладой жанчыны апынулася трыццаць з нечым злотых, аднак як жа мала было гэтага на столькі хатніх патрэб! Забыўшыся пра слёзы, пайшла рабіць пакупкі, але калі сабралася ў яе ўсё набытае — гаршчочкі, вядро, збанок, і сіта, і дзежка, і начовачкі, прыйшла новая бяда. Не магла панесці гэтулькі рэчаў.

Прыйшлося шукаць каго-небудзь, хто б ехаў з кірмашу дамоў праз Ставіскі і позна вяртаўся. Толькі пад ноч, сабраўшы ўсё накуплянае, змагла вырушыць дамоў.

Ехалі на валах, а наняты селянін быў п'янюсенькі. Па дарозе горы вялікія, ноч цёмная, адзін бог сцярог і вёў. З кожнага ўзгорка воз каціўся з грукатам, здавалася, зараз разваліцца на кавалкі, аднак неяк шчасліва запыняўся, і валы памалу пляліся далей, а іхні гаспадар, прыпёршы галаву да новай дзежкі, спакойна хроп.

Добра ўжо развіднела, калі спыніліся каля могільніка. Матруна ўбачыла Тумрага, які збіваў дзверы і ганарыста пазіраў на сваю ляпянку. Маладая жанчына не верыла сваім вачам: цудам скідаліся сцены, з'явілася столь, рабіліся дзверы. Спынілася, склала рукі і нават трохі спалохалася, бо падумала, што... хто ве-

дае, можа, цыган сапраўды чараўнік! Гэта былі чары волі і адвагі...

Занеслі купленае ў хату, але на размову, на пацеху не было часу. Ён павінен быў далей майстраваць свой будан, яна думаць пра хлеб і ваду, бо яшчэ іх у хаце не было. Трэба было ісці па ваду да далёкай крыніцы, каб не сустрэцца з кім з вёскі, замясіць хоць праснак, бо на хлеб не было яшчэ печы, і зварыць колькі прывезеных з горада бульбін.

Тым часам цыган не выпускаў з рук сякеры і завіхаўся пры сваёй рабоце. Нарэшце дзверы амаль сама раз зляпіліся, хоць больш было ў іх мастацтва, чым у працы разьбяра над вытанчаным творам. Старыя дошкі развальваліся пад сякерай, было ў іх многа дзірак, якія прыйшлося латаць, забіваць дзе калком, а дзе ліштвачкай, а нават шнурком звязваць і дапасоўваць —усё яму падыходзіла, абы трымала. Але якой жа перамогай стала хвіліна, калі на асінавых апорах зарыпелі першы раз дзверы хаты, калі цыган зачыніў іх на засаўку і падумаў, што згораў іх ні ■ чога. За гэтыя дзверы, здавалася, аддаў бы ўсю хату, такую яны далі яму ўцеху...

Яго ўсмешка рассветліла трохі і сумны твар Матруны. Селі яны ў куточку новай каморкі на кучцы моху, якім трэба было пазатыкаць рэшту шчылін, разламалі першы ў сваёй хаціне кавалак хлеба, і ў цыгана паліліся з вачэй слёзы. Ён убачыў сваю будучыню.

Есць у чалавеку сіла, якую рэдка хто ўсвядоміў, рэдка хто ўмеў выкарыстаць, сіла чарадзейная, якая творыць цуды, якая падпарадкоўвае сваёй уладзе ўсё, што яе акружае, якая ўтаймоўвае супраціўныя стыхіі, пераможна змагаецца з часам, прасторай, знішчэннем; сіла, моцай якой узнімаюцца велічныя тварэнні, стваракоцца незразумелыя цуды. Гэтай сілай з'яўляецца воля.

Малое слоўца, але што тоіцца ў гэтым слове! Якое

сканцэнтраванне ўсіх улад! Якое ўзмацненне чалавека! Разбяры волю і знойдзеш у ёй змест і сутнасць найвышэйшых людскіх якасцяў. Скранутыя адной гэтай спружынай, рухаюцца і дзейнічаюць сілы няведамыя, неразбуджаныя, надземныя, якіх ніхто, апроч яе, не зможа зрушыць. Перастане дзейнічаць воля, і мяняецца ўвесь чалавек: слабее, асоўваецца, падае, нікне! Аднак воля не з'яўляецца выключнай сілай геніяў, іх таленту, розуму; кожны яе мець можа, хто яе ў сабе выпрацуе, і нават, пачынаючы ад найдрабнейшага чарвячка на зямлі, кожны можа ствараць ёю цуды. Усё практычнае жыццё грунтуецца на волі, адсутнасць яе робіць чалавека нявольнікам, а прысутнасць — уладаром. На гэтай восі паварочваюцца колы лёсаў, кіраваныя нябачнай даланёй, але рух дае ім сіла волі.

Не ведаю, ці больш трэба дзівіцца з велічэзных егіпецкіх пірамід, келлі пустэльніка, выкаванай дрыжачай рукой у цвёрдай скале, ці з хаты цыгана, вылепленай нічым з нічога!

Змерайце сілы і іх вынікі і атрымаеце справядлівую ацэнку, бо значнасць твора вымяраецца моцай яго стваральніка. Маленькая нябачная дзірачка, якую выгрыз чарвячок у дрэве, з'яўляецца, прынамсі для мяне, дзівоснай пабудовай, як і тунель пад Тэмзай, пракладзены рукой і думкай тысячы людзей. Груз, які валачэ мурашка на свой мурашнік, складзены амаль з мікраскапічных крошак, будзіць ува мне большае здзіўленне, чым прыцягнуты ў Парыж люксорскі абеліск. Таксама і ў людскіх справах: калі ўгледзецца ў гэты маленькі свет, на які мала хто звяртае ўвагу, можна знайсці ў ім і піраміды, і велічэзныя творы, і цуды, створаныя адной толькі воляй, прытым, магчыма больш дзівосныя, чым тыя, з якіх мы штодня дзівіцца прывыклі.

Насупраць могільніка ў Ставісках узнімалася ўжо хатка, тварэнне адной моцнай волі, дзівоснае сваёй ве-

ліччу, хоць з выгляду непрыкметнае. Ніхто не памагаў цыгану насіць дрэва, ніхто, апроч яго, не часаў і не клаў бярвення, ніхто нават добрым пажаданнем не ўспамог адзінокага работніка, а ўсё ж ён змайстраваў гэту ляпянку, ходзячы ў лес па кожнае палена, кожнае бервяно несучы на плячах пад гару і за вастрэнне сякеры адрабляючы кавалю, бо інакш як сваім часам заплаціць яму не мог.

Праз некалькі тыдняў пасля вяселля і апісаных тут падзей хата Тумрага была амаль закончана. Вялікай падмогай стала яму жонка, яе прысутнасць заахвочвала яго, а яе працавітыя рукі прыцягнулі пад могільнік не адно палена. Праца ўдваіх стала цыгану лягчэйшай, а калі вечарам валіўся стомлены адпачыць на просценькай лаве, меў на каго паглядзець, меў да каго загаварыць.

Матруне, прызвычаенай дома да хатняй гаспадаркі, якая ў параўнанні з гэтымі голымі сценамі хаціны магла здацца нават заможнай, цяжка было асвоіцца з гэтым бытам, дзе, каб жыць, трэба было амаль усё ствараць ні з чога. Так мала, здаецца, рэчаў і прылад ва ўбогай хаце селяніна, і ўсё ж колькі тут непрыкметных прадметаў, дробязяў, якія павінен ён паволі набываць, рабіць, даставаць! У хаціне Тумрага, апроч купленых Матрунаю на кірмашы самых неабходных рэчаў, больш нічога не было. Цыган абыходзіўся печанай бульбай і зачэрпнутай жменяй вадой. Пачынаючы ад вядра — прадмета першай патрэбы,— пры якім павінен быць і ліповы чарпак, колькі ж рэчаў не хапала штохвіліны! Стол, лавы, ночвы, цэбаркі, дзежку мусілі нажыць, бо ўдваіх абысціся без іх не маглі. Адным хлебам жыць было цяжка, а рабіць агарод запозна.

Спачатку думала Матруна, што вёска і браты, якія так варожа ставіліся да іх, зменяць свае адносіны, даруюць ім, аднак амаль з першых дзён перакапалася,

што альбо шмат часу спатрэбіцца на гэта, альбо, можа, і зусім так не здзеецца. Такая ўжо натура селяніна, што, калі ў ім засела якое-небудзь пачуццё ці думка, ён трымаецца за іх упарта. Ён не мае часу на роздум, на высвятленне таго, што адчуў і намерыўся зрабіць; дзеянне займае амаль усё ягонае жыццё, ■ таму стаўшы аднойчы на дарогу, не даецца збіць сябе з яе нічым. Разбуджанае ў яго сэрцы хваляванне адзін дзень перадае другому, а думка, з якой заснуў увечары, устае з ім назаўтра раніцай.

Вось так браты Матруніны сталі на той шлях, з якога нішто іх звесці не магло, ■ двор сваім умяшаннем яшчэ мацней іх да яго прыціснуў. А тут і вёска, трымаючы іхні бок адносна волі нябожчыка Лепюка, немагчымым рабіла адступленне.

Хоць каваль быў у вёсцы вельмі патрэбны, усе пакляліся, што да Тумрага не пойдуць, хоць бы прыйшлося ім ісці ■ нарогам нават некалькі вёрст. Матруніны браты зусім ад яе адракліся, і нават здалёк ніхто з іх спагадна не глянуў на гэтых выгнаннікаў з-пад могільніка, ляпянка якіх памалу накрывалася і заканчвалася.

Кожны, хто ехаў дарогай, з цікаўнасцю глядзеў на цыганову хату, аднак, убачыўшы Матруну на парозе, паганяў каня, каб хутчэй яе мінуць, і адварочваў твар без прывітання і добрага слова. Нават самыя адважныя вяскоўцы не маглі выступіць супраць прысуду агулу і былі яму паслухмяныя.

Міналі дні, і ні адна жывая душа не пераступіла іхняга парога, і не пачулі яны нічыйго, апроч свайго ўласнага, голасу. А калі надышлі халады і доўгія асеннія з віхурамі ночы, тады туліліся адно да аднаго ў нейкім забабонным страху, бо няспынна вярэдзілі іх памяць разгневаны Ляпюк і гэтая ягоная ў такім блізкім суседстве магіла. Аднак працы было так многа, такая была яна цяжкая, а будучыня такая страшная,

4 Зак. 1531

што абое не мелі яшчэ часу бедаваць над сягоняшнім днём. Адзіная палёгка вялікай нястачы ў тым, што яна далёка наперад не бачыць. Шчаслівыя мучацца заўтрашнім днём, расплачваючыся за сённяшні поспех турботамі пра будучыню, а бедны, абкружаны з усіх бакоў сваёй нядоляй, бядуе толькі над ёй. Так было і з імі. Асабліва Тумры, завяршаючы ў цяжкой працы сваю хату і пачынаючы будаваць кузню, не зважаў на набліжэнне зімы і голаду.

Толькі Матруна выбягала часам па-жаночы думкай наперад, але і яе адцягвалі штодзённыя клопаты. А ў сапраўднасці будучыня была грозная і нават для найбяднейшага жахлівая.

Пусты двор з капітанам Гарасімовічам на гаспадарцы не мог быць ніякай дапамогай, вёска адсунулася ад іх зусім, бо нават Максім Лях цяпер іх пазбягаў, а каб паставіць кузню, цыгану патрэбная больш чым калі была дапамога. Адкуль было ўзяць жалеза, кавадла, молаты і розныя драбнейшыя кавальскія прылады? Хоць Тумры прывык па-цыганску абыходзіцца абы-чым, аднак і мех, і абцугі, і молат, і кавадла былі неабходныя. На гарно патрэбная была цэгла, а за яе трэба плаціць грошы, ды і гарна сам змайстраваць цыган не ўмеў. А без кузні якая ж для іх жытка? Адкуль узяць кавалак хлеба?

Падтрымоўвала яго надзея, што, як паставіць сваю майстэрню, як людзі убачаць блізка тое, чаго дагэтуль павінны былі шукаць далёка, памалу пачнуць ісці да яго з найбольшай патрэбай, хоць крадком, а за прыкладам смялейшых пацягнуцца і баязлівыя.

Аднак да гэтага яшчэ вельмі шмат чаго не хапала.

Тое, што засталося ў Матруны ад прададзенай кароўкі, расходзілася неўпрыкмет на самыя першыя патрэбы: на муку, на крупы, на скорам і на розныя іншыя неабходныя штодня рэчы. Нельга было і думаць

пра тое, каб пусціць на кузню і на кавальскія прылады апошнія грашы, што яшчэ заставаліся, бо іх чакалі пільнейшыя выдаткі. І ўсё ж цыган не траціў адвагі, а праца не давала яму часу на пустыя нараканні і роспач. Хоць хатка зверху была так-сяк накрыта і злеплена, яшчэ трэба было наслаць у ёй столь, а з падабраных на сметніку кавалачкаў шкла змайстраваць такія-сякія акенцы, паставіць лавы, стол, ложак. Дык завіхаўся, бясконца бегаючы ў лес, а дома часаў, прыбіваў ад світання да ночы. Ледзь заставалася ў яго хвіліна часу на паўдзённую яду і адпачынак з вячэрняй гутаркай.

Матруна таксама мела што рабіць. Трэба было спячы хлеб, зварыць ежу і, што было цяжэй, нанасіць вады. Найбліжэйшая крыніца была ў яры над дарогай, за добрыя гоні ад хаты, каля берага става, а ісці да яе трэба было па глiністай сцежцы над абрывам, якая — абы дождж — рабілася амаль непраходнай ад слізгаты. А што ж гаварыць пра тое, як цяжка было Матруне ісці з поўнымі вёдрамі пад гару! А схадзіць па ваду трэба было не менш як два разы на дзень. Шчасцем, мала хто хадзіў да гэтай студзенькі, і бедная Матруна не сустракала там жанчын, маўклівасць ці ўцёкі балюча яе б закранулі.

Праз некалькі тыдняў пасля засялення ўбогай ляпянкі, нічога не кажучы мужу, занятым яшчэ дабудаваннем свайго ўбогага жытла, наважыла Матруна паспрабаваць шчасця і пастукацца да сэрца сям'і і братоў. Не бачыла іх ад таго часу, калі супраць іх волі пакінула бацькаву хату, а яны, відаць, сумысле стараліся не праязджаць каля могільніка, кіруючыся на паншчыну ці ў поле другой дарогай.

«Няўжо я ім ужо зусім чужая? — гаварыла сама сабе.— Мы ж жылі пад адным дахам, ссалі адны грудзі. Ці ж адпіхнулі б яны мяне назаўсёды? Свой свайго хоць часам і аблае, загневаецца, але ж пасля і па-

шкадуе. Як раскажу ім пра нашу бяду, дык сэрцы іхнія мусяць адкрыцца, і даруюць, і памогуць!»

Саграваючыся такімі думкамі і паддаючы сабе адвагі, якой, праўду кажучы, ёй не хапала, аднойчы пад вечар, калі Тумры быў у лесе, узяла Матруна вёдры, каб пры патрэбе было чым апраўдацца, і падалася нібыта да студні. Схавала каромысла і посуд у кустах і накіравалася ў бок бацькоўскай хаты.

Ой, білася ж, біла яе беднае сэрца, калі ўбачыла яна гэту зусім чужую сягоння, а даўней так сардэчна знаёмую саламяную страху! Кожная пляма моху на ёй, кожны свежы жоўты снапок, кожная перакладзіна на гуменцы так напаміналі тыя дні, калі глядзела на ўсё гэта будучы спакойнай і, магчыма, шчаслівай. Той самы гурт вераб'ёў чырыкаў на плоце і ў бэзе ў садку, і дым з коміна віўся, як і даўней, і варотцы былі таксама касабока адчыненыя — усё, як і было, усё, аднак дом гэты, так ёй прырослы да сэрца, ужо не яе, ужо зусім чужы.

Страх ахапіў Матруну, калі падышла да хаты, і слёзы нагарнуліся на вочы, бо ўсё дзяцінства і маладосць выбеглі аж за варотцы і неслі ў руках букецікі незабудак... Але, апроч гэтых мар, ніхто больш не выйшаў.

Не ведала, як пераступіць парог хаты, як асмеліцца зайсці і загаварыць да даўней сваіх, сягоння чужых людзей. А можа, не застане братоў, а толькі іх жонак, якія заўжды глядзелі на яе скоса, хоць яна ад душы старалася ім памагаць і замяняла іх у працы каля хаты і на паншчыне.

Абаперлася бедная Матруна аб плот і горка заплакала, затуліўшы вочы фартухом, і доўга так стаяла ў задуменні, не ведаючы, што рабіць, і вось пачула, што нехта дакрануўся да яе рукі.

Сэрца яе забілася, адплюшчыла вочы — а мо гэта брат? а мо гэта брацiха? Не... гэта быў стары чорны

кот, які пазнаў яе здалёк, ускочыў на плот і пачаў лашчыцца.

— А, верны Бурык! — выкрыкнула.— Хоць ты не забыўся Матруну! Дзякую табе, дзякую!

І не толькі адзін кот прыпомніў руку, якая яго даўней карміла, неўзабаве абкружылі яе куры, надбегшы з панадворка з надзеяй, што Матруна сыпне ім зерня, і пара галубоў пачала кружыцца над яе галавой.

Гэта прывітанне стварэнняў, якія звычайна кароткую маюць памяць, узрушыла бедную выгнанніцу да слёз і зусім яе расчуліла. Віталася з усімі, называючы іх мянушкі, а крыклівая грамада, штораз мацней шчабечучы, круцілася навокал. Аднак не асмелілася Матруна зайсці ў хату, дзверы якой былі зачыненыя, і нікога не было відаць. Дзень быў суботні, і, напэўна, ні на двары, ні на полі не было ніякай работы, бо два дні запар ліў дождж і толькі пасля полудня пачало прасыхаць. Ужо хацела, працягнутая страхам, вяртацца назад, ды вось пачуўся знаёмы рып дзвярэй, і з хаты выйшаў старэйшы брат, пазяхаючы і пацягваючыся, бо, відаць, спаў пасля абеду. Пачуў гоман птаства, і падумаўшы, што, можа, ястраб кружыць над сялібай, прылажыў да лоба руку і ўбачыў за варотамі Матруну, што яго выразна збянтэжыла. Ужо хапаўся адной рукой за клямку дзвярэй, як быццам хацеў вяртацца ў хату, а другой махнуў абыякава. Змагаўся з сабой, то збіраючыся ўцячы, то адправіць сястру некалькімі словамі, а яго насупленыя бровы не прадвяшчалі нічога добрага.

Матруна працягнула да яго рукі:

— Брат, браток!

— Няма тут табе ні братоў, ні сястры, ні радні,— адказаў сурова, як суддзя, гаспадар.— Ты ўжо не тутэйшая! Прэч, цыганка, ад дзвярэй і ад нашага парога, прэч! Чаго ты тут? Можа, выглядаеш для свайго мужыка, як яму вывесці з нашага хлява коні?

— Максім! На божую літасць! Ці ж можна так прымаць сястру?! Прагані, не прымі, але ж не абражай гэтак балюча! Што зрабіў вам мой мужык? Што я вам вінавата?

— А пра бацьку вы забыліся? — выкрыкнуў пагрозліва Максім.— Хто яго забіў, калі не вы ўдваіх? І хто пасля таго шукаў у двары супраць нас дапамогі і апекі? Ну вось няхай вас цяпер двор і ратуе і хай вам двор памагае! Мы табе не браты!

— Максім, развітайся хоць добрым словам! Мы памром з голаду! Ты не ведаеш нашай галечы! З вашай намовы ўся вёска супраць нас. Вы нам хлеб з рота вырвалі! Не прызнаяце мяне за сястру, то я вам не навязваюся, але перастаньце збыткаваць!

— Не, не! — крыкнуў Максім.— Будзем вас датуль мучыць, пакуль вы адгэтуль прэч з вашымі братамі цыганамі ў свет не пойдзеце. Абыходзілася вёска дагэтуль без каваля, абыдзецца і далей, а мы не хочам вас бачыць.

Матруне гэта бязлітасная мова адазвалася моцна ў сэрцы і сціснула яго гневам.

— Збыткуеце з нас, упікаючы цыганамі,— выкрыкнула выпростваючыся,— а вы самі сыны *ромаў*. Гоніце нас, а самі вы чым лепшыя, адпіхаючы сваю кроў на загубу і голад, каб толькі пазбыцца яе з вачэй!

— Прэч адгэтуль, ведзьма, бо зацкую сабакамі! — закрычаў Максім, выбягаючы за парог.

— Сабакі лепшыя за цябе,— адказала Матруна,— бо мяне лічаць сваёй гаспадыняй, а ты адрокся ад сястры.

— Бо ты выраклася бацькі і яго волі! — стаяў на сваім Максім.

Матруна спусціла гарачыя, абсохлыя ад слёз вочы, страпянулася і, кінуўшы на брата пагарджальны позірк, адступіла некалькі крокаў. У той момант кот, куры, галубы абкружылі яе, а стары дварняк Каштан,

разбуджаны гоманам, злез з прызбы і таксама падаўся да сваёй даўнейшай карміцелькі.

Максім знік за дзвярыма.

Бурык саскочыў з плота і, тручыся ля Матруніных ног, памалу цягнуўся за ёй некалькі крокаў, аднак, убачыўшы, што мінула вароты і скіравалася на дарогу, застаўся, сеў, падкурчыў лапкі і нейкі час сачыў за ёй, а нарэшце, прыгрэты сонейкам, задрамаў. Куры падбеглі за ёй некалькі крокаў, дарма паглядаючы на фартух, сакочучы і дзюбаючы яе ў ногі, але ўбачыўшы, што яна мінала звычайныя межы іх абсягу, памалу адсталі і пачалі кешкацца ў сметніку.

Пара галубоў ляцела над яе галавой, спыняючыся на грушах, на студнях, на стрэхах... Выглядала так, што яны клікалі Матруну вярнуцца, што буркаваннем звярталіся да сваёй гаспадыні, аднак калі яна не спынілася, галубка вярнулася ў гняздо і за ёй паляцеў следам голуб.

Стары Каштан вытрымаў найдаўжэй: вывеў яе з двара на дарогу, лізаў ёй руку, вішчаў і лашчыўся, быццам прасіў, каб не адыходзіла ад хаты. Аднак Каштан быў ужо такі стары! Бакі яго былі аблезлыя, хвост амаль голы, ногі сухія і адзервянелыя, хадзіць было яму цяжка, самым далёкім яго падарожжам былі цяпер экскурсіі за вароты, не пускаўся ўжо нават і на дарогу. Быў у яго на прызбе вылежаны бярлог ■ саломы, да якога ён вельмі прызвычаіўся. Як жа было яму вырывацца за Матрунай невядома куды? Ішоў, ішоў і спыняўся, матляючы хвастом, ступіў яшчэ некалькі крокаў, брахнуў, клікаючы вярнуцца, пазіраў то на хату, то на Матруну, як быццам мяркуючы, што рабіць далей. Нарэшце, калі бедная сірата, не паварочваючы галавы, ішла ўсё далей і далей, Каштан падтуліў хвост, апусціў галаву і памалу скіраваўся да сваёй прызбы, павурчаў і ўлёгся зноў на сваім звычайным месцы.

Уцякаючы са слязьмі на вачах з вёскі, мусіла бы-

ла Матруна праходзіць каля бацькоўскай пуньві, у якой пачула стукат цэпа. Прачыненыя вароты далі зазірнуць у сярэдзіну будыніны, і Матруна ўбачыла там малодшага брата, які ў адной кашулі завіхаўся з цэпам каля некалькіх раскладзеных на таку снапоў жыта.

«А можа, гэты акажацца літасціўшым»,— падумала і ціха прасунулася ў дзверы, а яе цень разбудзіў задуменнага, засяроджанага над працай работніка.

Ён узняў галаву і, убачыўшы сястру, здзівіўся.

— А ты тут чаго? — выкрыкнуў больш занепакоена, чым гнеўна.— Чаго ты тут, Матруна?

— Да вас, Піліп, да вас! Была я ў Максіма, хацела добрага слова, прабачэння. Максім прагнаў мяне, як валацугу і чужую... ці і ты так зробіш, як ён?

— Максім прагнаў цябе? — запытаў, абапёршыся на цапільна, Піліп.— А чым жа я табе памагу? Што я табе параджу?

— Хоць пашкадуйце! Хоць загаварыце! — выкрыкнула бедная жанчына.— Уся вёска уцякае ад нас з вашай намовы, як ад заразных, ніхто не скажа добрага слова, а спаткаўшыся, нават галаву адварочваюць! Ці ж так і не будзеце мець над намі, беднымі, літасці?

— Э! Дарма гэта,— сказаў жвава збянтэжаны малодшы брат,— гэта дарма... Калі Максім цябе прагнаў, дык што ж я табе параджу? З усёй абшчынай згаварыліся на вас, каб не прымаць і выгнаць, гэта дарма! Ты ведаеш, што я сам ледзь трываю ў хаце з Максімам, дык ці ж магу я і з ім, і з абшчынай задзірацца? Яны б і мне, і маёй жонцы не далі спакою, і прыйшлося б з хаты ўцякаць. Ідзі сабе, ідзі, бо як убачаць цябе тут, дык і мяне пачнуць есці!

Матруна, абапёршыся на вароты, плакала.

— О, мой божа! мой божа! Да каго ж ужо цяпер прыхінуцца, хто паможа, калі свае браты пакідаюць і выганяюць!

— А трэба было слухаць бацьку,— сказаў ціха Піліп,— дык ты цяпер не гаравала б, Матруна. Трэба было не завязваць сабе свету дзеля цыгана і не рабіць нам сораму!

— Што сталася, таго не вернеш,— адазвалася праз хвіліну,— але не дай бог вашым дзецям такой долі, бо мы, як настане зіма, памром з голаду...

— А двор? — запытаў брат.

— Няма для нас у двары нікога.

— Далі ж вам, кажуць, карову.

— Мы яе ўжо даядаем, бо мусілі прадаць.

Брат Піліп спахмурнеў, задумаўся.

— Ідзі, ідзі сабе! Я табе ўжо нічога тут не парааджу,— сказаў ціха.— Вось набяры ў фартух жыта колькі здужаеш, толькі нікому не кажы, што я табе даў, чуеш? Максіму скажу, што капа была з краю, дык яе гусі вытаўклі і вераб'і выдзеўбалі. Бяры, бяры, не саромейся, ад гэтай меркі не прападзём. Ды ідзі ўжо, бо як Максім цябе тут убачыць...

Не так тая дробная, некалькі гарцаў жыта, ахвяра, як добрае братава сэрца, якое не было для яе страчана і да якога магла адклікнуцца, узрадавала Матруну. Са слязьмі ў вачах пачала яна цалаваць яго рукі, выгукваючы:

— А мой брацiку дарагі, няхай табе бог заплаціць за тваю да мяне дабрату! Даўно ўжо не чула я добрага слова, не парадавалася так, як сягоння!

Піліп, відаць, быў таксама ўсхваляваны, але яго позіркі, кіданыя на вароты, выказвалі боязь. Пачаў сам хутка згартаць жыта і ледзь не гвалтам насыпаць яго Матруне ў фартух.

— А цяпер,— прамармытаў ціха,— ідзі ты сабе, ідзі. Пакуль Максім не здагадаецца, дык я табе часамі хоць украдзеным пастараюся дапамагчы. Але ўхавай бог, каб убачыў, дык бы і мяне заеў, і прапала б тое, што я мог бы табе часамі падкінуць. Дык ідзі, Матруна!

Слёзы круціліся ў яго вачах, канцом цапільна папраўляў салому, згортваў яе, адварочваўся і выпраўляў бедную сястру.

— Максім,— сказаў нарэшце,— галава дому, ён ведае, што рабіць, і бацька ведаў, што рабіў! Не трэба было з цыганом звязвацца, дык жылі б цяпер разам, а так усё прапала!

— Як гэта! — азвалася з плачам Матруна.— Ці ж у вас такое сэрца каменнае, што ніколі мне не даруеце?

Пiлiп пакруціў галавой.

— А як нам адмяніць тое, што бацька пастанавіў? Ён памёр са сваёй воляй, і няма яго, каб табе дараваў. Гэта не мы, а ён загадвае, дык на гэта ніякага спосабу няма!

— Ніколі! Ніколі? — хапаючыся за галаву, выкрыкнула жанчына.

— Мусіць, што ніколі,— сказаў Піліп і, злёгку папіхаючы яе, дадаў: — Такі бо ідзі ўжо, Матруна, бо можа быць бяда, а мне ўжо пара згартаць жыта, бачыш, вечарэе...

Моўчкі яшчэ раз глянуўшы на малодшага брата, які аказаўся літасцівейшым, але як быццам саромеўся сваёй сардэчнасці, мармытаў нешта над снапамі і хаваў вочы, выйшла Матруна багацейшая на некалькі гарцаў жыта, якога ён ёй у фартух насыпаў, але сумнейшая, страціўшы апошнюю надзею.

Ад пунькі дарогай за платамі дабралася да грэблі, мінула стаў і падыходзіла да студні, каб забраць пакінутыя вёдры.

Нікога не было каля крыніцы, а як пачала шукаць вёдры і каромысел, пляснула ў роспачы ў далоні: зразумела, што яе самыя неабходныя рэчы нехта ўкраў.

Тумры доўга быў у лесе, бо шукаў дрэва на сохі і пачапы для кузні, а іх у парадзелым лесе знайсці было нялёгка. Вярнуўшыся змрокам дахаты і скінуўшы

цяжар з намуляных плячэй, убачыў Матруну, якая сядзела на парозе і плакала, закрыўшы вочы фартухом.

— Што з табой? Дзеля *Мродэн-ора*, кажы, што здарылася? А! Праклятыя *гадзі*! — сказаў, прыпомніўшы цыганскую мову.— Нешта ўжо табе зрабілі!

І падняў угору заціснуты кулак.

— Клянуся,— сказаў,— што ўжо болей не выцерплю! Сам загіну, але вёска пойдзе з дымам, стане попелам за нашы слёзы і за кроў нашу! Няхай гінуць, як *шукеля* (сабака), калі, як *шукеля*, не маюць сэрца!

Гаворачы гэта, цыган, вочы якога гарэлі, такі страшны быў у сваім гневе, што Матруна аж адступілася, міжволі перахрысціўшыся.

— А! Тумры мой! — выкрыкнула.— Чаго ж ты аж так гневаешся і пагражаеш? Нічога не сталася. Праўда, дарагі мой, нічога.

— А чаго ж ты плакала? *Роў* (плач) не бывае без прычыны!

— Над сваёй дурнотай плакала я...— адказала Матруна, маючы намер усё затаіць ад мужа.— Вось прапалі мае вёдры з маёй віны, не ■ чыёй.

— Вёдры? Як?

— Пайшла я па ваду, але праз ляноту не захацелася мне чэрпаць з крыніцы, дык я ўлезла ў стаў. А там вада плыве хутка, ■ мае ногі дрыжалі, дык я ўтапіла вёдры... Рака іх забрала... млын паразбіваў.

Цыган глянуў ёй у вочы і паківаў галавой.

— Дзе? Што? — сказаў памалу.— У ставе мочаць каноплі, ■ ты б там брала ваду! На гэта задобрая ты гаспадыня! Ды калі б і пайшлі вёдры з вадой, то адплылі б недалёка, бо пры беразе расце трыснёг, а табе замачыцца па калені не навіна! Эй, тут нешта іншае, Матруна! Не ашукаеш ты мяне, вёдры прапалі інакш!..

Матруна не вельмі ўмела маніць: зачырванелася ўся, сказала нешта невыразнае і варухнула плячыма, прыкідваючыся загневанай.

— Што тут гаварыць! — дадаў Тумры.— Кажы праўду, жанчына, бо ўсё роўна яна не схаваецца!

— Але ж я кажу табе праўду, як было...— уваходзячы ў хату, трымалася свайго збянтэжаная жанчына.

Цыган увайшоў следам за ёй і ў тую хвіліну, хоць ужо цямнела, заўважыў сярод хаты фартух з жытам, які Матруна там кінула і не паспела яшчэ прыбраць.

— А гэта што? — запытаў, паказваючы рукой.

— Гэта мерка жыта, я купіла яе за злот у чалавека з Рудні, які тут ехаў.

— За злот? — ківаючы галавой, запытаў недаверліва цыган.— Не веру, Матруна! Кажы праўду, хавацца няма чаго! Ты плакала... я хачу і буду знаць усё, хоць бы мне прыйшлося пайсці немаведама куды!

Матруна ўсё яшчэ маўчала, складваючы канцы раскінутага фартуха.

— Але ж бо ты напалохаў мяне сваім агнём і гневам, Тумры...— сказала паволі.— Хапае нам і так людскога гневу, даволі нам людской нянавісці, не наводзьма іх на нашу галаву яшчэ больш!

— А калі б я даў табе слова, што без тваёй волі нічога благога не распачну?

Матруна павярнулася да яго і заплакала.

— Дай табе бог здароўя! Мне будзе лягчэй, як я раскажу табе ўсё, толькі скажы мне, ты помсціць не будзеш?

— Дзеля *Мродэн-ора*, не буду, Матруна, да той пары, покуль мне хопіць сілы, бо я ўжо шмат дараваў і замучыла мяне людская нянавісць. Але гавары, толькі хутка, бо мяне трасе.

Тады пачала Матруна сваё апавяданне, перапыняючы яго слязьмі і мінаючы тое, што ёй сказаў Максім, праганяючы з двара. А цыган слухаў у такім насупленым маўчанні, так напорыста сціснуўшы вусны, што пары з іх не выпусціў, пакуль не скончыла.

— Сабакі! — крыкнуў, падымаючыся.— Бессардэчныя сабакі! Я не хачу іх міласціны! Не патрэбная мне яна! Няхай здохнем абое з голаду, а я і зярняці ■ гэтага праклятага збожжа не вазьму!

— А Піліп жа што вінен? — нясмела запярэчыла Матруна.

— Піліп баба, *эгашы,*— закрычаў цыган,— баіцца мяне, баіцца брата, баіцца двара і дае міласціну, каб адчапіцца! Кіну яе яму заўтра ў вочы!..

— А-ёй, напраміłы бог! — падбягаючы да яго, выкрыкнула жонка.— Загубіш і яго, і мяне, і сябе. Як даведаецца Максім, дык не дасць яму спакою і загрызе. За яго добрае сэрца мы адплацім яму бядой! Я гэтага не дазволю!

— А не скамянее гэты хлеб у тваіх вуснах, жанчына? — запытаў цыган.— Хлеб міласціны, які *пэхраль* кінуў сястры, як сабаку? А ці зможаш ты яго есці? А дасць ён табе жыццё? Не! О не!

— Выкінь яго, калі хочаш, толькі не аддавай брату! — умольваючы, выкрыкнула Матруна.— Не губі і яго, і мяне!

Яшчэ не паспеў Тумры адказаць, як нехта ціха паскробся ў прычыненых дзвярах.

Гэты непрывычны для вушэй выгнаннікаў гук здаўся ім такім незвычайным, што абое спалоханыя перш сталі як укопаныя, а цыган, спадзеючыся ворага, бо нікому і нічому не давяраў, падбег да парога.

Матруне прыйшлі на думку магільныя духі, помслівы прывід бацькі, і яна з дрыжаннем перахрысцілася.

— Хто там? — моцным голасам крыкнуў цыган, адчыняючы дзверы і стараючыся прабіць вокам цемру.— Хто там?

— А, а, добры вечар! Добры вечар! Цыц, цыц! Не бойцеся. Голы ж разбою не баіцца, ■ ў вас, напэўна, няма на што пакваліцца.

Гэтыя заіклівыя словы, перапыняныя ціхім смя-

шком, выплылі памалу [redacted] цемры, і перад здзіўленым цыганом паказалася дзівачная фігура дурнога Янака, які нёс на плячах два поўныя вядры вады. А дзеля таго, што быў малога росту, дык ледзь змог праз парог з імі перабрацца, бо яны амаль цягнуліся па зямлі.

— Мае вёдры! — крыкнула Матруна, пляснуўшы з радасці ў далоні.— Праўда, гэта вёдры мае... гэта ж дурны Янак.

— Вось жа не такі дурны, як вы думаеце,— адказаў госць,— калі знайшоў тое, што разумны згубіў. А! а!

— Хай жа бог табе заплаціць! — сказаў цыган.— Вось ужо другі раз я завінаваціўся табе за паслугу!

— Што там ты мне завінаваціўся! — паскрэбваючы галаву, адказаў карлік.

— Але дзе ж ты іх знайшоў? — запытала Матруна.— Які ж ты добры чалавек! Глядзіце, нават з вадой мне іх вярнуў!

— Ну, ужо калі вёдры, дык, вядома, [redacted] вадой! Нашто б яны здаліся такой парой без вады? — адказаў Янак.— А дзе я іх знайшоў? О! о! доўга пра гэта казаць.

— А ўсё ж скажы, дзе і як ты іх здабыў?

— Я іх не здабываў,— адказаў Янак.

— А як жа яны табе дасталіся?

— А! а! Як вам лёгка балакаць, дык думаеце, што і мой язык так лёгка ходзіць, як вашы. Ну пачакайце, пачакайце!

Тумры з Матрунай сталі насупраць Янака, а ён сеў на парозе.

— Вось як было,— пачаў расказваць паволі.— Іду я сабе, іду, ну так! Выгналі мяне з хаты, бо збіраліся вячэраць, замкнулі дзверы, ну я пайшоў... Іду, іду, кудны вочы павядуць, праз грэбельку, праз масток і так неяк зайшоў да студні. Тут, думаю сабе, сяду і хоць вады нап'юся, калі няма чаго з'есці... Але як тут на-

піцца, калі вада глыбока, а зачэрпнуць няма чым? Думаю, думаю... а мусіць жа быць нейкі спосаб, і няхай я толькі прылягу і пачну яго шукаць, то знайду абавязкова. Дык, адступіўшы некалькі крокаў ад студні, бух у кусты, бух — і абабіў сабе аб нешта бок! А, каб цябе ліха! Гляджу, ажно там пара яшчэ зусім новых вёдраў і каромыслаў! Вось і спосаб. Але хто іх там пакінуў? Азіраюся — ні жывой душы... А пасля надыходзіць Ляхава Наста. «Добры вечар, Наста!» Яна мне і галавой не ківае. «Можа, табе вады выцягнуць?» — «Ідзі к чорту!» Тады кажу: «Ці не ведаеш, мая ты Настачка, чые гэта вёдры?» — «Вёдры? Ой! — падскочыла, быццам яе хто кулаком у бок стукнуў, і давай крычаць: «Гэта ж мае! Вось я іх шукаю!» — «Твае? — засмяяўся я.— Такая гэта праўда, як мыш кашляе! Напэўна!..» — «Ну, мае, не мае,— адказала,— але я бяру іх сабе».— «А гэта завошта? — «Ну, вядома, ты мне іх аддасі». Давай тады я на яе ківаць галавой: «А каб твае хто забраў?» Пачырванела. «Скажы мне лепш,— пытаюся,— бо ты ж знаеш усю вёску, чые яны могуць быць?» Паглядзела ўважліва, паківала галавой: «Новыя,— сказала,— не ведаю... такі ж не знаю... З гэтага канца вёскі вёдры я пазнала б, але гэта не нашы!.. Толькі вось пазнаю́,— сказала далей,— што куплены яны на кірмашы ў мястэчку, бо гэта работа не тутэйшая, а таго бондара, што возіць посуд на базар вунь! Ад Пянткоўкі аж...»

Мне больш казаць не трэба было,— працягваў Янак,— пастукаў я сябе ў галоўку і зараз атрымаў адказ, што гэта не інакш як толькі вашы. Але як пачала Наста балбатаць тое ды гэта, а я з ёй смяяцца, а тут надышла Грыцыха, і ўтраіх балакалі і так прабалакалі дацямна. А тады я набраў вады і прывалок да вас.

— Хай табе бог дасць здароўя, Яначак! Вось і пачаставаць цябе няма чым...— сказала Матруна,— у нас убога...

— Што там дзякаваць і нашто частаваць? — сказаў малы калека.— Есці я не хачу, бо ваду піў! А ўсё ж дома хоць лаюць мяне і гоняць, ды нешта ж у гаршку пакінуць. А ў вас, Матруна, гола, зусім пуста.

— А скуль што ўзяць? — сказаў цыган.— І тое, што бачыш, дзве рукі рабілі, адны плечы насілі... а цяпер штораз цяжэй, штораз горш, сэрца разрываецца... Ужо невядома, як тут даць рады!

— А ці ж я гэтага не ведаю? — адказаў ціха Янак.— Хто як хто, а я гляджу заўсёды і дзіўлюся... Тут, каб ты меў яшчэ тры галавы і цэлую гару ахвоты, не дасі рады!..

— Мушу! — сказаў Тумры.

— Мушу! Ха! ха! хоць бы загубіць душу! — паўтарыў за ім малы.— Тут, брат, і «мушу» не дасць рады. Хату ты зляпіў, а з чаго зробіш кузню?

— Каля цагельні валяецца шмат кавалкаў, буду памалу выбіраць і насіць.

— Ну, ну! А далей? Хто злепіць гарно? — запытаў Янак.

— Муляр ■ Рудні.

— Задарма?

— Не. Я буду рабіць тыдзень у каваля, а ён заплаціць муляру, вось і будзе гарно.

— А што далей? Думаеце, я не бачыў кузні? Быў ■ ў Рудні, і ў Пянткоўцы, і ў Чумары на кірмашы, нагледзеўся я кузняў цыганскіх, і хрысціянскіх, і яўрэйскіх!

— Буду год рабіць у майстра днём і ноччу,— адказаў Тумры,— а ўсё ж зараблю на латаны мех, кавадла, абцугі і на кавалак жалеза для молата.

— А жонка гэтым часам?..

— Пойдзе працаваць,— адказала жвава Матруна.

— А пасля што? — прадаўжаў Янак.— Пойдзеце абое ў свет! Дык жа лепш цяпер!

— Э, як убачаць людзі кузню і кучу вугалю, як

адзін-другі падарожны пахваліцца ў карчме добрай падкоўкай каня, а як настане галалёд ці аб'явіцца транспарт або прыйдзе пара выйсці з плугамі ў поле...

Янак паківаў галавой.

— Та! та! та! Не знаеце вы нашых ставішчан,— сказаў.— Го, го! У іх, як у яўрэяў, калі хэрым, то хэрым. Можа, тое, на што спадзяешся, і збылося б за дзесяць або за дваццаць гадоў, але да таго часу вы памраце з голаду.

Матруна ўздыхнула, Тумры маўчаў.

— Дарма гэта! — казаў Янак.— Абшчына на сходзе пастанавіла, вяскоўцы адзін аднаму рукі давалі, і гарэлкай запівалі, і згаварыліся супраць вас, а я іх знаю. Калі б хто з вёскі у кузню зайшоў, дык яго б на Падолію прагналі, так бы яму дапяклі. Каб толькі даведаліся, што я тут быў і з вамі гаварыў, дык мне б дзвярэй хаты не адчынілі. Пра гэта падумайце!

— Так табе, Янак, здаецца,— сказаў Тумры.

— Няхай здаецца! — адказаў малы.— Як мае не ў лад, дык я са сваім назад. Тады не слухайце дурнога Янака, бо недарма ж ён дурны. Аднак вам скажу, што як я пачну што балакаць і як што да маёй галавы прычэпіцца, то не сягоння, дык заўтра мусіць споўніцца. Ужо як сюды на могільнік старога Лепюка прывезлі і як я пачуў, што братоў у двор клікалі, дык адразу сабе сказаў: «Будзе кузня, але хлеба не будзе».

Матруна ўздыхнула, а Янак прадаўжаў:

— Вось і са мной, са мной сталася так, як і з вамі. Альбо ж я горшы ад малога Чурылы ці ад кульгавага Андраюка? А як аб'явілі мяне за дурнога, дык усё прапала. Ужо мяне для хаты няма, ані я да рамяства, ані да гаспадаркі, ані да жаніцьбы; ды што думаць пра гэта! Як трэба што рабіць, а цяжка, а да поту, а праз сілу, дык выпіхаюць мяне... А кажуха, стравы, лавы ці добрага слова ні ад кога не чакай... І так ужо пайшло яно на ўсё жыццё.

— Ну дык пойдзем адгэтуль,— сказаў Тумры,— у другую, у трэцюю, дзесятую вёску і, працуючы, знойдзем кавалак хлеба не тут, дык там. Але я не пакіну ім ляпянкі, якая каштавала столькі працы, пакуль мяне адгэтуль голад і нястача не выганяць!

— Рабіце як знаеце,— сказаў Янак, устаючы,— а мне пара дахаты. І так атрымаю штырханца за тое, што спазніўся, а калі дзверы будуць зачыненыя, дык ужо мне іх не адчыняць, і прыйдзецца спаць у хлеўшку або ў мякініцы. Але мне гэта ўсё роўна, мая скура цвёрдая! Ха! ха! ха!

Гаворачы гэта, Янак высунуўся з хаты і знік у цемры, цішком пабег да вёскі. Тумры і Матруна зноў засталіся адны, маўклівыя і задуменныя.

Але вось бліснула трохі святла ў камінку, павесялела хатка, і на крывым стале з'явілася міска з вячэрай.

— На загубу ім! — сказаў, падсядаючы да яе, Тумры.— Не дамося, не здамося, хоць бы, як ён казаў, прыйшлося ўсё жыццё чакаць, пакуль благія вымруць і пойдуць на могільнік, а на іх месцы добрыя жыць будуць!.. Не плач, Матруна, не плач, бо за гэтыя слёзы павінны будуць заплаціць твае браты.

У такіх дробных супярэчнасцях і няспыннай працы міналі першыя месяцы маладой сям'і. За хвіліну адпачынку і мар трэба было плаціць дорага потам і гневам, якога не было на кім спагнаць, бо аддалілася ад іх вёска, мінаючы здалёк цыганскую хату, цыгана і яго жонку.

А ці былі яны шчаслівыя?

О, адна справа марыць пра шчасце, а другая мець яго ў руках. Шчасце, як матыль, хутка ператвараецца ў лічынку, у якой ападаюць крылы. У час сваіх вячэрніх сустрэч, у першыя хвіліны пасля знаёмства не здагадваліся абое, якімі слязьмі прыйдзецца ім акупіць сваё збліжэнне і супольнае жыццё. Матруна, хоць лю-

біла Тумрага, часта задумвалася пра вальнейшую долю маладых дзён; слёзы выціскаў ёй гэты разлад з усімі, гэтае выгнанне з сям'і, якая ад іх адступілася. Часта ў ночы, калі сон не прыходзіў, уздыхала і шкадавала мінулага, а калі ўзбягала на памяць бацькава праклянцце, яе пачынала калаціць. А іншы раз думала пра заўтра, пра зіму, пра доўгія, можа, гады, якія прыйдзецца пражыць на гэтай пустцы, пакутуючы і гледзячы на чужыя пакуты, і тады, жахліва напалоханая, хапалася за галаву.

Але вяртацца было ўжо немагчыма.

Можа, чакалі яе яшчэ выгнанне, развітанне з вёскай, на якую хоць здалёк любіла глядзець, і няпэўны лёс дзяцей, галеча, і жабрацтва, і бадзянне...

Тумры, пакуль працаваў ад рання да ночы, пакуль хоць трохі меў надзеі, ні аб чым, апроч самай пільнай работы, не думаў, дадаючы сабе сілы, якой яму ніхто даць не мог. Аднак, калі праца з прычыны асенніх дажджоў прыпынілася і заставалася яшчэ кузня, якой сам давесці да канца не мог, калі цэлымі гадзінамі і днямі трэба было сядзець без занятку і думаць, думаць і думаць, тады і яму рабілася цяжка на сэрцы. Прыйшла туга па свабодным вандроўным, поўным штораз іншых краявідаў жыцці, у якім учора ніколі не было падобнае да заўтра. І прыпаміналася Аза, такая вясёлая, дзіўная, але і запальная, як іскра вогнішча ў Апрашавай кузні, і ўсе тыя, якіх дзеля адной жанчыны пакінуў: бедная маўклівая жонка правадыра, яе дзіця, шчабятлівыя падлеткі, старыя варажбіткі, што валакліся за абозам, кузня ў полі пад палаткай, рыпучы воз, які перавозіў яе ■ месца на месца,— усё цыганскае жыццё, поўнае галечы, але поўнае руху і жыцця.

Пасля ўсяго гэтага раптам сеў Тумры грыбам пры сваёй ляпянцы, асуджаны на прыкаваную долю, на адзін від могільніка з маленькага акенца, на адну размову, на нябачных ворагаў і пустату! З Матрунай пе-

рабралі ўжо ўсе пачуцці і размовы, хутка выпілі келіх да дна, і нічога новага не прыбавілася да іх лёсу. Тумры хацеў бы хоць змагацца, як раней, пакутаваць, як тады, абы як-небудзь вырвацца з адранцвеласці, якая, нібы акалелых на марозе, апаноўвала мёртвым сном. І штодня ўсё больш напорыста вярталася думка да маладых зненавіджаных гадоў, якія ўчора праклінаў, а якія цяпер здалёк выглядалі са сваімі слязьмі і пакутамі амаль чароўна.

Спачатку давала яму палёгку блуканне па лесе, але і аднастайны лес перастаў цікавіць. Штораз мацней адчуваў нейкае жаданне руху, вандроўкі, блукання, іншага неба і людзей. Абуджалася ў ім старая звычка, прыглушаная раней першай хваляй пачуцця. Дакучаў яму нейкі неспакой, дык выходзіў за парог, блукаў па дарозе, вяртаўся, і зноў штосьці цягнула яго з хаты.

А калі перамагаў сам сябе і вытрымліваў на адным месцы цэлы дзень, дык упадаў у нейкую акамянеласць, якая захоўвала ў сабе толькі іскрынку жыцця. Матруна бачыла гэта і маўчала, часам старалася яго ўсцешыць, бо не разумела гэтага стану інакш як неспакой пра заўтрашні дзень, як пакутлівае чаканне будучыні, але і ёй самой ■ кожным днём станавілася цяжэй. Неўзабаве думкі іх зусім разбегліся: адна кіравалася ў бок вёскі, што дымілася ў даліне, другая — у сіні, невядомы, шырокі, непраглядны, спакуслівы свет. І сумна было ім удваіх, хоць яшчэ кахаліся, але ўпотай абаім хацелася плакаць па пакінутым мінулым.

Матруна сядзела на ўзгорку і, абапершы галаву на далоні, глядзела праз слёзы на спакойныя Ставіскі. Яе думка ляцела на крылах тугі аж на бацькоўскі двор, на старую страху, да знаёмай студні, да ўлюбёнага гародчыка і доўга, доўга там гасцявала, аж покуль від бацькавай магілы не адклікаў яе да рэчаіснасці.

А калі б ні глянула на жоўты горбік і яшчэ свежы крыжык, які над ім стаяў, заўсёды ■ жудасцю і стра-

хам хрысцілася і бегла ў сваю ляпянку, каб схавацца і не бачыць магілы, з якой прамаўляў да яе строгі бацькаў голас.

Тумры, калі апаноўвала яго туга, вылятаў са сваёй хаты і з развеянымі валасамі і голымі грудзьмі бег, куды неслі вочы. Часам урываўся ў лес і бег зараснікамі, гушчарамі, аж покуль не стамляўся да ўпаду, як конь, калі вырвецца са стайні на волю і гойсае, не зважаючы на небяспеку пакалечыцца ці разбіцца. А іншы раз перасякаў безуладным бегам горы і лясы, пакуль не натыкаўся на стаў, рэчку ці яр і абяссілены валіўся на зямлю.

Сярод гэтага шалёнага руху, які кідаў яго, як непрытомнага, неаднойчы прабівалася ў маўклівым паветры цыганская песня, не раз неслі вятры ёй на спатканне незразумелую слязу і дзікі смех вурчаў у іх шуме. І гэтая хвароба ў абаіх расла непамерна! Спачатку быў гэта толькі хвілінны сум, разагнаць які магло любое ўражанне, пазней ён стаў амаль штодзённай справай і, нарэшце, чарвяком, што грыз і ўдзень і ўночы.

Бывала, што цэлымі днямі не перакінуцца словам. Цыган, як звер у клетцы, кружыў па хаце, Матруна глядзела на сцяну, праз якую быццам на далоні бачыла сваю вёску, хату, старога Каштана, Бурыка, курэй, пару галубоў і ціхі падворак са старэнькай грушай.

Пасля сумнай восені хутка надышла зіма, ды такая страшная ў сваім белым покрыве, такая бязлітасная ў сваёй сцюдзёнасці! У ляпянцы зрабілася холадна, пачалі свіціцца шчыліны, праз якія ўрываўся вецер і высвістваў смерць спусташэння дзікімі тонамі. Тумры ляпіў, абтыкаў зноў і зноў, але на высокім узгорку і дажджы, і вятры больш даваліся ў знакі, чым у іншых месцах. А першыя маразы пранялі бедных да касцей. Дарма распальвалі агонь, на які кожны гнілы сук і кожнае трухлявае палена павінен быў Тумры прыно-

сіць на плячах — толькі кіслы дым выгрызаў ім вочы, а цяпло ўцякала праз шчыліны!

Здаралася, што снег замятаў іх цалкам, то зноў вада з яго заліла хату і сені, а калі трэба было ісці па ваду, Матруна падала на абледзянелай сцежцы.

Хлеб і грош яшчэ цягнуліся, але ўжо падыходзілі да канца, і аднаго дня, прынёсшы астаткі мукі і спёкшы замест хлеба праснак, Матруна заламала рукі над парожняй, як бездань, дзяжой. Тумры ўжо раней туды зазірнуў і заўважыў таксама, што вузялок, у якім хаваўся апошні грош, развязаны, а пустая хусцінка вісіць у бакоўцы на калку... А кузні не было, работы не было, і з вёскі ані жывога голасу.

Аднойчы вечарам, калі абое дрыжалі ад холаду, цыган глыбока ўздыхнуў і перапыніў доўгае маўчанне.

— Ну, Матруна, хлеба няма,— сказаў,— а *мандру* сам не прыйдзе. Доўга я думаў, іншай рады няма, трэба ісці і за ліхі грош махаць молатам у другім сяле... А як ты тут адна застанешся?

Матруна пачала, спусціўшы вочы, церабіць канец фартуха.

— Застануся — сказала,— застануся, буду пільнаваць хаты і выглядаць цябе...

— Я ўсё ж хоць раз на тыдзень прыйду ў нядзелю і хлеба, і грош нейкі прынясу. А ісці трэба...

— Можа, хто ў сяле хоць прасці мяне возьме,— ціха прамовіла жанчына.

— Не! не! — запярэчыў Тумры.— Дарма спрабаваць і дарма прасіць! Не хачу іхняй ласкі, абыдземся без яе!

— Ну дык абыдземся,— адказала Матруна,— буду сядзець у хаце.

— Але ж адна, зусім адна насупраць могільніка! Ці вытрываеш ты са страху, як настане ноч, калі часам і ў мяне, як засвішча вецер, дрыжыкі па плячах прабягаюць.

Матруна ўся здрыганулася.

— Выжыву,— сказала сумна,— а калі б памерла, дык табе было б лягчэй. А пахаваць, дык усё ж браты пахаваюць ў літасці. Да магілы несці недалёка, а ты зноў пойдзеш у свет.

— Ціха, ціха! — выкрыкнуў цыган.— Не гавары мне гэтага! Толькі каб нам гэту зіму перажыць. А як не пастаўлю кузні, дык падпалю хату і пойдзем у свет...

— Але ж гэта зіма такая доўгая!

— А доўгая, Матруна, але і жыццё доўгае, і пражыць яго трэба! Толькі хто паможа табе прынесці вады, дроў нарыхтуе і хоць словам да цябе адзавецца?

Матруна не адказала ні слова, а таму, што агонь патух і не было чым яго аднавіць, гутарка спынілася, і думкі абаіх пайшлі, прабіваючы цемру, кожная ў свой бок.

Назаўтра раніцай, нягледзячы на холад і мяцеліцу, выбег Тумры з хаты і з нейкай думкай накіраваўся ў вёску, як быццам каго шукаў, жадаў сустрэць. Але ў сяле было пуста, толькі дзе-нідзе прасунецца чалавек, мяшком галаву накрыўшы, ці ў накінутай на галаву хустай жанчына. І толькі дым, як прадвеснік слоты, слаўся і распасціраў шэрую імглу над чорнымі стрэхамі Ставіскаў.

Да самага поўдня хадзіў Тумры па загуменнях, па дарозе, па ўзлеску і, змокшы, вярнуўся. Прынёс бярэма сухога галля, кінуў і моўчкі сеў у куце. Матруна распаліла агонь, а цыган пасля нядоўгага адпачынку выбег ізноў. Пачынала распагоджвацца, вецер разагнаў хмары, і дзе-нідзе паказалася кавалкамі сіняе, на мароз, неба. Тумры ўвесь час блукаў каля вёскі. Ужо змяркалася, калі спаткаўся з дурным Янакам.

Янак нёс з млына мех, бо на гэтакі час і балота браты шкадавалі валоў, дык выправілі яго. Цяжка было глядзець, як бедны скурчаны калека, згінаючыся

пад цяжарам меха, брыў па падмерзлым балоце. Але калі Тумры з ім павітаўся, калі ён узняў свой жоўты твар, дык не было відаць на ім той пакуты і стомы, якія можна было спадзявацца ўбачыць. Нават усмешка пралятала па яго скрыўленых вуснах, а вочы блішчалі.

— А куды гэта, Янак? — запытаў цыган.— Я цэлы дзень цябе шукаю і не магу знайсці.

— Бо кепска шукаў, дарагі цыганок,— адказаў Янак, стаўляючы мех на камені.— Каб ты мяне шукаў там, дзе цячэ, дзе б'юць, дзе мокра, дзе холадна і галадна, дык напэўна знайшоў бы.

— Э,— дзіка засмяяўся Тумры,— такім чынам я быў бы павінен знайсці цябе, нікуды не выходзячы, бо ўсё гэта ёсць у нашай хаце.

— Ха! ха! ха! І голад? — запытаў Янак.

— О! І не ад сягоння... бо ўжо, дзякаваць богу, і хлеба няма.

— Ха! ха! — засмяяўся па-свойму Янак, хукаючы ў закасцянелыя рукі.— Ну дык што ж будзе?

— Слухай, Янак, калі ты не дапаможаш, то мы загінем!

Малы чалавек, пачуўшы гэта, аж узяўся са смеху ў бокі.

— Ай! ай! Каб я жыў,— выкрыкнуў,— далібог, памру ад смеху! Калі гэта дурны Янак мог бы на што іншае здацца, як секчы дровы ды насіць па балоце мяхі з млына?

— Ратуй, Янак, добрая душа! — сказаў Тумры.— Бо як не, то загінем.

— Ой, ой! Муха просіць камара, каб ён яе ратаваў! Далібог, лопну! Далібог, лопну!

— Хлеба няма,— сказаў цыган,— мукі ані пылінкі, грошай ні капейкі...

— Ну, ну, я даўно гэтага спадзяваўся, а што далей?

— Трэба ісці зарабляць у іншае месца, а Матруну пакінуць адну!

— А куды пойдзеш?

— У Рудню, да каваля.

— І заробіш? Што ты там заробіш?

— А хоць бы буханку хлеба за тыдзень. Але што рабіць з Матрунай?

— А што ж, братка цыганок, вазьмі і яе з сабой.

— Не прымуць нас удваіх.

— А што ж тады будзе? — літасціва смеючыся, спытаў Янак.— А што ж мне рабіць?

— Каб ты быў такі, як я думаю,— сказаў цыган адкрыта,— дык мо калі хоць палена дроў прынёс Матруне, а пад ноч і ў хату зазірнуў бы, хай бы мела да каго слова сказаць.

Янак задумаўся, паківаў галавой і пачаў ляпаць па грудзях сваімі доўгімі рукамі, стараючыся такім чынам трохі сагрэцца. Магло здацца, што ён не думае пра тое, што сказаў Тумры, а з-пад прыжмуранага павека сачылася ў яго сляза, выціснутая, магчыма, вячэрнім прымаразкам. Ах, бо толькі лахманы меў на сабе Янак, ногі яго былі босыя, а галаву прыкрываў дзіравы, знойдзены дзесьці на сметніку саламяны капялюш.

— Ха-ха,— сказаў на канец,— а як я табе жонку збаламучу? А не баішся гэтага, дарагі цыганок? Такі прыстойны мужчына, як я, гэта небяспечная справа.

— Эй, ты жартуеш, а ў мяне сэрца разрываецца!— выкрыкнуў цыган.— Калі можаш, ратуй, а не насміхайся з бяды.

— Ой, ой! Што я вам памагу? Паспрабую што змагу, але недалёка вы са мной заедзеце! недалёка! А ты, дарагі цыганок, думаеш, што мне так лёгка сваю хату пакінуць і пайсці да вас на службу за мерку паветра? Думаеш, можа, што мне ў маіх паноў братоў нядобра? А я ж там вылежваюся, часам нават у хаце, а бывае, і

на лаве за печчу. І такую апранаху мне даюць на плечы і бялізну нязгорш, і штодня кулаком пачастуюць, каб я не забыўся, што маю плечы. А як толькі пайду да цябе за парабка ды вярнуся да іх, дык мяне зацкуюць сабакамі і нават стары індык вочы мне выдзера... Вось такі воз-перавоз: як захачу што-небудзь зрабіць вам, дык мне прыйдзецца з панамі братамі развітацца.

Цыган маўчаў.

— Ха, ха! Дарагі цыганок, ты думаеш, што ў вас мне будзе лепш? Ад сваёй долі не выкруцішся, чалавек яе на плячах носіць і, каб невядома як яе трос, то не скіне. А свая хата — гэта свая хата. Цыганок, сэрца маё, ты гэтага не знаеш, а да яе нібы хто за нагу прывязаў! Бо я ж там нарадзіўся! Ой,— дадаў цішэй, апускаючы галаву,— і там была мая маці...

Гэтае слова зляцела з яго вуснаў ледзь чутна, а за ім уздых, а за ім сляза, і раптам дурны Янак спаважнеў.

— Дык вось слухай,— сказаў ужо інакш, змяніўшы голас,— я дзеля вас пакінуць хаты не магу, бо ў ёй хачу памерці, а калі б раз перастаў служыць ім, як вол, дык ніколі б мяне ў яе не пусцілі. Але на гэта ёсць рада.

— А якая ж рада?

— Буду служыць і ім і вам. Праўда, наб'юць мяне трохі больш, але ў мяне скура цвёрдая! Уночы пайду вашу хату пільнаваць, але не раней, чым усе ў нас паснуць, і вяртацца буду з другімі пеўнямі. А каб не заўважылі, што валэндаюся, дык буду спаць у мякінніку, хоць бы прыйшлося замерзнуць.

— Але ж цяпер зіма! Не вытрываеш!

— Ужо я ведаю, што я магу вытрываць,— сказаў, ківаючы галавой, Янак.— Гэта мая справа. Палена дроў і часамі сухі акраец майго хлеба Матруне прынясу... Будзь спакойны, ідзі ў Рудню, ідзі, цыганок,

толькі ўвесь час баюся, каб тваёй жонкі не збаламуціць.

І зноў пачаў смяяцца прыдуркавата і насмешліва.

— Хай цябе *Мродэн-ора* ўзнагародзіць! — выдыхнуў цыган.

— Хіба што гэты, бо што не вы заплаціце мне за службу, то гэта пэўна! — засмяяўся Янак.— І я такса́ма такі багаты, што не патрэбная мне плата. Вось бачыш, што я вам на нешта спатрэбіўся і яшчэ буду дабрадзеем. А гвалт, ратуйце! Дурны Янак — дабрадзей! Памру ад смеху!

Гаворачы гэта, лёгка падхапіў мех і жвава, не павартаючыся да цыгана, падскочыў з ім некалькі крокаў, а пасля азірнуўся і крыкнуў:

— Цыганок дарагі! Ты ўжо будзь спакойны. Янак не дасць зрабіць вам нічога благога, а што сказаў, тое споўніць! О! Янак вялікі пан! ха! ха! Янак дабрадзей!

І пачаў спяваць на ўсё горла, цягнучыся пасярод вуліцы і балота ў бок сваёй хаты.

Цыган пайшоў у задуме назад да могільніка і, трохі супакоіўшыся, пачаў збірацца ў дарогу.

— Я ўгаварыў Янака,— сказаў Матруне,— каб ён табе прыслужваў. На ўсю вёску адна добрая душа і тая ў такім целе, што каб яе хто сто гадоў шукаў, дык і то не здагадаўся б, што яна тут. Янак прынясе табе дроў і ўночы будзе пільнаваць, а мне світаннем трэба ісці.

Яны плакалі ўсю ноч, а развітанне было сумнае, як смерць, аднак Матруна падумала: «Як яго не будзе, дык хоць паспрабую выбегчы ў вёску». А Тумры думаў пра тое, што ўбачыць новую вёску і новых людзей. Але як падалі адно аднаму ля парога акасцянелыя рукі і зірнулі на свае збялелыя твары, на запалыя выплаканыя вочы, на пасінелыя дрыготкія вусны, як прыйшлося расстацца, дык быццам іх што прыкавала,

не маглі разысціся. Матруна не магла вярнуцца ў хату, а цыган рушыць у дарогу.

Нарэшце Тумры першы пацалаваў яе ў лоб, падняў кій і выскачыў на гасцінец так хутка, як быццам яго хто гнаў.

Бо і гналі ж яго турбота, засмучэнне, неспакой і галеча, палову якіх пакінуў Матруне, а другую ўзяў у сваю падарожную кайстру. Яму здавалася, што ўжо з гоні прабег так з закрытымі вачыма. Ён падняў галаву, глянуў і задрыжаў: насупраць адна з усяго засыпанага снегам могільніка жаўцела Лепюкова магіла, а на крыжыку сядзеў чорны крумкач, пакручваў галавой і каркаў.

Матруна засталася адна, і калі пасля адыходу мужа ўвайшла ў хату, сціснулася яе сэрца пры думцы, што не хутка ўбачыць свайго адзінага апекуна. Цяпер трэба было з усім спраўляцца сваімі рукамі, і галавой, і сэрцам, клапаціцца, каб не памерці з голаду, рухацца, каб не загінуць з нуды і тугі.

А ў хаце было так пуста, так пуста! Апрача некалькіх вераб'ёў, якія ў страсе новай ляпянкі занялі сабе кватэру і чырыкалі, парушаючы цішыню, не было тут больш нікога, ніякага стварэння: ні сабакі, ні ката, ні курыцы, якая б сакатала ў сенцах, ні галубоў на страсе, ні голасу кароўкі з хлява — ні аднаго з тых сяброў працавітага сялянскага жыцця, з якімі ўсё ж неяк весялей.

Увесь гэты дзень праплакала, не запаліла нават агню і праседзела ў куце на ахапку саломы, укруціўшыся ў кажух і світку, не адчуваючы, што мерзне і касцянее.

Было ўжо цёмна, калі пачуліся каля хаты крокі, хтосьці зашастаў у сенцах, скінуў абярэмак дроў, і вось праз прачыненыя дзверы паказалася калматая галава Янака.

— Добры вечар, гаспадынька! — гукнуў весела.—

Вось і я, ваш вартаўнік і парабак! А што ў вас нават і агню ў печы няма?

— А! Дай табе бог здароўя! — адказала Матруна.— Дай табе бог здароўя, што ты прыйшоў, а то пад ноч мне ўжо пачынала рабіцца страшна. Не паліла ў печы, бо мне чамусьці не хацелася, а холаду не чула.

— Ну дык я падпалю,— сказаў, увайшоўшы, Янак.— З агнём неяк весялей! Прынёс я трохі бульбы і бохан хлеба і яшчэ што змог знайсці, бо ў вас, мне здаецца, запасаў няма.

Гаворачы гэта, палажыў на лаву свой клунак, сабраў сучкоў і трэсак, выкрасіў агню і, як найлепшая гаспадыня, пачаў завіхацца каля печы.

— Ой! Штосьці ў вас,— сказаў, разглядаючыся па хаце,— вельмі кульгавая гаспадарка. Матруна, што з табой сталася? А гэта ж, бывала, хвалілі цябе на ўсю вёску, што ты такая ўвішная гаспадыня!

— Эх, Янак! — шапнула, уздыхаючы, жанчына.— Была гаспадыня, як было на чым гаспадарыць, а цяпер...

— Ну, гэта не штука,— адказаў, усміхаючыся і заікаючыся, Янак, які ўсё яшчэ мітусіўся каля печы,— не штука гаспадарыць, як ёсць на чым, але як няма ■ чаго, а ўсё ж нейкі парадак бывае і ўсё такое...

— Ведаеш, якая наша доля... у мяне ўжо рукі апалі.

— Гэта дрэнна! Ха! ха! Гэта вельмі дрэнна, Матруна! Як ты апусцішся, дык і муж твой нічога не парадзіць.

— Ані ён, ані я... загінуць нам давядзецца.

— Ай, каб жа чалавек мог тады загінуць, калі захоча, і адысці тады, калі яму блага. Вось у тым і бяда, што худы сабака найдаўжэй жыве, не забіваюць яго дзеля скуры...

Гаварыў, разглядаючыся па хаце, мыў гаршкі,

стаўляў ваду і ад часу да часу кідаў вокам на Матруну, якая сядзела ў кутку здранцвелая і маўклівая.

— А вось і навіны ў нас ёсць! — сказаў праз нейкую хвіліну.— Вы, бачу я, нічога не ведаеце, што робіцца ў вёсцы і ў двары, калі ты мяне нават не распытваеш!

— Аднолькава мне як з гэтым, так і без гэтага,— адказала абыякава жанчына.

— А можа, і не вельмі,— перапыніў Янак.— Гэта ж яшчэ пазаўчора вярнуўся наш пан з-за мораў.

— Пан вярнуўся? А пані? — ажывілася жанчына.

— Вось пачакай,— сказаў Янак,— вось зараз раскажу, як яно было. Ты ведаеш, што на паншчыну ніколі мяне не выпраўляюць, бо гэтакага недарэку аканом не ўзяў бы, хіба за дзіця ці бабу. Дурны аканом, ён не ведае, што я за двух зраблю, хоць і выглядаю на паўчалавека. Учора выправілі мяне з брацїхай да малатарні... Там я ўсяго даведаўся. Абы былі вушы, дык у двары можна рознага наслухацца: там варыцца як у катле!

Зацікаўленая Матруна ўстала і, наблізіўшыся да печы, дзе гарэў агонь, прысела. Янак варыў вячэру.

— Войт, гуменны, аканом і ўся грамада,— працягваў,— не рабілі, а толькі ўсё гаварылі і гаварылі пра пана, які вярнуўся.

— Чаму ж ты Тумраму пра гэта не сказаў? — запытала Матруна.

— Я думаў, што ён ведае,— адказаў Янак.

— Мы тут, як у пустыні! — сказала жанчына.— Што мы тут можам ведаць? Хіба хто памрэ ў вёсцы, дык прывязуць на могільнік. А што ж там казалі?

— О, зараз,— ужо разгаварыўшыся, працягваў Янак,— бо найперш трэба ведаць, што дзесьці там далёка памерла пані, а пан, чуваць, вярнуўся адзін.

— Памерла! — крыкнула з жалем, пляснуўшы ў далоні, Матруна.— Ах! я няшчасная!

— Ну, ну! Не лямантуй, бо, можа, Гарасімовіча пазбудземся,— сказаў Янак,— гэта дакучлівае ліха... Пан, кажуць, як паехаў жоўты, бледны і слабенькі, дык і вярнуўся не лепшы. Нічога яму там дактары не памаглі. Адразу, кажуць, як толькі пераступіў парог, загадаў паклікаць капітана і штосьці такое яму сказаў, што капітан паляцеў у флігель і зразу ўзяўся пакаваць свае рэчы. Кажуць, што выедзе... За нешта сварыліся, і пан кінуў яму ў твар нейкія паперы... Вось што кажуць людзі. А цяпер уся абшчына пойдзе ў двор са скаргай на Гарасімовіча.

— А ў нас жа ўся надзея была на пані! — уздыхнула Матруна.— Няма яе, памерла, бядачка!

— Праўда, гэта ж яна вас пажаніла,— сказаў Янак,— вядома, што будзеце яе шкадаваць... і карову вам дала... Гм! але няма за што ёй дзякаваць, бо да большай давяла вас бяды. І так ваша доля вас не мінула б... Ды і пан неблагі, каб толькі не яго лянота, праз якую часам рот адкрыць да чалавека не хоча... Маглі б вы схадзіць да яго.

— Дарма! — ціха сказала Матруна.— Дарма гэта!

Янак глянуў на яе, варухнуў плячыма і пачаў ламаць каля печы сучкі, каб падкінуць іх у агонь.

— Мне трэба будзе ісці,— сказаў,— але на хату наглядаць здалёк буду. Вось тут галлё і лучына, свяці, пакуль не заснеш... Каб хацела добрай рады паслухаць, дык бы гэтак рук не апускала... Як чалавек варушыцца, дык яму неяк лягчэй... Дабранач, Матруна! Я тут недалёка пераначую...

Матруна, ізноў спусціўшы галаву, нічога Янаку не адказала, толькі пачала ўглядацца ў агонь, які асвяціў на яе твары дзве вялікія слязы. Так яна развітвалася з жанчынай, фантазія якой у большай меры, чым сэрца, звязала яе навек з лёсам цыгана.

«І яна памерла,— гаварыла ў думках,— а мне часам марылася, што яна вернецца, што паможа, што

хоць яна злітуецца. Бог яе забраў, каб і гэту надзею ад нас адабраць».

Пры такіх думках, даўшы патухнуць агню і астыць гаршкам, бедная цыганова жонка праседзела дапазна. У начной цішы чуваць былі ў вёсцы ўжо трэція пеўні, калі сон стуліў яе павекі. Нараніцы ізноў з'явіўся Янак, які злятаў дахаты, каб паказацца братам, і вярнуўся дапамагчы Матруне распаліць у печы.

Здзівіўся, убачыўшы, што яна спіць на тым месцы, дзе ён яе вечарам пакінуў, што агонь не папраўляны, і гаршкі астылі і нечапаныя.

Рып дзвярэй разбудзіў жанчыну, а полымя агню прывяло яе ў свядомасць.

— Э! э! Матруна дарагая! — адазваўся па-свойму Янак.— Нешта ты ў мяне не папраўляешся, нічога і цябе не будзе! Якая з цябе гаспадыня — драмаць пад печчу! І не вячэрала, і абед варыць не думае! Я за цябе ўсяго парабіць не змагу, варушыся і сама!

— Да чаго? — запытала жанчына.— Да пустых вёдраў і да парассыханага посуду?

— А чаму пустыя вёдры? — запытаў Янак.— Гэта ты вінаватая! Чаму посуд парассыхаўся? Не праз каго, а толькі праз цябе.

— Праз мяне?

— Даўней, бывала,— гаварыў дурны Янак,— Матруна працавала і за сябе, і за цыгана: ваду насіла, хату ляпіла, завіхалася, аж міла. Я не раз здалёк бачыў. А цяпер яе не пазнаць! Сорам! сорам!

— Што гэта ты мяне лаеш, Янак?

— А мушу я, Матруна дарагая,— адказаў, увесь час завіхаючыся каля хаты, парабак,— бо мне за цябе сорам! Важная з цябе жонка і гаспадыня! У хаце не намецена, у печы патухла, гаршкі не мытыя! Замест каб памагаць цыгану, ты будзеш яму займай. Уставай да работы!

Неяк так шчасліва і смела прамовіў Янак, што Мат-

руна сарвалася з лавы і падбегла да агню. Ён засмяяўся і знік.

«Сапраўды,— гаварыла сабе ў думках жанчына,— можа, дурны Янак і праўду кажа: што я выседжу пад печчу».

Раптам у сенях штосьці заскавытала і засакатала.

— А гэта ж што? — падняўшыся, запытала жанчына, і сэрца яе забілася на голас жывёлы, бо і гэтага так даўно не чула, і раптам яскрава прыпомнілася ёй родная хата!

— Гэта ж курыца ў сенях кудахча і штосьці скавыча!

Адчыніла дзверцы, пасвяціла лучынай.

Сенцы ад двара былі зачынены, [redacted] ў іх варушыліся дзве прыгожыя курачкі і малады жвавы пеўнік, які, убачыўшы святло, ускочыў на парог, узмахнуў крылом і запяяў. У Матруны аж сэрца забілася.

— Ах, мой божа! — выкрыкнула.— Чубатыя, чубаты! А якія ж прыгожыя!

Тут жа пад парогам варушылася маленькае шчаня, яно скавытала і поўзала, не могучы пералезці цераз парог, які на яго ножкі быў завысокі.

— І сабачка! а! гэта будзе Каштан! — крыкнула, хапаючы на рукі рудога шчанюка, які ад страху пішчаў.— Добры, чалавечны Янак! А хай жа дасць яму бог здароўя! Напэўна, украў дзесьці мне і шчанюка, і курэй, бо ў хаце яму б іх не далі.

Тым часам куры паўскоквалі ў хату і пачалі разглядацца па новай кватэры, разбягаючыся па кутах, а Матруна вадзіла за імі вачыма.

— Якія ж прыгожыя, якія сыценькія! якія жвавыя! — выкрыквала весела, ходзячы за імі з сабачкам на руках.— Выгадую Каштана на вартаўніка нашай хаты, а [redacted] курэй...

Задумалася.

— А чым жа я іх буду карміць?

Затужыла Матруна ад гэтай думкі. Сапраўды, ні на сметніку ля ўбогай ляпянкі, ні ў хаце голай і пустой не было чым нават курыцы пажывіцца, такое дарагое было тут кожнае зярнятка, нават кожны пылок... Пачала разглядацца па кутах, быццам шукаючы корму сваёй жыўнасці, і толькі тады заўважыла клуначкі, якія прынёс з сабой Янак.

Было там нават трохі зерня горшага гатунку, якое яна паспешліва пасыпала на падлогу. Думаючы таксама, чым накарміць шчанюка, знайшла хлеб, які разбудзіў і яе апетыт, прыглушаны дагэтуль сумным здранцвеннем.

Вось так стараннем добразычлівага Янака, які ўжо ў той дзень больш не паказаўся, Матруна атрымала занятак, сяброў, голас, які яе будзіў, і нейкую новую мэту ў жыцці, поўным дагэтуль аднастайна хаўтурных дзён.

Дурны Янак ганарыўся даверанай яму апекай і працаваў за чатырох, каб усюды паспець, а дома не выдаць сябе са сваімі экскурсіямі да могільніка. Хоць не вельмі многа мог прыхаваць ад сваіх Матруне, аднак тое-сёе цішком ёй прыносіў. Не цураўся крадзяжу і не лічыў гэта благім учынкам, калі браў кавалак хлеба, трохі стравы, гародніны ці нават пару курэй цыгановай жонцы. Праўду кажучы, усё, чым узбагачваў ён ляпянку, не выключаючы і шчанюка, было крадзенае, але так спрытна, што ніхто не мог злодзея высачыць. Пасля ўжо сам Янак, выпраўлены на пошукі, шукаў у вёсцы таго, хто ўкраў, а вечарам туманіў братоў і сёстраў апавяданнямі пра ўсе суседскія куратнікі, у якіх ён пабыў. А наконт шчанюка дык казаў, што быццам схапіў яго бондараў сабака-ненажэра, а як пра яго мала дбалі, то і знікненнем яго не вельмі засмуціліся.

З вялікімі цяжкасцямі прыходзілася Янаку спраўляцца з абавязкамі ў дзвюх хатах, якія знаходзіліся далёка адна ад другой. Аднак ён стараўся як мог і пра

сябе не думаў. Дома ўзвальвалі на яго самую цяжкую працу, якую ён адбываў як быццам ляніва, дык знахозіў час падбегчы да могільніка і наглянуць на цыганову хату. Матруне не трэба было ні хадзіць па ваду, ні думаць пра дровы, ні клапаціцца пра хлеб, яна занялася курамі і шчанюком.

У нядзелю зрання надбег Тумры. Быў ён бледны, жоўты, зашмальцаваны, але прынёс трохі збераженага хлеба і грошай. Вельмі здзівіўся, убачыўшы Матруну вясялейшай, калі вітала яго на парозе і хвалілася багаццем свайго панадворка, а найболей сабачкам, які ўжо пачынаў вурчаць і брахаць.

Слёзы паказаліся ў вачах у цыгана, як жонка пачала яму расказваць пра Янака, аднак жа ён адначасова і ўстрывожыўся пры думцы, адкуль усё гэта мог бедны недаростлік здабыць.

«Не можа інакш быць, як *цюрава* (крадзеж),— сказаў сабе ў думках.— Добразычлівы *цюрахан* (злодзей), але як раскрыецца зладзейства, дык на яго ніхто не падумае, а ўся бяда зваліцца на нас!»

Не асмеліўся, аднак, сказаць гэтага Матруне, якая так цешылася сваёй гаспадаркай, што пры ёй і Тумры таксама павесялеў.

— А ведаеш,— сказала праз момант,— гэта ж і наш пан вярнуўся і, чуваць, капітана выгнаў, а наша добрая пані памерла!

— Трэба ісці ў двор! — сказаў цыган, не столькі ўражаны смерцю пані, колькі вяртаннем пана.— Можа, ён нам чым дапаможа.

— Гэтак і Янак радзіць! — дадала Матруна.— Але ты не ведаеш пана. Да яго цяжка даступіцца. Некалькі дзён трэба хадзіць, пакуль вымавіць слова, а такі хворы, такі ён сонны, што сам пра чалавека не падумае.

— Што ж, паспрабую! — сказаў Тумры.

І вось пасля паўдня, трохі абмыўшыся, не без страху паваложся цыган у двор.

Але, прыйшоўшы сюды на дзядзінец і адагнаўшы сабак, якія заядла на яго брахалі, мусіў стаць воддаль ад ганка і чакаць змілавання лёсу і людзей. Праходзілі слугі, міналі, але ніхто не звяртаў на яго ўвагі. Нарэшце нейкі запытаў, чаго ён тут, і, пачуўшы адказ, махнуў рукой, другі кінуў слова, што пан не мае часу, дык цыган мусіў стаяць і стаяць. Не ўмеў ён, як тыя, што часцей у двор ходзяць, падсунуцца пад акно, закашляць пад дзвярамі і так збрыдзець сваёй настырнасцю, што іх адправяць ні з чым або паклічуць у сені. На шчасце, пан Адам зірнуў, пазяхаючы, праз шыбу і ўбачыў нахмуранага, з адбіткам тугі на твары, цыгана, які, абапёршыся аб дрэва, і вачыма, улепленымі ў зямлю, як здранцвелы, чакаў, што пашле лёс, не смеючы дзейнічаць.

Пан Адам ізноў нудзіўся, як і раней. Паехаў з жонкай за мяжу лячыць сваю асавеласць, але нідзе даўжэй чым некалькі тыдняў без пазяхання не вытрываў. Француза шалела, цягаючы яго за сабой, як прыкаванага нявольніка, а ён толькі нецярплівіўся або, зусім астыўшы да ўсяго, смяротна нудзіўся. Лёс так вырашыў, што гэта выпадкова звязаная сям'я развалілася хутчэй, чым можна было спадзявацца. Пані Ле Рокс, пазней жонка пана Адама, прастудзілася, выходзячы з балю ў акружэнні натоўпу паклоннікаў, якіх ёй заўсёды хапала, падхапіла сухоты і памерла.

Гэта здарэнне спыніла манатонію жыцця пана Адама хвілінай сапраўднай роспачы, бо адразу здавалася, што ён пойдзе ўслед за жонкай, так быў да яе прывязаны, такое вялікае ўражанне зрабіла на яго яе страта. Аднак, калі, падтрымоўваючы свой жаль, па нейкім часе пачаў пан Адам парадкаваць пакінутыя жонкай дробязі, натрапіў на яе паперы, якія з жалю перакінулі яго ў гнеў. Столькі знайшоў там любоўных цыдулак, столькі доказаў ашуканства, столькі і сябе насмешак, што пры найбольшым жаданні засляплення змушаны

быў з пагардай адкінуць памяць той, якая так бесцырымонна з яго здзекавалася.

Вярнуўся на радзіму да даўнейшага жыцця і знойдзеныя пісьмы капітана Гарасімовіча адразу кінуў яму ў твар, даючы адправу. І ўсё ж капітан спрабаваў застацца ў Ставісках, разлічваючы на слабасці пана Адама, бо кіраванне маёнткам і чужым жыццём было яму вельмі выгадным, але гэта яму не ўдалося.

Адам, выслухаўшы скаргі сялян, якія яшчэ прыбавілі гневу, праз некалькі дзён усё ж былога фаварыта сваёй жонкі адправіў.

І вось ізноў двор у Ставісках стаяў пустатой, засялены найстрашнейшай ад усіх нудот: нудой і пярэсыці, знямогі, бяссілля. Нічога на свеце не было Адаму смачным, нічога не магло яго забавіць: коні, сабакі, людзі былі яму аднолькава абыякімі. Усе дні міналі ў паўсоннай задумлівасці сібарыта, які толькі думае пра тое, чым сябе разбудзіць. Прыходзілі яму на думку жаданні Неронаў і Калігулаў, дык уздыхаў, шкадуючы, што для ўцехі не можа спаліць Рыма, каб пасля праславіць песняй пажарышча, або ажаніцца з канём, багатварыць жывёліну, а люд, які б яе ўшаноўваў, ператварыць у быдла...

Яго людзі не маглі даць рады здзівачэламу такімі недарэчнымі і неспадзяванымі жаданнямі і гневам пану.

Здараліся, праўда, дні лагоды і бяссільнай дабрыні, у якія ён выслухоўваў кожнага з абыякавай усмешкай. А іншым разам кідаўся, распальваўся, біў і шалеў без прычыны. Пасля такога страшнага выбуху наставалі цэлыя дні апатыі, маўклівасці, нерухомасці, перарываныя вулканічнымі выбухамі. Часамі дапускаў слуг амаль да фамільярнасці, слухаў апавяданні, здавалася, цікавіўся іх лёсам, а назаўтра прысякаў не толькі словы, але нават рух ці шэлест, якія яго закранулі.

Такі быў пан Адам, распешчаны духоўнай бяздзейнасцю і гультайствам. На цыганова шчасце, дзень, у які ён прыйшоў, быў днём дабрыні. І пан, глянуўшы праз шыбу на чалавека, які ўжо некалькі гадзін стаяў у нерухомым чаканні, пачаў неяк параўноўваць сваю гаротную долю з яго доляй.

— Слота, холад! Як можа гэты чалавек вытрываць? Мае, відаць, нейкую пільную справу, калі так упарта стаіць.

Яшчэ паўгадзіны праходжваўся пан Адам па пакоі, штораз паглядаючы праз акно на цыгана і назіраючы за ім так, як натураліст разглядае чарвяка. Гэта яго займала, і ён не спяшаўся высвятляць загадку. Нарэшце, калі ўжо пачынала цямнець, а Тумры ўсё яшчэ не зрушыўся з месца, выправіў чалавека з загадам паклікаць яго ў пярэдні пакой.

Тут пан расселся з люлькай у падсунутым яму мяккім крэсле і пачаў забаўляцца прышлым.

— Слухай,— сказаў,— хто ты такі і чаго ты тут стаіш у мяне пад вокнамі?

— Я каваль...— адказаў Тумры.— Цыган...— дадаў цішэй.

— А! а! Прыпамінаю штосьці, нейкая гісторыя з жаніцьбай! мая жонка... Што гэта было?

Цыган, якому не месцілася ў галаве, каб хто мог забыцца пра яго балючую галечу, вялікімі вачыма зірнуў на санлівага пана.

— Гавары мне ўсё,— сказаў Адам,— ад пачатку, бо я нічога не помню.

Нялёгка было цыгану расказваць з прычыны раздражнення і неспакою, якія гэты застылы пан у яго выклікаў, і здавалася, што ён нічога не адчуваў і нічога не памятаў. Усё ж так-сяк выклаў цыган сваю гісторыю, а пан Адам выслухаў яе, не перапыніўшы ні адным словам.

Хоць у апавяданні быў толькі шкілет цяжкога лёсу маладой пары, з якога нельга было ўявіць, што яна выцерпела, панічык, здавалася, зацікавіўся кавалём.

«Смешная была думка ў маёй жонкі,— падумаў,— пажаніць іх, сабаку з катом, і выставіць на збыткі вёскі. Цыган пайшоў бы сабе далей, а дзяўчыну выдалі [redacted] замуж у вёсцы. А так! Што тут парадзіць?»

— Чаго ж ты хочаш? — запытаў у цыгана, хвіліну падумаўшы.— Загадаць, каб цябе любілі, не магу, а з грамадой, як затнецца, цяжкая справа. Ці не лепш было б, каб ты падаўся ў іншае месца?

— Куды і з чым? — запытаў цыган.— Я паставіў тут хату, хапіла тут майго поту на гэтай зямлі. А жонцы і не пара і не пад сілу пакінуць вёску, дзе нарадзілася і да якой прывыкла... Каб мне трохі дапамогі, каб была такая-сякая кузенька, людзі ўсё ж мусілі б да яе прыйсці, спярша чужыя, а пасля і свае...

Пан Адам усміхнуўся, паківаў галавой.

— Паспрабуй, калі хочаш,— сказаў абыякава.— Я табе памагчы памагу, але ведаю, што гэта дарэмна.

Гаворачы гэта, дастаў грошы з кішэні, адлічыў некалькі дзесяткаў злотых і кінуў іх на стол, але [redacted] такой пагардай, так неяк неахвотна і без сэрца, што гэты добры ўчынак ледзь не абурыў цыгана.

Мусіў, аднак, прыняць падачку і, заплаціўшы за яе яшчэ размовай, з якой пан Адам атрымаў трохі забавы, пайшоў весялейшы дахаты.

«Трэба будзе калі-небудзь пад'ехаць пабачыць тую хату за вёскай, пра якую мне ўжо людзі ўспаміналі,— сказаў сабе ў думках Адам.— Кажуць, што гэта сапраўды штосьці цікавае. Шчаслівыя людзі... Як ім хочацца жыць! Як нямнога ім трэба!»

І пачаў зноў пазяхаць, кіруючы думку на іншыя справы, а тым часам цыган ляцеў да Матруны пацешыць яе лепшай надзеяй. Панскай міласціны магло б хапіць на кузню і на такія-сякія прылады, калі адразу

ўзяцца за працу. Але яшчэ трывала зіма, і нельга было пачаць.

Матруна, убачыўшы мужа здалёк, выйшла насустрач і пазнала па яго бадзёрым руху, што вяртаецца ён не з пустымі рукамі.

Зірнула на грошы і ўсміхнулася, складаючы рукі.

— Ну? Што мы цяпер зробім? — запытала.

— Мушу паставіць кузню! — сказаў Тумры.— Але зіма, не пара, нічога нельга рабіць. Калі мы гэтыя грошы кранём, вясной не будзе за што зачапіць рукі. Дык трэба ізноў ісці працаваць на хлеб, зноў чакаць!..

— А можа б, хапіла гэтага і на хлеб і на кузню?— запытала Матруна, гледзячы на грошы.

Цыган паківаў галавой.

— Не,— сказаў,— *ловы* (грошы) хутка выходзяць, абы іх толькі крануць! Другі раз мы іх не атрымаем, а тут і на пабудову, і на *траст* (жалеза), і на ўсё іншае шмат трэба. Закапаем іх у хаце і будзем чакаць вясны. Вясна недалёка.

— Недалёка,— уздыхнула Матруна,— пачакаем, пачакаем.

— А цяпер неяк весялей будзе чакаць,— адказаў цыган.— Убачым, што скажуць у вёсцы, як тут на гары молат грукне і комін задыміць...

Памалу цягнучыся па снягах, слотах і адлігах, праехала нарэшце доўгая зіма, а ў ляпянцы пад могільнікам яшчэ нічога не змянілася. Толькі Янак, які прызвычаіўся слугаваць жонцы цыгана, прывязаўшыся да абаіх, бо адны яны гаварылі з ім як з чалавекам і любілі яго, як брата, загадзя падрыхтаваў глыбокі кошык на калыску і, не хочучы яшчэ яго паказваць, каб не наклікаць урокаў, прывязаў да яго вяроўкі і павесіў на гарышчы, каб зняць у адпаведны час.

Тумры ўвесь час хадзіў у Рудню на работу, і дзеля таго, што добра ведаў сваё рамяство і працаваў шчыра, майстар ахвотна ім выслугоўваўся, тым больш што

плаціў зусім нямнога. Рудзенскія людзі насміхаліся са ставішчан, што, маючы пад носам такога каваля, хадзяць да чужога за вярсту, ■ то і далей. Здаралася, што, калі ў Рудню прыходзіў хто са Ставіскаў і Тумры яго абслугоўваў, замяняючы майстра, ніхто ніколі не зачапіў цыгана ні адным словам.

Ледзь толькі пачала зіма адступаць і паказалася зелень, Тумры наняў чалавека і ўжо не адзін працаваў каля кузні; ён спяшаўся, бо разлічваў на тое, што хутка пачнецца рабочы час, людзям спатрэбіцца каваль і яны да яго прыхінуцца.

Усіх грошай, дадзеных панам Адамам, ледзь хапіла, каб скляпаць мізэрную клетку, накрыць яе дранІцай, купіць самых неабходных кавальскіх прыладаў, недастатковых для лепшай работы, але дастатковых для сяла, у якім змайстраваць падоскі да калёс, падкаваць каня, паправіць нарог, плуг ці барану было найважнейшай працай каваля.

Муляр, які паставіў з купленай цэглы гарно, рамеснік, які сшываў мех, забралі апошнія грошы, але праз некалькі тыдняў кузня была амаль гатовая. Аднак, пакуль усё гэта было наладжана, веснавая сяўба закончылася, а Тумры не меў яшчэ ні абцугоў, ні молатаў. Тады пачаў бядак разлічваць на касьбу і на жніво, на сярпы і косы, на асеннюю сяўбу і плугі.

Вось ужо здавалася, што усё гатова, што толькі падпаліць вуголле і можна станавіцца да працы. Але ўсё чагосьці не ставала, важнага і вельмі патрэбнага, дык трэба было альбо бегчы ў мястэчка, альбо рабіць самому.

Ужо канчалася вясна, калі ўрэшце аднаго дня стомлены Тумры ўвайшоў у хату і зваліўся на лаву, сказаўшы:

— Ну, дзякаваць *Мродэн-ора.*— Але тут жа паправіўся: — Дзякаваць богу, кузня закончана, і хоць заўтра можна надзяваць фартух.

Калі дагаворваў гэтыя словы, у хату ўсунуўся задыханы Янак і, стукнуўшы цыгана па плячы, крыкнуў:

— Ха-ха! Вялікая навіна! Вялікая навіна!

— Што з табой, Янак? З чым гэта ты так прыляцеў? — з сардэчнай усмешкай запытала Матруна, якая гэтага бедака шчыра палюбіла.

— На гоні ад вёскі,— сказаў Янак,— вяртаючыся з лесу, я сустрэў гурт цыганоў, якія сталі на лузе на начлег.

Тумры здрыгануўся, замармытаў нешта незразумелае, а Матруна інстынктыўна заламала ў сполаху рукі.

— Чаго ж яны сюды прыйшлі? — адазвалася.— Па што?

Сэрца яе білася, сама не ведала, ад чаго, і яе ахапіў нейкі страх. Тумры выразна быў узрушаны і занепакоены, але стараўся паказацца абыякавым.

— А што нам тыя цыганы? — сказаў павольна.— Прыйшлі, дык і пойдуць пераначаваўшы!

— Аднак ты, дарагая Матруна, пільнуй свайго мужа, каб цыганы яго як свайго не схапілі,— дадаў дурны Янак.

— Гэта ўжо бяда, калі каго трэба пільнаваць,— адказала жанчына.

— Сцеражонага бог сцеражэ! — адказаў госць.— Але мне трэба ісці дахаты... дабранач!

Завярнуўся і пабег.

Тумры і Матруна засталіся ўдваіх задуменныя і сумныя. Думкі абаіх ляцелі да цыганскага шатра. Асабліва муж круціўся і хадзіў па хаце, нібы яго прыпякала, не мог і хвіліны ўседзець на месцы. Час ад часу жонка кідала на яго цікаўным вокам, і выраз яго твару палохаў яе. Ніколі яшчэ не бачыла Тумрага такім, як сягоння: губы яго трэсліся, чорнае вока гарэла, з лоба сцякаў пот, ноздры былі раздзьмутыя, а грудзі ўздымаліся і ападалі, як быццам збіраліся разарвацца.

Селі вячэраць, але цыган не дакрануўся ні да чога, усё хадзіў маўклівы, хмурны, нібы звар'яцелы. Як быццам уцякаў ад парога, але яго туды цягнула, здавалася, што ў яго дрыжыць рука, каб схапіць клямку, аднак перамагаў сам сябе. Ён быў як атлет, які змагаецца з дзікім зверам, так ваяваў ён сам з сабой і кідаўся ў нейкай пажадлівасці.

— Слухай, Матруна! — сказаў, стоячы пасярод хаты.— *Ромы* (цыганы) могуць мне ўсё сапсаваць. Я спяшаўся з кузняй, спадзеючыся на рабочую пару, што вёска будзе змушана прыйсці да мяне, а калі яны пастаяць тут са сваёй, усе пойдуць да іх, і мы прапалі.

— Чаму яны лепш пойдуць да іх, чым да нас? — запытала Матруна.

— Тыя ім нічога не зрабілі, а я ім віноўнік.

— Дык якая на гэта рада? — запытала жанчына, узнімаючы на яго вочы.

— Якая? — выкрыкнуў Тумры.— Якая? Я сам не ведаю... Пайду да іх і скажу, каб ішлі сабе далей...

— Ты! Ты да іх?! — крыкнула, зрываючыся з месца, жанчына.— Чаго? Каб цябе пацягнулі з сабой, каб ты загінуў ад іх рук? Каб цябе забілі, атруцілі, зачаравалі? Не! не! Я цябе не пушчу, і ты не пойдзеш!

Гэтыя словы вымавіла так палка, кідаючыся яму на шыю, што Тумры адразу змоўк, спалоханы яе болем; смяротная бледнасць укрыла яго твар, і ён апусціў галаву, як асуджаны на смерць.

— Ну! Дык загінем, калі мне не верыш, Матруна,— сказаў як быццам спакайней.

— Я табе давяраю, я табе веру, але ім даверыць не магу... Цыганы будуць табе помсціць за тое, што ты ад іх пайшоў...

Тумры неяк здзекліва засмяяўся.

— Гэтак ты ведаеш цыганоў,— сказаў памалу.— А за што ж бы яны помсцілі? Колькі ж з іх ужо пася-

лілася на землях і гаспадарыць на месцы! Ці чуў хто аб помсце ім?

— Але яны чараўнікі! — перапыніла яго Матруна.

— На чары ёсць чары,— адказаў нахмураны Тумры,— а мой зрок таксама лічыцца моцным, бо ніякая сіла яго не перамагла.

Матруна, на якую ён глянуў тым пранізлівым зрокам, задрыжала і спусціла вочы. Сапраўды адчула, быццам гарачае жалеза прабівала яе сэрца, быццам жалезны ланцуг сціснуў яе грудзі, аж не хапала духу, а ў галаве дзіўна круцілася і вілося.

— Скажы лепей, што мне не верыш,— закончыў цыган,— а не баішся за мяне. Страшней мне тут паміж тваімі, чым сярод нашых братоў *ромаў*, а вось бачыш, што я жывы і цэлы.

— Але ж чаго да іх ісці? — з ціхім упрошваннем шапнула жанчына.

— Каб чым хутчэй іх адгэтуль выправіць!

Матруна больш нічога не адказала, Тумры глянуў на яе, заўважыў ціхія слёзы і зноў пачаў хадзіць па хаце ў такой гарачцы і так шалёна, што здавалася, разваліць ляпянку, бо біўся ў ёй, як у клетцы.

А лгаў, бедны! Лгаў, шалёны! Бо не страх цягнуў яго да таго вогнішча, а сэрца, а ўспаміны, тая таямнічая сіла вузлоў калыскі, ланцугоў памяці, якія абрывае хіба толькі старасць, аслабляе хіба шчасце. Тумры не меў яшчэ часу забыцца ні пра свае вандроўкі па свеце, ні пра чорныя агністыя вочы Азы, ні пра пахі цыганскай *какабіі* (катла), ні пра свае бадзянні, песні, голад, холад, ганенні і помсты!

А так па-мастацку склаў тварэц кожнае жыццё, што, як зернетка ў плодзе, знаходзіцца ў ім крыха шчасця, насенне ўцехі! Боль уздымае, голад адбірае розум, галеча экзальтуе, ганенне ўмацоўвае чалавека, і на дне тых паражэнняў заўсёды знойдзеш зброю, якой можна іх перамагчы. Калі пакута дойдзе да мяжы, з

яе самой вырываецца супраціўная сіла, якая не дае яе адчуць.

Тумры, хоць шмат адпакутаваў, цяпер, калі шрамы пагаіліся, калі крывавілі яго новыя раны, бачыў у мінулым толькі асалоду, колеры, перамены і рух, па якіх сумаваў. Сэрца, узбуранае адным словам, імкнулася ў бок братоў, а думка кружылася ў чароўным коле ўспамінаў дзяцінства.

«Ану ж, гэта яны? — пытаўся ў думках у самога сябе.— Аза, Апраш, старая Яга, Пагабай, Пуза... Ану ж, гэта тая самая палатка, пад якой столькі кропляў майго поту ўпала на зямлю? І скрыпучы *вэрдэн*, і сляпы конь... Ах, каб іх убачыць! Невядома, ці жыве Апрашава жонка? І дзеці? Як быццам іх бачу! Прыпыніліся, пэўне, пад лесам у даліне, не асмельваюцца ісці ў вёску... распялі палатку... Апраш сядзіць з тварам, павернутым да агню, бо яго яму ніколі не лішне, жонка яго маўчыць і калыша дзіця, Яга менціць языком, хлопцы скачуць, конь пасецца на папары... Ах, як ім там добра, хоць і не маюць хлеба! Як вольна! Каб хоць толькі іх убачыць!»

Матрунін позірк, здавалася, прабіваў цыганоў чэрап наскрозь і чытаў яго думкі, бо, бедная, штораз станавілася сумнейшай, а Тумры шалеў штораз выразней.

Бог адзін ведае, колькі было гадзін ночы, калі пры ачахлым агні ляглі нарэшце спаць, а цыган, укруціўшыся ў радзюжку, схаваў галаву, каб не паказаць, што не спіць.

Няспынна кіпела ў ім усё тое ж жаданне зірнуць хоць здалёк на цыганоў. І барацьба з палкім жаданнем у чалавеку, які не ўмеў паўстрымоўвацца, хутка перайшла ледзь не ў шаленства і гарачку. Стома пасля працы стуляла яму вочы, а цыганы цягнулі да сябе; засынаў, драмаў, будзіўся, енчыў і, рвучы чорныя грудзі, апынуўся ўрэшце ў дзіўным стане, які не быў ні сном, ні явай.

Выключныя станы душы нараджаюцца ў чалавеку пад уплывам дзіўных сіл, якія ўзмацняюць іх і падымаюць коштам усяго арганізма, а той праз паслухмянасць думкам здольны тварыць цуды. Вось так хвароба, што мучыць цела, прыводзіць часам душу да незвычайных узлётаў...

Ледзь толькі Тумры заснуў, як адчуў сябе падуладным нейкай незвычайнай сіле і ўстаў, увесь абліты потам, проста кіруючыся да дзвярэй. Матруна яшчэ не спала, апошні праменьчык агню асвяціў цыгана, якога няшчасная спалохалася, не смеючы ні дыхнуць, ні крыкнуць, ні ўтрымаць яго. Заламала толькі рукі і апусціла галаву, каб яго такім страшным не бачыць.

Тумры здаўся ёй нейкім волатам, так выпрастаўся ён пад націскам нябачнай сілы. Валасы яго ўздыбіліся, вочы сталі нерухомымі і шклянымі, бровы наморшчыліся, а ва ўсім ім была такая нестрыманая воля, што жонка нават не падумала выступіць супраць яе са сваімі слязьмі.

Драўляным крокам шкілета накіраваўся да дзвярэй, адчыніў іх дотыкам рукі і, пакінуўшы адчыненымі, знік у цемры.

Жанчына сарвалася з пасцелі і, уся дрыжучы, выбегла следам, каб убачыць, што ён будзе рабіць. Пры бляску месяца магла назіраць, як выйшаў з хаты, павярнуў у бок могільніка і, пасоўваючыся ўсё тым незвычайным ходам, знік, як прывід, стралой панёсся да невядомай ёй мэты.

Хацела бегчы за ім, але сілы яе пакінулі, дарэшты зблыталася ўсё ў галаве і ў сэрцы, схапілася толькі за грудзі, абсунулася і павалілася на парозе. Крыку, які вырваўся з яе вуснаў, Тумры пачуць не мог, бо быў ужо далёка.

Ён ляцеў, як птушка, імчаўся, як звер, не ведаючы, куды вядзе яго тая сіла, што ім кіравала. Пераскокваў праз крыжы і магілы, пералятаў праз равы,

узбіраўся на горы, пералазіў праз яры, а крок яго быў такі ўпэўнены, нага такая дужая, вяла яго моц такая непераможная, што нічога не магло яго ўтрымаць. Ніякая запора не запыніла яго ні на хвіліну, ламаў кусты, разбіваў груды запечанай зямлі, таптаў калючае пустазелле і не адчуваў, што кроў цячэ з яго ног і грудзей.

Нарэшце ў глыбіні даліны пад лесам заблішчала чырвонае святло, і цыган, прыспешваючы крокі, задрыжаў.

Месяц выплыў з-за хмары і дадаў новага хараства дзіўнаму малюнку, які распасцёрся перад асляпленымі вачыма цыгана. Ноч была цёплая і спакойная, вецер ледзь варушыў лісты і траву, неба было цёмна-шэрага колеру, парэзанае белымі, як воўна, воблакамі. На дне шырокага яра, абкружанага з трох бакоў лесам, відаць быў невялікі, увесь у ценях, абагрэты толькі вогнішчам, цыганскі лагер.

На фоне светлага дыму і полымя снавалі, як прывіды, нейкія чорныя фігуры, то засланяючы агонь, то ад яго адсоўваючыся. Бліжэйшая частка лесу, якая стаяла ў агністых бляcках, цудоўна малявалася на чорнай глыбіні бору. Кожная галінка, нібы аблітая золатам, здавалася, выскоквала ў тысячах формаў, выгінаючыся і мігаючы дробнымі лісткамі...

Аднак Тумры нічога гэтага не бачыў і прыспешаным, па меры набліжэння да *шатры*, бегам, як пярун, уваліўся пад цыганскую палатку.

Спыніўся каля агню і, нібы будзячыся, пранізліва крыкнуў і ўпаў непрытомны на зямлю, як паваленае ветрам дрэва.

Пасля свайго выхаду са Ставіскаў цыганская грамада пад кіраўніцтвам Апраша абышла вялікі кавалак краіны і зведала ўсяго. Магчыма, выпадак, а мо-

жа, і воля Азы прыгналі яго зноў у гэтыя мясціны. Упартая дзяўчына так умела кіраваць усімі, што хоць з выгляду камандаваў стары цыган, у сапраўднасці яна кіравала і ім і ўсёй грамадой.

Хто адгадае, што тварылася ў сэрцы дзікага дзяўчаці? Даволі, што цыганы завярнулі ў бок Ставіскаў. Ці яна захацела ўбачыць Адама, ці, можа, цікавілася, што сталася з Тумрым?

Пасля яго ўцёкаў і выезду са Ставіскаў Аза вельмі адмянілася; хоць даўнейшая бадзёрасць у ёй засталася, але знікла весялосць. Жыццё ў дварэ навучыла яе сумаваць па шыкоўнай вопратцы і раскошы, якой там пакаштавала.

Ужо кепска ёй было ў даўнейшых лахманах, у грубай *гацi* (кашулі), ва *ўракга* (плашчы) з простага *гасыка* (сукна), ёй хацелася белай *похты* (палатна), прыгожай *буцакі* і бліскушак, якія пры яе чорных валасах і чорных вачах так былі ёй да твару! Яшчэ ўмела зрабіць убранне ні з чога — апрануцца ў простую *плясту* (дзяружку) да фігуры, упрыгожыць яе палявымі кветкамі і чысцінёй замяніць элегантнасць, аднак уздыхала па шаўках, якіх гэтулькі пакінула ў Адамавым дварэ.

Таксама вельмі часта, часцей, чым гэтага хацелася Апрашу, у якога пры ўспаміне пра ўцекача вочы набягалі крывёй, Тумры прыходзіў на яе думкі і вусны. Яна гаварыла пра яго насуперак *дадосу* (бацьку, бо так называлі Апраша) і зусім пра яго не забывалася, а нават здавалася, што чым далей ён быў, тым часцей і больш неспакойна вымаўляла яна яго імя. Увесь час спрачалася з цыганом, бо ён даказваў, што нічым нельга было яго ўтрымаць, а яна сцвярджала, што адапхнулі яго жорсткасцю абыходжання і ганеннем.

Аднак Аза клялася і прарочыла, што той, хто хоць раз пакаштаваў іх вандроўнага жыцця ў табары, не

вытрымае прыкаванасці да хаты і раллі і будзе змушаны вярнуцца.

— Абы нас убачыў, абы толькі панюхаў дыму з вогнішча *ромаў*, сарвецца хоць з ланцуга і прыляціць!

У павольнай вандроўцы ад вёскі да вёскі, ■ мястэчка да мястэчка цыганы кавалі коней, лячылі, варажылі, замаўлялі, а Аза, вялікая чараўніца, усюды заназджвала да шатра прыгажосцю свайго твару і бляскам чорных вачэй. І, як сапраўдная дачка Евы, любіла, каб за ёй валокся ланцуг нявольнікаў, якіх, не здолеўшы прывабіць адным позіркам, прыцягвала другім і трэцім, і ўсмешкай наўздагон, і міргненнем, і тым абяцаннем асалоды, якое, на жаль, так часта ашуквае. Аднак ніхто, апроч гэтага позірку, усмешкі, абяцання, нічога больш не атрымаў. Калі аблытаны нявольнік ляжаў ля ног цыганкі, яна адварочвалася ад яго са здзеклівым і помслівым смехам. Сэрца яе было каменнае, а грудзі яшчэ не парушыліся, патураючы чыёйсьці пажадзе ці чыёй просьбе. З кожным днём прыбывала ў ёй прыгажосці, з кожным днём умацоўвалася ў сваім шатанскім рамястве. Старыя бабы навучылі яе іспанскаму танцу, і прыгажуня пры гуках простай друмлі з кавалкам палатна ў руцэ ўмела стварыць з яго захапляючую сцэну. Так, танцуючы адна, разыгрывала ў тым монаніме цэлую драму пажадлівай тугі, якая ляціць да нябачнага ідэалу, загараецца ад яго, гарыць і разбіваецца аб імглу і туманы. Хвілінамі кідалася весела і свабодна, як сапраўднае цыганскае дзіця, і ўсміхалася да таго, хто дзесьці нябачны стаяў перад ёй; пасля танец яе суцішаўся, станавіўся сумны, а тады раптам ізноў кідаў яе гвалтоўна ў нейкі шал, у юрлівасць, якая заканчвалася быццам нейкай поўнай таямнічых жаданняў смерцю.

На гэты танец збягаліся і маладыя і старыя, і нават тыя, якіх спачатку вяла толькі цікавасць, праз нейкую хвіліну таксама апынаціся ва ўладзе пажадлівасці.

Аза, здабываючы па мястэчках штораз большую славу, зарабляла сваім танцам больш, чым Апраш молатам і кавадлам. Старыя цыганкі, а асабліва Яга, якая недарма насіла гэта імя (*яг* — агонь), бачылі ў Азе падпору будучыні, прарочылі ёй вялікі лёс і хадзілі каля яе, як ля каралевы. Апраш таксама хоць насуплена, але гарачым вокам паглядаў на яе і цяпер прыбіраў яе і штораз больш ёй патураў, асабліва ад часу, калі памерла яго маўклівая жонка.

Бедная гэта жанчына быццам чакала, калі адпадзе ад грудзей яе апошняе дзіця. Калі яно сышло [redacted] матчыных каленяў і матчыны абдымкі сталі яму непатрэбны, яна нахілілася і моўчкі, без енку, як жыла, памерла.

Смерць схапіла яе на раздарожжы ў сумным сасновым лесе, і там яе цыган пахаваў, закідаўшы магілу сухім галлём. Не відаць было жалю ні ў ім, ні ў дзецях, больш здзіўленых стратай маці, чым загараваных, ні ў старых жанчынах і, урэшце, табара, да якога яна як быццам не належала, бо заўсёды называлі яе *гадзяй* (чужой), хоць прабыла там доўгія гады.

Бабы, кладучы яе ў магілу, шапталі незразумелыя словы, мармытаў нешта і Апраш, які апускаў яе ў зямлю, укруціўшы ў дзяружку, але ні адна сляза не выцекла з яго вачэй. Толькі найменшае [redacted] дзяцей прыбегла да магілы і, убачыўшы, што ў яе апускаюць маці, працягнула ручкі да халоднага трупа, нахілілася і ўпала на грудзі, якіх ажывіць ужо не магло. Апраш ускочыў за ім, выцягнуў, адсцябаў, і неўзабаве зямля закрыла цела няшчаснай.

Пасля яе смерці Апраш намерыўся ўзяць за жонку Азу. Праз некалькі месяцаў выказаў нават ёй сваю задуму, але яна насміялася з яго і ганарыста пакруціла галавой.

— Што з табой? — сказала.— Ці не шалёны ты, *дадос?* Я ж магла б быць тваёй *цяй* (дачкой), а ты маім

бацькам! Ты стары, а я маладая і не маю ахвоты быць *даяй* (маці) цыганоў і нявольніцай мужчыны!

— Бачыш,— сказаў нахмураны Апраш,— што няма каму быць маёй жонкай.

— Вазьмі якую-небудзь старую кабету, хопіць яе дзецям, а табе аж залішне!

— Аза, ты ведаеш, што кпінаў я не цярплю!

— А я насміхаюся,— адказала дзяўчына, смеючыся і паказваючы белыя зубкі,— бо ты варты смеху. Вырві сабе жменю валасоў і палічы сівыя, знойдзеш іх у адной руцэ больш, чым гадоў, якія я пражыла на свеце. Ці ж выпадае мне быць тваёй?

Яшчэ некалькі разоў нападаў на яе Апраш з гэтым жаданнем, але кожны раз яна адпраўляла яго тым самым спосабам, а старыя жанчыны, яе сяброўкі старанна ахоўвалі яе ад гвалту, а калі дайшло да барацьбы, трымалі яе бок, прынамсі, крыкам. Апраш гневаўся, і нерваваўся, і пагражаў, але даць рады не мог. Нарэшце ён зразумеў, што Аза вядзе яго ў Ставіскі, у мясцовасць, якая цягнула яе ўспамінам пра пана Адама і маладога Тумрага. Шалеў, абураўся, зразумеўшы яе намер, але адзін супраць усёй грамады, якой авалодала дзяўчына, хоць і быў важаком, устаяць не змог.

Па меры таго, як набліжаліся да вёскі, Аза станавілася больш сур'ёзнай, задумвалася, а яе адзежа сведчыла, што хацела быць прыгожай, толькі ніхто не ведаў, ці для пана Адама, ці для цыгана Тумрага. Апраш пагражаў ёй, а яна смяялася.

Дайшлі нарэшце да Ставіскаў амаль уночы, і цыганка хацела, каб сталі табарам у знаёмым месцы на выгане, але *дадос* спыніў свой *вэрдэн* на пустцы ў даліне і там раскінуў палатку.

Аза хацела зараз жа бегчы ў вёску, але Апраш кінуўся да яе з сякерай і страшна ёй прыгразіў, каб не рушыла ні на крок. Старыя бабы на чале з Ягай паўсталі супраць важака, узняўся небывалы гоман, бо на-

ват дзеці больш слухалі Азу, чым яго, дык застрашэны каваль паддаўся сіле, сякера вывалілася ў яго з рук, а дзяўчына, змераўшы яго пагарджальным позіркам, выкрыкнула:

— Не пайду, бо не хачу, а пайду тады, калі мне ўздумаецца! Чуеш, Апраш? Я не баюся ні тваіх пагроз, ні сякеры, а ад сённяшняга дня ты мне не *дадос*, а я табе не *цяй*, мы чужыя! Ідзі, калі хочаш, куды хочаш, мае мяне не пакінуць!

Цыган сціснуў вусны, яго чорнае вока гнеўна бліснула бялком, і ён адступіў.

Што адбывалася ў сэрцы пазбаўленага ўлады камандзіра, ведала, можа, адна толькі Аза, бо ведала яго лепш за іншых. Цэлы вечар прасядзеў ён нерухома пры вогнішчы, не сказаўшы ні слова, не даючы загадаў, быццам адзін з тых пераможаных каралёў, якіх паказваюць нам скульптуры з раскапаных гарадоў Азіі і Егіпта. Каб гэты боль мог забіваць, дык, пэўне, цыган памёр бы ў тых пакутах, але ён толькі мучыць, аднак жывіць і здабывае жыццё з чалавека на тое, каб ён пакутаваў.

Не зважаючы на яго, Аза ўзяла кіраванне ў свае рукі. Яна расставіла людзей, воз, прылады, раздала вячэру і, каб прынізіць, загадала паставіць місу стравы з акрайцам хлеба перад тым, каму дагэтуль належала першае месца і першы кавалак. Цыганы, здавалася, не звярталі ўвагі на скінутага камандзіра, але, як хворага льва, кожны з іх, калі не нагой ці балючым словам, пранізваў злым позіркам. Ад гэтай хвіліны Апраш перастаў быць важаком.

Вось за нейкі крок ад Апраша, які сядзеў на руінах сваёй моцы, зваліўся апантаны і сонны Тумры, напалохаўшы ўсю грамаду грукатам свайго падзення.

Аза, якая яшчэ не спала, выхапіла з лаўжа запаленую галіну і першая падбегла паглядзець, што там такое. Здавалася, што яна прадчувала прыход Тумра-

га, што спадзявалася яго, бо пераможна зірнула ў яго бледны, мёртвы, схуднелы, асветлены сасновай галінай твар.

— Так! Гэта ён! — гукнула дзіўным голасам.— Я ведала, што гэта павінен быць ён. Я цягнула яго сюды і вось прыцягнула. Але ж гэта труп! Гэта мярцвяк і прывід! А! а! — дабавіла, абліваючы яго твар вадой з прынесенага Ягай кацялка.— Што мне з яго зрабілі *гадзі* і тая светлавалосая *эгашы*, дзеля якой ён пакінуў *ромаў* і іхняе жыццё! Відаць па твары, што ён выцерпеў. Бедны Тумры! Пастарэў, схуднеў, затаміўся і напалову памёр.

У тую хвіліну Тумры расплюшчыў вочы, абапёрся на локаць і здзіўленым позіркам павёў па людзях, што акружалі яго, але гарачае вока ўтапіў у прыгожай дзяўчыне, якая з усмешкай спачування стаяла над ім у бляску свайго факела, як незямная з'ява. Відовішча гэтае здалося яму працягам сну.

— Дзе я? — запытаў ахрыплым ад стомы голасам, рупазіраючы на *ромаў*, на свае скрываўленыя грудзі, рукі і ногі.— Не ў хаце я каля могільніка, дзе лёг спаць? Дзе Матруна? Хто мяне сюды прынёс? Ці жыццё было толькі сном?

— Усё сон! — адказала цыганка, падаючы яму кубак вады.— Пі, ацверазіся і вітай пад нашым шатром! Спрабаваў ты шчасця *гадзяў*, іх сэрца, іх шчасця, ■ цяпер скажы, ці лепш было табе з імі, чым з намі?

— Але ж гэта сон! Гэта хіба што сон! — праціраючы вочы, гаварыў Тумры.— Праўда, Янак казаў мне ўчора пра цыганоў, увесь вечар я рваўся, каб пайсці ўбачыць іх, але ж спаць лёг у хаце... Якая ж сіла прынесла мяне сюды?

— Сіла, якая гоніць птушку ў гняздо, а звера ў яму! — адказала, смеючыся, Аза.— А хто ж знае тую сілу, якая мацнейшая за нас, якая валодае не толькі целам, але і духам і пацікае нават на смерць?

Тумры глядзеў і памалу прыходзіў да памяці.

— Дзе Апраш? — запытаў.— Дзе яго жонка?

— Яго жонка спіць на раздарожжы,— адказала Яга.

— А Апраш спіць ля вогнішча,— засмяялася Аза,— бо ад сягоннняшняга дня перастаў быць нашым важаком! Падняў на мяне руку і ўпаў! Глядзі,— адсоўваючыся, каб было відаць, дадала дзяўчына,— вось ён, Апраш, які мяне, мяне захацеў мець за жонку і нявольніцу! Кіўні яму галавой ці плюнь на яго, як хочаш, і ён табе нічога не зробіць, бо перастаў быць дужым!

Раптам стары важак, уколаты словам, узвіўся ад агню і, схапіўшы сякеру, што ляжала на зямлі, з шаленствам кінуўся на Азу. Аднак, перш чым паспеў замахнуцца, скочыў да яго Тумры, абхапіў яго, паваліў і, наступіўшы на горла, вырваў у яго з рук сякеру.

— Так,— прамовіў Апраш глуха,— я ўжо бяссільны! Не валадарыць мне, а ісці за вашым возам і слухаць. Пусці, Тумры, клянуся *Мродэн-ора* (бог), *Мутэс-ора* (смерць), *Насуа-ора* (хвароба), *Гівэс-ора* (дзень), *Рат-ора* (ноч), што нічога вам не зраблю. Пусціце нявольніка.

Аднак Аза падскочыла да паваленага з крыкам:

— Паўтары! Яшчэ раз паўтары прысягу і дзесяць разоў яе паўтары, каб я паверыла!

Апраш пачаў паслухмяна паўтараць.

— Адбярыце ў яго *товэз* (сякеру),— закрычала,— і *эзурыа* (нож), і ад гэтага часу хай ён не трымае яго ў руках! Дзякую табе, Тумры,— сказала,— пусці яго. Ты выратаваў мне жыццё. Вялікі *Мродэн-ора* спецыяльна прывёў цябе сюды на крылах тугі, каб ты мяне выратаваў! Сядай і грэйся каля знаёмага вогнішча і расказвай, што ты перанёс, бо што не быў ты шчаслівы, гаворыць тваё бледнае *буста* (аблічча).

— А! а! — адказаў Тумры, абапёршыся на вывернуты кавальскі мех, на які пазіраў, быццам вітаў свай-

го старога сябра.— Няма што гаварыць пра шчасце маёй долі. Дарма хто ад яе ўцякае! *Гадзі* заелі мяне і жонку павольным здзекам, абгрызаючы косці, і адступіліся ад мяне, як ад трупа, а я змагаўся з імі. Памёр Матрунін бацька, і я правёў яго вокам на могільнік. Мусілі аддаць мне дзяўчыну, але я жыў маёй галечай і іхняй злосцю, бо, апрача аднаго, ніхто не павярнуў у мой бок твару.

— А твая ж белая *эгашы*? — запытала Аза.

— *Эгашы* любіла мяне і любіць,— сказаў Тумры,— але што з кахання ў голадзе і няволі? Мой дом быў мне труной і магілай, так мне ў ім душна, сумна і цесна. Вока сваё жывіў я заўсёды адзіным відам могільніка, магіл і голага ўзгорка...

— Але вас было двое?

— Трое і галечай, чацвёра з голадам,— дзіка смеючыся, сказаў Тумры,— пяцёра з дабраком Янакам...

— А ўсё ж знайшоўся хтосьці сумленны?

— Але вы...— перарваў Тумры, што дзеелася з вамі? Дзе вы былі? Што вас сюды прыгнала зноў, на маё шчасце ці няшчасце?

— Я,— сказала Аза,— хацела ўбачыць, што сталася з табой. Апраш супраціўляўся, але мусіў мяне паслухацца. Жыццё наша ішло, як ідзе наогул жыццё, дзень да дня не падобны, а здалёк як родныя браты. Грымела кавадла, саплі мяхі, працавалі рукі, а Аза спявала і танцавала *гадзям* за *ловы* (грошы). І вось, бачыш, прыйшлі мы ўрэшце сюды, можа, сумысля па цябе, а можа, да маладога *рая* Адама.

Няўлоўна ўсміхнулася.

— Што робіць *рай* Адам? — запытала.— Ці ўвесь час жыццё яму доўжыцца, а маладосць цяжка насіць?

— Не ведаю...— ціха адказаў Тумры.— *Рай* быў ажаніўся з нейкай *гадзяй*, кажуць, што яна ашуквала яго з другім...

— А што ж ёй, беднай, было рабіць? — рассмяялася Аза.— Мусіла!

— Паехалі кудысьці далёка па здароўе яму, па весялосць ёй, і *рані* (пані) там памерла.

— Памерла! О як жа добра зрабіла! — выкрыкнула Аза, пляснуўшы ў далоні.— Ізноў буду яго мучыць! Дык у двары пуста?

— Ён адзін, без нікога.

— Што ён скажа, убачыўшы старую знаёмую?! — працягвала Аза, смеючыся са сваёй думкі.— Заўтра, не пазней як заўтра, прыбяруся, як *рані*, і паімчуся да яго.

Зірнула на Тумрага. Ён, спахмурнелы, круціў у руках пагаслую галавешку і маўчаў.

— Пайду яго мучыць,— паўтарыла,— і смяяцца! Ах! Каб ты ведаў, Тумры, колькі ўжо мела я *гадзяў*! Хоць бяры жменямі! Трэба было бачыць, як ляцелі за Азай, бы зграя *шукеляў*, звонячы грашыма і абяцаннямі. Калі бачыла, што каторы з іх не хоча паддацца і холадна глядзіць на мяне, дык я датуль яго паліла, прыцягвала і чаравала, пакуль не павяду за сабой! О! Мела ж я, мела асалоды, калі, вывеўшы іх далёка, кідала па дарозе, як абгрызеныя косці!..

Нешта лютае было ў мове цыганкі, аднак такая была чароўнасць яе вачэй і голасу, што Тумры дрыжаў і не мог адарвацца, глядзеў, слухаў і, стомлены доўгай пажадлівасцю, не мог здаволіцца.

Сапраўды бо прыгожа выглядала яна каля вогнішча, а свежая перамога акрывала яе яшчэ нейкай павагай і новай сілай.

Ніколі такой яе Тумры не бачыў.

— Але раскажы мне пра сябе,— ветлівым галасам, наблізіўшыся да яго, адазвалася Аза,— пра сваю *букуню* (хату), пра *эгашы* (жонку), пра жыццё.

— Я ўжо ўсё табе расказаў,— паволі і сумна адказаў цыган.— *Эгашы* добрая і справядлівая, але сумуе

па сваіх, якіх не бачыць. Плача і плача, бедная! *Букуня* мая, якую я зляпіў крывёй і потам, выгнанніца, як і мы, стаіць на пустэчы за вёскай і глядзіцца ў краіну *Мутэс-ора*, на могільнік *гадзяў*. Цесна ў ёй, халадна, галадна і пуста...

— А не плача ж у ёй дзіцятка? — запытала задумліва Аза.

— Не,— сказаў Тумры,— але хто ведае, калі той голас [redacted] іншага свету першы раз адзавецца? Сягоння, можа, заўтра.

— Сягоння, заўтра! Дык жа ты прапаў! — сказала цыганка.— Няхай заплача дзіця, і ты ўгразнеш там назаўсёды пры сваёй бледнай *эгашы* і засохнеш у працы і клопаце!

Махнула рукой.

— Ідзі, прыгавораны! — сказала.— Ты ўжо не наш! Ідзі! Не глядзі на волю, не каштуй паветра пад шатром! Табе толькі згніць, прывязанаму да слупа! Ты *гадзіа!*

Гэтае пракляцце вымавіла яна без гневу, можа, нават са спагадай, але Тумры адчуў яго ў глыбіні грудзей як неадменнае прадказанне. Апусціў галаву, памалу падняўся з зямлі, павёў навокал вачыма, як быццам развітваючыся, і яшчэ раз паглядзеў на Азу.

— Ідзі!..— сказала дзяўчына.— Ідзі да *кгэра* (дому), бледная *эгашы* чакае цябе! Няхай тваё сэрца не рвецца, калі ўбачыш *ромаў*, бо вярнуцца да іх ужо не можаш!

Ацвеселы, аслабелы Тумры вяртаўся цяжка і памалу той самай дарогай, якую ўва сне так хутка і так лёгка адолеў. Параненыя ногі ледзь яго валаклі, цяжкая, бы волава, галава валілася [redacted] карка, а сэрца то біла сотняй молатаў, то, перастаючы ўдараць, замаўкала ў грудзях, як быццам хацела спачыць навек.

Дзівіўся, што прабег такую вялікую адлегласць, якая пры вяртанні здавалася непраходнай і бясконцай!

Шукаў дарогу, і блукаў, і не мог яе знайсці. Час ад часу азіраўся, каб глянуць на вогнішча, ля якога пакінуў Азу, то зноў стомленым вокам шукаў сваю хату, могільнік, вёску і з цяжкасцю распазнаваў сцежку.

Была гэта ўрачыстая хвіліна, калі змагаецца ноч з днём, калі цемра пачынае вайну са святлом, калі штодзённая смерць уступае жыццю. Бляклі нябесныя агні, і месяц здаваўся ўсё больш серабрыстым, зоркі адыходзілі ў нябесныя глыбіні эфіру, начныя хмары западалі з аднаго боку, а ранішнія купіліся з другога; птушкі, першыя вартаўнікі жыцця на зямлі, пачыналі спяваць гімн уваскрэсення.

І дрэвы, і кветкі таксама будзіліся колерамі, якія цёмная ноч засланіла, а дзень адхінаў вачам; адны засмяглыя келіхі ўжо пілі расу, другія, павальнейшыя, яшчэ ў пялёнках, чакалі цяплейшай гадзіны. А цішыня была доўгая, перарываная толькі песняй ранняй птушкі, карканнем бяссонных крумкачоў і шумам ранішняй малітвы лясоў.

Тумры ішоў і хістаўся. Ні бляск усходу, ні сярэбраная яснасць на сыходзе ночы не раскрылі яго мёртвай зрэнкі... Нарэшце ўбачыў чорныя крыжы магіл, худыя вербы могільніка, жоўтую Лепюкову магілу і нізкі комін сваёй хаты.

Прыбавіў кроку.

«Што там робіцца ■ Матрунай,— сказаў у духу,— калі заўважыла, што я пайшоў? А шкада мне яе, шкада! Але навошта палюбіла цыгана?»

І мінуў могільнік, спяшаючыся з дрыжаннем да дзвярэй ляпянкі. На парозе Матруны не было... толькі дзіўны незразумелы голас адбіўся ў яго вуху. Не быў гэта голас жывёліны, ні чалавека, ні духа, не быў гэта скрып дрэва, ні чырыканне птушкі, а нейкі незразумелы плачлівы кліч, быццам з просьбай зліташання, у глыбіні якога чуліся людская мова, і енкі жывёліны, і чалавечыя слёзы.

Пераступіў парог і першае, што ўбачыў, было голае дзіця, якое плачучы ляжала на ложку побач з Матруной. Бедная жанчына з плачам туліла яго да сябе, не помнячы пра свой боль, уся ўжо толькі маці.

Каля парога вартаваў дурны Янак, які дазволіў цыгану ўвайсці, наблізіцца да жонкі і ўкленчыць пры яе берлагу. Аднак, калі праз хвіліну выбег Тумры адпачыць і ацвярозіцца, перад ім з'явіўся калека.

Здзівіўся Тумры, не ўбачыўшы на твары ў Янака звычайнага выразу літасці і спачування, а хмурны гнеў і нейкую пагрозу.

— Што з табой, Янак? — запытаў, выціраючы з лоба пот.

— Што з табой, пракляты цыган? — падхапіў карлік, сціскаючы кулакі.— Дзе ты быў, бадзяга, уночы, калі жонка енчыла, просячы тваёй дапамогі ці хоць бы твайго твару?!

— Я не ведаю, што са мной тварылася!

— А я ведаю! — выкрыкнуў Янак.— Шайтан цябе, чортаў сын, аблытаў! Ты хадзіў на танец з ведзьмамі!

— Лай мяне,— сказаў Тумры,— але запытай у Матруны, ці вінаваты я? Ці пайшоў прытомны і па сваёй волі?

Янак паглядзеў на яго сурова.

— Эй, сцеражыся, цыган! — сказаў.— Малы я чалавечак, але, далібог, заб'ю цябе, як сабаку, калі не будзеш пільнаваць жонкі і дзіцяці!

Тумры ўсміхнуўся кпліва і з пагардай.

— Ці табе, Янак,— сказаў,— выступаць супраць мяне з пагрозамі?

— Э, і чарвяк можа ўкусіць смяртэльна,— выкрыкнуў малы,— і я змагу быць чарвяком для цябе.

Сказаўшы гэта, пабег у вёску, а Тумры вярнуўся ў хату.

Сэрца яго сціснулася, калі ўбачыў бедную жанчыну, лоб якой пакрываў смяртэльны пот, а твар быў

бледны, як у трупа. Гледзячы на яго, яна быццам выпрошвала літасці да сябе і да дзіцяці. Ён адчуў сябе вінаватым, хоць не ведаў, якая сіла папхнула яго ўночы на грэх, і ўкленчыў каля пасцелі.

— Што гэта сталася? Як гэта было? — запытаў.— Я не пайшоў ад цябе з уласнай волі.

— Чараўніца, відаць, цябе пацягнула,— адказала слабым голасам Матруна.— Ты спаў, а пасля ўзарваўся і пабег, я хацела ісці за табой і ўпала... Не ведаю, што рабілася са мной і калі мне даў бог дзіцятка... Адкрыўшы вочы, я ўбачыла добрага Янака, які, відаць, занёс мяне ад дзвярэй на ложак.

Тумры паглядаў на дзіця, якое падавала голас, і думка яго прабегла праз цэлы рад цяжараў і абавязкаў, якія прыйшлі для яго на свет разам з гэтым дзіцём. Удваіх ледзь маглі выжыць, а ўтраіх прыйдзецца памерці... Слабай Матруне была патрэбна дапамога, ежа — ёй, пялёнкі — дзіцяці, жаночы догляд і хлеб, хлеб, хлеб!

Зарабляючы яго, Тумры павінен быў пакідаць жонку адну, а цяпер не было каму памагчы ёй у першыя дні слабасці.

Цыган схапіўся за галаву.

— Няма рады! — сказаў уголас.— Ніхто з вёскі паслужыць нам не захоча, я адзін не здолею справіцца з усім... Дазволь мне пайсці клікнуць цыганку Ягу.

На гэтыя словы Матруна ўсхапілася і прытуліла да сябе дзіця.

— Цыганку?! — крыкнула.— О! Не хачу, не хачу! Абыдземся без нічыёй дапамогі... Яны б мяне атруцілі, яны б укралі маё дзіця!

Тумры варухнуў плячыма.

— А ты не цыганова жонка?

— Гэта так, так! — сказала.— Але я баюся, баюся! Май нада мной літасць!

— Ты сама май над сабой літасць! — адазваўся цыган.— Мы ж памром, калі нам у гэтыя першыя дні хто-небудзь не паможа.

— А Янак?

— Але ж тут патрэбная жанчына!

— Я ўстану, я ўстану! — пачала паспешліва гаварыць Матруна.

— Гэтага не можа быць, мусіш праляжаць некалькі дзён... А хто ж зварыць табе і дзіцяці? Хто дапаможа і навучыць, як хадзіць каля малога?

Матруна замаўчала, але з яе твару і неспакойных рухаў было відаць, што страх яе не пакінуў, хоць не ведала, што рабіць. Хацела паспрабаваць, ці не зможа падняцца, але апала на ложак, застагнаўшы.

Тумры сеў побач [illegible] ёй на зямлі і, уставіўшы вочы ў дзіця і маці, сядзеў нерухома ў нейкай нямой роспачы.

Нечакана паволі расчыніліся дзверы. Матруна глянула і задрыжала, убачыўшы твар старой цыганкі, якая паказалася з сянец.

Была гэта старая Яга, пачварная баба, якую, не ведаю, цікавасць ці іншае якое пачуццё пагнала за Тумрым, баба, якая магла напалохаць выразам сваіх чорных вачэй і смешна запалай сківіцай. Яе да чарнаты лізагарэлая скура, чорныя, параскіданыя па твары лі-пучыя касмылі валасоў, маршчыністыя шчокі, бяззубая ўсмешка і позірк драпежнай птушкі рабілі яе ідэалам ведзьмы з народнай казкі. Брудная *гата* (кашуля), падзёртая *сокга* (спадніца) і накінутая на галаву дзяруга былі яе вопраткай, з-пад якой вызіралі голыя рукі і высахлыя грудзі. Спынілася, згорбленая, і падперлася сукаватым, выламаным у лесе кіем, пра доўгае ўжыванне якога сведчыў яго абшарпаны канец.

Кінула позіркам па хаце і ўвайшла з усмешкай, зразумеўшы, што будзе патрэбнай. Глянуўшы на яе яшчэ раз, Матруна прытуліла да сябе дзіця і пачала дрыжаць, а Тумры ўскочыў і стаяў здзіўлены, што так

неспадзявана з'явілася якраз тая, пра якую толькі што гаварыў.

А тым часам Яга ўміг абляцела па-цыганску палымяным вокам усе закуткі хаты, палічыла гаршкі, рухомую маёмасць, зразумела ўсю галечу Тумрага і ўжо ведала, што ён мае і чым жыве.

Памалу, крадучыся, як кот, падыходзіла да ложка.

— Стой! — крыкнуў Тумры па-цыганску.— *Эгашы* баіцца цябе, дрыжыць і плача, адступіся да дзвярэй.

— А чаго ж баіцца твая *гадзя?* — запытала Яга, сядаючы на лаве ля парога.— Ці ж не цыганова яна жонка? Ці ж мы не свае, а нават і сваякі? Я памагла б ёй пры дзіцяці, бо яна, бачу, зацалуе яго і заціскае, а справіцца з ім не зможа... Гэта ж маё рамяство... і дай мне *Мродэн-ора* столькі гадоў пажыць, колькі я дзяцей і *ромаў* і *гадзяў* на свет вывела.— Не бойся, даражэнькая,— пачала па-вясковаму, але ламанай мовай, стараючыся падлашчыцца, змякчаючы хрыпаты голас і лагодна ўсміхаючыся.— То ж вялікія пані і эканоміхі, а таксама шляхцянкі не адзін раз карысталіся паслугамі Ягі! Я знаюся на дзецях, а ў цябе ж, відаць, гэта першанькае, дык ты яго з вялікай любасці заморыш.

Устала і хацела падысці, але рух Матруны, якая схапілася за дзіця, паказаў ёй, што тая не прыняла б ніякай дапамогі.

— Слухай, Яга,— сказаў Тумры,— ты можаш інакш мяне ратаваць. Вазьмі распалі ў печы, пастаў вады, звары чаго-небудзь... Яна галодная... я цэлы дзень не еў, і дзіцяці, пэўне, штосьці будзе трэба...

Старая толькі гэтага і чакала, бо вельмі ёй хацелася пашнарыць па кутах і, калі б што трапілася, па-цыганску сцягнуць. Адразу скінула ■ сябе дзяругу, паставіла ў кут свой кій і закасала падзёртыя рукавы.

— А дзе вада? дзе жар? дзе кладоўка? А ці ёсць малако?

Тумры напалохаўся гэтулькіх патрабаванняў за раз...

— Жар? Пашукай у попеле, там павінен быць. Вада? Паглядзі ў вядры!.. У кладоўцы знойдзеш няшмат... А малака? Малака няма...

— Як гэта? Ні нават казы? — запытала цыганка.

— Ані казы,— уздыхнуў цыган.

— О, благі ж з цябе гаспадар! — усміхнулася цыганка, разгортваючы попел.— Відаць, што ты, скінуўшы скуру *ромаў*, страціў і іхні розум. Каб столькі часу тут сядзець і нават казы не нажыць! А столькі іх бясланскіх цягаецца па полі! Магла б якая-небудзь і да цябе прыблукаць... Ха! ха! ха! А калі б баяўся, каб яе не пазналі, дык можна яе на рынку перапрадаць... Дрэнны з цябе гаспадар!..

— Што тут варыць? — запытала зноў.— Адкуль мне тут узяць прыправы? Ды і вады толькі на дне.

— Па ваду схаджу,— сказаў Тумры.

— Не ідзі! Не пакідай мяне адну! — шапнула Матруна.

— Па ваду схаджу і я,— адазвалася Яга.

— А ведаеш, дзе яна?

— О, вучыць мяне не трэба, вядома, што куды найлепш вытаптана сцежка, там напэўна будзе вада. А можа, дзе сустрэну казу ці карову, дык выдаю вам, дай толькі збанок.

— Яга, будзе бяда! — сказаў Тумры.

— А так дык яе няма! — запярэчыла цыганка.— Ці лепш з голаду здыхаць, ці на шыбеніцы танцаваць? Усё адно! Дай збанок!

Калі старая сабралася выходзіць, наявіўся Янак з малаком, хлебам, збанком вады і вузельчыкам круп. Ён толькі расчыніў дзверы, усунуў свае дарункі, і, не сказаўшы ні слова, хутка выбег на двор.

Яга падхапіла ўсё, а найперш заткнула вузялок за пазуху сабе, прыкідваючыся, быццам пералівае мала-

ко, каб хутчэй яго сагрэць. Ніхто не заўважыў гэтага зладзейства.

З гэтага пачала старая сваю паслугу ў ляпянцы Тумрага, у якой разгасцявалася смела, адчуўшы сябе тут патрэбнай.

Дзень быў ясны, і сонца прыпякала, калі Аза, распарадзіўшыся ў табары і здаўшы каманду цыгану, які зваўся Пуза, бо адчувала, што як жанчына камандаваць не зможа, пачала рыхтавацца ў двор. Пуза, немалады ўжо цыган, прысадзісты, малы, непрыгожы, які дагэтуль шмат цярпеў ад Апраша і быў яго мучанікам, цяпер збіраўся адквітацца, калі яму прыйшла пара камандаваць. Аза выбрала яго знарок, бо была ўпэўнена, што ён упільнуе і прыцісне яе непрыяцеля.

Грамада ахвотна згадзілася слухаць дадзенага ёй новага *дадоса* (бацьку) і пайшла пад яго загады, а Апрашавай воляй ніхто не цікавіўся.

Маладая цыганка ўвайшла ў палатку і пачала, не без вялікага роздуму і разліку, прыбірацца. Выбрала тое, што было ў яе самае найпрыгажэйшае і найлепшае, у чым найлепш сябе адчувала, і, вымыўшыся ў крыніцы, заплёўшы чорную касу, якую ледзь магла ўтрымаць галава, надзела вышываную паркалёвую кашулю, некалькі шнуроў бурштынавых і каралавых пацерак, спадніцу ў кветкі, ядвабны фартух, чырвоны вышываны каптан, а зверху накінула тонкую хусту, якую ўмела пафалдаваць з інстынктам выдатнай артысткі.

Белыя тканіны і чырвоныя ўборы дзіўна памацнялі прыгажосць яе загарэлага, але свежага і румянага твару, на якім, як снег, блішчэлі зубы і бялкі вачэй. Калі з-пад доўгіх чорных вейкаў кінула вокам у пабітае люстэрка, усмешка зайграла ў яе вуснах.

«Згінеш, *рай*, згінеш у гэтых вачах,— выкрыкнула

ў думках,— спалю цябе на вугаль! О, спалю! Каб ты быў каменем, дык заплачаш!.. Чаму мне такія салодкія людскія слёзы? — пачала пытацца сама ў сябе ў задуменні.— Не ведаю! Але як іх убачу, як пачую енк, дык так мне хочацца забіваць і мучыць, як дзікаму зверу! Аднак жа, аднак...— сказала сабе ў думках,— калі б вось так Тумры заплакаў, заенчыў, паляцела б, можа, ратаваць яго і біцца з тымі, хто выціснуў у яго слёзы! Тумры! Тумры! Але гэта ўжо не цыган, палюбіў белую *эгашы*, Аза яму не мілая. А ўчора ўсё ж прыляцеў! О! І глядзеў на мяне! А як абараніў ад Апраша!.. А якім здаваўся ўзрушаным!.. Не! не! — пакруціла галавой.— Тумры прапаў... Пайду мучыць *рая* Адама!»

І яшчэ раз глянуўшы ў люстэрка, прыгажуня Аза вылецела [redacted] палаткі, а ўсе старыя цыганкі, убачыўшы яе такой прыбранай і прыгожай, з'едліва ўсміхнуліся, бо ведалі, што гэта абазначае, і Апраш, убачыўшы яе здалёк, абурыўся і прыкусіў вусны аж да крыві.

Адна, без нікога, пусцілася прыгажуня ў вёску, добра ведаючы адтуль дарогу ў двор. А ішла яна не марудным крокам *гадзяў*, але тым узлётным цыганскім подбегам валацуг, жыццё якіх праходзіць на нагах у вечнай вандроўцы. Пахіленая ўперад, з хусцінкай, якую далёка развяваў вецер, здавалася, быццам не ішла, а ляцела, не дакранаючыся да зямлі.

Уляпіўшы вока ў неба, адной рукой трымала канец заслоны, другой прыўзняла фартух і ляцела шалёная, напяваючы нейкую песеньку. Дабегшы да вёскі, трохі спынілася і быццам прыпаміна ці нюхам шукала дарогі, якой цыганы ніколі не пытаюць. А пасля берагам става, ледзь прыкметнай сцяжынкай пабегла праз сад у двор.

Пан Адам, ледзь толькі прачнуўшыся, сядзеў на ганку ў халаце [redacted] доўгім цыбуком у зубах, калі раптам,

як сон ці прывід, ускочыла на прыступкі, а адтуль проста да яго прыгожа прыбраная дзяўчына, смеючыся да ўпаду.

— Ха! Ха! — выкрыкнула, пачынаючы перад ім з самых пажадлівых скокаў свой танец,— *рай* Адам сумаваў па Азе, і Аза вярнулася да *рая* Адама ў Ставіскі. Бачыш, я зноў прыйшла спрабаваць жыць з табой, укінуць табе вугаль за пазуху і паляцець, як адлятаюць буслы.

Немагчыма выказаць, як змяніўся твар акамянелага маладога чалавека, калі ён убачыў чараўніцу... Не інакш, напэўна, ажывала ад прытоку жадання і геніяльнасці слаўная статуя Пігмаліёна! Астылыя вочы парушыліся, заяснелі, вусны раскрыла незвычайная ўсмешка, чало задрыжала, як мора ад ранніх вятроў, і грудзі жывей удыхнулі паветра.

Ён падхапіўся і скочыў да Азы.

— А! Гэта ты? Ці ж быць гэта можа?

— Вось! Я, *я*, паніч! — адказала, кідаючыся проста яму на шыю і палячы яго шалёным абдымкам, дзяўчына.— А ты ж не забыўся пра мяне? не? А колькіх жа кахаў ты пасля мяне?

— Адкуль жа ты тут?

— Звалілася з воблакаў, *балваны* (вятры) мяне прынеслі... Проста засумавала па табе, загадала пакіраваць *вэрдэн* і ехаць зноў у Ставіскі!

— І будзеш маёй? — выбухнуў усхваляваны пан Адам.

— Не,— смеючыся і злёгку адпіхваючы яго, адказала Аза,— ты будзеш маім, *рай* Адам! Я нічыёй не была і не буду!

А як ёй была гэтая ганарлівасць да твару!

Не ведаю, як захочаце гэта назваць, каханнем ці дзівацтвам. Адно пэўна, што якраз такой пажадлівай забаўкі не хапала аджытаму пану Адаму, каб адчуць, што яшчэ жывы. Цыганка паліла яго мовай, абдымка-

мі, абяцаннямі, кпінамі. Ён пакутаваў, але адчуваў, што жыве.

Нехта другі, мацнейшы за яго, больш горды, хто лепш валодае сабой, змусіў бы Азу перамяніць паводзіны альбо сам першы б яе пакінуў. А ён з задавальненнем даваўся мучыць, не могучы ні ад яе адарвацца, ні перамагчы яе бязлітасныя шаленствы. Праклінаў яе, як сатану, а кахаў, як анёла.

Аза добра ведала сваю сілу і выкарыстоўвала яе праз меру. Пасля доўгага блукання, пасля прымітыўнага цыганскага жыцця да смаку былі ёй багацце, бязздзелле і атмасфера дастатку, якая яе акружала. Часамі здавалася, што яна траціць той агонь, які палымнеў у яе грудзях, задуменнасць пакрывала яе чало, вусны забывалі смяяцца, і тады то гадзінамі сядзела паўсонная, нерухомая на мяккай пасцелі, то ўзрывалася, бліскала зубкамі, вачыма, вуснамі і пачынала свой палкі, як скокі першабытных людзей, танец.

Але і ў тым і ў другім настроі аднолькава адпіхала Адама то бязлітаснымі кпінамі, то сур'ёзным пагарджаннем з гарэзлівай весялосцю.

— Як я магу цябе кахаць? — пыталася ў яго.— Скажы сам, ці ёсць на свеце двое людзей, менш адзін да аднаго падобных? Я — дзікі звер пустыні. Ты — дзіця запечча вымаклае, збляклае, худое і бяссільнае. Адны мае сапраўдныя абдымкі змялі б цябе, адзін пацалунак спаліў бы. А ў першай спрэчцы, якая вырастае з кожнага кахання, як пара з кіпеню, я забіла б цябе, калі не рукой, дык словам!

Прыніжаны пан Адам маўчаў, шчаслівы хоць тым, што мог ляжаць каля яе ног і глядзець у тыя вочы, выразнейшых за якія ў сваім жыцці не бачыў...

Цыганка звычайна ўдзень наведвала свой табар, які размясціўся на выгане, бліжэй да вёскі, і быў пад апекай двара, а гэта значыць, што беспакарана муціў спакой мясцовых сялян ці рассыпаўся па ваколіцы; а на

рэшту дня і ночы вярталася са старой цыганкай да пана Адама. Хоць было не зусім па дарозе, амаль кожны дзень праходзіла Аза каля Тумравай хаты, на якую кідала цікавым вокам, быццам хацела зазірнуць не толькі ў яе, але і ў жыццё, якое яна ў сабе замыкала. У той час вочы яе распальваліся гарачым пачуццём гневу, зайздрасці і невядома чаго яшчэ — нейкім злепкам тысячы дзіўных пачуццяў, якія бударажылі сэрца дзікага дзяўчаці.

Прыйшоўшы сюды першы раз, спынілася, каб, можа, палічыць, колькі дзён працы, поту і сілы павінен быў пакласці Тумры на гэту ліхую пабудову. Паківала галоўкай, махнула рукой і падалася ў двор. З таго часу амаль штодня пралятала каля могільніка і хаты, але ўвайсці ў яе не асмельвалася, хоць вокам і вухам сачыла за тым, што там адбываецца. Ні Тумры, ні хто іншы яе там не сустрэў.

Дні ляцелі маланкай у двары, але памалу валакліся ў кавалёвай хаце. Матруна ляжала аслабелая з дзіцём, якога і на хвіліну баялася адпусціць ад грудзей, і са страху не магла звесці вачэй. Яга палохала яе сваёй усмешкай, паслужлівасцю і позіркам, у якім дзіця вёскі прадчувала непрыяцеля.

Дарма прасіла Тумрага, каб ён яе адправіў, яму лягчэй было са старой цыганкай, і ён смяяўся з дарэмных страхаў жонкі.

Ад часу начной сустрэчы ў даліне Тумры не бачыўся з Азай, толькі даведаўся ад Ягі, што яна ў двары. Пачуўшы гэта, збляднеў, вусны яго задрыжалі, але больш не распытваў. Аднак старая цыганка амаль кожны дзень без пытання прыносіла весткі пра дзіўнае жыццё дзяўчыны, у якую, як казала, пан закахаўся па вушы.

— Кажуць,— дадавала,— каб толькі яна захацела, дык пан напэўна б з ёй ажаніўся. Але дурная *раклёра* (дзяўчына) насміхаецца з яго, трымае яго ў паняверцы

і ані не думае пра яго. Вот жа дурная, дурная! — шаптала.— Каб другая была на яе месцы, што б можна было скарыстаць! Праўда, што *рай* бледны, мізэрны, нямоглы, але ці ж жыць з ім заўсёды?

І такой усмешкай канчала сваю гаворку, быццам хацела падаць яму кубак атруты. Сапраўды страшнай істотай была гэта Яга — разнавіднасць жывога шкілета, у якім з усяго, што характэрнае чалавеку, засталіся толькі хцівасць і ненасытнасць. Праўда, старасць вельмі часта прымае гэтыя дзве рысы характару; звычайна ў старым б'ецца яшчэ адчуванне чалавечнасці, якое раней служыла ядром іншых больш прыстойна апранутых пачуццяў. Аднак калі ў аслабелым і схварэлым чалавеку на схіле яго жыцця гола і бессаромна выступяць скупасць, ненасытнае жаданне і хцівасць, тады чалавек становіцца брыдкай пачварай. У цыганцы ўжо ўсё патухла: пачуццё, прывязанасць, усякая чуласць і памяць. А дзеля таго, што ўсё жыццё сцябала яе галеча, дзіўная, звярыная, неабмежаваная хцівасць узнялася ў ёй да найвышэйшай ступені. Хапаць, хаваць, збіраць стала адзіным жаданнем Ягі, якая крала інстынктыўна, машынальна ўсё, што толькі трапляла ёй пад рукі. Нават у Тумрага, сярод усё выразнейшай галечы, не магла ўстрымацца ад крадзяжу таго, чаго не ўмела ні забраць з сабой, ні схаваць. А ў табары кожны дзень вытрасалі што-небудзь з яе вузялкоў, сцябалі няшчасную, якая назаўтра пачынала рабіць тое самае.

Што дзівіцца са старой Ягі? Колькі ж старых у нашым свеце сціскаюць, хапаюць, як яна! Колькі іншых, адукаваных, скіроўвае гэты нахіл у нейкую манію калекцыянерства, у неспатольную прагнасць грошай і маёмасці.

Тумры не звяртаў увагі на шкоду, якую рабіла яму цыганка, ён быў рад, што з ёй было ў хаце трохі лягчэй, зрэшты, зусім не заўважаў, што дзеелася навокал яго, ён быў затоплены ў нейкім суме і, нахмураны, за-

думенны, стомлены, праседжваў цэлыя дні на лаве супраць Матрунінай пасцелі.

Кузня яго была гатовая, але ніхто не прыходзіў, хоць і пад цыганскай палаткай таксама кавадла маўчала. Людзі ішлі ў суседнія вёскі, і ні адзін чалавек не заблукаў пад могільнік. Ужо некалькі дзён, каб не Янак і яго невычэрпная, хоць вельмі сціплая дапамога, не было б чаго ў хаце есці. А тут на голад і нястачу з'явілася яшчэ і трэцяя асоба, якой Матруна не магла высахлымі грудзьмі выкарміць.

Тумры хацеў ісці ў двор, але не мог адважыцца. Вагаўся, адкладаў з дня на дзень і сядзеў склаўшы рукі, быццам чакаючы здранцвела нейкага літасцівага лёсу ці смерці.

Аза ведала пра ўсё гэта ад Ягі, якая штодня хадзіла пад палатку і бачылася з дзяўчынай, і хоць мела чым дапамагчы Тумраму, дагэтуль не зрабіла нічога.

— Няхай мае, чаго хацеў! — гаварыла праз заціснутыя белыя зубы, сціскаючы вусны.— Хацеў белай жанчыны і сумнага жыцця ў хаце, хацеў быць *гадзем*, калі бог стварыў яго *ромам*, дык няхай пакутуе! Жыццё сядзіць глыбока, голад і боль не дастане яго!

Аднак, калі праходзіла паўз могільнік, вока яе штодня больш імглістым позіркам глядзела на ляпянку. І аднойчы, калі пасля абеду пан Адам адпачываў каля яе ног, чакаючы, які яшчэ здзек прыдумае яму дзяўчына, яна адазвалася:

— Слухай, *рай* Адам! Што вам зрабіў цыган Тумры, які ў вас памірае з голаду?

— Хто? Дзе? — з цяжкасцю прыпамінаючы, запытаўся пан Адам.

— Каваль Тумры, які сядзіць пад могільнікам.

— Дык я ж даў яму жонку, карову і грошы,— адказаў, пазяхаючы, пан Адам,— чаго ж ён яшчэ хоча?

— А тваё людзі гоняць яго, ён не мае работы, усе

цураюцца яго, сёстры і браты выракліся іх. Ці ты не мог бы загадаць, каб было інакш?

— Загадаць людзям, каб любілі? — з усмешкай запытаў пан.— Сама ты скажы мне, ці гэта можна?

— Любіць — не, але слухаць павінны! Ты ж тут пан, ці ж нельга табе выправіць іх да каваля так, як загадаў назаўтра склікаць грамаду.

— Магу я,— сказаў Адам,— але які з гэтага толк?

— Паспрабуй.

— Хочаш, паспрабую,— адказаў малады чалавек і загадаў на заўтра склікаць грамаду.

Рэдкая была гэта справа — гутарка гэтага пана з чэляддзю і людзьмі. Павольны і лішне лагодны больш праз ляноту, чым з дабрыні, ён не ўнікаў у тое, што ў яго адбывалася і нават на ўрачыстых сустрэчах з грамадой рэдка да яе адзываўся.

Разышлася вестка па сяле, як надзвычайная навіна. А Максім Лях, Скарабагаты і Сымяга, якія ўзначальвалі грамаду, адразу адгадалі, у чым тут справа. Вечарам, па загаду атамана, сабраліся за карчмой на нараду.

— Нічога гэта,— сказаў Максім,— гэта, напэўна, цыганская справа. Гэты чорт цыганіха ўбілася яму ў вока, напэўна, будзе прасіць за каваля.

— Ого! — гнеўна пырснуў Скарабагаты, падымаючы ўверх руку.— Нічога з гэтага не будзе. Я памятаю словы нябожчыка Лепюка! Гэта ж сорам зрабіў цыганскі прыблуда ўсёй вёсцы, узяўшы ў нас з-пад носа дзеўку, і грамада зраклася яго і пастанавіла, што змусіць яго пайсці прэч.

— А гэта такі добры каваль,— буркнуў Сымяга, круцячы галавой.— Бывала, у Рудні, як прыйдзеш з радлам ці з падоскам, з касой ці сякерай, то люба глядзець, як ён возьмецца за молат. Ужо я пераканаўся, што моцна і сумленна робіць, што такі добры з яго майстра.

— А што гэта — адзін ён на свеце? — пачаў зноў Скарабагаты.— Жылі мы дагэтуль без яго, пражывём і далей. Грамада павінна трымаць свой гонар і сваё слова.

— А як пан загадае? — запытаўся Лях.

— А што гэта, у карчму ці ў млын, што будуць нас пільнаваць, каб набок не ездзілі? Га? Што гэта, каваль у арэнду нас узяў?

— Які ты мудры,— адказаў Лях.— Ну-ну! Помні ж, вазьміся гаварыць за грамаду, як заўтра будзе трэба.

— А вы думаеце, што не змагу? — запытаўся Скарабагаты.— Ой! ой! Толькі той бяды! І скажу як належыць, хоць бы і пану.

— А каб мы так, ойча, падумалі, разважылі,— перарваў Максім,— ці варта набажэнства свечкі? За чыю гэта душу мы пакутуем, маючы майстра пад носам, ходзім за вярсту і больш. Каму гэта на злосць, калі не нам самім?

— А грамадскае слова? — выкрыкнуў Скарабагаты.— А Ляпюк?

— Памёр і пахаваны, і святы яму супакой. Навошта вывалакаць яго з магілы?

На гэту гутарку надышло яшчэ некалькі гаспадароў, і здагадкі пра заўтрашні сход у пана і пра адказ, які выпадала даць, калі б ён намаўляў звяртацца да цыгана, распачаліся нанова.

Думкі падзяліліся, аднак старэйшы Матрунін брат, а за ім і большасць са Скарабагатым голасна крычалі, што грамада павінна паставіць на сваім. Як і заўсёды, хоць, можа, менш было ўпартых, але тыя, што ўпіраліся, крычалі моцна, пацягнулі за сабой слабых і заглушылі нясмелых. Максім Лях не адважыўся спрачацца, а брат Матрунін Пілін не адкрыў нават рота.

Такім чынам, можна было ўжо прадбачыць, што станецца ў двары. Баязлівыя замоўкнуць, а крыкуны

заглушаць нясмелых і застануцца пры сваёй упартасці.

Назаўтра ■ раніцы натоўп моўчкі абкружыў дворскі ганак. Аднак, калі прыйшла пара выйсці да людзей, пан Адам так вагаўся, так збіраўся, што ўжо загадзя мучыўся думкай пра размову і спрэчку і пратрымаў пакліканых аж да паўдня. Нарэшце высунуўся з патухлай люлькай, вітаючы ветлівым паклонам сваіх людзей, якія моўчкі пакорліва чакалі панскага слова. Не насмеўшы напасці адразу ■ патрабаваннем, якое меў на думцы, пан пачаў бубнець пра ўраджай, пра гаспадарку і нарэшце апомніўся.

— Паслухайце, паны грамада! — сказаў.— За што вы ўз'еліся на беднага цыгана, каваля, які вам патрэбны, і праз нейкія там дурныя забабоны не хочаце карыстацца яго паслугамі? Ён збудаваў хату і кузню, пасяліўся, ■ ні адна душа жывая з ім ні гаварыць, ні жыць не хоча!

Выступіў з паклонам Скарабагаты.

— Праўду сказаўшы, паночку, мы яго сюды не запрашалі, пасяліўся, бо захацеў... А што грамада пастанавіла не браць яго да працы, дык гэта не без прычыны...

— Якая ж прычына?

— А дачка Лепюка, якую ён, як гвалтам, супраць бацькавай волі збаламуціў. Ці ж гэта не сорам нам? Пабратаўся ■ намі гвалтам, дык мы яго да сябе падпусціць не хочам. Дапусці курыцу да грады, дык не абярэшся бяды. І далей будуць цыганы нашых дзевак забіраць... А Ставіскі не цыганская бацькаўшчына...

Пан Адам зірнуў на пахмурны твар Скарабагатага і не ведаў, як быць далей.

— А каб я вас за яго папрасіў? — запытаўся.

— Лепш не рабіце гэтага,— сказаў Скарабагаты.— Няхай цыган ідзе куды хоча. Свет яму шырокі, жонкі ў яго ніхто не адбірае.

— А каб я гэтага запатрабаваў? — паўтарыў пан.

— І не патрабуйце гэтага ад грамады,— адазваўся стары.— Вы не павінны хацець нашага сораму.

— Які ж тут сорам? Ці ж мала цыганоў пасялілася ў вёсках і ажанілася з гаспадарскімі дочкамі?

— Гэта праўда, але з дазволу гаспадароў, а не супраць бацькоўскай волі! — адказаў Скарабагаты, трасучы галавой.— Што благое, тое благое!

— Гаварыце што хочаце, але вы не маеце рацыі,— прабубніў пан Адам.— Пагневаліся, пазлавалі, пара забыцца і зміры́цца.

— Ляпюк памёр, [redacted] ён адзін мог дачцэ дараваць. А так ні браты, ні грамада не маюць на гэта права.

Адам, убачыўшы ўпартасць старога, звярнуўся да Матрунінага брата, які стаяў збоку, склаўшы рукі на грудзях, у паставе, якая абазначала, што збіраецца ўпірацца на сваім.

— Гэта вы прычына ўсяго гэтага,— сказаў.— Вы падгаварылі грамаду, гэта ваша справа выступаць супраць двара... Але памятайце, што кепска на гэтым выйграеце...

— Воля панская,— ганарыста адказаў Максім.— Грамада мае свой розум. Няхай пан гаворыць што хоча, а мы толькі выконваем бацькаў загад. Хацела Матруна ісці за цыгана, двор ажаніў. Мы ж тады нічога не казалі. А братацца з ім не думаем.

У пана Адама не хапала сілы, каб далей спрачацца з грамадой, ён толькі хацеў выканаць абяцанне, не вельмі верачы ў вынік.

— Ну, ну! — сказаў больш грозна, па-панску.— Не хачу слухаць вашых прычын. Даволі, што мне гэта не падабаецца, што вы праследуеце беднага. Загадваю, каб мне больш гэтага не было! Каб мне гэтага не было!

Паўтарыў яшчэ раз і знік.

Паны грамада глянулі адзін на аднаго з нейкай

кеплівай усмешкай, моўчкі пакланіліся і памалу разышліся.

Усю гэту размову Аза чула праз акно і бачыла постаці людзей і пана. А калі Адам, збянтэжаны няўдалай гутаркай, вярнуўся ў пакой, пачала смяяцца на ўсё горла.

— Ой, які ты строгі,— выкрыкнула, разлягаючыся на сафе,— які ты страшны! Як цябе баяцца твае людзі! Цяпер я ўпэўнена, што натоўпам пойдуць да каваля. Ха! ха! ха! Выдатна ты іх прабраў!

Адам зачырванеўся.

— Шо ж ты хочаш? — сказаў.— Я зрабіў усё што мог, але тут народ такі ўпарты. Зрэшты, ці ж можна вінаваціць яго за тое, што ў такіх выпадках хоча мець сваю волю?

Пагардлівы позірк быў адказам цыганкі, якая ўстала, ахінулася шалем і, не развітваючыся з панам Адамам, выйшла з дома.

Як звычайна, скіравалася да хаты Тумрага і, наблізіўшыся, пачала ісці памалей. Позірк яе ўпаў на дзверы ляпянкі і затрымаўся на іх даўжэй. Вочы яе заіскрыліся нейкім гневам, папрокам, жаданнем. Падышла і спынілася: увайсці ці не? І ў той час выйшаў з сенцаў схуднелы бледны цыган і, не заўважыўшы яе, спыніўся ля парога.

З яго твару, постаці і рухаў было відаць, што ён не думаў аб тым, што робіць. Выйшаў, бо, можа, у хаце не хапіла яму паветра і не было чым дыхаць. Стаяў, бо не адчуваў патрэбы ісці далей, і было яму ўсё роўна, ці знаходзіцца тут, ці ў іншым месцы. Апушчаныя ў бяссіллі рукі, звешаная на грудзі галава, на ёй скудлачаныя валасы, прыадкрытыя вусны, збялелыя шчокі, патухлы позірк — усё гэта рабіла яго падобным да хворага, які ўстае з ложка пасля цяжкой і доўгай хваробы.

Аза, не заўважаная ім, не зводзіла з яго цікаўных вачэй, і вось засвяцілася ў іх штосьці, як быццам ра-

дасць ці спачуванне. Падышла на некалькі крокаў бліжэй, а ён яшчэ яе не бачыў. Урэшце цень лёг на цыгана, ён адчуў, што нешта набліжаецца, і памалу абыякава ўзняў галаву.

— Тумры! Што з табой? — запытала Аза.— Ці не хворы ты?

— Хворы! — адказаў цыган.

— Яга нічога не казала мне пра тваю хваробу.

— Не было што пра яе казаць,— адказаў коратка цыган.

— А можа б, мы што ўрадзілі?

— О, не! — горка ўсміхаючыся, адказаў Тумры.

— Не? Чаму?

— Таму што гэта хвароба і не хвароба. Бо і хвароба, і галеча, і голад, і адчай, і больш за тое, больш, чым слова выказаць можа.

Цыганка, пачынаючы гутарку з Тумрым, памалу ішла ў бок табара, а ён, не думаючы, што робіць, машынальна са спушчанай галавой адказваў і цягнуўся побач. Ішлі так разам то моўчкі, то парушаючы маўчанне кароткімі рэплікамі. І не агледзеўся цыган, як далёка за сабой пакінуў хату.

— А твая жонка? А дзіця? — запытала Аза.

— Як я! — сказаў Тумры.

— І што ж вы думаеце?

— А што ж нам думаць? Прыйдзецца памерці!

— Глупства! — жвава запыніла яго цыганка.— Памерці па загаду не можаце, тут трэба шукаць рады. *Мутэс-ора* (смерць) не прыходзіць, як яе клічуць.

— Няма нам рады!

— А каб я табе яе дала?

І глянула ў яго вочы з запытаннем.

— Ты? — недаверліва ўсміхаючыся, запытаў цыган.— О! Не аддавай таго, што табе самой патрэбнае. Прыдасца і самой!

— Мне рада? Навошта?

— Бо і ты так, як я, звязалася з *гадзямі* і, як я, будзеш мець з гэтага карысць.

— Я? *я?* — засмяялася цыганка.— Што ж ты думаеш, Тумры?

— Думаю тое, што бачу і што думаюць усе... што ты прапала таксама.

Аза не перастала смяяцца, узрушваючы плячыма.

— О! Вам здаецца,— адазвалася пасля хвіліны маўчання,— што Аза такая мяккая, такая добрая, такая паслухмяная, як вы ўсе, якім *Мродэн-ора* не даў ні волі, ні духу... што хопіць кіўнуць на яе, даць ёй цацку або паказаць *ловы* (грошы), і яна пойдзе абы за кім! Што з таго, што я хаджу ў двор? Ад гэтага двор мяне не спутае: я яму, а не ён загадвае.

— А пан Адам? — запытаў, углядаючыся ў яе, Тумры.— Гэта ж твой палюбоўнік!

— Такі, як і ты! — адказала дзяўчына.

— Што я? — ажыўляючыся, сказаў цыган.— Што я? А калі ж я быў тваім палюбоўнікам?

— І ён ім ніколі не быў.

— Чаго ж ты тады сядзіш у яго? Навошта яго баламуціш?

— Сяджу, бо мне там добра, выгодна, цёпла, спакойна, няголадна! — смеючыся, гаварыла Аза.— І дзень, і адну гадзіну ўкрасці цыгану ад галечы і сваёй бяды шмат значыць, і то добра! Ці можаш ты ўявіць, каб такая цыганка, як я, *раклёра* (дзяўчына) палюбіла такое стварэнне, як ваш пан? Ён жа вымучаны, ледзь жывы і больш патрабуе доктара і лекаў, чым каханкі! Ой, Тумры! Не ведаеш ты яшчэ мяне.

— Калісьці ведаў,— ціха ўздыхнуўшы, сказаў цыган,— але хто ж паручыцца за вас і скажа, што будзе заўтра!

— Я ж бы сказала табе, што будзе заўтра, што павінна быць заўсёды,— перапыніла, задумваючыся, Аза.

А былі яны ўжо далёка за вёскай сярод поля толькі ўдваіх. І толькі тут заўважыў Тумры, калі мусіў дзеля яе спыніцца, што так далёка бяздумна адышоў ад хаты за гэтай дзяўчынай, пакінуўшы Матруну адну. Здзіўлена азірнуўся.

— Што павінна быць заўтра? — запытаў з вымушанай усмешкай.— Тое, што і сягоння: голад і галеча. Вы пойдзеце вандраваць па шырокім *пфуфе* (зямлі), а я, прыкаваны тут, мушу памерці.

— Што за мус? — сказала дзяўчына.— Можаш пайсці з намі.

— Я, з вамі? — паўтарыў Тумры.— А жонка?

— З жонкай і дзіцём — удакладніла цыганка. Ці ж мала нас так ходзіць? Чаго ж табе тут даўжэй чакаць? Каб асудзілі і павесілі? Яшчэ ніхто з нас не памёр галоднай смерцю, і ты знойдзеш кавалак хлеба.

— Але яна, яна не захоча!

— Што гэта ў вас, *эгашы* кіруе, не дадос? — насмешліва прамовіла Аза.— Будзеш слухаць дурную жонку? Выйшла за цыгана, дык няхай ідзе за цыганом! Ад яе ж тут адракліся.

— Не! — пасля нядоўгага роздуму сказаў Тумры.— Я гэтага не зраблю!

І было відаць, што затаіў у сабе нешта скрытае, бо раптам вусны яго сціснуліся, калі з іх хацела вылецець слова.

— Чаму? — напорыста запытала цыганка.

— Чаму? — падымаючы на яе штораз смялей свой нахмураны позірк, адазваўся Тумры. Ён схапіў яе за руку.— Можа, таму, што і ты ішла б з намі... чуеш, Аза?

— Я? Дык я ўжо твой вораг? — з папрокам запытала Аза.

— Не. Але пара́ ўжо табе сказаць: ты з мяне, як таго *рая* (пана), спаліла сваімі вачыма на вугаль. У цябе няма сэрца!

— О! Навошта ж табе маё сэрца?

— Пытаешся яшчэ, Аза?

— Пытаюся, бо ты пакахаў бледную *эгашы*.

Тумры спусціў вочы.

— Ты тады таксама шалела за *гадзіем*.

— Так, як і сягоння! — адказала цыганка.— Але што табе да мяне і майго сэрца? Не хацеў ты мяне раней, а цяпер ужо не пара́...

— Не пара́, не пара́,— пускаючы яе руку, сказаў цыган.— О! Я гэта ведаю. Але ж я толькі цяпер за табой шалею!

— Ох, ох! Праўда, Тумры? — запытала трохі збянтэжаная дзяўчына.

— Подлая! Яшчэ насміхаешся з мяне!

— Не! Ма́ю літасць і толькі пытаюся.

Цыган глянуў на яе з-пад навіслых броваў і замоўк.

Ішлі так моўчкі яшчэ доўга, але тым часам змяніліся іх твары і думкі. Аза ад насмешкі перайшла ў нейкае незвычайнае задуменне. Было відаць, што сіла яе пакідала, што пачуццё, над якім дагэтуль панавала, брала верх над пастанаўленнем: вока яе засланілася вейкамі, вусны задрыжалі...

Тумры перайшоў ад абыякавасці і здранцвеласці ў зачараванне, амаль у той самы шал, у якім калісьці ўночы бег да табара... Гэта быў ужо не той цыган, які выйшаў з хаты сам не свой, стомлены і слабы, грудзі яго ўзнімаліся, а вочы пачыналі гарэць. А калі іхнія два пагляды ізноў на хвіліну неспадзявана сустрэліся, Аза аж спалохалася, яна адчула сябе такой слабай, а яго ўбачыла такім дужым, што аж адступілася.

— Ідзі дахаты,— сказала дрыготкім голасам,— ідзі, Тумры, дахаты... яшчэ ўбачымся.

— Дзе? Калі?

— Не ведаю... не ведаю! — паспешліва, жадаючы, але не могучы адысці, пачала Аза.— Можа, сягоння, можа, заўтра...

— А ты зноў паляціш у двор?

— Не! Іду ў табар...

— Але будзеш у двары? — загаварыў Тумры, робячы з пытання папрок.— Пасаромейся! — дабавіў, не даючы ёй сказаць.— Нашто табе гэты паўзгнілы труп? Ты ведаеш, што ён створаны не для цябе, а мучыш яго і забіваеш...

Дзяўчына варухнула плячыма, вочы яе паяснелі, пачалі зноў гарэць, вусны дыхнулі ганарлівасцю і пагардай.

— А навошта мы створаны,— запытала, быццам у натхненні,— толькі на галечу і бадзянне, на боль і пакуты? Не! Не! Вялікі *Мродэн-ора* ведаў, нашто нас паслаў на свет! Ён прызначыў нас на загубу, на паражэнне, на знішчэнне *гадзіяў* і загадаў нам шкодзіць ім і забіваць іх. Кожны [redacted] нас робіць тое, што ўмее, выконваючы вялікі загад *Мродэн-ора*, пра які гавораць нам маткі [redacted] дзяцінства, напамінаючы нам тое, што нас чакае. Старыя варожаць і страшаць варажбой, хапаюць іхніх дзяцей, забіваюць маладых матак, а мы, дзяўчаты, павінны мучыць іх інакш! Я яго замучу, замару! Я яго паглядам атручу!

Нейкі інстынкт знішчэння і такая заўзятасць і заядласць гаварылі вуснамі дзяўчыны, што Тумры амаль яе збаяўся.

— Ці ж яны павінны мець усё, а мы нічога, апроч нашай галечы? Чаму яны падзялілі паміж сабой свет, і багацце, зямлю, і ваду, і паветра? Нам павінна было таксама нешта дастацца, і мы той чарвяк, што ў гэты плод упіваецца, што выядае з яго зерне! Хай загіне! Хай загіне! — паўтарыла з азартам.

— Няхай гіне! — прашаптаў задуменны Тумры.— А ўсё ж, ведаеш, Аза? — дадаў няўпэўнена.— Мне было б яго шкада.

— О, бо ты ўжо не сын *эруманселяў*,— перапыніла

хутка дзяўчына,— ты *гадзіа*, як яны, крывёй і сэрцам, ты таксама наш вораг, калі літуешся з іх.

— Шалееш! — сказаў Тумры.

Аза ўсміхнулася, [redacted] з-пад яе ружовых вуснаў, нібы яна хацела ўкусіць, бліснулі двума радамі перлаў яе белыя сціснутыя зубы.

— Ну, хопіць, хопіць гэтага! Дахаты, нявольніча, да будкі прыкаваны *шукеля* (сабака), да жонкі, *гадзь...* а я да сваіх.

Тумры яшчэ хацеў запытацца, калі яе ўбачыць, дзе з ёй ізноў спаткаецца, але дзяўчына, апрытомнеўшы і вярнуўшы ўладу над сабой, панеслася, як птушка, і хутка знікла ў яго [redacted] вачэй.

Вечарам ізноў праляцела Аза побач з хатай Тумрага і пабегла ў двор. Што яе туды цягнула? Ці хцівасць, ці цікаўнасць, ці сапраўды той інстынкт помсты і праследавання, які хвілінамі так моцна адзываўся ў яе сэрцы? Хто ж ведае?

Пан Адам вітаў яе аднолькава слабы, аднолькава падражнены жаданнем, але ад першага дня, не ўмеючы дабіцца ад яе нічога, апроч гарачага пацалунка, пачынаў ужо, асабліва калі яе не бачыў, застаўшыся адзін, злавацца і нецярплівіцца.

— Што яна сабе думае? — гаварыў, калі яна ўцякала і пакідала яго аднаго.— Будзе да канца так мяне зводзіць і мучыць і зноў уцякаць? Ужо нават людзі з мяне смяюцца, я і сам сябе не пазнаю. Трэба нарэшце гэта скончыць і альбо затрымаць яе тут, альбо, адсцябаўшы гэту падманшчыцу, прагнаць яе прэч. Даволі ўжо гэтага, даволі!

І, прымаючы пастанаўленне, якога не меў, пан Адам паўтараў, быццам хацеў натхніцца гэтымі словамі: «Даволі ўжо гэтага! Даволі гэтага!»

Аднак, калі прыгажуня, трохі сумнейшая, чым звычайна, убегла ў яго пакой і заблішчала ў той чорнай пустэчы тварам, поўным жыцця і агню, вачыма пала-

ючымі, як у дзікага звера, пан Адам, забыўшыся на ўсе ўрачыстыя пастанаўленні, увесь расплыўся ў згадцы яе прынад.

Аза, не прамовіўшы да яго ні слова, кінулася на мяккую канапу, падкурчыла пад сябе ножкі, як быццам сядзела на зямлі, галаву абаперла на падушкі і, уставіўшы вочы ў столь, доўгі час заставалася ў задумлівасці.

Гэта дазволіла пану Адаму ізноў набрацца трохі сілы і прыпомніць сабе сваё пастанаўленне.

— Аза,— сказаў даволі сурова, падыходзячы да яе,— ну! Што ж будзе з намі? Трэба ўжо гэты раз скончыць...

Але цыганка, нават не павярнуўшы галавы, увесь час гледзячы ўгору, упэўненая ў сваёй сіле, адказала абыякава:

— Ну гавары, я з прыемнасцю паслухаю, як гэта павінна скончыцца...

— Як хочаш, абы скончылася,— адказаў, стараючыся быць сур'ёзным.— Мне даволі ўжо тваіх кпін і тваёй маны. Няхай цыганы едуць далей, ■ ты заставайся са мной, або і ты і цыганы — прэч!

Апошнія словы вымавіў так ціха, так слаба і невыразна, як быццам сам баяўся іх пачуць, і, не закончыўшы думкі, абарваў.

— Ха-ха-ха! — рассмяялася дзяўчына, увесь час гледзячы ўгару.— А як цыганы пойдуць і я разам з імі, дык што ты тут будзеш рабіць? О, скажы, калі ласка! Будзеш пазяхаць, нудзіцца, перабіраць брудных сялянак, купляць бледных мяшчанак. Можа, нарэшце, другі раз ажэнішся, і другі раз цябе ашукаюць...

Гэты напамін заўсёды вельмі непрыемны для пана Адама і найбольш для яго раздражняльны, быў, магчыма, адзіным спосабам вывесці яго ■ цярплівасці. Ён ускочыў ■ крэсла, бліскаючы вачыма.

— Сціхні, гадзіна! — закрычаў, ахоплены гневам.

— А-а! Зірніце! Вырашыў загневацца! — холадна пачала цыганка.

— Яшчэ слова,— сказаў Адам,— і...

— І што? — запыталася Аза.

Пан Адам затросся з гневу і аж схапіўся за валасы, ужо нічога не мог вымавіць, такая хваравітая лютасць пачала яго калаціць. Ледзь прыкметным рухам вачэй змерала дзяўчына яго раз'юшанасць і небяспеку, якой сябе падвяргала, калі яе не стрымае, бо ведала, які быў пан Адам у хвіліну пераскоку са штодзённай апатыі ў шал нястрыманасці. Дык памалу з усмешкай паднялася і, нічога не гаворачы, уставіла ў яго сваю пару чорных вачэй, у якія ўклала свае яд і чароўнасць.

Не змог устаяць перад імі пан Адам, бо ішлі за ім усюды і прыцягвалі нейкай незразумелай сілай. Ён хацеў застацца ў гневе, яшчэ петушыўся і строжыўся, але адчуваў, як тое пачуццё распылялася і мінала, і нарэшце, пераможаны, у насупленай маўклівасці, кінуўся на крэсла.

Цыганка не магла дазволіць, каб яе так хутка выгналі са Ставіскаў.

«О, не! — сказала сабе ў думках.— Яшчэ не прыйшла пара мне адыходзіць. Перш я павінна аблытаць і пацягнуць за сабой Тумрага. Пайду тады, калі захачу, не выгнаная з сорамам, але са слязьмі прошаная застацца. Чакай, *рай*, заплаціш ты мне за гэта ў тры разы, заплаціш за сягонняшняе!»

Тым часам твар яе сумна раз'ясняўся.

— А! Няўдзячны! — выкрыкнула.— За тое, што я да яго вярнулася, ён мяне яшчэ лае і мучыць!

І такая лагодная ўсмешка расквеціла яе вусны, яна зрабілася такой задуменнай і ласкавай, такой нейкай разняшчаснай і зажуранай, што пан Адам, цалкам разброены, упаў перад ёй на калені.

— Ах! Даруй мне, прабач, і не гневайся, і не плач! Я столькі выцерпеў ад цябе, галава мая ідзе кругам.

І ўсё ж скажы канчаткова: што думаеш? Кахаеш мяне ці не? Будзеш ці не хочаш быць маёй?

Аза страсянула галавой.

— Калі я буду чыёй, дык на ўсё жыццё. А калі хто збіраецца прадацца ў няволю, дык павінен добра падумаць і запытацца ў свайго сэрца. Не! не! Так хутка абяцаць я табе не магу. А вось бачыш, што я вярнулася!

— Дык кахаеш мяне? — запытаў, раптам пераходзячы да расчуленасці, пан Адам, беручы руку, якую яму цыганка апусціла.

— А ці я ведаю,— адказала,— каго люблю і ці люблю і ці буду любіць калі-небудзь? Маё сэрца яшчэ спіць, а хто яго разбудзіць, той атрымае. Прабуйце!

— Але ж маё! — сказаў пан Адам.

— Тваё хай мучыцца і няхай чакае!

«Гэта сапраўднае дзіва,— усхапіўшыся і пачынаючы хадзіць па пакоі, гаварыў сам сабе пан Адам,— адкуль гэта простая дзяўчына магла ўсяму такому навучыцца, і гэтым словам, і думкам, і тым залётным прыёмам, якія ведае лепш за нашых паняў. Добра відаць, што робіць ■ мяне забаўку!»

Каб пазбегнуць магчымага бунту, Аза, якой не спадабаўся шпацыр пана па пакоі, жадаючы мацней прыцягнуць яго да сябе і выбіць у яго з галавы нядобрыя намеры, з якімі ёй адразу адкрыўся, кіўнула на яго і абхапіла. Ведала, чым можна яго закалыхаць, аблашчыць, прывабіць. Зрабілася прыгожай, задуменнай і пасадзіла нявольніка каля сябе, даючы яму абедзве рукі і схіліўшы галоўку на яго плячо.

І чараўніца лёгка завалодала ім нанова, ■ пан Адам забыўся, што хвіліну назад абураўся і выганяў яе прэч.

Так было яму цудоўна з гэтай галоўкай, набліжанай да яго вуснаў і прытуленай да грудзей, у атмасферы яе дыхання і позірку... Або замоўклі...

А ў тую хвіліну двое страшных чорных вачэй прашчаміліся ў цемнаваты пакой праз галлё бэзу і праз шыбу і пачалі запальчыва шукаць, на кім спыніцца.

Дзяўчына, як быццам адчула іх укол, страпянулася і паварушылася, не ведаючы, што разбудзіла яе з гэтага нейкага лянівага здранцвення. Падхапілася, але ўжо было позна!

Тумры, які сачыў за ёй, прыбег следам у двор і, шпіёнячы, убачыў іх абаіх у знямелым абдымку, дык, абураны, сціскаючы кулакі, адскочыў ад акна.

— А! — Заб'ю іх абаіх. Заб'ю, падпалю двор, з попелам пушчу ўсю вёску... няхай гінуць! Гэта крывадушніца зводзіць мяне, зводзіць яго, яна рада была б мучыць увесь свет. За што гэты чалавек мае права яе сабе прысвойваць? За што ён такі шчаслівы, а я такі бяздольны? За што гэтыя *гадзі* могуць мець найлепшы кавалак нават з нашага дабра? Праклятыя!

Гаварыў і глядзеў, хоць малюнак, які быў перад вачыма, смаліў яго болем, аднак здавольваўся ім, не могучы адарвацца ад відовішча, якое рвала яго грудзі. Тым часам Аза ўзнятую на хвіліну галаву ізноў апусціла на плячо апантанага Адама.

Вось так яны марылі ўдваіх, і з вуснаў цыганкі выплыла ледзь чутная спачатку, ціхая песня яе маладых гадоў, добра знаёмая Тумраму, і пачала будзіць у ім тысячы ўспамінаў. Памалу льючыся [illegible] вуснаў і грудзей, песня пачала ажыўляцца, яна станавілася гучнейшай, штораз весялейшай, даючы цыгану новыя пакуты. Пакутаваў, а адарвацца не мог. Невыразныя словы, якія толькі ён разумеў, поўныя агню і нястрымнай азартнасці, хапаў вухам, глытаў дыханнем, баючыся, каб не ўпусціць з іх ні аднаго.

Чаго ж бо там не было, у той сумна дзікай, да шаленства любоўнай песні!

Тумры прыпомніў сабе ўсе месцы, дзе і калі яе ў сваім жыцці чуў. Прыпомніў усю сваю долю ад ка-

лыскі: і свае пакуты маладосці, і свой лёс, і лёс Азы, якая пад яго вокам расла з дзіцяці ў дзяўчынку, у дзяўчыну, у чараўніцу.

І, забыўшыся на адну пералётную хвіліну пра свой гнеў, задумаўся: адкуль прыйшло да яго тое неспадзяванае каханне, якога раней не адчуваў нават зародку? З чаго нарадзілася цяга да так зненавіджанага нядаўна праклятага жыцця? І як ён мог так моцна змяніцца, каб стаць такім невыказна няшчасным?

— Хіба што гэта чары,— сказаў, уздыхаючы,— гэта ўрокі, кінутыя на маё няшчасце і на маю загубу, гэта помста *ромаў*. Яны ўлілі ў яе вочы атруту, каб яна сплыла з іх у маё сэрца. Яны хочуць загубіць мяне, і жонку, і маё дзіця, насылаючы на нас вар'яцтва, сум і дурныя пажаданні! Аза заб'е мяне памалу, як вуж, сваім зрокам. Не жыла б сапраўдная цыганская кроў, каб чаго-небудзь ад каго-небудзь не крала!

— Вярнуся дахаты! — сказаў сабе, адводзячы вочы. Але вось новы куплет дайшоў да яго вуха, і Тумры затрымаўся.

Як у сне, цягнуліся перад ім вобразы, прывязаныя да слоў песні, і ён усё глыбей і глыбей адступаў за імі ў дні дзяцінства, сціскаючы ў дрыготкіх далонях гарачую галаву...

— О! Праклятая! Праклятая! — выкрыкваў.— Яна, напэўна, адчувае, што я тут, што слухаю, і прыкоўвае мяне гэтай песняй да сябе, трымае, а сэрца выдзірае... Пайду!..

І пачаў уцякаць, але ногі пад ім дрыжалі, і, з цяжкасцю перамагаючы зачараванне, якое трымала яго каля акна, паваліўся да сваёй хаты.

Тут было пуста і сумна, як заўсёды. Старая Яга вярнулася ў табар, а Матруна сцягнулася з ложка з дзіцём пры грудзях, пачынаючы другую частку свайго жыцця, пра першую якога хацела забыцца. Цяпер яна стала толькі маці і жыла для той дзяўчынкі, якая ў

пялёнкавых снах не ведала, на якую галечу прыйшла на свет.

Ледзь падняўшыся на ногі, Матруна павінна была ізноў пачынаць думаць пра хату, пра дзіця, пра мужа, які з кожным днём, усё больш бяздзейны, безуладны, менш ёй памагаў, цэлымі днямі, нібы ў нейкім паўсне, прыросшы да лавы.

Яшчэ хворая, найперш панесла дзіцятка хрысціць, але не было ў яе кумоў, і ксёндз мусіў ледзь не сілай паклікаць да гэтага абраду дваіх жабракоў, бо па добрай волі ніхто не хацеў з цыганіхай куміцца.

Пасля таго з немаўлём ля грудзей павалаклася бедная Матруна пад дзверы бацькоўскай стадолы, спадзеючыся сустрэць там малодшага брата. На шчасце, ён якраз выходзіў з кулём саломы на плячах, калі яна апынулася перад ім.

— О, брацiку Піліпе,— адазвалася, хапаючы яго за світку,— пачакай хвіліну, дазволь хоць пачуць твой голас.

Піліп спалохаўся сястры, але спыніўся.

— Чаго ты хочаш? — запытаў.

Матруна пачала з плачу, праз які ледзь магла вымавіць слова.

— Глядзі,— сказала ўрэшце,— майце літасць, калі не нада мной, дык над маім дзіцём. Ужо няма ў хаце чаго есці. Тумры зусім апусціў рукі, як быццам яго на смерць вядуць, ні за што не бярэцца. Яшчэ на бяду прыйшлі цыганы і дураць яму галаву; поўная іх хата! Я так баюся, а ён не звяртае на гэта ўвагі!

— А што ж я параджу? — запытаў Піліп.

— Дайце хоць што-небудзь дзіцяці. Я галодная, і яно ад мяне не пажывіцца. Каб хоць кропельку малака, каб штодня кавалак хлеба!

У Піліпа нагарнуліся пад павекамі слёзы, неяк асабліва застукала ў яго грудзях сэрца, і ён сказаў, нядоўга думаючы:

— Ну хадзі са мной!

Кінулася за ім Матруна з крыхай слабой надзеі. Піліп, несучы салому, кіраваўся проста да хаты і, пачуўшы стук Максімавай сякеры, які ля клеці ладзіў воз, скінуў з плячэй куль і кіўнуў сястры, каб ішла за ім.

Яму здавалася, што хопіць паказаць брату бедную Матруну, каб разбудзіць у ім літасць. І праўда, гэта была ўжо не тая прыгожая румяная дзяўчына, за якую ўсе вясковыя дзецюкі маглі біцца, цяпер была яна завялая, бледная, збалелая, і слабая, і заўчасна пастарэлая, а сляды яе маладой прыгажосці ўшчэнт вынішчылі нястача і стома.

Калі на голас Піліпа Максім падняў галаву і ўбачыў сястру, то адразу яе не пазнаў, так страшна яна перамянілася. Яна падышла да яго, паказваючы заплаканае дзіця, і, не могучы вымавіць слова, упала да яго ног. Максім адступіў некалькі крокаў.

— Чаго ты тут? — запытаўся, дадаючы сабе гневу, якога не меў, бо зламаў яго выгляд гэтай галечы.

— Каб ты ўбачыў, што вы з нас зрабілі,— адказала Матруна.

— Мы? — сказаў заікаючыся Максім.— Не мы, а вы самі. А навошта ж было ісці супраць бацькавай волі? Бог пакараў цябе, Матруна!

— А ці ж не хопіць ужо кары?

Максім збянтэжыўся, было відаць, што не ведаў, як зрабіць, і шукаў спосабу, каб выкруціцца з гэтага непрыемнага становішча.

— Ратуйце мяне хоць цяпер,— адазвалася Матруна,— калі не чым іншым, дык хоць кавалкам хлеба, бо і гэтага ў мяне няма.

— Хлеба не надаешся,— адказаў Максім,— і ў нас яго не лішне, год быў неўмалотны, а ў нас вялікая сям'я, ледзь дацягнем да новага. Чаго вам упірацца

і абавязкова тут сядзець, калі ў іншым месцы можаце зарабіць?

— А хата? сяліба? — запытала сястра.— А стольні нашага гаравання каля яе? А ўрэшце, як жа мне, браце, ісці за ім у свет?

Не хацела, бедная, сказаць, што з кожным днём усё больш яго баялася, так ён адмяніўся, здзічэў, ацыганіўся.

— Пілiп,— сказаў Максім,— дай ёй мерку жыта, толькі каб жонка не бачыла, бо і ў нас няшмат, а ратоў хапае... Ідзі ўжо, Матруна!

— І так мяне, брат, адпраўляеш?

— Ну, ну! — дадаў Максім.— Каб ад цыгана ты пазбавілася, каб пайшоў ён да ліха, была б мо якая рада... а з цыганом мы ніколі не будзем мець дружбы, гэта дарма! Бацька загадаў, грамада пастанавіла, пан прасіў і змушаў, а мы не адступілі, то і не адступім!

Хоць Максім нічога не абяцаў, усё ж перамена тону яго прадказвала, што хістаўся і хацеў бы нешта сястры зрабіць, дык не настойвала і пайшла спакайнейшай, намерыўшыся прыйсці па жыта пазней. Пакінула яго наўмысна, каб мець права прыйсці ў хату братоў другім разам.

На дарозе сустрэлася з Янакам, які гнаў памалу кульгавага вала да сваёй сялібы.

— А скуль жа гэта, Матруна? — запытаў сябра.— І куды гэта, даражэнькая, ідзяце?

— О! Як даўно мы цябе, наш добры Янак, не бачылі! — весялей адазвалася жанчына.

— Няма чаго мне да вас хадзіць,— проста адказаў хлопец.— Я спачатку думаў, што гэты твой цыган нешта талковае, а гэта такі самы шэльма, як і іншыя... На тваім месцы я кінуў бы гэтага няверу, няхай бы вандраваў сабе са сваімі, альбо пайшоў бы і не вярнуўся, бо няма чаго...

Матруна, уся здрыгануўшыся, спынілася.

— Што ж ён зрабіў? — запытала.— Я нічога не ведаю...

— Добрая ■ цябе жанчына, што ты сляпая. Хацеў бы я ўзяць аднекуль такую жонку! Ды гэты ж лайдак лятае за цыганкамі, як дзяцюк, дому не пільнуе і замест пайсці ў Рудню на заробак валочыцца па палях альбо дрэмле ў хаце. Ужо я туды да вас і не зазірну, бо я злы. Бывай здарова, Матруна!

Сказаўшы гэта, падняў галіну на вала, які ўжо тым часам пачаў пасвіцца на ўзбочыне, пагнаў яго і пайшоў далей.

Калі глядзім на жыццё зверху, дык бачым, якія велізарныя ў ім адрозненні! Якая велічэзная градацыя лёсаў у розных слаях грамадства! А па ўзроўні адукаванасці людзей і разнастайнасці іх звычаяў якія ўяўна розныя іх пачуцці, заняткі, страсці! Аднак унутры, абдзёршы покрыва з дзеянняў і спружын рухаў, убачым са здзіўленнем, што ўсе мы хварэем на адно, плачам, радуемся і паміраем аднолькава! Тыя самыя тут і там хваробы сэрца, тыя самыя болі душы і калецтвы натуры, тыя самыя надзеі і расчараванні... Уся розніца толькі ў іх выяўленні; у глыбіні чалавек — усюды чалавек і таму на самай нізкай прыступцы грамадства больш праўдзівы, выразнейшы, але наогул убачым той самы малюнак, што і ўгары. Заменены назвы, больш прыстойна ахрышчаны дзеянні, прыхарошаны сарамлівыя пажадлівасці, але пазнаеш іх па выніках — усюды тое самае і тое самае.

У сялянскай хаце толькі менш камедый, на якія няма часу, альбо камедыя разыгрываецца незавучана, інстынктыўна, як тыя італьянскія сцэнічныя імправізацыі, а ў палацах сцэны больш працяглыя, развязкі менш бурныя, хоць дзеянне тое самае.

Праўда, пад саламянай страхой нараджаюцца вельмі моцныя пачуцці, але, з'явіўшыся, смялей і хутчэй ідуць да мэты, чым там, дзе ўсё прывыкла хавацца і маскіравацца.

У хаце Тумрага не было спакою і чаканага шчасця. Яго прагналі ўжо перад прыходам цыганоў успаміны, якія з'яўляюцца заўсёды пасля раптоўнай і карэннай перамены жыцця, якую калі чалавек кідаецца ў яе неабдумана, дык павінен пасля адпакутаваць жалем і тугой. Сэрца Матруны ад хвіліны нараджэння дзіцяці стала належаць толькі яму, а Тумры, абыякавы і астылы, ужо не мог павярнуць яго да сябе. Матруна здагадвалася пра яго прывязанасць да Азы, пра якую напляла ёй неасцярожна і старая Яга, але яна была настолькі ганарыстая, што не хацела папракнуць яго ні словам. Свой боль затаіла ў сабе і ўся прысвяціла сябе дзіцяці, выракшыся іншай будучыні, прадбачачы, што той, для каго столькі выцерпела, будзе няверным і пакіне яе.

Гэтае прымірэнне з лёсам было выклікана ў душы Матруны выключнай прывязанасцю да дзіцяці, у якім змагла замкнуць усё сваё жыццё.

А Тумры ад той ночы, калі непрытомны падняўся з пасцелі, каб дагнаць цыганскі табар, такім зрабіўся абыякавым, такім халодным, так дзіўна адмяніўся, што дарэмным здавалася жаданне вярнуць яго да ранейшага дзейснага жыцця. Як быццам назусім змагло яго напружанне працы, як быццам страціў ён рэшту сваіх сіл і цяпер блукаў бяздзейны, адзічэлы, не заўважаючы нічога навокал, не чуючы ні спеву маці над калыскай, ні дзіцячага плачу. Ні разу не схіліўся ён з бацькоўскім клопатам над дзіцём, на якое глядзеў абыякавым вокам. Крык немаўляці будзіў яго часам, але да сэрца не даходзіў.

Такім чынам Матруна, хоць быццам не пакінутая ім, у сапраўднасці была адна на свеце, а слова літасці

старэйшага брата засталося для яе адзінай хілай падпорай.

Цыган то сядзеў нахмураны на лаве, то цэлымі днямі лётаў, высочваючы Азу, праклінаючы чараўніцу, але і шукаючы яе. Апошняга дня, калі, прыпаўшы да шыбы, убачыў яе прытуленай да Адамавага пляча, калі старая цыганская песня раскалыхала яго дарэшты, не меў нават сілы вярнуцца дахаты, хоць сумленне клікала яго туды. Увайшоў у хату, дыхнуў яе цяжкім паветрам і выбег на поле, як ашалелы сабака. Круціўся нейкі час без мэты, і нарэшце самі ногі прывялі яго пад цыганскі табар.

Грамада *ромаў* пад новым кіраўніцтвам, пад камандай Пузы, уяўляла сабой яшчэ больш, чым раней, малюнак бязладдзя, а Апраш, былы важак, глядзеў на гэта са з'едлівай усмешкай. Трэба зазначыць, што і ён за гэты кароткі адрэзак часу вельмі змяніўся. Магло здацца, што ён зміры́ўся са сваім лёсам, аднак, напэўна, у будучым чагосьці спадзяваўся, бо, калі слугаваў тым, якія ўчора з дрыжаннем яму падпарадкоўваліся, бляск вачэй, рух вуснаў выдавалі яго нязгаслае пачуццё гонару ці жаданне помсты.

Пад палаткай не было ранейшага руху, мех ляжаў перавернуты, кавадла было на возе, іншы кавальскі інструмент звалены ў кучу, ніхто нічога не рабіў, апроч Апраша і некалькіх старых баб, якія ляніва і сварліва завіхаліся каля катла.

Усё патрэбнае ім даваў двор, а старыя цыганкі, упэўненыя ў заступніцтве Азы, нахабнічалі ў вёсцы і, карыстаючыся даверлівасцю люду, з якога насміхаліся, цягнулі адусюль усё, што толькі ім прыгледзіцца.

Пуза ў якасці новага кіраўніка перавышаў сваю ўладу, выкарыстоўваў здабытую свабоду і альбо цэлымі днямі дапякаў Апрашу, альбо з люлькай у зубах драмаў каля вогнішча.

Лянівы адпачынак падабаўся і яму і ўсёй грама-

дзе, а дзеці, не маючы нагляду, беспакарана рабілі ў ваколіцы шкоду. Аза, якая толькі зрэдку і на кароткі час забягала ў табар, не заўважала таго, што ў ім дзеелася, аднак з кожным днём ясней было відаць, што хутка будзе не ставаць Апраша, бо Пуза не зможа ўтрымаць улады ў сваёй непрывычнай руцэ.

Тумры, прыцягнуўшыся ў табар, спыніўся каля *вэрдэна* (воза), пад якім на голай зямлі, абапёршыся на жылістую руку, воддаль ад іншых ляжаў адзінока стары Апраш. Ён глянуў на Тумрага, вочы іх сустрэліся, але абодва былі аднолькава няшчаснымі, і ранейшая іхняя варожасць згасла ў сэрцах, прыдушаная новымі мацнейшымі хваляваннямі.

У позірках іхніх не было гневу і нянавісці. Стары цыган убачыў на твары Тумрага настолькі выразныя сляды стомы і роспачы, якая даходзіла амаль да вар'яцтва, што адчуў сябе за даўнейшае цалкам адпомшчаным. А Тумры, убачыўшы прыніжанага *дадоса*, які ляжаў на голай зямлі ў найгоршым месцы, не меў сэрца з яго кпіць.

— Га! — сказаў сцішка, усміхаючыся, Апраш.— Заблукаўся сюды ізноў, цяжка ўжо табе ўседзець у хаце.

— Не лепш табе ў табары,— адказаў Тумры.

— А хто знае! — сказаў *дадос*.— Можа б, ты і памяняўся на маю бяду.

— А ты на маю? — запытаў малодшы цыган.

— О, не! — адказаў, ганарыста патрасаючы галавой, былы важак.— Я сягоння яшчэ вальнейшы за цябе! Хацела тая *бынка цяй*, захацела грамада, каб Пуза камандаваў, дык няхай паспрабуюць, убачым, што будзе далей. Мучаюць мяне як могуць, але я да працы прывычны, лаюць, але я іх не слухаю і смяюся. Ну дык што ж яны мне такога благога зрабілі?

— Як гэта, дык ты не клянеш сваёй долі? — запытаў Тумры.

— Навошта там клясці, дзе трэба цярпець! *Букелісом* (голад) мне не дакучае, *піры* (гаршчок) шторанння і штовечар ля агню і поўны. Ці ж не ўсё роўна мне, ваду насіць і дровы секчы ці каваць молатам.

— Але ж іх слухаць!

— Праўда,— працягваў стары цыган,— таму, хто ўсё жыццё загадваў, слухаць адразу нялёгка, але неяк і да гэтага прызвычаіцца можна.

Тумры ўздыхнуў.

— А страціць надзею, маючы яе, як у тваім становішчы, калі ты Азу ў руках трымаў?

— *Эгашы, як гвэка* (жанчына, як вуж),— адказаў памалу Апраш,— хто калі трымаў яе ў руках? Трымаеш і не агледзішся, як яна выслізне і ўкусіць.

— Хіба не любіў ты яе, стары?

— А ты як быццам запозна палюбіў яе! — насмешліва адказаў стомлены камандзір.— Для мяне была гэта не першая любоў. Ты сваёй не спазнаў. Я гэту хваробу ўжо не раз перанёс, а ты толькі цяпер пачаў на яе хварэць. О, о! Я табе не зайздрошчу, бо калі ты закахаўся ў яе, дык яна табе зальe за скуру!

— Гэта *бынк эгашы* (чорт-жанчына),— задуменна сказаў Тумры.— Хто ўгадае, што яна думае? Хто ведае, каго яна любіць? Хто скажа, што зробіць заўтра?

— Як жанчына,— сказаў абыякава Апраш,— а якая ж з іх інакшая? Ці *рані*, ці *гадзія* (цыганка ці чужая), усе яны аднолькавыя, адной маткі дочкі...

— Не. Такой не было яшчэ на свеце!

Апраш павярнуўся на другі бок і голасна засмяяўся.

— Лятае ў табар, лятае ў двор, вабіць кожнага сустрэчнага, спакушае кожнага, а сама як з каменю.

— Захацеў ты! Маладосць у ёй шалее. Я б ёй усё гэта даравaў, каб яна захацела быць маёй!

У гэтых словах выяўлялася самалюбства старасці, якая гатова апаганіцца, абы хоць яшчэ трохі атрымаць асалоды.

— Я?! Я за гэта забіў бы яе, каб яна была маёй!

— Ты, бачу, сапраўды ашалеў праз яе, Тумры! Маеш, што заслужыў,— сказаў цыган.— Па чарзе,— дадаў насмешліва Апраш,— можа, калі-небудзь будзе і тваёй, калі панічы яе прагоняць і ёй стрэліць у галаву прытуліцца да цыгана і пагрэцца пры яго чорных грудзях...

— Не! Ніколі! — рэзка перабіў яго малады цыган.— Бо калі б пасля толькі ўсміхнулася другому, дык я яе забіў бы, як сабаку!

— Каб табе было гадоў дзесяткаў пяць з гакам,— адказаў паволі Апраш, жуючы ліст тытуню,— дык ты б інакш глядзеў на гэтыя справы. Ты не бачыў Азы тады, як мы выйшлі са Ставіскаў, пасля тваіх уцёкаў, дык не ведаеш, які сатана сядзіць у гэтай дзяўчыне. Не злічыць хлопцаў, якім па дарозе прадавала ўсмешкі і пацалункі, колькі іх валакла за сабой і як ім туманіла галовы! Неаднойчы і мне, старому, зайздрасць пачынала грызці спарахнелае сэрца, але я сабе казаў: каб толькі стала маёй, дык я дараваў бы ёй усё. Бо і сапраўды гэта чарцяня толькі зводзіць, каб мучыць, але ўзяць нікому не дасца. Гэтай шаляніцы, здаецца, як есці, піць і дыхаць, так трэба зводзіць, мучыць і дражніць. Заўважаў я не раз, як яна нават пачварнага Пузу і простых мужыкоў вачыма чаравала, абы толькі не быць без справы, а пасля, пасля таго смяялася з іх на ўсё горла.

Тумры пацёр зрошаны кроплямі поту лоб.

— Дык ёй ні на хвіліну нельга верыць?

— Вер ёй, як яна злая, а як гаворыць вачыма табе пра сваё сэрца, вуснамі кажа, што любіць, плюнь ёй у твар, як ашуканцы, бо лжэ!

Малады цыган падняўся з зямлі і ўздыхнуў, а Апраш толькі абыякава глянуў з-пад воза, як ён адыходзіць. Так яны моўчкі рассталіся.

Ізноў валокся Тумры няпэўным крокам, без дарогі, то спыняючыся, то бегучы, як шалёны.

«Га! — гаварыў сам сабе.— Няма чаго далей думаць, трэба, калі так цяжка жыць, кончыць... Бачыў я яе галаву на грудзях у гэтага гнілога трупа і не хачу больш нічога бачыць. Ні мне вярнуцца да братоў цыганоў, ні жыць з *гадзіямі*, якія адпіхваюць мяне, як сабаку! Вось! Пятлю на шыю і аддаць душу *бынку*».

Гэта думка, якая ўжо не раз пралятала праз яго галаву, цяпер засела ў ёй мацней чым калі-небудзь. А жыццё стала яму такім цяжкім і невыносным, што далей яго несці не мог. Матруну не любіў, да дзіцяці быў абыякавы, галеча даядала, Аза ашукала... нічога не засталося на заўтра, апроч смерці.

І пасля гэтага зрабілася яму лягчэй, як чалавеку, які, плывучы па моры пасля доўгай буры, убачыў хоць бераг скалы.

Дзіка ўсміхнуўся і схапіў чырвоны пояс, які ў сваіх думках прызначыў сабе на пятлю. Быў гэта шарсцяны пояс, аснаваны, вытканы і пафарбаваны рукамі беднай Матруны. Праз яго прыйшла на памяць жонка.

— І ёй будзе лягчэй,— сказаў сам сабе.— Браты, і двор, і грамада прымуць яе, пракормяць двое сірот, абы не стала цыгана. І гэтая па мне не заплача. Нашто ж жыць, будучы цяжарам і людзям і сабе!

Азірнуўся па небе і навокал сябе. Было хмарна, ветрана і сумна, як перад смерцю. Ваколіца ў змроку і імгле выдала пустой і дзікай.

Ужо хацеў адвязваць пояс і дакрануўся да яго, шукаючы вокам сука, хоць кругом распасціралася чыстае поле, ды раптам пачуўся нечы крок і з-за ўзгорка выскачыла, хутка бегучы, Аза.

Тумры аж адскочыў, убачыўшы яе, і валасы яго сталі.

— А, ты тут? — крыкнула з усмешкай.— Хадзіў, бачу, у табар. Ці чакаў мяне?

— Я чакаў цябе,— горка адказаў цыган,— каб табе плюнуць у вочы і больш цябе не бачыць!

— Што з табой сталася, Тумры?

— Нічога, толькі я быў пад акном у двары, калі ты спявала «Тловава яг!» [1].

— І слухаў песню? — запытала абыякава дзяўчына.

— І глядзеў, як ты адпачывала на плячы рая Адама.

— Трэба ж было дагледзець да канца,— адказала з гневам,— як мы рассталіся!

— Ці як вы сышліся? — запытаў пагардліва цыган.

— Тумры, ты напраўду ашалеў! — тупнуўшы нагой, гнеўна крыкнула цыганка.

— Не, ужо працвярэзіўся! — крыкнуў Тумры.— І збіраюся добра закончыць!

Гаворачы гэта, церабіў у руках канец свайго чырвонага пояса.

— Але ж сапраўды на цябе нейкі дур найшоў! — пачала зноў Аза, спалоханая яго расчырванелым тварам і панурым позіркам.— Што ты надумаў?

— Думаю пайсці ў лес і павесіцца...— сказаў цыган спакайней.— Як табе здаецца, добра я зраблю?

— Чаму? Таму што я дазволіла абняць сябе гэтаму нямогламу старому дзіцяці? — запыталася жанчына.

— О не! Толькі не думай, што я праз цябе буду вешацца,— перапыніў Тумры, увесь час развязваючы пояс, якога не мог разблытаць.— Даволі мне і без гэтага жыццё надакучыла, а ты гэтага не вартая.

Аза, яшчэ больш напалоханая, заўважыўшы, што яе гнеў не памагае і загад быў бы дарэмны, прыпала пажадліва да цыгана, але Тумры адштурхнуў яе.

— Прэч, гадзіна! — сказаў.— Прэч... Ідзі прадайся

---

[1] Пачатак цыганскай песні «Паліцэ агонь». *(Заўвага аўтара.)*

каму хочаш і за што хочаш. Я цябе купіць не маю за што!

Сказаўшы гэта, адвярнуўся і пабег у лес, зусім ашалелы і растрывожаны болем.

І вось ізноў ляцеў ён праз палі, як некалі ў цыганскі табар, і не адчуваў, як прабягаў прасторы, не чуў крыку дзяўчыны, якая бегла за ім, і не заўважыў, калі абкружыў яго цёмны гушчар. Стукнуўшыся скронею аб дуб, зваліўся, абліты крывёй.

Над ім шумеў віхор і гула навальніца, ламалася голле, пралятала, сагнаныя з наседжаных месцаў дажджлівай віхурай, крумкачы. Усю ноч праляжаў Тумры ў здранцвенні на мокрай зямлі. І толькі ранак і світанне, холад дня і знясіленасць адкрылі яго сонныя, не зусім прытомныя вочы і крыху ацверазілі. Але з першым бляскам зары ўчарашняя думка скончыць жыццё самагубствам вярнулася і зноў упілася ў яго сэрца.

Схапіў чырвоны пояс, якога не выпусціў з канвульсіўна сціснутай далані, і пачаў шукаць прыдатнага дрэва, выбіраючы сукі.

І раптам узбегла яму на памяць тая пакінутая ў лесе будыніна, якую паказаў яму Янак, і пайшоў шукаць для праклятага дзеяння тое праклятае месца. Аднак нялёгка было звар'яцеламу кіравацца ў бары, глыбіняў якога ён не ведаў, а цяпер зусім згубіў напрамак. Ішоў і вяртаўся, блукаў наўздагад і, магчыма, стомлены дарэшты, скончыў бы ўсё на першай крывой сасне, каб старая разваленая хата, нібы цудам, не паказалася раптам сярод густых зараснікаў.

Спыніўся нарэшце каля грані і ўсміхнуўся сам сабе, пачынаючы хутка шукаць месца ў прагнілай руіне старой буды.

Адна бэлька, на якую няцяжка было накінуць пояс, мацнейшая сярод тых, што ляжалі збуцвелыя, здалася яму як быццам знарок пакінутай для яго. Нядоў-

га думаючы, расцягнуў чырвоны пояс і пачаў яго спрытна прывязваць.

Раптам, калі майстраваў пятлю і завязваў вузел, пачуў ззаду дзіўны смех.

Глянуў, спалоханы, і ўбачыў: на пяньку, насупраць буды, сцены якой зусім разваліліся і толькі слупы трымалі шкілет пабудовы, сядзіць дурны Янак і смяецца.

— Добры дзень табе, цыгане-каханку! — адазваўся Янак, зняўшы свой дзіравы саламяны капялюш.— Хоць раз рана ўстаў ты да працы! А што? Як добра, што я паказаў табе гэта месца, быццам на заказ для цябе падрыхтаванае!

Тумры стаў аслупянелы, выпусціўшы з рук пятлю.

— Нічога! Нічога! Не перашкаджаю,— гаварыў юнак,— не перашкаджаю, рабі сваё, я толькі хачу прыгледзецца, як гэта робіцца, на выпадак, калі б і мне такое здарылася. Рабі, даражэнькі, сваё, я цябе не адрэжу, бо нават сцізорыка не маю.

Цыган ізноў пачаў вязаць, развязваць дрыготкай рукой, і яго ўзяў нейкі сорам.

— Я заўсёды думаў, дарагі цыганок,— павольна гаварыў далей Янак,— што ты павінен гэтак скончыць, але не спадзяваўся, каб ты сам сабе такое прыстроіў і гэтак спешна. Ну, ну! Гэта нават і лепш. Дык канчай жа, канчай, не марудзь. Я скажу ў вёсцы, каб дарма не шукалі невядома дзе, толькі тады, як ты добра астынеш.

— Ідзі ж ты, Янак, прэч! — крыкнуў цыган.— Не насміхайся з мяне ў апошнюю часіну...

— А хто ж асмеліўся б з такога пана, які трымае ў руках жыццё, насміхацца? Ці ж выпадала б? — запытаў Янак.— Цыганок дарагі, не саромейся мяне, мы з табой даўно знаёмыя, рабі сваё!

— Янак, дай мне спакойна памерці! — заенчыў Тумры.

— Альбо ж я перашкаджаю? Сцеражы, божа! Каб ты ў мяне запытаўся, што рабіць, дык я табе парадзіў бы гэта самае! Матруне, святой жанчыне, напэўна, будзе лягчэй без такога дармаеда, а табе выгадней у пятлі, чым у хаце, па якой голад крок у крок за табой ходзіць...

— Аднак жа,— засмяяўся праз хвіліну Янак,— ты жартаўнік! Блытаеш, блытаеш, а павесіцца не ўмееш. Я памог бы табе, але кажуць, што ад гэтага бяда можа здарыцца. Сам сабе давай рады! Не мудрагелістая справа зрабіць дзірку, шыю туды ўсунуць, а пад ногі які-небудзь пянёк падсунуць і... і...

Гэтыя словы шумелі ў вушах у Тумрага, як шэпты лясных галін, разумеў толькі, што ў іх былі кпіны.

— Але ж бо ты, дарагі цыганок,— канчаў холадна Янак,— толькі жартуеш і спрабуеш ды дарма мяне зводзіш! Ты, бачу я, баязлівец і гэтага не зробіш!

Апошнімі словамі, якія дайшлі да вушэй Тумрага, хлопец перапоўніў мерку. Цыган, ужо не гледзячы на яго, не слухаючы яго, жвава залажыў галаву ў пятлю, адкінуў нагой гнілую калодку, на якой стаяў, і павіс у страшных канвульсіях.

Хлопец нават не міргнуў. Устаў, пакланіўся трупу і павольна падаўся дарогай у вёску.

— «Добра зрабіў...— сказаў сам сабе ў думках.— Навошта было яму жыць, калі ні сабе, ні іншым не было з яго ніякай карысці. Справядлівы чалавек, сам сябе асудзіў і без клопату адправіў душу ў пекла. Матруне і сіраце будзе лепш, а цыгана-няверы ніхто не пашкадуе, апроч, можа, мяне. Нядрэнны быў бы чалавек, каб не цыганом нарадзіўся... бо як будаваў хату, дык было на што глянуць, і каб яго шайтаніха з чорнымі вочкамі не збаламуціла, дык хто знае!.. Але пад канец я сам меў ахвоту закінуць яму пятлю на шыю... але так вось! І канец! Удава! Альбо хто-небудзь ажэніцца з ёй, альбо і так дасць сабе рады!»

Так разважаючы, закінуў Янак за плечы трохі галля, якога раней нарыхтаваў, і, спяваючы штосьці сабе пад нос, спакойна памалу паплёўся дахаты.

Позняй ноччу сядзела Матруна ў хаце пры агні, калышучы дзіця ў падвешанай да столі плеценай калысцы, якую раней падрыхтаваў для яе добры Янак. Нейкая сумная песенька ■ маладых гадоў заблукала на яе вусны, каб закалыхваць, але думка была далёка ад песні.

Амаль увесь дзень не бачыла Тумрага, і неспакой пачынаў хапаць яе за сэрца, хоць цяпер пасля прыезду цыганоў штодня радзей, штодня менш спыняўся ён у хаце. Аднак звычайна на ноч вяртаўся ў сваю ляпянку, і хоць часам засынаў на лаве, не прамовіўшы да жонкі ні слова, Матруна чула яго стогны, выкліканыя бурнымі снамі.

Пара звычайнага вяртання дамоў даўно мінула, на дварэ дзьмуў рэзкі вецер, асенняя навальніца калаціла кволую ляпянку, а бедная жанчына, штораз усё ■ большым стараннем атуляючы дзіця і падкладваючы дроў у агонь, настаўляла вуха, ці не пачуе сярод шуму крокаў на падворку ці рыпу дзвярэй у сенях. Але дарма чакала, прыслухоўвалася, дрыжала, бо ніхто не прыйшоў у хату пад могільнікам, дык нарэшце падумала, што заначаваў, напэўна, з цыганамі. Калі заснула дзіця, яна, не кладучыся, таксама задрамала каля калыскі і агню. Аднак сон гэты часта перарываўся неспакоем, найменшы шорах будзіў яе штохвіліны, і так да раніцы мучылася ў той нервовай дрымоце. Яшчэ спадзеючыся, што Тумры вернецца раніцай, чакала яго, выходзіла паглядзець, а яго ўсё не было і не было.

Узышло сонца і ўзнялося высока. Матруна завіхалася каля дзіцяці і агню, але штохвіліны адскоквала то да акенца, праз якое мала што было відаць, то да дзвярэй, праз якія віднелася толькі пустая дарога. Неспакой яе пачынаў даходзіць да найвышэйшай ступені.

— Няўжо зусім не вернецца? — гаварыла, ламаючы рукі.— Няўжо захапілі яго і павялі з сабой цыганы? Няўжо мог ён мяне, знясіленую, слабую, з дзіцём, пакінуць назаўсёды? Не! Не можа быць! Хіба ён захварэў і мо лёг дзе на полі, можа, што з ім здарылася? Трэба было б каго выправіць шукаць, але каго папрасіць?

Прыйшоў ёй на думку дурны Янак, і яна прыбегла б да яго, каб ведала, дзе яго шукаць. Нарэшце, узяўшы на рукі свой дарагі цяжар, ужо выходзіла з хаты, калі ў парозе сустрэлася са старой Ягай.

Сярод гэтага неспакою яна рада была і цыганцы і адразу прывітала яе пытаннем:

— А не ведаеце там, не ведаеце вы, што з маім сталася?

Цыганка паціснула плячыма і таямніча наблізілася да вуха жанчыны.

— Учора вечарам быў у нас... быў... але як шалёны... Бачылі яго пасля, як лятаў па палях... Аза мне сказала, што аблаяў яе і зганіў за нейкае глупства і пагражаў, што нешта зробіць з сабой благое.

— Ах! — крыкнула Матруна, у сэрцы якой адазвалася даўнейшая прыхільнасць.— Бяжым шукаць яго!

— Супакойцеся,— трымаючы яе за руку, сказала Яга,— гэта дарма! Што мела стацца, тое ўжо сталася, бо ад учарашняга вечара да паўдня шмат вады сплыло. Лепш зараней падрыхтуйцеся да плачу, бо напэўна ён з сабой пакончыў!

Яна так бязлітасна і абыякава вымавіла гэтыя словы, што Матруна, ударaная імі, аж выкрыкнула:

— О, я няшчасная! Няшчасная я!..

— Ну, а што ж рабіць? — холадна пачала баба.— Вось ты яшчэ маладая, дасі сабе рады і другога знойдзеш! Абы маладосць.

Суцяшэнне было такое ж кашмарнае, як і домысел

старой цыганкі, але, глянуўшы на гэты засушаны шкілет, нельга было чагосьці іншага ад яе спадзявацца.

— Я мушу ляцець, пытаць, шукаць... можа, ён дзе блукае! — крыкнула Матруна і з дзіцём на руках, адпіхнуўшы Ягу, якая хацела ўзяць малое, пусцілася дарогай каля могільніка, не ведаючы, куды бяжыць.

Цыганка не даганяла яе, але згубіўшы з вачэй, хутка слізнула ў хату, быццам вуж, каб без гаспадыні ўхапіць, што трапіцца пад рукі.

Матруна, якую сцежка павяла ў бок цыганскага лагера, не ведала адразу, што рабіць, але пасля, падумаўшы, што ад цыганоў зможа нешта даведацца і што яны захочуць ёй дапамагчы, скіравалася да іхняй палаткі.

Яе беднае дзіця, растурханае бегам, пачало плакаць, і яна яго ўсё мацней ціснула да грудзей, але не спынялася. Нарэшце ўбачыла цыганскае вогнішча і сустрэла Апраша, які ў двух бляшаных вёдрах нёс ваду.

— Ці вы не бачылі Тумрага? — запытала, задыханая.

— Тумры?..— прыглядаючыся да зморанай жанчыны, сказаў Апраш.— А гэта, пэўна, ён твой муж! Быў тут учора вечарам. Што? Не вярнуўся дахаты?

— Не было яго, не было! — з лямантам адказала жанчына.

— То можа яго ўжо не быць ніколі! — абыякава, ідучы далей, сказаў цыган.

Матруна падхапіла гэта страшнае прадказанне і круцілася на месцы, не ведаючы, што рабіць, бо прасіць дапамогі ў Апраша не адважвалася. Падалася зноў у бок сяла, прыпомніўшы Янака, ды на ўзгорку, які акружаў даліну, з'явілася перад ёй бледная, з палаючым позіркам Аза.

Дзве жанчыны змераліся вачыма і інстынктам узаемнай нянавісці адна адну пазналі. Прыход Матруны

ў лагер быў такім значным пасля ўчарашняй сустрэчы з цыганом, што гэта змусіла Азу расхвалявацца.

— Што сталася з Тумрым? — запытала, падбягаючы да Матруны.

— А якая табе да яго справа? — гнеўна адказала жанчына.

— Мне? — горка ўсміхнуўшыся, адказала цыганка.— Хіба не ведаеш, хто я такая?

— О! Пазнаю цябе! — насмешліва, можа, першы раз у сваім жыцці, адказала Матруна.— Ты Аза!

— Так, я Аза, але дзе ж Тумры? Дзе? Што [redacted] ім сталася? Гавары, жанчына, толькі хутчэй!

— Ты, напэўна, лепей ведаеш пра яго, чым я! — адступаючыся, сказала Матруна.

— Дык не вярнуўся ўчора, не вярнуўся? — пачала паспешліва дапытвацца Аза.

— Не вярнуўся,— ціха і сумна паўтарыла рэхам жанчына, [redacted] вачэй якой цяклі два доўгія ручаі слёз, ды ўсё ж праз іх збалелыя вочы цікаўна ўглядаліся ў твар прыгожай цыганкі.

Аза заламала рукі і, як стаяла, упала на зямлю і пачала галасіць па-цыганску.

Гэты плач істоты, зусім для яго не створанай, так напалохаў Матруну, што ад жаху яна анямела.

«Яна ведае! Яна ведае,— прыйшло ёй на думку,— што [redacted] ім сталася! Яна яго, пэўна, забіла!»

Раптам Аза, як быццам вярнуўшы сілу і надзею, усхапілася на ногі, агледзелася навокал, прайшла некалькі крокаў да лесу, а пасля раптам павярнула ў бок двара. Бег яе быў такі спрытны і хуткі, што Матруна з дзіцём на руках і пры сваёй слабасці нават падумаць не магла, каб яе дагнаць. Паплялася тады, плачучы, той дарогай, якой прыйшла, а ўвесь гурт цыганоў, зваблены крыкам Азы, выбег з палаткі і паказваў на яе пальцамі, шэпчучы:

— Тумры *эгашы* (жанчына Тумрага).

Аза далёка апярэдзіла Матруну і знікла з вачэй, бегучы як мага ў двор, ашалелая ад думкі пра небяспеку, а магчыма, і смерць Тумрага. Ей здавалася, што яшчэ можна яго ратаваць, дык бегла да Адама, каб неадкладна выправіў ва ўсе бакі людзей шукаць цыгана.

Страшная той тармажанай дагэтуль страснасцю, якая цяпер яе перапаўняла, уляцела ў пакой, у якім спачываў пан Адам, і спалохала яго тварам, якога ён у яе ніколі не бачыў. Збялелая, стомленая бегам і роспачу, схапіла за рукі ўчарашняга палюбоўніка.

— Ратуй! — выкрыкнула,— ратуй! Тумры, цыган, хацеў учора ўчыніць самагубства, сягоння дагэтуль нідзе яго няма. Высылай людзей, няхай яго шукаюць, няхай знойдуць!

— А якая мне справа да твайго цыгана? — халаднавата, амаль раўніва павoлі адазваўся пан Адам, пусціўшы клуб дыму.

— Мне, мне да яго справа! Мне! Чуеш, *рай* Адам! — крыкнула Аза, хапаючы яго за халодную руку.— Аддам жыццё, аддам сябе, толькі загадай ратаваць.

Адам глянуў на яе, не варухнуўшыся з месца.

— Ашалела...— сказаў,— што гэта, ён твой брат?

— Каханак! Мой адзіны, каханы, любы! Той, без якога не магу жыць і не хачу! — вырвалася з грудзей цыганкі.— Ратуй яго! Ратуй!

— А калі так, дык мне няма чаго спяшацца,— сказаў пан Адам.— Цяпер будзеш маёй.

— Калі ён памрэ, дык і я памру і нічыёй не буду! — закрычала жалобна цыганка, ірвучы ў гневе падол сукенкі.— Пасылай людзей! Выпраўляй людзей!

Азарт, з якім гаварыла, моцны крык яе парушыў увесь дом. Слугі скупіліся ў дзвярах, дык, убачыўшы іх, пачала прасіць-маліць, плачучы і ламаючы рукі. Але дваровыя, не маючы загаду пана, не смелі рушыц-

ца, а пан Адам сядзеў як статуя і толькі пагладжваў свае вусы. Што значыў яму нейкі там цыган!

— Слухай, ратуй яго, і я буду тваёй! — падляцеўшы і тузаючы яго, паўтарыла дзяўчына.

Адам холадна ўсміхнуўся і зноў нічога не сказаў.

Дарма ўпрошвала цыганка, дарма кідалася і лётала па пакоі з распушчанай чорнай касой, пан заставаўся няўмольным. Нарэшце хусткай, якую трымала ў руках, нецярпліва ўдарыла па твары маўклівага сібарыта і выбегла з дому з роспачлівым крыкам, цягнучы за сабой натоўп цікаўных людзей.

Усе, хто жыў у двары, пачалі гуртавацца, збягацца і цішком перадаваць словы цыганкі. Усе ўжо хацелі бегчы шукаць Тумрага ■ адной цікавасці, але ніхто не ведаў куды. Нарэшце сам пан Адам, падумаўшы пасля знікнення Азы, выправіў дваровых ва ўсе бакі ■ загадам шукаць каваля. Тады рассыпаліся, дзе каму ўздумалася, а Аза, падганяная нейкім незразумелым прадчуваннем, накіравалася ў лес.

Некалькі чалавек пайшло за ёю.

У палове дарогі да бору напаткалі дурного Янака, які з вязкай галля на плячах цягнуўся дамоў, спяваючы нейкую песеньку. І таму, што людзі не раз бачылі, як ён сустракаўся і размаўляў з Тумрым, дык гуменны, хоць не спадзяваўся шмат даведацца, запытаўся:

— Паслухай, дурны Янак, ці не бачыў ты часам цыгана, каваля... таго, таго, з-пад могільніка?

— Каго-каго? — прыкідваючыся дурнем, насмешліва пачаў пытацца Янак.

— А каваля, цыгана, з-пад могільніка!

— Цыгана? Тумрага? Ой, ой! Бачыў я яго пазаўчора, учора, а нават...— пачаў сабе прыпамінаць,— вот, нават бачыў я яго і сягоння!

— Сягоння? Дзе? Дзе? — падхапіла Аза.

Янак быў даволі хітры, каб лішне не адкрыцца. Не расказаў пра сваю гутарку, не прызнаўся, што быў

сведкам самагубства, адказаў толькі абыякава, паскробваючы галаву:

— Ну, а ў лесе!

— Даўно?

— О, гадзіны быццам са дзве! Яно так на раніцу бралася.

— Што ён там рабіў?

— Альбо я ведаю, што ён там рабіў? Можа, хадзіў па дровы... бо чамусьці пояс развязаны насіў у руках, дык, пэўне, хацеў іх звязаць... бо ў яго ж у хаце і пастронка нават няма...

Аза крыкнула, засланяючы сабе вочы:

— Дзе ж ты яго сустрэў?

— Чакайце! На Паповай ніве! Не, не! На Парасляку! Не, не! У Лісіных ямах? Ды не! Во ёсць! Далібог, ёсць — каля пустой буды!

Усе, хто ішоў шукаць, з Азай наперадзе пусціліся хутка ў лес па сцежцы, якая вяла да пустой буды. А Янак, падняўшы свае дровы, азірнуўшыся з дурнаватай усмешкай на тых, што яго міналі, пасунуўся далей у вёску.

— Га, га! — шапнуў сам сабе ціха.— Трохі запозна прыйдзеце! А што я таму вінен? Няхай бы не замучваў добрай жанчыны... а цяпер няхай мае за сваё...

Аза бегла з моцным біццём сэрца, астатнія ледзь маглі за ёй паспець, паказваючы дарогу. Не хутка, аднак, дабраліся да пустой буды, бо сцежкі да яе дзіўна віліся і так пазарасталі кустамі, што часам цяжка было прадзіснуцца.

Нарэшце Аза першая ўскочыла на лужок, які акружаў руіны з гэтага боку, падбегла з усіх сіл да разваленай буды і з пранізлівым віскам пляснула ў далоні. Яна першая ўбачыла павешанага Тумрага, на твары якога ўжо з'явілася васкова-жоўтая бледнасць.

Імгненна, калі ўсе астатнія людзі толькі надыходзілі, цыганка скочыла на бэльку і пачала церабіць ву-

зел, які трымаў шыю вісельніка, [redacted] не маючы нажа, каб яго перарэзаць, схапіла зубамі і перакусіла, як нітку.

Труп акруціўся, задрыжаў, нахіліўся і зваліўся з грукатам халоднай глыбы на зямлю. Аза ўміг была пры ім і, прытуліўшы вусны да твару, [redacted] руку да сэрца, дарэмна шукала ў іх жыцця і цяпла. Ужо іх там не было! Цвёрдае халоднае акасцянелае цела выдыхнула ўжо апошнюю іскарку цяпла і жыцця...

Цыганка ўпала лобам на зямлю і так непрытомнай засталася каля трупа. Людзі, што прыйшлі з ёю, пашапталіся, абышлі навокал, паківалі галовамі, памахалі рукамі і вярнуліся, каб занесці вестку ў двор.

На ростані за вёскай выкапалі глыбокую яму і ціхім вечарам прывезлі туды на пары чорных валоў труп Тумрага. Янак збіў з некалькіх дошак белую сасновую труну, у якой і пахавалі цыгана без духоўніка, без людзей і без плачу.

За возам ішла толькі жменька людзей: Матруна [redacted] дзіцём пры грудзях і з выплаканымі вачыма, праводзячы ў магілу сваю няшчасную долю, за ёй цягнуўся маўклівы, згорблены, задуменны Янак з рыдлёўкай на плячы і са сваім саламяным капелюшом у руцэ, некалькі мужчын і дзве, акрытыя радзюжкамі, старыя цыганкі, якія, мармычучы штосьці, цягнуліся воддаль. Не было ні памінкаў, ні куцці, ні пачастунку, словам, ні аднаго з тых урачыстых пахавальных абрадаў, якія яшчэ ад славянскіх часаў захаваліся ў вернага старым звычаям вясковага люду.

А калі на ўзгорку каля ямы валы спыніліся, два чалавекі знялі труну з воза і моўчкі ссунулі яе ў дол.

Янак першы ўхапіўся за рыдлёўку і пачаў засыпаць, а цыганкі сталі каля краю ямы, прыглядаючыся [redacted] адранцвелай дурнаватай цікавасцю, як падала зямля і завальвала труну. Матруна без слёз сядзела на траве

і, падпершыся даланёй і тулячы дзіця, якое плакала з голаду ці адчуўшы гора маці, невідушчымі вачыма глядзела на тых, што працавалі каля магілы.

Ужо Янак разам з іншымі засыпаў дол даверху і пачаў прытоптваць яго нагамі, ужо і горбік пачалі закругляць і выразаць дзёран наверх, і ўся работа памалу канчалася; ужо, адыходзячы, звалаклі на магілу некалькі сухіх галін, як быццам рыхтуючы лоўж, на які кожны прысутны павінен быў ускінуць хоць невялікі сучок, ужо ўсе пачалі расходзіцца, а Матруна не збіралася ўставаць і не рушылася з месца.

Цыганкі перакінулі сваю цікаўнасць з нябожчыка на ўдаву і, стаўшы воддаль, мармыталі штосьці між сабой і паглядалі на бедную жанчыну. Аднак і іхняя цярплівасць скончылася, дык калі людзі накіравалі валоў у вёску і пацягнуліся па дарозе, падаліся следам і яны. Адзін толькі дурны Янак застаўся пры Матруне, як быццам усё яшчэ даводзячы магілу да парадку, то прытопваў яе, то складаў галлё, каб не растрос яго вецер.

Матрунін вочы, машынальна блукаючы навокал, запыняліся то на ім, то на мужавай магіле, то на галоўцы дзіцяці, але было ясна, што нічога не бачылі. Толькі зрэдку сплывала з іх сляза і адразу засыхала на шчацэ, часам уздрыгвалі вусны, прыплюшчваліся вочы, сціскаліся над дзіцём рукі. Янак паглядаў з-пад нахмуранага брыва на Матруну і ўсё працаваў.

Пачало памалу змяркацца, неба нахмарылася, а Матруна не ўставала.

— А што? — адазваўся, страціўшы цярпенне, Янак.— Хадзем ужо дахаты!

Матруна толькі пакруціла галавой.

— Дык жа тут начаваць не будзеш,— дадаў.— Яшчэ табе як табе, але дзіцяці на ветры і слоце вельмі нездарава.

Маці сквапна прытуліла дзіця да сябе і глянула на

дурнога Янака, які зусім не быў такім бесталковым, як магло здавацца.

— О, дзіцяці гэта напэўна зашкодзіць,— канчаў Янак.— А ўрэшце што тут больш рабіць? Магілу мы яму зрабілі, няхай спачывае! Устань, Матруна, і хадзем.

Закінуў за плячо рыдлёўку, узлажыў на галаву свой капялюш і прыступіўся да яе. Жанчына закрыла вочы, з якіх зноў хлынулі слёзы.

— Плакаць,— сказаў Янак,— можна і ў хаце, а ўжо ноч блізка. Дзіцяці зімна, трэба ісці, трэба ісці! — паўтарыў настойліва.

— Куды? Чаго? — адазвалася Матруна.— О, доля ты мая! О, доля! Што ж мне цяпер рабіць?!.

Янак, не зважаючы на слёзы і жаль, узяў яе за руку, падняў з зямлі, адвярнуў ад магілы і пацягнуў за сабой у бок вёскі.

Матруна яшчэ раз азірнулася, хацела ўскінуць на магілу галінку цярноўніку, што ляжала пад нагамі, але захісталася і ўпала. Янак падхапіў яе і падняў.

— Помні пра дзіця,— пачаў ціха,— яно цяпер на тваіх руках і на тваёй галаве! Хадзем дахаты, даволі плачу!

Ужо былі далекавата, пасоўваючыся з цяжкасцю, калі Янак, азірнуўшыся, заўважыў цыганку, якая сунулася, як цень, і, узляцеўшы на магілу, села ці нават кінулася на яе.

Не хочучы, каб Матруна яе ўбачыла, ён прыбавіў кроку і, заглушаючы сваім голасам енкі, якія даходзілі аж да іх, чым хутчэй спусціўся з ёй у яр, які ўрэшце закрыў ад іх магілу самагубніка.

Аза, прыгнечаная, непрытомная, згараючы ад палкага пачуцця і першай у яе жыцці роспачы, засталася на ростані адна. Яна зрывалася, бегала вакол горбіка, сядала на ім, уставала, зноў сядала і раўла, як дзікі звер. А сярод таго крыку вырываліся ■ яе грудзей то

незразумелыя енкі, складзеныя з многіх слоў, то абрыўкі нейкай песні, то пытанні, то папрокі і праклёны.

Рэдка калі даходзіць чалавек да такой роспачы і шаленства, якія завалодалі дзяўчынай, не прызвычаенай ні спыняць сваіх пачуццяў, ні хоць бы змагацца з імі. Магло здацца, што яна цалкам забылася пра сябе, пра заўтрашні дзень, пра свет, а жыла толькі сваім болем. Яна была не падобная сама на сябе, такое шаленства адбівалася на яе збалелым, выкрыўленым, змененым магутнай даланёй пакут, збялелым твары... Вочы яе быццам вылазілі з-пад павек, вусны былі адкрытыя, лоб нахмураны, бровы ссунутыя, а рукі трымала яна сплеценымі над галавой... Задыханыя грудзі ўздымаліся, як хвалі, а хвілінамі не хапала ім паветра.

Невядома, як доўга змагалася б яна са сваёй пакутай, пакуль здранцвенне ці поўнае шаленства закончыла б яе мукі, каб праз нейкі час не паказаўся, выходзячы з цемры, Апраш. Ён спыніўся насупраць яе, зноў дужы, валадарны, такі, якім быў да таго, калі дзяўчына адабрала ад яго камандаванне і ўладу. Паглядзеў на яе і, незаўважаны, наблізіўся.

— Аза! — гукнуў ён раптам голасам, які ўдарыў, як пярун.— У лагер!

Яна ўзняла на яго ўстрывожаныя і звар'яцелыя вочы.

— У лагер, *эгашы*! да *какабіі* (катла), агонь паліць, ежу варыць і прыслужваць, а не валачыцца па начах!

Дзяўчына аслупянела, а цыган, схапіўшы яе за руку, гвалтоўна пацягнуў за сабой. З яе боку не было ні супраціўлення, ні слёз, ні слоў, ні енку. Апусціла галаву і паслухмяна пайшла.

На магіле вецер з сухім галлём і вандроўныя птушкі пачалі доўгую размову, якая трываць будзе вякі...

У той жа вечар цыганскі абоз пакінуў раптам Ставіскі, рыпучы воз пацягнуўся далей, везучы звязаную Азу, пры якой сядзела старая Яга, бо Апраш прызна-

чыў яе вартаваць дзяўчыну. Даўнейшы камандзір зноў пачаў валадарыць жалезнай рукой, а *ромы* і Пуза былі яму паслухмяныя, як нявольнікі, прызвычаеныя да панскага голасу.

Мы заглянем яшчэ на двор пана Адама, перш чым надоўга страцім яго з вачэй. Пасля адыходу Азы, пасля раскрыцця таямніцы прывязанасці яе да Тумрага, пан Адам найперш моцна зазлаваўся, адчуўшы сябе прыніжаным гэтым няўдалым суперніцтвам з цыганом. Пасля хацеў дагнаць цыганку, нарэшце ў бяссіллі пазбыўся гневу і, не знаходзячы спосабу дагадзіць сваім жаданням без вялікіх ахвяр, апусціў рукі, стараючыся заглушыць сэрца ці пажадлівасць, якая ў ім яшчэ адзывалася.

Аднак не так лёгка ваяваць са сваім сэрцам таму, хто з маладых гадоў не навучыўся ім валодаць. Пан Адам хутка адчуў, што мацней палюбіў цыганку і больш да яе прывязаўся, чым сабе ўяўляў.

Хацеў яе даганяць, шукаць, захапіць сілай, не звяртаючы ўвагі ні на яе прывязанасць да Тумрага, ні на яе абыякавасць і кпіны. Але пакуль гэтае рашэнне магло выпаўніцца, цыганы былі ўжо далёка ад Ставіскаў і зніклі без следу, забраўшы сваіх і чужых коней, без ліку нарабіўшы шкоды і пакінуўшы пасля сябе магілу ў полі, слёзы і праклёны.

У такіх людзей, як Адам, засмучэнне бывае моцным толькі ў першую хвіліну і доўга не трывае, потым мінае бясследна. Хапіла некалькі дзён, каб боль змяніўся на сум, на нудоту і патрэбу шукаць пацехі. А жаданне яе было ўжо найлепшым паказчыкам таго, што мінулае канчаткова забыта. Пан Адам пазяхнуў, пастагнаў, а потым загадаў запрэгчы і паехаў у горад.

У хаце Тумрага, збудаванай такой цяжкой працай з жалезнай цярплівасцю, не магла хутка заперціся па-

мяць аб ім, бо рука працаўніка ўсюды пакідае пасля сябе след і кожны прадмет і кожны кавалак дрэва яе напамінае. Бедная Матруна павінна была застацца жыць у ляпянцы і, гледзячы на яе, аплакваць сваю долю.

Пасля смерці цыгана прыблізіліся да яе браты, але і яны няшмат маглі ёй дапамагчы і змяніць яе лёс. Трэба ведаць жыццё і дастатак найбагацейшага селяніна, каб паверыць, як нялёгка яму ўзяць на сваe плечы жанчыну з дзіцём. Матрунiны браты і рады былі б што-небудзь для яе зрабіць, але іх жонкі толькі на ўспамін, што цыганіха магла б перайсці ў іх хату, раскрычаліся, пачалі кідацца і гневацца, так што і падумаць пра гэта без звады ў хаце было немагчыма. Прыйшлося Матруне застацца ў ляпянцы пад могільнікам. А нават і там Максім з Пiлiпам няшмат маглі ёй дапамагчы, бо адразу іхнія жонкі, непакоячыся пра сябе і пра сваіх дзяцей, пра веснавы голад, за кожнае дробнае падняcенне ўзнімалі крыклівую вайну. Нават і пры найлепшым жаданні рэдка можа селянін падзяліцца сваім кавалкам хлеба. Самы багаты мае ледзь столькі, што не вельмі баіцца голаду да новага ўраджаю і продажам невялікіх лішкаў адганяе найпільнейшыя патрэбы. Якога ж вялікага трэба пачуцця, якіх святых абавязкаў, каб навесці на нястачу сваю сям'ю? Браты памагалі Матруне, але толькі тоячыся перад жонкамі і то толькі зрэдку і патроху.

Бог даў ёй апекуна і неспадзяванага памочніка ў асобе дурнога Янака. Лёс гэтага адрынутага быў у яго хаце такі цяжкі, такі там чыніўся з яго здзек, што ўрэшце ён не мог яго выцерпець, хоць стараўся рабіць усё, што загадвалі, і рабіў больш чым за аднаго чалавека і за свойскую жывёліну. Мала хто сказаў яму добрае слова, часта выганялі яго з хаты, дык Янак прывязаўся да цыгана і Матруны, перад якімі не меў патрэбы прыкідвацца дурным.

Лёс гэтай асаблівай жанчыны моцна яго заняў, бо Тумрага апошнім часам зненавідзеў і ўрэшце нават амаль папхнуў яго да самагубства за крыўды, чыненыя Матруне. І вось пасля яго смерці не пакінуў удавы ні на хвіліну: заняўся пахаваннем, адвёў яе дахаты і застаўся пры ёй за вартаўніка. Такім чынам і яе і дзіця прызнаў сваёй сям'ёй. У той жа вечар наслаў сабе ў сенцах пад драбінай саламяны бярлог і там размясціўся на ноч. Назаўтра пайшоў да сваіх, забраў лахманы, якія называліся яго ўласнасцю, не сказаўшы ні слова, пакінуў назаўсёды бацькоўскую хату.

Матруна мела ў ім не паслугача ці парабка, а брата і апекуна, які стаў няспынна аб ёй клапаціцца. Прывязанасць і спачуванне зрабілі з яго істоту хітрую, старанную, быструю і прадбачлівую. Хутка змог знайсці Матруне заробак, прыносячы ёй прадзіва і здабываючы ёй розныя іншыя заняткі, за якія найперш сам таргаваўся. Ён дастаўляў у хату ежу і ўсё, што было патрэбнае і неабходнае. Збіраў і сек дровы, насіў ваду, паліў у печы,варыў, свяціў, калыхаў дзіця. А каб не пераводзіць стравы, жывіўся сухім хлебам і астаткамі ежы ў гаршку, якіх мо не еў бы і раздураны сабака.

Не адразу заўважылі ў хаце, што не стала дурнога Янака. Але калі не вяртаўся некалькі дзён, неяк усім пачало яго не хапаць. Браты заўважылі, што няма на каго зваліць работу, няма кім выручыцца, сёстры не мелі каго пасылаць, лаяць і ўшчуваць, а брацiхам не стала з каго беспакарана насміхацца. Хоць усе наракалі, што есць дарма хлеб, а як яго не стала, пачалі стагнаць, не могучы без яго абысціся, і дружна ўцекача праклінаць.

Пачалі распытваць, шпіёніць, сачыць, дзе ён мог дзецца. Урэшце хтосьці выкрыў, што паслугоўвае Матруне. Зараз жа выправілі старэйшага брата, каб адабраў дурнога Янака, а той, нахабна ўварваўшыся ў

ляпянку, знайшоў яго ў сенцах пад драбінай, дзе ён сядзеў, віючы вяроўку, і пачаў яго лаяць.

— А што ты тут робіш, гультай, дармаед?! А дахаты, да работы! — закрычаў брат.

Янак узняў галаву, прыжмурыў толькі адно вока, паглядзеў, плюнуў і працягваў рабіць сваё.

— Што гэта ты сабе думаеш?

— А вось што думаю,— адказаў спакойна Янак,— думаю тут застацца і застануся.

— Альбо ж мы дазволім табе валэндацца дзе ўздумаеш?

— А нашто ж я вам патрэбны? — запытаў, сцепваючы плячыма.— Га? Ці мала вы мяне папракалі, што дарма ем хлеб? А ці далі вы мне калі людскую вопратку, новую сарочку ці хоць бы лапці на стомленыя ногі? Калі я вам непатрэбны, дык чаго мне ў вас сядзець? Ідзі сабе, брацку, з панам богам і кланяйся ад мяне старому Лыску...

Брат кінуўся да яго біцца, але Янак схапіў яго за плечы, выкінуў з сенцаў і падпёр калком дзверы. Брат, накрычаўшыся і насварыўшыся, стоячы на двары, мусіў пайсці дахаты ні з чым.

Выклікалі Янака ў гэтай справе ў двор, але і тут ён змог абараніцца і ўтрымацца пры сваім. Дазволілі яму застацца пры ўдаве, а братоў адправілі, не задаволіўшы іхняй скаргі. Ён даказаў, што ніколі не меў у полі прысеўку, што не браў ніякай платы, што не хацелі яму выдзеліць ніякай часткі з бацькоўскай спадчыны. Таму не меў ён ніякага абавязку працаваць там за ўсіх, дзе яму за гэта нават лыжкі добрай стравы шкадавалі.

Браты пагражалі, крычалі, пазнаўшы, што ўсім ім без яго, як без мятлы, нялёгка будзе збіраць смецце, спрабавалі завабіць яго абяцанкамі, але нічога не памагло.

— Вось быў бы я сапраўды дурным Янакам,— ка-

заў юнак,— каб даўся другі раз злавіць сябе, як верабей на мякіну. Го! го! недачаканне ваша! Раз выпрагшыся з ярма, ужо другі раз карак у яго не сагну, бо ведаю, як яно муляецца. Бывайце здаровы і кланяйцеся старому Лыску...

Стары дваровы сабака Лыска быў дома яго адзіным сябрам. Ані Матруне, ані Янаку і ў галаву не прыйшло, каб пра іх маглі што-небудзь прыдумаць і гаварыць. Аднак злыя языкі ў вёсцы не даравалі крывому калеку і беднай схварэлай Матруне. Пачалі спяваць пра іх у карчме прыпеўкі, строіць з'едлівыя жарты ля студні і на пералазах, але яны аб гэтым нават не здагадваліся.

Янак быў такі пачварны, непрыгожы, што падазрэнне на нейкае да яго каханне магло нарадзіцца толькі ў галовах у старых баб і братавых. Але адзін раз пушчаная плётка прынялася, і сватаць Янака не пераставалі, ён у ўдавы працаваў толькі за парабка.

Часта цэлымі днямі слова адно аднаму не сказалі, а Янак толькі часам, пад лепшы настрой, прыдумваў, каб развесяліць Матруну, розныя гісторыі. Яна слухала і маўчала, бо маўклівасць стала яе прывычкай і другой натурай, здавалася, што ёй было цяжка вымавіць адно слова. Калі-нікалі заспявае ціха дзіцяці, уздыхне ад стомы, але з акамянелага сэрца не магла вырвацца ні скарга, ні ўспамін.

Мацярынства запаўняла яе гаротнае жыццё, у ім былі ўсе яе ўцехі, надзеі і спадзяванні, а ўсмешка дзіцяці выклікала на яе вусны штосьці накшталт сумнай, слёзнай і бледнай усмешкі. Глядзела ў калыску, сядзела пры ёй, спала над ёй і не адступалася ад яе ні на хвіліну. Часам, калі ападала ад стомы, ускокваў Янак і нязграбна закалыхваў дзіця. Аднак, як толькі пачынала яно плакаць, Матруна падхоплівалася, спалоханая гэтым голасам, і зноў сама клапатліва апекавалася сваёй дачушкай.

Такое было жыццё ў гэтай мізэрнай ляпянцы, так міналі дні, ночы і аднастайныя месяцы і гады. Навокал і ў вёсцы быў рух, адны людзі саступалі, на іх месца з'яўляліся другія, кахаліся, разыходзіліся, паміралі, нараджалі. А тут толькі саламяная страха абрастала мохам, Матруна бляднела, чэзла і хілілася ад працы, Янак жаўцеў і [redacted] кожным днём больш горбіўся, дзяўчынка пачынала хадзіць. Аднак ні інакшы лёс, ні лепшая доля не засвяцілі ў цыганішынай ляпянцы.

Хоць вёска не адраклася ад яе, але не вельмі да яе і гарнулася, не столькі, можа, з прычыны нейкага там забабоннага страху, колькі праз яе крайнюю галечу. Вось жа для многіх, для вельмі многіх няма нічога страшнейшага на свеце, чым беднасць. Баяцца дакрануцца да яе рукой, глянуць на яе баяцца, каб не заенчыла да іх просьбай, не звярнулася [redacted] патрабаваннем дапамогі!

Нават атрымаць работу было Матруне нялёгка, бо мала хто асмельваўся даверыць яе такой убогай, баючыся бліжэйшых з ёй зносін. І ўсё ж стараннем Янака не было недахопу ў хлебе, былі праца і заробак, было чым задаволіць найпільнейшыя патрэбы. Улетку, калі дачушка падрасла, Матруна, беручы яе з сабою ў кашолцы, наймалася на жніво. Янак зарабляў таксама, і не горш за іншых, бо часам калі размахнецца, дык стаўляў па дзве капы азіміны. Зімой жылі за сабраны грош і ўдовіным прадзівам.

Аднак у гэтай няспыннай працы праз некалькі год Янак пачаў прыкметна траціць сілы, хоць яны раней здаваліся невычэрпнымі. А як быў ён забабонным і не разумеў, адкуль магла прыйсці такая перамена, то лічыў, што некатарая з брацій яго ўракла. Пачаў тады хадзіць ад знахаркі да знахара, каб зняць тыя ўрокі, піў розныя чарадзейныя лекі, ратаваўся замаўляннем і рознымі няпэўнай вартасці дзеяннямі, так што ў выніку гэтага лячэння занепаў яшчэ горш і нарэшце злёг

зусім. Яшчэ нейкі час трымала яго пры жыцці моцная сіла волі і духу. Цягаўся, апіраючыся на кій, з сенцаў у хату, з хаты на паддашша і памагаў Матруне чым мог. А калі аднаго вечара пачуўся шмат горш, падумаўшы, што сваёй смерцю наробіць удаве клопату, узяў кій і, нават не развітаўшыся, а толькі праз шчыліну ў дзвярах паглядзеўшы на дзяўчынку, якая шчабечучы бегала па хаце, паваloкся да братоў. Павінен быў сабраць усе свае сілы, каб да іх дабрацца, так яму ўжо ў дарозе рабілася кепска. А калі пераступіў парог, захістаўся і зваліўся каля печы.

— Ха, ха! — сказаў.— Вот вы і маеце мяне, паны браткі. Вы хацелі, каб я да вас вярнуўся, дык і прыйшоў я на паслугі. Цяпер вы павінны мне з бацькаўшчыны хоць збіць дамавінку і справіць пахаванне.

А праз нейкую гадзіну дурны Янак ужо не жыў, і браты, хоць кідаліся і лаяліся, пахаванне яму справіць мусілі.

Немагчыма выказаць жалю, які агарнуў Матруну, калі яна неспадзявана даведалася пра смерць Янака. Яна здагадалася, што праз гэта ён яе пакінуў. Дзве гэтыя істоты так зжыліся, што ўдава разгадала яго думку і расплакалася, бо нават у цяжкую хвіліну смяротнай хваробы ён памятаў пра яе і асцерагаўся зрабіць ёй найменшую прыкрасць. Так да яго ўжо прывыкла, што здалося немагчымым жыццё без Янака ёй самой і дзіцяці. Так вось другі раз рабіў яе лёс удавой.

Янака не хапала ўсюды і заўсёды, бо ён быў душой гэтай абяздоленай хаткі. Не магла Матруна выйсці за парог, каб не прыпомніць яго на месцы, якое ён зімой і летам займаў пад драбінай, дзе змайстраваў сабе з тычак ад фасолі і цёртай саломы нешта падобнае на будку. І ў самой хаце поўна было слядоў яго працавітых рук і вынаходлівай галавы, ён асіліў і бандарку, і цяслярства, і мулярку і амаль усё сам рабіў, бо плаціць майстрам не меў чым. На калку над лавай насу-

праць печы, дзе ён любіў сядзець і грэцца, вісеў яго прапылены стары дзіравы капялюш — апошняя бачная памятка аб ім...

Ізноў пайшла Матруна за тым пахаваннем прыяцеля і пацалавала труну, кладучы на яе, паводле звычаю, апошні бохан хлеба і апошні кавалак палатна, на якія браты яму паскупіліся... Позна ўночы вярнулася скамянелая ў пустую, жудасна пустую хаціну з думкай, як жыць далей самой і дзіцяці; і гэтая думка надоўга адняла ёй рукі.

І толькі шчабятанне дзіцяці абудзіла яе з непрытомных мар да жыцця і працы. Шчасце галечы ў тым, што праца ў яе з'яўляецца неабходнасцю і найлепшым суцяшэннем у пакутах. Трэба было зноў брацца за кудзелю і верацяно, каб зарабіць на хлеб сабе і маленькай Марысі. Але ўжо не было каму выпрошваць у вёсцы прадзіва і адносіць маткі.

У такой нядолі і ў беспрасветнай галечы, якая з дня на дзень пагражала галоднай смерцю, расла сіротка Марыся. Маці бачыла ў ёй, як і ўсе маці ў сваіх дзецях, маленькі цуд і вялікія надзеі. А чужыя, нават і незычлівыя, калі ішла, трымаючыся за Матрунін фартух, перабіраючы маленькімі ножкамі і падскокваючы каля маці, як птушачка, азіраліся і з нейкай цікаўнасцю глядзелі на цыганова дзіця.

Марысь, бо гэтак звычайна ўсе яе клікалі, была сапраўды чароўнай дзяўчынкай, у тварыку якой злучыліся два тыпы, усходні і паўночны, і стварылі трэці асаблівы, які захаваў прыгажосць абодвух. У Марысі былі цудоўныя чорныя вочкі, але нос прамы, трошкі прыгнуты, лоб высокі, вусны крыху выпуклыя, але поўныя ўсмешкі і слодычы, дзіўна белае цела і залаціста-цёмны волас. Ужо ў дзіцяці прыкметнай была дзівосная спрытнасць рухаў, што прадракала, якой яно стане, расцвіўшы ў дзяўчо. Матруна, улюбёная ў яе без памяці, прыбірала яе, апранала, упрыгожвала чым

магла, не могучы наглядзецца на гэты тварык, поўны ранняга розуму, пранiклiвасцi i лагоднай дабраты.

З кожнага слоўца сiраты прабiваўся незвычайны досцiп, нецярплiвая цiкавасць да ўсяго, што акружала, i жаданне выйсцi сваiмi сiламi ў людзi. Яшчэ зусiм малая, пачала так спрытна выручаць мацi ў рознай працы, так неаднойчы задзiвiла, даючы параду, што Матруне хацелася стаць перад цудоўнай дзяўчынкай на каленi. А яна ад рання да вечара круцiлася па хатцы, спявала, бегала, а калi мацi па-свойму апускала цяжкую ад суму галаву, чапiлася да яе на каленi i пацалункамi праганяла яе задуменнасць.

Выхаваная ў бясконцай нястачы, Марыся мела нейкi iнстынкт даваць рады ў кожнай сiтуацыi i ў сваёй дзiцячай галаве знаходзiла больш, чым мацi ў сваiм збалелым сэрцы.

А так умела прылашчыцца, усмiхнуцца, спадабацца, залагодзiць, што не раз i самы абыякавы, калi загаворыць, запыняўся. Нават старыя бабы, вяртаючыся з кiрмашу, кiдалi цыганскаму дзiцяцi па яблыку цi па абаранку.

Гэтак дарасла Марыся да дванаццацi гадоў, каб стаць апошняй гераiняй нашай хаткi за вёскай. А калi хочаце ведаць, што сталася з сiратой, дык трохi пачакайце да наступнага апавядання.

Ведаеце ўжо тую бедную хатку за сялом каля могiльнiка, злепленую цыганом амаль нi з чога, толькi сiлай волi, гарачым пачуццём i злосцю. Нiколi не была яна новай, а некалькi гадоў жыцця зрабiлi яе адрахлелай бабулькай, так што калi дзiця, адзiнае дзiця Тумрага, пачало падрастаць, разам з беднай Матрунай пайшла ў заняпад i ляпянка. Штодня трэба было нешта падлатаць, падперцi, падляпiць, заткнуць дзесьцi дзiрку i замянiць спарахнелае, бо мокрым было пакладзе-

на, дрэва. Дах не было каму залатаць саломай, дык заляпілі яго кавалкамі дзёрну, які хоць не прапускаў дажджу, але залішне абцяжарваў тонкія кволыя крокваўкі. У адным месцы над сенцамі так яны павыгіналіся, што ўжо амаль ляжалі на столі.

Затое летам, калі разбуялася ўся гэта зеляніна, прыпомніўшы поле, з якога выйшла, калі зацвіла, дык аж міла было глянуць на гэты вісячы агародчык. Сярод густа пасплятаных сцяблін звычайнай травы там і сям выбіваліся кветкі нашых лугоў, здзіўленыя, што лёс узняў іх на гэту вышыню. Нават пара бярозак, якія пасеяла там божая далонь, раскідаючы па свеце жыццё рукой ветру, са сваёй бялюткай карой і дрыготкімі ліст-камі ўзнімалася вышэй коміна. Салома, якой з кожным днём заставалася менш, бо трэба было яе латаць дзёрнам [illegible] рова пры могільніку, гніючы, давала пажыву гэтым хцівым прышэльцам.

Шмат горш было са сценамі, якія асядалі, урасталі ў зямлю, крывіліся, выварочваліся і, урэшце, сталі нейкай незразумелай зляпкай найдзіўнейшых матэрыялаў. Дрэва, якога не ставала, замянялі галлё, гліна, зямля, салома, смецце — усё, што толькі было пад рукой. Ластаўчына гняздо пад гасціннай страхой вылепліваецца не з большым мастацтвам. На падпоры пайшлі часткі разабранай непатрэбнай кузні, якая нейкі час давала і будаўнічы матэрыял, і паліва. Слупы, што ад яе засталіся, гарно і куча друзу надавалі сваім суседствам убогай хаціне яшчэ больш заняпаласці, але дабрачынная маці-прырода засеяла на тым голым узгорку крапіву і лапухі, якія прыкрылі сарамлівую знішчаную працу людскіх рук зялёнай лістотай.

А чалавеку, якому пасля смерці хапае такога невялічкага дамка, не шмат было трэба і пры жыцці. Уваходзячы ў ляпянку, трэба было моцна сагнуцца, каб працiснуцца праз нізкія дзверы, акно сядзела рамай на зямлі, а ўсярэдзіне, у той цёмнай, сумнай і вільгот-

най ямцы, жыццё ішло штодзённым парадкам, зусім таксама, як у пакутах, енках і стогнах жывецца не ў адным мазаічным палацы.

Калі пасля моцнага ліўню адвальваўся дзесьці ад сцяны кавалак тынку або ў спёку абсыпалася сухая гліна і вецер, няпрошаны госць, праносіўся па пакоі, ішла ўдава за хату, мясіла гліну, дабаўляла друзу ад кузні, латала дзіру, і зноў на нейкі час было зацішна і цёпла.

А дзяўчынка, якая расла ў гэтай расколіне, ніколі не зазірнуўшы ў лепшую кватэру, не ўяўляла сабе, каб магло быць на свеце нешта лепшае, прыгажэйшае і больш выгоднае. Дзяўчо любіла сваю хатку надзвычайна! Большыя і акуратнейшыя пабудовы здаваліся ёй сумнымі ў параўнанні з гэтай ямкай на гары каля могільніка, куды часцей заглядваў вецер, чым людзі.

Часта можна ўбачыць на дзікай скале ў жмені сухога пяску бадзёрую і моцную расліну, якую жывіць толькі ўсявышні, а мы спыняемся ў здзіўленні, думаючы, адкуль гэта выгнанніца бярэ спажыўныя сокі? Мела іх, відаць, у зерні, якое дробнай луской акрывала вялікі зародак жыцця, дык мацуецца, расце і ўзнімаецца гэтай таямнічай сілай. Вось так расла, буяла і расцвітала сіротка, хоць нічога ёй у гэтым не памагала.

Амаль увесь час зачыненая з маці, углядаючыся ў яе пабляднелы і завялы твар, слухаючы бясконцыя ўздыханні, акружаная атмасферай смерці, дзяўчынка ўсміхалася да жыцця, і часам румянчык упрыгожваў яе цудоўны тварык, а вочы пазіралі жаданнем жыцця і цікавасцю да свету.

Ці ведаеце, як гадуюцца вясковыя дзеці? Як нябесныя птушкі, як кветкі на нівах, як усё, чым толькі адзін бог праз сваіх анёлаў апякуецца. Слухаюць вячэрнія казкі і песні маці, глядзяць на працавітае жыццё бацькоў, мараць на полі, пазіраюць на неба, і нарэшце сэрца іх раскалыхацца і думка ў галаве разаў-

еіца, і робяцца людзьмі, як і іншыя, [redacted] часта лепшымі за іншых. Пэўне, менш за вас ведаюць, але адчуваюць аднолькава, калі не мацней, ды больш і лепш адгадваюць, бо ў іх гаворыць сэрца, слухаць сэрца яны ўмеюць.

Матрунінай дачцэ шмат не хапала нават з той драбніцы, якую маюць усе. Маці яе была такая панурамаўклівая, а вёска да іх бязлітасна абыякавая!

Не было ўжо змовы, і ніхто не адпіхаў Матруну з гневам, але называлі яе пагардліва цыганіхай, а яе дзяўчынку цыганкай. І хоць Марыся ўмела прыласкацца, распытаць, учапіцца, спадабацца, хоць яе не адганялі, а ўсё ж вясковыя дзеці адносіліся да яе з нейкім недаверам, уцякалі ад яе і часта дапускалі супраць яе бязлітасныя свавольствы. О, дзеці бываюць лютымі!

Часта выбягала ў поле і рада была б зблізіцца [redacted] пастушкамі, якія, калі папар быў у гэтым баку, пад самай хатай клалі агонь, пяклі бульбу і дурэлі, пільнуючы сваіх кароў і авечак. Але хлопцы і дзяўчаткі, ледзь убачыўшы яе, шапталі: «Дачка чараўніцы! Цыганскае дзіця!» — і рассыпаліся па ярах. Бедная Марыся паслугоўвала ім, прыносячы агню, то трэсак, то якога-небудзь ламачча. Яны прымалі ўсё, але ёй было немагчыма з імі ні разгаварыцца, ні павесяліцца, ні пасябраваць.

Найчасцей была Марыся адна, зусім адзінокая, і так прывыкла ўжо даваць сабе раду, што людзі яе не вельмі вабілі. Не раз глядзела цэлымі днямі, сеўшы на парозе хаты, на могільнік, што быў насупраць, на ўзгорак, на якім, здавалася б, не было што бачыць, і ўмела там заўважыць дзіўныя цікавыя рэчы.

Прылятала ластаўка, несучы ў дзюбцы то трохі балота, то саломінку ці пушок пер'я. Марыся вяла за ёй вачыма туды і назад, пільна прыглядаючыся да працавітай птушыны, і гэтых сваіх суседак ведала амаль усіх

і пазнавала па іх руках і па занятках. Ведала яна, дзе якой ластаўкі прылеплена гняздзечка і адкуль яны насілі сабе ежу, і па іх неспакойнай мітусні вучылася пазнаваць набліжэнне навальніцы. Забаўлялі яе шчабятлівыя вераб'і і дробныя птушкі, якія гнездаваліся на некалькіх надмагільных вербах, і элегантныя сарокі, якія часта за некалькі крокаў ад яе прагульваліся па гасцінцы, але над усіх любіла маленькіх суслікаў, якіх незлічоная колькасць было ўскрай поля і дарогі.

У пагодлівы дзень ці ў месячную ноч, калі навокал было ціха, суслікі звычайна дыхалі свежым паветрам, сеўшы радкамі на парогах сваіх хатак і ведучы, пэўне, нейкую сваю гутарку. А Марыся баялася дыхнуць, каб не спалохаць іх найменшым шорахам, бо пужлівыя зняркі адразу знікалі ў сваіх норках. Іхнія забаўныя рухі, скокі, нават голас, які парушаў цішыню, мілымі былі адзінокаму дзіцяці.

А таму што з гэтага боку гасцінец быў пусты, палі былі шырокія, лясы недалёка, дык цікавае дзяўчо мела, хоць радзей, і не вельмі звычайных гасцей. Часам праляталі над хатай дзікія качкі, летучы на начлег да недалёкага поплаву, з'яўляўся зайчык, мыючыся расой ці паскубваючы зелянінку, сядалі часам сойкі, закручваўся гурт шпакоў, заблукалася з дубняку сіняпёрая краска, а сапраўдным здарэннем было з'яўленне дрофаў ці вандроўных жураўоў. Дык было на што глядзець і з чаго дзівіцца...

А ці шмат трэба такім маладым вочкам, якія нейкім жывым інстынктам, незразумелай сілай сэрца і прадчування бачаць свет наскрозь! Часта хмару камароў, пару жоўтых вясенніх матылёў, птушыную перыну, якую насіў, калышучы, вецер, доўга трымалі яе вочы, доўга даганялі, пакуль яна не знікала ў далёкіх абсягах.

І думала Марыся пра божы свет, пра божыя стварэнні, пра кветачку, якая, не саджаная і не паліваная,

расцвіла ля парога, а летуценне яе было цудоўнае, як ка́зка, і паэтычнае, як песня, і, як маладосць, поўнае свежасці.

А калі здаралася ў непагадзь або навальніцу і холад зачыніцца з матуляй у хаце, дык дзяўчо так шчабятала, што і маўклівая Матруна мусіла сказаць слова і не раз усміхнуцца, а пасля таго пачынала што-небудзь расказваць, павучаць, а то і жаліцца.

З часам Марыся навучылася цудоўна адгадваць тое, чаго ёй не магла расказаць маці. Бедная жанчына так была знявечана жыццём, так душэўна пакутавала, не могучы ўзняцца вышэй сваіх боляў, што нават мацярынская любоў рэдка адкрывала яе вусны, а з завялых губ вылятаді толькі вялыя словы, якія не маглі многаму навучыць.

Бо тады, як дзіця весела і ясна вітала свет божы, птушыны, квяцісты, зялёны, з вуснаў маці чула толькі нараканні, скаргі, а часам... часам нават праклёны. Гэта супярэчлівасць вясенніх малюнкаў зямлі і вясенняга біцця яе сэрца доўга не магла змясціцца ў галоўцы недзіцяці, дык першыя думкі і нарадзіліся з гэтай незразумелай Марысі супярэчлівасці, якой доўга зразумець не магла.

З матчынага енку вычытала першы раз пакуту, мукі, боль, якіх ніколі не бачыла сярод улюбёных стварэнняў, якія былі вясёлыя аж да смерці і шчабяталі пры сконе, і падумала, бедная, што ці яе маці з'яўляецца выключэннем, ці, можа, яе жальбы — гэта вынік узросту і хваробы.

Яе ўяўленне жыцця настолькі было фальшывым, такім дзяціным і такім першабытным, што калі б яна выказала сваю думку самаму закамянеламу з людзей, то ён расплакаўся б над яе весялосцю, верай у долю і будучыню, крывавымі слязьмі. Як ахвяра, прыбраная ў кветкі, ішла яна насупраць лёсу, які чакаў яе, грозны і няўмольны, не бачыла яшчэ ні нажа, ні кастра, ні

болю, што, прытаіўшыся, яе чакалі, а толькі дарогу, прыбраную ў зелень, у кветкі і ў залацістыя сукенкі.

І так расла Марыся з бесклапотнай весялосцю, якой бог залоціць першыя хвіліны свядомага жыцця, а Матруна штодзень, штогадзіны старэла гадамі і хілілася да заўчаснай магілы. Ужо не жыла, а толькі дагарала.

Нават любае дзіця не магло прывязаць яе да жыцця, бо ўжо не хапала сіл і з кожным уздыхам адляталі іх рэшткі.

Халодны пот выступаў на лобе ў яе, калі думала, як пакіне сваю сіротку адну на свеце, сэрца яе білася ад страху, а сардэчны боль за сваё дзіця аслабляў яе зусім і кідаў у гарачку.

Набліжалася гэта памалу, непрыкметна. Разлічваючы на павольнасць сваёй хваробы, цешыла сябе Матруна надзеяй, што, перш чым навек заплюшчыць вочы, выгадуе Марысю, аднак яе разлікі аказаліся памылковымі. Завалодала ёю непрыкметная слабасць, якая перш ішла чарапашым крокам, а пасля стала ступаць штораз хутчэй, і аднаго дня заўважыла бедная жанчына, што ўжо не можа выцягнуць вядра, што не пад сілу ёй самая лёгкая вязанка дроў, што нават хада па хаце смяртэльна яе стамляе.

Села на ложку і ціха заплакала. Марыся ўсё гэта бачыла, але думала, што маці слабая ад старасці, бо яна лічыла, што маці шмат старэйшая, чым была ў сапраўднасці. Заўважыўшы матуліну слабасць, бадзёра ўзялася памагаць ёй у працы.

— О, не турбуйцеся ж, мамачка! — адазвалася, падскокваючы да яе каленяў.— Я ж на тое расту і ўжо змагу цябе выручыць. Я спрабавала несці два поўныя вядры і хоць крыху пад імі згіналася, але падняць іх мне няцяжка, і немалы абярэмак дроў, як пярынку, на плечы закідваю... Адпачывайце сабе спакойна, а мне дайце толькі знак і ўбачыце, як я спраўлюся.

Шчабятанне дзіцяці выціснула ■ вачэй беднай жанчыны яшчэ гарачэйшыя слёзы, і яна моўчкі прытуліла нябогу да сэрца.

— Галубка ты мая, галубачка,— адказала ціхім голасам,— ахвоты табе хапае, але дзе тая сіла, якой так хвалішся? Добра табе пагуляць з вёдрамі, але цягаць ваду пад гару, але прынесці з лесу дроў, а, і столькі рознай цяжкой работы каля дому, не на тваю гэта сілу, не на тваю!

Марыся паківала разумнай галоўкай.

— Паслухайце толькі, мамачка дарагая,— заспявала дзяўчынка сваім птушыным голасам,— гэта ж вы мне ці раз даўней вечарамі расказвалі розныя прыгожыя гісторыі, а я іх добра запомніла... Вось, абы хто моцна захацеў, дык, мне здаецца, тое зробіць.

— Мая ты Марыська, гэта ў казцы.

— А што ж такое казка, мамачка? Гэта ўчарашняе жыццё.

— Казка? Ат, так сабе, людская выдумка на пацеху сумнага жыцця. Можа, і бывала так калісьці, але сягоння гэтага няма, свет такі сумны, ■ людзі такія бязлітасныя!

— Табе так здаецца, мамачка, а хоць бы і былі благія, дык што ж? Добрага абароніць добрая сіла, а благі нічога чыстаму не зробіць.

— Дай бог, а, дай бог! — сказала з уздыхам бядачка, бо казаць больш нічога не хацела.

На вуснах у яе было пытанне да Марысі, што б яна рабіла, каб не стала ў яе маці, але не хапіла на гэта адвагі, не хацела засмуціць малую і баялася яе напалохаць.

А тым часам Марыся наіўна цешылася, што цяпер будзе паслугоўваць маці і сама ў доме гаспадарыць.

Адзін бог мо ведае, што мроілася ў той дзіцячай галоўцы, чыстая казка з вечарніцы! Спаць не давала

ёй мара, так працавала, так ахвотна завіхалася, так замятала хацінку, так цудам ладзіла ў ёй парадак, поўная веры ў бога і людзей.

— Я ведаю! Ужо ведаю, як яно будзе! — шаптала і варочалася на сваёй цвёрдай пасцелі.— Будуць людзі ісці з кірмашу, а я выйду на дарогу, і стану, і ўсміхнуся, і пакланюся. Хіба б сэрца не мелі, каб які не падараваў мне хоць... ягнятка, хоць казлянятка, хоць чорную чубатую курку. Выгадую, за год будзе чатыры, а за два гады многа, многа, цэлы статак... На сяле прадзіва шмат, а я ўжо ўмею прасці і не груба і не зрэб'е, а на васемнаццаць і на дваццаць нітоў. Хіба ж не быў бы бог да нас ласкавы, каб я нам на кашулі не напрала і не зарабіла то сырок, то трохі яек, то мукі, то круп, то скварку... О, гэта пойдзе, маці ўбачыць. А пасля прыйдуць ад найбагацейшага ў сяле гаспадара сваты, прынясуць маці багаты падарунак, пакланяцца да каленяў, у ручку пацалуюць... І будзе вяселле, і будзе ў царкве народу многа дзівавацца. А мой свёкар паселіць матулю, як у бога за печчу, у цёплай новай белай хаце, толькі еш, пі і спажывай!

І так далёка ляцела дзяўчо сваёй сардэчнай марай, што ўжо бачыла сябе гаспадыняй, маці, сівой бабулькай... вялікія, поўныя збожжа свірны, хлявы, поўныя жывёлы, панадворак, запоўнены птаствам... І нарэшце сон клеіў яе павекі, звільгатнелыя ад слёз неспакойнай радасці.

Калі Марыся прачнулася, яна ўбачыла перад сабой матулю бледную, жоўтую, худую, быццам за гэту ноч прыбавілася ёй дзесяць гадоў. Яна стаяла з кіем над пасцелькай. Па накінутай на плечы світцы, па белай хусце, па старых ботах, якія маці абула, Марыся пазнала, што яна кудысьці сабралася, і, падумаўшы, што хоча ісці па ваду, жвава ўскочыла, каб яе апярэдзіць.

— А куды ж гэта ты? Куды, мамачка? — запытала, спалоханая.— І навошта было табе ўставаць?

— Ляжы, дзіцятка, ляжы, мне трэба схадзіць у вёску.

— У вёску? Чаго? Дык пашліце мяне.

— Нельга, сэрца, нельга, дарагі галубочак. Пайду да Саладухі парадзіцца пра сваю немагату.

— Дык я сюды прывяду Саладуху.

— Не, не! Ты застанься ў хаце, мне самой трэба.

— Але ж ты слабая.

— Нічога гэта, з кіем дайду... А то зусім разлежуся... Во, хутка і вярнуся...

Марыся хацела пярэчыць, але Матруна моўчкі адчыніла дзверы і, хоць хапалася за сцены і вушакі, хутка выйшла на двор.

Дзяўчынка толькі выглянула за ёй з трывожным сэрцам, клікнула ціха раз і павінна была застацца.

«Ну, калі гэтак,— падумала, зашпіляючы спадніцу і накідаючы фартух на галаву, бо дзень быў слотны,— завінуся, прынясу вады, распалю ў печы і, покуль маці вернецца, звару юшку... Убачыць мама, якая з мяне гаспадыня!»

І калі так жвава завіхалася ў хаціне, бедная Матруна цягнулася ў вёску. А так далёка, здалося ёй, ісці! Што пройдзе які дзесятак крокаў, то стане, адпачывае, уцягвае паветра, нібы яго ўжо на свеце не хапае, і зноў нецярпліва спяшаецца, але вось прысядае, бо дрыжаць ногі і круціцца ў галаве. І ўсё ідзе так, ідзе да хаты Саладухі, бо яна старая знахарка і лекарка на ўсю вёску. Але хата далёка, далёка, аж на другім канцы вёскі, а сяло вялікае, а дарога гарыстая.

Малады прабег бы за некалькі хвілін тое, што ёй трэба было ісці гадзіну. Добра яшчэ, што па дарозе траплялася абаперціся ці сесці то плот, то камень, то дрэва, але і так цяжка несці цела, як воламам налітае. А хата Саладухі быццам уцякала, але вось ужо яна відаць. Убачыла вароты, і неяк зрабілася лягчэй, што хоць па дарозе не ўпала.

Дзве бяды хутка зблізяцца адна з адной. Для Саладухі таксама свет не быў раем, хоць яе галеча ні ў палову не дайшла да галечы цыганіхі. Першае, у старой быў муж, сляпы дзед, праўда, недарэка, п'яніца і авантурнік, які часта «латаў» ёй бакі, але спрытным быў бадзягам, прыносіў з паходаў медзякі, а часта і поўную торбу ўсякай міласціны. Мела хату, трохі зямлі і спосаб да жыцця са свайго знахарства. Бог ведае як прыйшла да яе тая мудрасць, ды, відаць, проста так, з гадамі і зморшчкамі. Той ды сёй параіўся з ёю, памагла аднаму, другому, пачалі браць яе да жанчын за бабку, а пасля чаго толькі лячыць не навучылася — і трасцу, і ламанне ў касцях, і іншае. З часам уся вёска прызнала яе за лекарку.

Не вельмі яе людзі паважалі, бо яна сваім языком нікога не прапускала, але абы хто застагнаў, ішла на дапамогу і вось так жыла з чужой бяды.

Стары Ратай (гэта было прозвішча Саладушынага мужа) жабраваў не заўсёды і не валачыўся бясконца па дарогах, бо быў лянівы, дык альбо праседжваў у карчме, альбо ляжаў брухам угору, але абы фэст, свята ці кірмаш, чапляў на сябе торбы і выпраўляўся ў паход.

А так добра даваў сабе рады, што, хоць страціў вочы, абыходзіўся без павадыра і, дзе б ні спыніўся, ведаў, як сябе паводзіць, і, не пытаючыся ў людзей, умеў знайсці дарогу і месца.

У полі, у лесе, у вёсцы, сярод самых розных сцежак, якія абы-хто і абы-дзе летам на полі папратоптваў, смела кіраваўся, аж людзі спыняліся, глядзелі і пацiскалі ад здзіўлення плячамі. А хоць часам і зап'е, то пакуль трымаўся на нагах, ніколі не заблудзіўся і, падаючы спаць, выбіраў сабе добрае месца, а разбуджаны, не пытаўся, дзе піў гарэлку, а толькі, бывала, страсянецца, замармыча і ідзе далей сваёй дарогай.

Падабралася пара самы раз.

Гулялі, пакуль ставала сіл. Саладуха хадзіла, як казалі, на Падоле, гэта значыць, валачылася, цэлымі месяцамі не стыкаючыся ў хаце. Ратай спрабаваў рознага хлеба, бываў на возе і пад возам. Урэшце на старасць ізноў сышліся і селі разам пільнаваць варот, сварыцца і наракаць. Саладуха была даволі высокага росту, яшчэ дужая, моцная, брахлівая і сапраўдная знахарка. Хваробу як хваробу, не ведаю, ці пазнавала, а чалавека — навылёт. Даволі было ёй зірнуць каму ў вочы, і гатова была сказаць, што ён думае, ■ смерць дык так чытала з позірку, што калі паківала над кім галавой, то яму ўжо напэўна няшмат заставалася.

Бралі яе таксама і ў суседнія вёскі і не толькі сяляне, але і аканомы, пападдзі, а нават чыншовая шляхта з Рудні, якая сядзела на будках. У хаце пры двайным рамястве, каб быў, як кажуць, статак (толк), дык быў бы і дастатак, але абое палюбілі на старасць гарэлку, а хітры яўрэй і не лепшы за яго шынкар-шляхціц абы падпаіў, тады дапісваў бязлітасна.

Бывала так, што старая звяжа кучку медзякоў у вузялок і схавае на чорны дзень, а Ратай уторкне кудынебудзь у куток назбіраную міласціну, таксама хаваючы яе ад бяды, але праз колькі дзён і ён і яна дастануць схаванае і весела прап'юць. Аднак хлеба ім хапала, бо Саладусе ніхто не адмовіў са страху, каб не начаравала, а Ратай так жалосна жабраваў, што выціснуў бы грош і з каменя, ды і вароты хоць зрэдку, а ўсё ж нейкі шэлег давалі.

Стары меў добры слых, і абы што загрукатала на пана, выбягаў сам адчыніць, кланяючыся аж да зямлі, а пасля, каб паказаць сваю слепату, узнімаў угору свае белыя вочы, прытым і рукой і голасам так драпежна дамагаўся падачкі, што не адзін, хоць і неахвотна, развязваў сваю сцягнутую каліту.

І ўсё ж, нягледзячы на заганы, абое былі неблагімі людзьмі і, калі маглі, ахвотна рабілі добрую справу,

і ніхто не сказаў, што каму ў чым нашкодзілі, нават не падазравалі іх у чараванні і ў заломах на збожжы...

Саладуха сядзела ля парога, падвязаўшы фартух і абапершы бараду на калені, а за ёй у сенцах на ахапку саломы ляжаў дзед. Калі ўбачыла, што да іх падыходзіць бедная Матруна, зірнула толькі здалёк і пачала ківаць галавой.

— Ай-ай! — сказала.— Хто б падумаў, што я знала яе дзяўчынай, дзіцём! А яе маці была нават маладзейшая за мяне. Вось цяпер яна старая, як я, а за мяне слабейшая. Вось табе і цыган! Вось табе і каханне!

— Пра каго ты гаворыш? — адазваўся Ратай.

— А пра каго ж як не пра цыганіху! Валачэцца, бядачка, напэўна, каб ёй што парадзіць, але каму жыцця не хопіць, то не дасць яго і ніякае зелле. Ужо бачу я гэта здалёк і даўно ведаю, што нябога да зімы не дажыве. Толькі дух трымаецца ў целе і шукае шчыліны, каб уцячы...

— Ой-ой! Якая ты знахарка, праклятая баба! — сказаў стары са свайго берлагу.— Каб ты так ведала сваю апошнюю гадзіну, як ты што ведаеш. Вот чмуціш людзей, дык хоць мяне б не дурыла. Ці я цябе не знаю?

— Маўчы, стары! Яшчэ я і табе апошні дзень прадкажу.

— А недачаканне тваё, гадзіна!

І сварыліся б так далей, каб у тую хвіліну не надышла Матруна.

Саладуха, якую мы толькі што бачылі, як зуб за зуб грызлася з мужам, прыняла тут жа адпаведную сваймy становішчу лагодную, задумлівую, таямнічую фізіяномію і, хоць Матруна была толькі беднай, убогай сіратой, прывітала яе лагодна.

— Ай! Што ж з табой, галубачка мая? Ці не слабая ты? — звярнулася да цыганіхі.

— Слабая! Горш чым слабая,— адказала адрывістым голасам Матруна,— прыйшла пара паміраць!

— Што вы гэта гаворыце, крыж з вамі! Альбо ж хто сам сабе смерць прадкажа! Ну! ну! Што з табой? Скажы, галубка, можа, што ўрадзім.

— Дзе там! Дзе там,— пакруціла галавой, сядаючы на лаву, Матруна, у якой дрыжалі ногі і свет круціўся ў вачах.

Саладуха адчула сябе трохі пакрыўджанай такой абыякавасцю да яе ведаў.

— Напэўна ж, вы да мяне не па што іншае прыйшлі, а па раду,— сказала, усміхаючыся.

— Ой, не па раду, не,— прамовіла, крыху адпачыўшы, жанчына,— а па міласэрнасць. Мне ж ужо не жыць, гэта дарэмна!

Дзед і бабай пачалі прыслухоўвацца пільней, а тая так гаварыла адрывістым голасам:

— Ужо гэта я не сягоння адчуваю, што трэба мне памерці, не дажыўшы да сівога воласу... Ды і не шкада было б мне свету, каб не дзіця, сіраціна!.. Вось так, дарагая маці Саладуха, жыццё ўцякала, уцякала і ўцякло, дарма варыць зелле і замаўляць. Пан бог ведае, што робіць; бацькаў праклён вісіць нада мной. Я спакойна памірала б, зусім спакойна, каб не дзіця. Але цыганіха не мае ў сяле брата, і цыганскае дзіця не будзе мець апекуна. Мая Марыся змарнуецца і загіне. Такой пакуты, як мая, вы, Саладуха, не ўяўляеце. Жыла б я і мучылася, каб паставіць на ногі дзіця, але бог за мае грахі мне не дазваляе. А што станецца з маёй Марысяй?!

— Альбо ж няма бога? — адказала Саладуха.— Альбо ж на свеце ваўкі, а не людзі?

— Ой, ёсць пан бог, ёсць, але строга за грахі карае, а людзі...

— Ат! Людзі,— замармытаў са свайго берлагу дзед,— чорт бы іх пабраў, няшмат лепшыя за ваўкоў!

Ніхто не звярнуў увагі на гэты выкрык старога Ратая, а Матруна, як у гарачцы, вяла сваё:

— Ой, дзіцятка, дзіцятка! Што станецца з маёй Марысяй?! Тут смерць надыходзіць, а дзіця трымае мяне за сэрца!

— Дарма задурваецеся,— сказала, сядаючы з ёй побач, Саладуха.— Ці ж як каму забаліць галава, дык зараз і паміраць? Яшчэ паправіцеся, толькі скажыце, што з вамі?

— Што са мной? — балюча ўсміхаючыся, прамовіла ўдава.— Тое, што ёсць, гэта ўжо канец. Хіба запытайце, што было. Я марнела, сохла, слабела, штодзень астывала цела, штодзень затуманьваліся вочы, і вось сягоння, заўтра будзе канец.

— Перастаньце вы сабе прарочыць!

— Дарма, маці Саладуха, бо адчуваю я, што са мной. Трэба памерці. Не мне ўжо радзьце, а дзіцяці.

Старая моўчкі пакруціла галавой.

— Што ж тут урадзіш,— шапнула,— вы ж маеце сваякоў.

— Сваякі? Свае заўсёды найгоршыя! — адказала Матруна.— Няма чаго іх успамінаць. Радзьце інакш. Барані бог, мне канец, дык бядачка застанецца ў хаце адна, як палец, і не будзе каму падаць ёй кавалка хлеба, загіне марна!

— Возьмуць у двор!

— О! Гэта апошняя загуба! — крыкнула Матруна, узмахнуўшы рукой.— Не хачу! Не хачу! Нагледзелася я на сірот, выгадаваных у дварэ... Марыся будзе прыгожая... твар загубіць яе. Лепш няхай бы з голаду загінула, абы сумленна. От, ведаеце што, Саладуха?.. Вы ўбогія, як і я, сваіх дзяцей не маеце, будзьце вы Марысі за маці!

На гэтыя, сказаныя з цяжкасцю, словы, на якія толькі адчай мог адважыцца, Саладуха ўскочыла з сядзення, а дзед са свай пасцелі, і абое са здзіўлення выкрыкнулі штосьці незразумелае. Пасля іх выкрыку, які абазначаў не столькі незычлівасць ці варожасць, коль-

кі страх і здзіўленне, настала хвіліна злавеснага маўчання. Дзед і баба зірнулі адно на адно, бо белыя вочы Ратая, хоць сляпыя, звярнуліся ў бок жонкі.

Матруна ўхапіла трохі паветра і, не даючы ім адказаць, гаварыла далей:

— Яна ж вас не аб'есць, а зробіць за траіх. Такога другога дзіцяці ў сяле няма. На яе можна і хату пакінуць, і паслаць хоць куды, і даверыць, бо ўсё зразумее, прытым ціхая і пакорлівая. Вы мелі б служку за кавалак хлеба і дзіця, як сваё.

Старыя яшчэ маўчалі.

— Калі ж бо бачыце...— адказала Саладуха, яшчэ разважаючы,— вот, што гаварыць да пары! Не думайце дарма пра смерць, не клікайце ваўка [redacted] лесу.

— Ён ужо выйшаў і стаіць насупраць мяне,— адказала ціха ўдава,— і зекры выверnuў на мяне і выцягвае імі душу.

— Хвораму заўсёды смерць на думцы.

— А ці возьмеце вы маю Марысю?

Дзед стаў у дзвярах і пачаў, трасучы галавой, прыслухоўвацца.

— Калі ж бо бачыце,— сказала Саладуха, круцячы ў руках рог фартуха,— тут трэба добра падумаць, каб не запрасіць да пустой міскі. Вы ж ведаеце, якое наша жыццё — міласціна і божае міласэрдзе. Ледзь той кавалак хлеба маем... Не пашкадавалі б мы, але ёй у нас добра не будзе.

— А дзе ж ёй будзе лепш? Каб узяў багаты гаспадар, дык той будзе здзекавацца з сіраты. Вы сваіх дзяцей не маеце, і самі вы ўбогія, дык хутчэй злітуецеся над сіроцінай, хоць не будзеце папракаць яе кавалкам хлеба.

Зноў замоўклі старыя на нейкую хвіліну, а нарэшце Ратай высунуўся з кіем [redacted] каморкі і стаў насупраць Матруны.

— Паслухай, суседка,— звярнуўся бадзёра да цыганіхі,— што тут доўга балакаць? Мы Марысю возьмем, а калі б Саладуха не захацела, ну, дык я ёй бакі кіем вылатаю.

Старая рассмяялася на ўсё горла і падскочыла да мужа, не маючы ахвоты разводзіць перад чужымі сямейную сварку.

— А мой ты старэнькі! — пачала соладка.— А ты вечна жартуеш. Ну, ну! Схавай кій на сабак, неяк змірымся.

Ратай нешта прамармытаў і змоўк. У Матруны пацяклі слёзы.

— Вы яе возьмеце, вы ёй заапякуецеся, бо як не вы, дык ужо ніхто... толькі галеча ведае, што значыць пакутаваць, і злітуецца над сіратой... Саладуха, матуля, будзь ёй за маці! Я за вас у магіле маліцца буду!

— Дык не турбуйцеся ж аб дзіцяці,— перапыніла баба,— каго бог стварыў, таго не замарыў... Яшчэ вы самі яе выгадуеце!

Цыганіха пакруціла галавой.

— Сягоння, заўтра,— сказала паціху,— то будзе і канец. Пра марнае цела не турбуюся, пахаваць мяне мусяць, а калі цяпер даў бог дачушцы бацькоў, то хоць спакойна памру.

І схапілася за кій, хочучы ўстаць, бо, адчуваючы сябе штораз слабейшай, хацела вярнуцца дахаты, але, ледзь узнялася на ногі, зноў асела на калодку.

— Дзе вам ісці такой стомленай дамоў! — пачала Саладуха.— Трэба адпачыць...

— Няма часу! Няма часу! — з дзіўным выразам твару выкрыкнула Матруна.— Такі дайду яшчэ хоць да парога.

— Не зрывалася б ты лепш,— сказала Саладуха.— А калі табе гэтак спешна, дык вось едзе папоўскі парабак Масей, папросім яго, дык ён падвязе цябе да могільніка.

— Каб жа ён захацеў гэта зрабіць! — сказала з уздыхам Матруна.

— Эй, пачакайце, я вылечыла яго ў мінулым тыдні ад такой скулы пад пахай, што вар'яцеў, а мне не меў за што купіць нават чаркі гарэлкі, я дам яму рады.

Гаворачы гэта, Саладуха, пэўная свайго, кіўнула на парабка.— Паслухай,— сказала яму,— што ты рабіў бы, каб у цябе зноў знайшлася пад пахай скула?

— А хай мяне бог бароніць! — крыкнуў Масей.— Добра, што ад тае збавіўся!

— Ну дык не хочаш другое?

— Што з табой, кабета?

— Ну, я толькі пытаюся... Вядома ж, што хто мяне не паслухае...

— Ну-ну? А чаго ж вы ад мяне хочаце? — запытаў хлопец, цярэбячы галаву.

— Падвязеш хворую цыганіху да хаты пад могільнікам,— шапнула яму на вуха.— Ёй ужо мала трэба, сама дахаты яна не давалачэцца.

— А падвязу, падвязу, яшчэ на воз уссаджу і з воза высаджу,— рассмяяўся Масей, з радасці, што няшмат ад яго патрабуюць.— Толькі няхай добра акрыецца, каб яе людзі не пазналі, бо пасля будуць у мяне ў карчме пальцамі пароць, што з ёй пабратаўся.

Яшчэ штосьці там гаварыў, але яго ўжо не слухалі, а Саладуха памагла беднай Матруне ўзабрацца на воз, які памалу пакаціўся на другі канец вёскі.

Цыганіха, магчыма, са страху за лёс дзіцяці ці з вялікай стомленасці, ужо па дарозе знемагла так, што, калі Масей ссадзіў яе з воза ля дзвярэй хаты, ледзь дацягнулася да ложка.

У хатцы было пуста, бо Марыся збірала на ўзлеску галлё, каб было што падкінуць у агонь, дык Матруна, пакуль надбегла дачушка, мела час адпачыць.

Не ведаю, адкуль зноў набрала ўдава сілы, каб узяцца за работу. З іскрыстым вокам, пацалаваўшы

дачушку ў лоб, пайшла яна да кубла, у якім на дне ляжала трохі бялізны і пара світак. Адтуль выбрала сабе кашулю, стары фартух і, памыўшыся, пачала паспешліва адзявацца, нічога Марысі не гаворачы.

— Ці вы думаеце, матуля, ісці куды? — запытала здзіўленая сірата.

— От, так... можа, можа... трэба будзе,— адказала, заікаючыся, маці,— не ведаю, маю справу да пана.

— Але ж вы і так сягоння стаміліся.

— Эй, не вельмі! Масей прывёз мяне сюды з вёскі.

— Дык, можа, пайшлі б туды заўтра?

— Калі ж гэта пільная справа, а з панам не пажартуеш...— сказала ўдава, у вачах у якой круціліся слёзы і за кожным словам таілася рыданне.— Не бойся, Марыська мая, як не змагу, дык не пайду.

— Лепей ляжце! — пачала шчабятаць дзяўчынка.— Я зараз лепшы агонь распалю і падагрэю вам учарашні крупнік. Вам і падсілкавацца трэба.

Гаворачы гэта, пабегла разгрэбці вуголле, старанна прысыпанае попелам, а маці, так-сяк апрануўшыся і ўкруціўшы хусткай галаву, памалу перайшла з каморкі і лягла на ложку.

Марыся ўсцешылася, што маці яе паслухала, і яшчэ жвавей узялася за сваю работу. Выцягнула з печы гаршчок, зняла накрыўку і, ледзь бліснула полымя, прыставіла да яго трохі пакінутага мацеры крупніку. Сама, як мышка, з'ела крадком сухі кавалачак хлеба, бо вельмі ж чулася галоднай.

Тым часам Матруна маўчала і, заплюшчыўшы вочы, як быццам засынала, што радавала Марысю, і яна ціха на пальцах завіхалася па хаце. Ужо і крупнік пачаў дыміцца парай, і міска ■ лыжкай былі гатовыя, а Матруна спала глыбокім сном. Дзяўчынка кашлянула некалькі разоў, думаючы, што разбудзіць маці, але тая была такая стомленая і так неабходны быў ёй адпачынак, што нават не паварушылася.

«Што ёй мой крупнік! — падумала Марыся, пераліваючы яго зноў з міскі ў гаршчок і прыстаўляючы да агню.— Сон лепш яе ўмацуе... а ежа не ўцячэ».

Падкінула галля, адсунула трохі гаршчок, села на лаве і, не зводзячы з матулі вачэй і стрымліваючы дых, каб яе не разбудзіць, прытулілася да сцяны.

Матруна спала так спакойна, што з яе грудзей не выходзіў ні найменшы ўздых, яе боль не выявіўся ніякім рухам. Твар яе станавіўся ўсё бляднейшы, прыплюшчаныя вочы як быццам ужо не глядзелі на дапчушку, да якой звярталіся заўсёды, а вусны, дзіўна расхіленыя, заставаліся нерухомымі...

У гэтым сне-адпачынку бог паслаў ёй вечны спачын — жаданую смерць пасля пакутлівага жыцця. Але ўдовіна дзіця, якое ніколі не бачыла мёртвага, не разумела смерці і рада было, беднае, уяўнаму спакою маці. Час ад часу паглядала на ложак і баялася паварушыцца, каб не перарваць прыемнага сну.

«Гэта добра...— казала сабе ў думках Марыся,— хвароба яе сном пройдзе, падужэе матуля і ўстане здаровай-здаравюсенькай, вясёлай! Гэтакі сон! Не памятаю, каб яна спала так глыбока. Бывала, абы я паварушылася, дык яна зразу прачнецца... Добра відаць, што гэтым сном праходзіць ліха. Такі сон быў ёй вельмі патрэбны...»

І цешылася дзіця і марыла, чакаючы абуджэння, а Матрунін твар з бледнага станавіўся шэрым, штораз бялейшым, жаўцейшым, сінім, і пачаў разлівацца па ім памалу дзіўны страшны колер смерці. Марыся глядзела на матулю і не разумела свайго няшчасця.

Настаў поўдзень, а маці не прачнулася. Марыся задрамала, пільнуючы крупніку і агню, прачнулася, заснула зноў і не заўважыла ў той аднастайнай цішыні, як сонейка захаду зазірнула сваім апельсінавым бляскам у іхняе акенца і як праменьчык асвяціў твар памерлай.

Здзівілася дзіця, калі ўбачыла так нізка сонца, што дзень мінуў так хутка, што маці ўсё яшчэ спіць. Але незвычайнасць гэтага сну, нерухомасць Матруны паўнялі сэрца беднага дзіцяці штораз мацнейшай надзеяй. Не здагадвалася бядачка пра сваё гора і была ўпэўнена, што маці прачнецца здаровай.

Ужо і змяркацца пачало, а яна ўсё, падкладаючы ў агонь па галінцы, сядзела, утаропіўшы ў ложак вочы. Настала ноч, і ў хаце нічога не змянілася.

— Спіць маці! Добра спіць! — казала Марыся.— Не трэба перапыняць яе сну, не думаю, каб захацела ўночы есці.

Адставіла гаршчок з крупнікам, запаліла каганец у глінянай місачцы, каб мець пад рукой агонь, і пачала ўкладвацца спаць не раздзеючыся, каб моцна не заснуць.

Чаканне, неспакой, вымушаная нерухомасць так яе ўмарылі, што, ледзь прылажыла галаву да пасцелі, захапіў яе моцны сон, сон маладосці. Свяціў праз закураныя шыбкі новы дзень, калі зноў расплюшчыла вочы, здзівіўшыся, што магла праспаць адным дыхам усю доўгую ноч.

Першы яе позірк быў на маці, якую ўбачыла пры бляску дагараючага каганца і ранішняга світання ў тым, што і ўчора, становішчы, дзіўна бледнай і нерухомай. Гэтая бледнасць, якая раней наступала няўзнак, цяпер свежаму воку выдалася страшнай.

Падышла памалу на пальчыках да ложка і пачала прыслухоўвацца і прыглядацца, але ні дыхання, ні руху заўважыць не магла.

«Але ж і сон на яе напаў,— сказала сабе.— Доўгі, нейкі каменны сон! Ані павярнулася, ані дыхае, ані паварушыцца». І дакранулася злёгку да рукі памерлай, а калі адчула яе халоднай і быццам каменнай, глыбока задумалася. Аднак думка пра смерць не прый-

шла ёй у галаву, палічыла гэта дзіўнай хваробай, дзіўным сном слабасці. А дзеля таго, што ў простага люду найцяжэйшая хвароба праходзіць праз сон, што пра такія выпадкі чула не раз, дык праз хвіліну супакоілася, толькі дзівілася з гэтай асаблівай слабасці, якая так доўга не мінала.

Ізноў прайшоў дзень так, як і ўчора. Марыся распаліла агонь, зварыла свежага крупніку з астаткам скароміны і, падмацаваўшыся ўчарашнім скіслым і кавалачкам хлеба, асмелілася выйсці за парог, каб падыхаць вольным паветрам.

Аднак неспакой зноў пацягнуў яе ў хату, ледзь толькі паспела акінуць вокам вясенні божы свет, які пасля доўгай слоты выступаў у сонечным бляску і серабрыстым інеі, прадвесніку пагоды.

Балота было прыстылае, галінкі дрэў у брыльянтах, а трава, саломінкі, засохлыя аж да найменшай сцяблінкі лісты — усё было ў бліскучым аднолькавым адзенні. Могільнік са сваімі вербамі і высокай звялай травой паблісквау іголачкамі лёду, якія аж выклікалі на вуснах Марысі вясёлую ўсмешку.

— Як жа тут хараша! Як весела,— выкрыкнула,— але як пуста!.. Ані птушачкі, ані вароны, ані сарокі, і нават мае вераб'і перабраліся кудысьці пад цяплейшую страху...

І сапраўды, на падшэрхлай дарозе навокал, як глянуць, не было відаць ні жывой душы, толькі стаяла смяртэльная цішыня. Марыся паглядзела хвіліну з парога і вярнулася ў хату. Маці непарушна спала тым самым незразумелым сном.

Настаў поўдзень, і дзяўчыну пачаў праймаць нейкі інстынктыўны неспакой. Падыходзіла да ложка, прыслухоўвалася, вярталася, тупала знарок, пакашлівала, хочучы разбудзіць маці, стукала чарапком і гаршкамі, але нічога не памагала.

Надышоў вечар, а Матруна не ўставала, не падавала знаку жыцця. І зноў настала ноч, Марыся, не хочучы класціся на пасцель, задрамала каля печы.

Спала неспакойна, бо ёй усё здавалася, што маці павінна прачнуцца, што прачынаецца, дык падхоплівалася, бегла і зноў сядала, ізноў міжвольна западаючы ў сон. Світанне другога дня разбудзіла яе ўрэшце зусім. У вочы кінулася ёй бледнасць Матруны, дык, напалоханая, пачала думаць, што рабіць.

«Можа, трэба яе разбудзіць? Два дні і дзве ночы, гэта ўжо задоўга!»

Гэта думка пагнала дзяўчыну да маці. Узяла яе за зледзянелую руку і спалохалася, адчуўшы, што яна здранцвелая, быццам драўляная, цяжкая і безуладная. Пачала яе злёгку варушыць, будзіць, паштурхваць... але і гэта не памагло.

«Трэба ісці да Саладухі,— сказала сама сабе,— я не магу яе разбудзіць. Яна знахарка, яна будзе ведаць, якую раду даць на такі моцны сон. Маці заўсёды да яе звярталася. Пастаўлю крупнік на зэдлічку на выпадак, калі прачнецца, а сама пабягу і мігам вярнуся».

Сказаўшы гэта, ускінула Марыся на галаву старую суконную хусціну і, прымкнуўшы дзверы, пусцілася бягом на другі канец вёскі да Саладухі.

Ратая ў той дзень не было дома, бо на заўтра прыпадаў у мястэчку кірмаш, дык дзед, каб заняць лепшае месца пад царквой, вырушыў туды раней. Саладуха круцілася па хаце, штосьці варачы ў печы, калі ўбегла задыханая Марыся.

Старая з цікавасцю павярнулася да яе.

— Што там, галубка? — запытала.

— Ой, матуля суседка! — прамовіла жвава Марыся.— Штосьці мая хворая...

Саладуха толькі галавой паківала.

— А што гэта з ёй?

— Неяк напаў на яе дзіўны сон, матуля. Як пачала спаць, вярнуўшыся ад вас, дык і не варушыцца ўжо трэці дзень і гэтак чамусьці застыла і страшна пабялела, і духу — ані!

Старая пляснула ў далоні, [redacted] якіх у яе вывалілася лыжка.

— Ай! вой! што ты мне гаворыш?!

Марыся, спалоханая выразам твару Саладухі, уляпіла ў яе вочы, у якіх ужо круціліся слёзы.

— Спіць і спіць,— сказала цішэй,— я спрабавала яе разбудзіць, дык усё ніяк... а такая халодная!

— Крыж [redacted] табой! — выкрыкнула старая.— Дык яна ж, пэўне, памерла!

Гэта страшнае слова, якога Марыся добра не разумела, адбілася аб яе вушы, як далёкі гром. Падумала хвіліну, але раптам запярэчыла.

— Але ж яна спіць толькі! Так моцна спіць! — адказала.— Вы знаеце лякарствы, вы можаце яе разбудзіць.

Ратаіха апусціла галаву, зморшчыла бровы і, нічога не сказаўшы, пайшла ў кут, каб апрануць кажух.

— Пойдзем! — сказала, лінуўшы на агонь крыху вады і заграбаючы ў попел галавешкі.— Пойдзем паглядзець, дзіця маё!

Замкнуўшы хату драўляным ключом, задуменная старая накіравалася за дзяўчом, якое ледзь магло падладзіцца пад яе старэчую хаду, так рупіла ёй хутчэй прыйсці да мацi.

Дарога выдалася Марысі смяртэльна нудная і доўгай. Нават любімае птаства і гоман вёскі не маглі яе зацікавіць. Апусціўшы долу вочы, ішла яна са старой і штохвіліны ўздыхала.

Пад горку, хоць з кіем, ледзь ускарабкалася Саладуха і некалькі разоў адпачывала, а дайшоўшы да парога, села, каб, перш чым увайсці ў ляпянку, выдыхаць сваю стому. Марыся выперадзіла яе, зірнула на ложак:

нейкая чарната выступіла плямамі на матчыным тва-ры... і твар яе быў так страшна зменены, што думка аб смерці схапіла дзяўчыну за сэрца кіпцюрамі страху і прадчування.

Тут жа ўвайшла і Саладуха, паглядзела і шырока замахала рукой.

— Падыдзіце бліжэй, бліжэй!

— А чаго? — адказала лекарка.— Яна памерла! Яна даўно памерла!

Марыся, як стаяла, так, заламаўшы рукі, з плачам упала на зямлю.

Старая знахарка пабыла нядоўга ў хаце і пайшла, не даўшы рады адцягнуць Марысю ад матчынага трупа. Трэба было паведаміць пану, ксяндзу і знайсці кагосьці літасцівага, каб зрабіў дамоўку, выкапаў дол і наогул падумаў аб убогім пахаванні.

Па дарозе, спыняючыся, расказвала Саладуха кожнаму сустрэчнаму, што Матруна ўжо трэці дзень як памерла, а сірата думала, што яна спіць. Наракала старая, што цяпер невядома, хто нябожчыцу пахавае.

Вестка хутка, як страла, разнеслася па вёсцы, і цікавыя пачалі памалу сцягвацца да цыгановай хаты, яны абступілі дзверы пакойчыка, у якім, укленчыўшы на падлозе, енчыла Марыся.

Тым часам у двары моцна занепакоіліся, бо баяліся, што ксёндз можа адмовіцца ад пахавання і каб не прыйшлося прывозіць урадоўцаў для высвятлення смерці Матруны. Але Саладуха, папярэджваючы гэта, пайшла да духоўніка і яго гаспадыні і расказвала, як хворая ■ ёй ра́дзілася, як даўно ўжо недамагала, і разжаліла іх гісторыяй сіраты, якая, прыняўшы смерць за сон, тры дні пільнавала памерлую. Пасля гэтага ўжо ніхто не думаў спыняць цыганішынага пахавання.

Толькі не было каму даць дошак на труну, выкапаць дол на могільніку і заняцца апошняй паслугай.

Звярталіся да сваякоў у сяле, даказвалі, што гэта

іхні абавязак, але тыя звальвалі клопат адзін на аднаго. Двор таксама не жадаў займацца пахаваннем, і так справа працягнулася да вечара.

І толькі калі ксёндз, пайшоўшы ў двор, прыспешыў пахаванне, ужо змрокам выдалі дошкі, а труну збіў цясляр у лік паншчыны.

Няшмат было каля нябожчыцы работы.

Некалькі набожных бабулек прынеслі свечкі, хтосьці з братчыкаў прынёс царкоўны крыж і паставіў яго каля памерлай. І хоць не было каму справіць вячэры і пачаставаць гарэлкай, знайшліся дзве набожныя жанчыны, якія пільнавалі цела праз ноч.

Хацелі адцягнуць ад яго Марысю, аднак дзяўчо, выплакаўшы ўсе, якія мела, слёзы, як быццам натхнёнае нейкай адвагай, не далося вывесці.

А калі ўранні прынеслі белую дамоўку, збітую з сасновых дошак, калі прыйшла пара пакласці цела ў труну, Марыся сама падаслала пад галаву падушачку, абтуліла матуліны ногі, зладжыла рукі і апошняй пацалавала яе, калі сталі забіваць века.

Гэта было тыповае пахаванне ўбогага, у якім ніхто не прытрымоўваўся абрадаў і старадаўніх звычаяў, бо кожны займаўся ім з ласкі і хацеў хутчэй пазбыцца лішняга цяжару.

Дол выкапаў хтосьці з міласэрнасці, і вузка, і мелка, абы прыкінуць зямлёй труну, крыжык збілі з двух калкоў, збольшага абдзёршы кару, а на абрад прыйшлі толькі дзяк і некалькі братчыкаў, якія неслі адзін крыж і адну харугву. Шэсце з хаты на могільнік таксама было кароткае, толькі праз дарогу і на магілкі, дзе каля варот пад старой вярбой чакала выкапаная яма.

Марыся выйшла смелым крокам за трунай разам з Саладухай і іншымі бабкамі і правяла маці ў дом вечнага спачынку. Першая, хоць ■ енкам, кінула на труну жменю сырой зямлі. Хутка ўзняўся, прыпляска-

ны лапатамі, невысокі надмагільны копчык, а дзеля таго, што ў беднай ляпянцы памінкаў не было і ніхто нават з літасці не купіў гарэлкі і закускі, дык сабраныя на пахаванне зараз жа разышліся.

Марыся села на магілу і пачала, бядачка, плакаць і плакаць, і ў жалі галасіць.

За некалькі крокаў ад яе стаяла задуменная Саладуха, цярэбячы рог хусткі; відаць было, што развана, абмяркоўвала справу і не ведала, як зрабіць.

«Прасіла мяне нябожчыца, каб я яе ўзяла,— гаварыла ў думках,— але як гэта ўзяць сабе на карак сірату? Не столькі наробіць, колькі з'есць, не столькі [redacted] яе ўцехі, колькі клопату. А ізноў жа шкада, каб яна мела так марнавацца! А хто возьме, калі не возьме двор, хоць і ў дварэ не рай! Нам дык вельмі вялікім цяжарам не была б, часам, можа б, дапамагла, было [redacted] каго хоць па ваду выправіць. Ці раз, як стары папаўзе ў свет, дык хоць ты да сцяны гавары. Што тут рабіць? І так дрэнна, і так нядобра... Э! Вазьму, далібог, вазьму! Неблагое павінна быць дзіця, бо і гора пазнала, і да працы прывыкла».

І падсунулася Саладуха, падышла і зноў спынілася, разважаючы, што рабіць.

— Слухай, Марыся,— адазвалася нарэшце,— хопіць ужо разводзіць жалі, уставай і хадзі са мной.

Але дзіця не пачула адразу, і старая мусіла ўзяць яе за руку і амаль сілай вывесці за агароджу могільніка. Марыся не супраціўлялася, ішла сплаканая неяк зусім бязвольна, хоць і неахвоча, трымаючы ўвесь час ля вачэй фартушок і час ад часу моцна ўздрыгваючы.

— Ну супакойся ўжо,— казала знахарка.— Слёзы нічога не памогуць. Усе мы на тое нарадзіліся, каб памерці, гэта дарма! Ужо ты яе плачам не выклічаш з-пад сырой зямлі і жоўтай магілы... Падумай пра сябе.

Марыся, не адказваючы нічога, абаперлася аб слуп брамкі і зноў пачала галасіць.

— Бог з табой! — працягвала Саладуха.— Хадзі, хадзі, няма чаго тут даўжэй расседжвацца, развітайся, памаліся і пойдзем дахаты.

Сказаўшы гэта і ўбачыўшы, што словы мала памагаюць, узяла яе за руку, вывела на дарогу і, спыніўшыся насупраць цыгановай хаткі, запытала:

— А можа, маеш што адтуль забраць?

— Як гэта? Куды? — запытала, узнімаючы на яе заплаканыя здзіўленыя вочы, дзяўчына.

— А дык жа пойдзеш да мяне.

— А чаго?

— А як жа застанешся тут адна?

— Як? А гэта ж наша хата, навошта ж мне шукаць чужой?

Саладуха аслупянела, замармытала штосьці пад нос, варухнула плячыма і памалу перажагналася.

— Альбо ж ты думаеш тут застацца?

— А пэўне ж! А дзе ж мне быць? — спакойна адказала Марыся.

— Крыж госпадаў з табой! А што ж будзе? Адна? Зусім адна?

— Калі няма ў мяне нікога, дык і адна, што ж рабіць?

— А як жа ты дасі сабе рады?

— А як мы з мамай давалі рады? Была бяда, але з голаду мы не памерлі. Будзе бяда... такая ўжо доля, а што свая хата, то свая хата.

Саладуха не хацела верыць сваім вушам.

— Дык прыйдзе ж ноч...— сказала,— а ты адзінюсенькая, табе ж страшна будзе!

— Страшна? Чаго? — запытала Марыся.

— А могільнік? — прамовіла баба.

— Я з дзіцячых год гуляла на могільніку і днём і ўночы...— уздыхнула Марыся,— ці ж гэта мне навіна?

— А матчына магіла? Бог з табой.

— А ці ж магу я маці баяцца? — ускрыкнула дзяўчынка з плачам.

Старая слухала і не магла зразумець Марысі, якая выцірала вочы і так смела, так дзіўна спакойна адказвала, як быццам яе становішча, сіроцтва, будучыня не мелі ў сабе нічога ні страшнага, ні надзвычайнага. І зноў пачала трэсці галавой, мармытаць пад нос, а з-пад сівых броваў кінула на сірату зацікаўлены пагляд.

— Дык ты думаеш тут застацца? — адазвалася праз нейкую хвіліну.— Адна вось так, як палец? Ну!..

— Інакш жа не можа быць! — прашаптала Марыся.— Гэта хацінка — мая спадчына, гэта мой дамок, а калі б я яго пакінула, дык тут або ўсё распалася б, або двор пасадзіў бы некага іншага.

— А хто б захацеў тут сядзець? — перапыніла Саладуха.— За ніякі грош! Хадзем дахаты, хадзем! Пагаворым, абдумаешся, бо ты сама не ведаеш, што гаворыш.

Ізноў мусіла старая ўзяць дзяўчо за руку і без супраціву, бязвольнае, увесці ў пустую хату.

Ніколі гэта яма не была вясёлай, ніколі нічога ў ёй не ўсміхалася да чалавека, а цяпер была яна страшэнна сумнай, поўна было ў ёй смерці. Пахаванне, якое толькі што выйшла з хаты, пакінула пасля сябе сляды. Ляжала куча стружак і трэсак ад труны, якую прычэсвалі ў хаціне, два палены, на якіх стаўлялі труну, на лаве ляжаў бохан хлеба, прынесены нейкай літасцівай жанчынай, каб пакласці на труну, але пакінуты, бо аказаўся непатрэбным, і грубы ручнік, які таксама не быў скарыстаны, бо ў яго павінны былі загарнуць той хлеб. Ложак не быў засланы і насіў яшчэ на сабе сляды цела, якое доўга тут, чакаючы пахавання, ляжала. Па кутах усё было ў беспарадку. Агонь у печы патух зусім, і па хаце веяў непрыемны холад.

Саладуха пасадзіла дзяўчыну на пяколку, а тая,

глянуўшы на ўсё, што яе ў хаце акружала і напамінала пра апошнія падзеі, расплакалася зноў. Старая пахадзіла ў задуменні, але паколькі да работы і да парадкавання была прывычная, дык амаль машынальна, бо і дома на ёй гаспадарка ляжала, і ў людзей, пайшоўшы да хворага, часта мусіла наводзіць парадак, пачала тое-сёе згартаць і ставіць на месца.

Падняла перакуленае дагары вядро, распаліла агонь і падкінула ў яго трэсак і ўрэшце, знайшоўшы ў кутку засохлы абшарпаны венік, пачала месці, згартаючы смецце да парога. А Марыся ўвесь час сядзела з вачыма, утаропленымі ў ложак, на якім звычайна адпачывала маці, і яе слёзы, спыніўшыся на хвіліну, зноў пачыналі ліцца цурком.

— Гэта ж тут чыстая пустэча! — агледзеўшы ўсе куты, пачала Саладуха.— Нідзе і нічога няма... трохі рыззя, а запасу ніякага... як вымецена... як пасля вайны! А як жа ты тут дасі рады, такая маладая і бяссільная? Каб мне тут, старой, хто загадаў жыць і заплаціў за пражыванне, каб я сабе ўсё з пальца выламала... хоць больш спрактыкаваная за цябе і ўмею тое-сёе рабіць, аднак вырвалася б і ўцякла б! Ты тут загінеш!

— Калі загіну, дык загіну, а ўсё ж адгэтуль не пайду,— выціраючы вочы, сказала рашуча дзяўчынка.— Гэта мая бацькаўшчына, гэта мая хацінка, я яе не пакіну. Мы тут з мамай жылі, будавалі, я тут вырасла, стала на ногі, свет убачыла... яна тут памерла. А! не! гэта для мяне святы кут. Я не пакіну, не пакіну маёй хаткі!

Саладуха, якая адразу не мела вялікай ахвоты браць сабе на карак дзяўчо, неяк пачала раздумвацца. Магчыма, што яе натура, якая любіла рабіць іншым наперакор, навяла яе на ўпартасць, бо чым больш хацела Марыся застацца, тым мацней пачынала баба клікаць яе да сябе.

— Што тут доўга гаварыць,— сказала ўрэшце, стаўшы перад сіратой.— Твая маці, як адчула сябе дрэнна і яе жыццё ўжо ўцякала, сама ж прываляклася да нас, а з чым? Ведаеш ты, з чым?.. Умольвала мяне і майго старога, каб мы цябе прытулілі... Таму, хто памірае, не адмаўляюць. Ратай і я, хоць самім нам цяжка, табе хлеба не пашкадуем, служба ў нас не страшная. Усё ж у хаце і цёплы кут ёсць, і страва знойдзецца, а тут ты памрэш [redacted] голаду!

Марыся, слухаючы старую, памалу выцерла слёзы, устала і, разглядаючыся па пакойчыку, пачала перарывістым голасам, які мацнеў з кожнай хвілінай:

— Паслухайце, маці! Добрае вы маеце сэрца, хай бог адплаціць і вам і старому Ратаю, але нічога з гэтага не будзе. Калі хочаце апекавацца сіратой, во, часам да мяне загляньце... даведайцеся, падкіньце кавалак хлеба, калі мне яго будзе вельмі не хапаць... аднак я тут застануся. Тата гэту хатку будаваў, матуля ў ёй жыла і памерла, а я... я так яе люблю, што маё сэрца разарвалася б, каб, адкрываючы зрання вочы, не ўбачыла я патрэсканых сцен, каб, выйшаўшы на парог, не ўбачыла надмагільных вербаў.

— Але ж на крыж гасподні! — адазвалася старая.— Ты толькі падумай ды паразважай, як жа ты дасі сабе рады?

— А як мы [redacted] мамай давалі?

— Дык вы ж дзве працавалі.

— А дзвюм і трэба было пражыць, а мне адной ці ж многа трэба?

— А дзе ж ты чула і хто гэта бачыў,— выкрыкнула Саладуха,— каб дзяўчына і не дзяўчына, бо такі ж яшчэ дзіця, жыла адна і сама гаспадарыла? Гэтага ж не можа быць, гэтага не можа быць! Як гаспадар застанецца адзін, дык каго-небудзь сабе шукае і знаходзіць, [redacted] не гэтакі падлетак, як ты, сірата!

— Многа чаго, маці, не бывала на свеце, а як спатрэбіцца, дык павінна стацца, хоць з іх людзі здзіўляюцца! — адказала дзяўчына, ківаючы галавой.— Што ж я на гэта параджу, што я адна? Маці не купіш, бог адзін раз яе дае, бацькі не выпрасіш. Вы думаеце, што я так, апусціўшы рукі, памру з голаду?

— Дык хіба жабраваць пойдзеш?

— Ніколі мы не жабравалі і не будзем жабраваць! — адказала Марыся, падымаючы вочы на старую, якая, напэўна, прыпомніўшы свайго Ратая, дзіўна падціснула вусны.

— І гэта хлеб, як і іншы,— паправілася дзяўчына, заўважыўшы сваю прамашку,— але я яго не хачу. Я ж маладая і зараблю, не бойцеся, не бойцеся!

І прыступілася да Саладухі з такой умільнасцю, цалуючы яе маршчыністую руку, што баба, хоць і трохі загневаная непрыхільным тонам у адрас жабрацтва, памалу падабрэла.

— Навошта вам абцяжарвацца сіратой, калі ў вас лішняга хлеба няма? — адазвалася праз хвіліну Марыся.— І не беручы мяне ў сваю хату, можаце мне шмат дапамагчы. От, дазволіце мне часам прыйсці да вас парадзіцца, пажаліцца, пагаварыць. А як ужо часам у мяне не будзе ні крошкі, то падкінеце мне кавалак сухара або — яшчэ лепш, добрую раду, сардэчнае слова.

Старая ўсміхнулася, патрэсваючы галавой.

— Ой, дзіця ты, дзіця! — сказала.— Што табе там раіцца ў тваёй галаве! Каб у цябе і дастаткова было хлеба, бо не вымерлі яшчэ міласэрныя людзі, то як абыдзешся без чалавечага твару, без мовы, без жывога духа ў гэтай пустэчы? А як прыйдзецца табе цэлыя дні і ночы адзінюсенькай сядзець на лаве, пакуль табе думка не прасвідруе галавы наскрозь? Я гэта знаю! Я старая, мне ўжо ўсё абрыдла, а не раз, як мой Ратаішча павалачэцца ў свет і прыйдзецца застацца на некалькі

дзён адной, то чалавек сабаку б пацалаваў, каб той да яго загаварыў, такая нуда, такая туга грызе сэрца! А як жа маладому, у якога і язык свярбіць, і сэрца калоціцца! Не вытрываеш, не вытрываеш, я табе кажу!

— Вытрываю,— адказала сумна, але настойліва Марыся.— Не буду я тут адна, сцены і лавы будуць са мной гаварыць, і маю я тут навокал поўна знаёмых, вераб'і і мышы нават мяне знаюць.

Саладуха плюнула, пацiснула плячыма.

— А, а! дык паспрабуй,— сказала, усміхаючыся,— пабачым, колькі часу пацягнеш... І так вось адразу, цяпер хочаш тут застацца?

— А што ж,— адказала дзяўчынка,— застануся.

— Бо мне трэба ісці,— беручыся за кій, сказала баба.— Бывай здарова! А як надакучыць, дык помні, што ў нас маеш заўсёды прыпірышча... цяжкой працы не будзе... Бывай здарова! Бывай здарова! — паўтарыла некалькі разоў, павяртаючы галаву і азіраючыся на дзяўчыну, якая села, падпершы рукою твар, і глыбока задумалася.

І Саладуха выйшла, не даяраючы яшчэ, увесь час думаючы, што сіротка яе дагоніць. Але дарма аглядалася, памалу сходзячы з узгорка, бо дзверы заставаліся зачыненымі і ніхто яе не даганяў.

Цяжка было спачатку апамятацца Марысі, распачаць новае жыццё зусім адной, уласнымі сіламі. Але бог дае моц, калі яна чалавеку неабходная, воля робіць цуды нават у дзіцяці, цуды творыць і галеча. Пад вечар голад і холад адначасова пачалі дакучаць дзяўчыне. Прыйшлося ўстаць ■ пяколка, распаліць агонь, падумаць пра ежу, пра тое, чым падмацаваць аслабелыя сілы. У хаце амаль нічога не магла знайсці, толькі на лаве ляжаў падарунак некатарай з баб — пахавальны хлеб, які намерваліся пакласці на труну і, хоць яго не выкарысталі, забраць назад не дазволілі забабоны. Гэты бохан свежага хлеба быў нібы апошнім

падарункам маці. Марыся ўбачыла яго з радасцю, адрэзала лусту і, зачэрпнуўшы вады, з'ела жабрацкую вячэру.

Пасля таго села каля агню, паплакала, а на думку прыходзіла ёй, з чаго будзе далей жыць і што цяжка прыйдзецца працаваць, каб зарабіць на хлеб, дык раптам хапілася за кудзелю, прыпомніўшы, што на заўтра павінна дапрасці Сымонісе маток і атрымаць за яго некалькі грошаў. Падумала і адразу села за работу, але хапілася нябога занадта жвава, яшчэ не мела да працы сіл, бо ледзь толькі пачала цягнуць нітку і круціць верацяно, як моцны сон пасля высілення, болю і голаду, пасланы з неба для вяртання страчаных сіл, склеіў ёй павекі.

Верацяно ціха скацілася на зямлю, прасніца пахілілася і абаперлася аб печ, а сірата заснула сном дзяцей, сном нявінных і спрацаваных.

Тым часам Саладуха, пакінуўшы з вялікім здзіўленнем хату пры могільніку, пайшла праз вёску, не могучы змясціць у галаве, як Марыся захацела застацца адна і як яна дасць сабе рады.

«Вядома ж, дзіця...— гаварыла сабе ў думках,— але я, старая ды дурная, што ёй гэта дазволіла. Ну, але ці ж магла я яе цягнуць гвалтам? Яшчэ б людзі сказалі, што я яе сабе прысвоіла! Але гэта так быць не можа, бо бядачка загіне... Можа б, паведаміць двор, духоўную асобу, звярнуцца да войта, да грамады? Хтонебудзь нешта б параіў. Цыганка яна ці штосьці там такое, але ж божае стварэнне, хай бы не памірала з голаду, бо гэта сорам для вёскі...»

Так сама з сабой размаўляючы, цягнулася Саладуха ўздоўж вёскі, а дзеля таго, што ўсе яе зналі, дык штокрок спынялася з сустрэчным на кароткую гутарку. Яшчэ стаялі купкамі на вуліцы мужчыны і бабы, абмяркоўваючы смерць цыганіхі і яе пахаванне. А як Саладуха найдаўжэй заставалася ў хаце за вёскай і як

быццам апекавалася сіратой, то пацісnуліся да яе людзі, распытваючы пра Марысю.

— Ну і што ж цяпер з ёй будзе? Кажыце, кажыце,— дапытваліся [redacted] усіх бакоў.

Саладуха састроіла паважную міну, парушыла плячыма і пачала сцішка сваё апавяданне, як найцікавейшае здарэнне.

— Дык жа я адтуль іду,— казала,— просценька ад яе. А ці паверыце? Вот не далася мне вывесці [redacted] хаты і засталася ў ёй адна.

Людзі слухалі са здзіўленнем.

— Што я яе ні прасіла, што ні гаварыла! Нічога не памагло. Кажа, што сама дасць сабе рады, што гэта яе хата, і ўсё тут... Аж літасць бярэ падумаць, як яна марна прападзе.

— Але ж хто-небудзь узяў бы за кавалак хлеба,— замармытаў стары Марцін Нядуба,— вось і я адзінокі, а жонка слабая.

— Дарма ёй пра гэта гаварыць. Пакуль добра бяды не пакаштуе, нікуды не пойдзе,— жвава перабіла яго Саладуха.— Так ёй цяпер здаецца, што дасць сабе рады, трэба, каб перакаалася, што не зможа жыць адна, тады будзе таннейшай.

Людзі, як звычайна, даволі абыякавыя, паківалі галовамі, пашапталі, той-сёй пажартаваў, іншы ўздыхнуў, і ўрэшце кожны пайшоў да сваёй, а Саладуха да сваёй хаты.

А Марыся, як заснула, седзячы каля печы, у якой хутка патухла, дык непарушна, нічога не адчуваючы і не прысніўшы, праспала каменным сном аж да самай раніцы. І толькі калі бляск добрага дня, працiснуўшыся праз акенца, натрапіў на яе вочы, усхапілася раптам, працерла павекі і, вяртаючыся да жыцця, успомніла пра сваё сіроцтва.

Пакуты і стома так змяшалі яе думкі, што доўга не магла зразумець, ці праспала толькі ноч, ці больш,

ці толькі кароткую гадзіну. Выйшла на парог і задумалася, пазнаўшы па сонцы раніцу. Свет быў вясёлы і прыгожы, нягледзячы на сум сіраты. Сонца зыходзіла пагоднае, навокал была цішыня, толькі вераб'і шчабяталі пад страхой. Яны ляталі, кружыліся, сварыліся і біліся за забытае дзесьці на дарозе зерне, напаўняючы гоманам паветра.

Дзяўчынка пачала разглядацца ў прыгожым і радасным краявідзе, і вока яе ўпала на нізкі прымагільны вал і на жоўтую магілу маці. Дзверы хаты засталіся шырока адчыненымі, а Марыся пабегла і, прытуліўшыся да халоднага курганка, зайшлася ад плачу.

Не ведаю, ці доўга гэта працягвалася да таго часу, калі ад вёскі пачаў набліжацца хуткім крокам каржакаваты шыракаплечы стары, які, нягледзячы на выразную слепату, жвава падымаўся на ўзгорак. Толькі кій кіраваў яго крокамі, аднак ён ішоў так упэўнена, як быццам меў цэлыя і здаровыя вочы.

Раптам ён спыніўся, павярнуў белыя зрэнкі ў бок могільніка і стаў уважліва прыслухоўвацца. Сляпы дзед меў востры слых і асаблівае чуццё. Ціхі плач дзяўчыны не мінуў яго ўвагі, ён здагадаўся, хто плача, амаль з гневам паварушыў плячамі і, прыспешыўшы крокі, пачаў, як быццам бачыў, падыходзіць да могільніка. Гэта месца было яму так добра знаёмае, як і кожны кут вёскі. Трапіў на прагнілы масток у фортку і між магіламі, выдатна выбіраючы сцежку, падышоў да самай дзяўчыны, ведзены яе ціхім плачам.

Марыся заўважыла яго толькі тады, як ён да яе адазваўся.

— Даволі ўжо плакаць, даволі! Памерлым вечны спакой, жывым пара да працы і жыцця. Вот уставай і хадзі!

— Куды? Куды? — неспакойна запытала дзяўчына, не зусім пазнаўшы Ратая.

— Куды? А да нас! — сказаў стары бадзяга.— Што ты, збіраешся сама гаспадарыць? Гэта ж твая маці хацела, каб ты пайшла да нас, а так заставацца табе адной немагчыма.

— Дык вы, пэўне, муж Саладухі?

— Я стары Ратай, сляпы дзед, каб ты знала. Дык, доўга не балакаючы, збірайся, рыбка, і рушся.

— Але ж я ўчора сказала вашай цётцы, што застануся пры хаце.

— Так! А я цябе застаў на могільніку. Прыгожая табе хата! А што з таго будзе, як ты тут пачнеш хадзіць і выплакваць! Хлеба не выплачаш, гэта дарма! Мусіш ісці да нас, нічога не паможа!

— Не пайду! Не пайду! — крыкнула Марыся.— Не хачу, не магу! Маю сваю хату, і тут мне хоць бы і памерці!

— Што ты, Марыся, звар'яцела? га?

— Хай звар'яцела, а не пайду! — адказала дзяўчо.— Дзівіцеся, што мяне тут засталі. Што за дзіва? Учора яшчэ ўзялася я за кудзелю, але сон мяне змарыў, і я каменем праспала ўсю ноч... Выйшла раніцай глянуць на сонейка, убачыла маю магілу, і захацелася на ёй плакаць.

— І так будзе кожную раніцу.

— Не, дзеду! не! Я ведаю, што мне рабіць, пайду да працы, бо з яе жыву, а слёзы схаваю на нядзелю.

Ратай стаяў, здзіўлены так, як і яго жонка, бо быў упэўнены, што застане дзіця, а трапіў на дарослую, толькі разжаленую істоту. Ужо не ведаў, што рабіць і што сказаць.

— Завядзі ж ты мяне ў сваю хату,— адазваўся, падумаўшы,— я ніколі ў ёй не быў, мушу яе агледзець...

Ратай звычайна так гаварыў, хоць не меў вачэй, і не вельмі гэтым грашыў, бо так умеў замяніць зрок надзвычайным чуццём і спрытам, што часта больш ба-

чыў за самых відушчых. Дык пайшлі разам да цыгановай хаткі. Стары дзед абмацаў дзверы і паківаў галавой, што яны нізкія, пераступіў праз парог і, не спыняючыся, абышоў хату, мацаючы рукамі стол, печ і лаву, такім самым спосабам агледзеў камору, вярнуўся і, засумаваны, сеў каля печы.

— Цыганскі шацёр,— сказаў сам сабе ціха,— горшы за абы-якую зямлянку, бо там, прынамсі, зацішна і цёпла... Як тут жыць?

Дзяўчына пачула апошнія словы.

— Ой, жылі мы, ойча, і добра нам было з нашай галечай. А мне адной? Абы ямка, дзе можна галаву прыхінуць.

— Як жа ты думаеш жыць? Што будзеш рабіць? Гавары ж мне,— адазваўся Ратай,— мне трэба ведаць.

Марыся задумалася, утнуўшы ў дзеда свае чорныя, слёзныя вочы.

— Вы паслухайце,— сказала.— Не навіна мне рабіць тое, што мы рабілі з мамай. З вёскі даюць прасці кудзелю, а за работу можна атрымаць і хлеб, і крупы, і скорам, а часам і якую-небудзь адзежыну. Я, дарагі ойча, не хвалячыся, так праду, так праду, што не абы-хто гэтак зможа. Як грубейшага, дык і цэлы маток за тыдзень нарыхтую. Мяне мая мама вучыла, а яе ж лічылі ў вёсцы за найлепшую папрадуху, бо яе нават слаўная Мудрагелева Гарпына не магла перагнаць.

— А як захварэеш? — запытаў нахмараны Ратай.

— Ну дык паляжу, што бог дасць! Што бог дасць,— паўтарыла з уздыхам.— Мама заўсёды гаварыла, што бог над сіратой.

Ратай слухаў і штораз больш дзівіўся, а ў канцы не ведаў, што казаць. Вочы яго паварталіся ў бок Марысі і яе голасу. Можна было б падумаць, што ён стараўся прабіць вечную цемру і ўгадаць твар дзяўчаці, а лоб яго быў нахмураны, заклапочаны.

— Світае ў тваёй галаве! — сказаў памаўчаўшы.—

Ну а чаму не хочаш да нас? Кажы — чаму? Можа, ты баішся Саладухі? Але калі б яна сказала табе благое слова, дык я б ёй так бакі вылатаў, што яна б табе пасля мусіла рукі цалаваць.

— Але ж я нікога не баюся,— жвава запярэчыла Марыся.

— А чаму не хочаш ісці да нас?

Дзяўчынка завагалася, слёзы пацяклі з-пад павекаў, і, наблізіўшыся да старога, прыніжаным, узрушаным голасам сказала:

— Ойча, вы павінны былі мяне даўно зразумець! Можа, гэта смешна, можа, грэшна, можа, неразумна, што я скажу. Але што ж, калі гэтак дык таіцца перад вамі не буду. Я не магла б пакінуць гэтай хаты! Ці ж не чулі вы, як яе бедны тата будаваў? А што мы тут з мамай угаравалі... Я тут нарадзілася, яна тут памерла... Не, я не магу яе падперці калком і пакінуць пусткай, буду тут сядзець, дакуль жыць буду.

— Ну рабі сабе як хочаш! — прамовіў дзед, якога сціснутыя вусны выяўлялі ці то літасць, ці то прыглушанае хваляванне.— Бог з табой! Толькі помні, памятай, што як знябудзешся адна, дык у Саладухі на лаве каля печы заўсёды ёсць табе месца, а ў Ратаёвай торбе кавалак хлеба. І на матчыну магілу не трэба табе, дзіця, хадзіць. Ты яшчэ не ведаеш, што такое плач і смутак... Смутак ходзіць па свеце прывідам, а каго зловіць, таго душыць, мучае і, калі ты яго не прагоніш, задушыць. Бог загадвае не паддавацца гэтай зморы, а бараніцца ад яе. Маці тваёй слёзы не патрэбныя, лепш памаліся за яе, а на магілу не хадзі. Сядай, прадзі, гаспадар, калі хочацца табе паспрабаваць адзіноты, але доўга гэтак не будзе. Чалавек чалавеку патрэбны. Што б я даў, каб мог хоць варожы твар бачыць!

Гаворачы гэта, дзед сарваўся з лавы, ссунуў на калені торбу, якая была ў яго перавешана праз плячо,

і пачаў даставаць з яе кавалкі хлеба, сухія, свежыя, сплеснелыя, бялейшыя, чарнейшыя, выгружаючы свой запас побач з сабой.

— Вось табе на пачатак гаспадарання,— сказаў панура,— якая рука, такая і міласціна. Бывай здарова, і хай цябе, галубка, бог пацешыць!

З гэтым пайшоў Ратай, і ўжо праводзіць яго не было патрэбы, смела пераступіў парог, галавой у нізкіх дзвярах не стукнуўся, у сенцах да выхаду трапіў, як быццам сам іх будаваў, і пусціўся [redacted] гары сцежкай, не вельмі часта пасылаючы кій у разведку.

— Такі гэта род,— мармытаў сабе пад нос, кіруючыся ў вёску.— Каб мне хто з чужога сяла расказваў, дык я не паверыў бы, што падлетак, сірата, дзіця, а ўжо хоча мець сваю волю. Такі іх род: дзед памёр, а дачцэ ісці замуж за цыгана не дазволіў, а дачка ў галечы кончыла, але на сваім паставіла. Браты пакляліся, што яна чужой ім будзе, і вось выпаўняюць, сабачыя сыны!

На хвіліну спыніўся.

— А каб мне паспрабаваць пайсці да Максіма і Піліпа, га? Хто знае, можа б, я што вытаргаваў сіраце? Паспрабую, усё ж за гэта сабакамі мяне не зацкуюць. А хоць бы, дык кіем абаранюся і яшчэ морды ім натаўку.

Дарога да Марысіных дзядзькоў ішла каля карчмы, якой Ратай ніколі не мінаў. Не вытрываў і гэтым разам, увайшоў, развязаўшы вузялок на кашулі, дзе было схавана некалькі манетак. Выпіў чарку і, падмацаваўшыся, з лепшай думкай, маўклівы, але смелы накіраваўся да хаты Матруніных братоў.

Яны дагэтуль не былі раздзеленыя, і хоць сям'я большала, хоць там густа ўжо іх было, не выпрасілі ў пана сабе зямлі, бо пустак у яго не хапіла, а з нівы выдзеліць было цяжка. Дык і не найлепш наводзілася Максіму і Піліпу.

Пайшлі дзеці, здарылася некалькі неўраджайных гадоў, браціхі сварыліся за гаршкі, спрачаліся ў хляве, грызліся на падворку, калі адзін падсвінак загляне другому ў карыта, а калі даводзілася ісці на паншчыну, выпіхалі адна адну, кідаліся адна да адной так, што іхнія мужыкі, разбараняючы, самі не раз пасварыліся. У хаце тварылася сапраўднае пекла.

Адзін на аднаго аглядаўся, ніхто нічога не рабіў, і Матруніны браты штораз бяднелі, праклінаючы сваю долю. Не пазнаць было цяпер чыстага даўней падворка, ахайнай хаты і наогул заможнай гаспадаркі, так усё тут праз нядбальства абшарпалася, збяднела і пахілілася. Платы былі вышчарбленыя і месцамі спаленыя, дах прагніў і паўгінаўся, сцен даўно не абмазвалі, а хварасцянае гуменца свяціла бакамі, праз якія вызіралі вехці саломы. Даўней, пры Лепюку, гэта была адна з найлепшых у вёсцы гаспадарка. Цяпер на двух братоў засталася толькі адна пара валоў. І якія гэта былі валы! Адзін стары і худы, другі толькі ў трэцім годзе, недарослы і хілы, аж сорам было выйсці на поле з радлам ці запрэгчы ў плуг. А як надышла тая бяда, дык усе пачалі на яе наракаць, не хочучы прызнацца, хто першы адчыніў ёй дзверы. Максім складаў віну на Піліпа, Піліп на Максіма, абедзве брацiхі на мужоў і адна на другую. Напрадвесні прыходзілася пазычаць на асцюкаваты хлеб, а вядома, што такое сялянская пазычка! За гарнец жыта аддай такі самы гарнец у дабаўку. Ужо добра, калі тры дні адрабляць трэба, хоць за пяць злотых купіў бы цэлы карэц.

Ратай ведаў, як жылося Матруніным братам, бо ў вёсцы ведаюць, што дзеецца ў суседзяў. Аднак ішоў да іх, бо яны, хоць бедныя, шмат больш мелі, чым сірата, і маглі ёй дапамагчы.

Быў гэта такі дзень, што ён усіх застаў дома. Максім наганяў абруч на рассыпанае вядро, Піліп даядаў з місы, збіраючыся ў лес, а дзве брацiхі, стаўшы ў двух

кутах адна насупраць адной, лаяліся, колькі ўлезла, за верацяно. Мужчыны ім не памагалі, прывыкшы да гэтай штодзённай звады, толькі ўсцепвалі плячамі і паскробвалі галовы.

Калі на парозе паказаўся дзед, якога заядлым брэхам праводзілі два шчанюкі, нашчадкі старога добрага Каштана, усе павярнулі ў яго бок галовы, а Максім, пакідаючы работу, сказаў:

— Э! ішлі б вы сабе з богам!.. Бо ў нас таксама хлеба няма.

— Альбо ж я па міласціну? — прыкрыкнуў Ратай.— Хіба вы мяне не пазналі? Ці гэта я па сваёй галавёсцы без свята буду жабраваць? Тфу, Максім, у галаве ў вас пераварнулася. Ці ж вы не знаеце Ратая? Ці я ўжо вам лаву пераламлю, калі на ёй адпачну?

Максім засаромеўся і пачырванеў.

— Ну не лайце, дзеду,— сказаў,— сядайце, адпачывайце, [redacted] то я вас сапраўды не пазнаў.

— Ну, ну, стары дзед гневацца не ўмее. Мой хлеб прызвычаіў мяне да ўсяго: і да людскога спачування і да людской лаянкі... Гэта прысыхае, як на сабаку. А як хто мяне скляне, дык я адкляну яго ўдзесяцера, калі не ў вочы, дык за вочы!

Гаворачы гэта, Ратай намацаў лаву, на хвіліну замоўк, як быццам прыслухоўваючыся да найменшага шораху, каб [redacted] яго пераканацца, колькі людзей у памяшканні, і пачаў, цяжка ўздыхнуўшы:

— А ці ведаеце, якая спадчына мне дасталася?

— Ну? Якая спадчына? — запыталі адначасова Максім і Піліп.

— А пасля вашай сястры Матруны!

Браты замоўклі, як быццам ім хто раты пазатыкаў. Стары таксама не спяшаўся гаварыць далей.

— Аж маё сэрца расце,— дадаў праз хвіліну.— Даўно я хацеў мець дзіця, [redacted] тут на старасць даў бог мне і маёй бабе гатовае, выгадаванае і такое, што за

9 Зак. 1531 

яго і перад каралём не пасаромеешся. Матруна пакінула мне сваю дачку.

— А-а! — адазваліся абодва браты.

— Вот так! А важная дзяўчына, толькі шкада, што, як і вы ўсе, куры чубатыя, яна таксама з чубком: упартая, як казёл.

Ніхто не сказаў ні слова, а Ратай працягваў:

— Я цешыўся, што забяру яе, бо было б кім выручыцца ўдому. А тут, хоць зусім адна засталася, не выцягнуць яе [redacted] хаты. Нячутая справа: адна як палец, без кавалка хлеба і кажа, што дасць сабе рады і сама хоча гаспадарыць, а яшчэ ад зямлі не адрасла.

Браты і брацікі паглядзелі адно на аднаго, плячамі пацiснулі, а цікавасць развязала ім вусны.

— Што бо кажаце! — адазваўся Піліп.— Дык гэта ж дзіця!

— Дзіця, але не такое, як вашы, што за матчыну спадніцу трымаецца і адно за парог не вылезе. Дай яму міску і лыжку, ды яшчэ і рот трэба раскрыць, каб яно ела.

— Каб яно невядома якое было,— сказаў памалу Максім,— дык загіне, як мыш... Недарма бацька праклаяў іх з родам. Цыган-нявера прапаў, Матруна памерла ад голаду, і сірату чакае не лепшая доля.

— Перасталі б вы прарокаваць,— перапыніў Ратай,— а чым яна вінна, што іншыя награшылі? Госпад бог лепшы і міласэрнейшы за людзей, не дасць ёй загінуць. Хто вінен, той ужо адпакутаваў.

— Але вы скажыце,— адазвалася Максіміха,— што яна сабе думае? Як гэтакае дзіця дасць сабе рады? Адно-адзінюсенькае! Гэта ж дзіва!

— Сапраўды дзіва. Я сам не ведаю, што будзе. Думаецца мне,— казаў стары,— што пабядуе на той пустцы, а пасля прыбяжыць да нас. Богам ды праўдай, і вам што-небудзь зрабіць для яе выпадала б, хоць хлеба кавалак падаць.

На гэты зусім неспадзяваны вывад і Максім, і абедзве брацiхі крыкнулі ў адзін голас:

— Што ў цябе ў галаве? Ці ж у нас лішкі хлеба?

— Гм! Ні ў кога няма лішняга хлеба! — сказаў Ратай.— Я ведаю, што і вы не маеце яго зашмат. Але чаму бог вам не спрыяе? Хто знае, ці не за Матруну, якую вы так адапхнулі. Хоць вы і небагатыя, а двух сабак трымаеце, хіба не знайшоўся б акрайчык і сірацe. Хто ведае, ці гэта сяўба не дала б ураджаю.

Максім узрушыў плячамі.

— Пакіньце, я ўжо бачу, з чым вы да нас прыйшлі. Навошта дарма круціць ні тое ні сёе — то вы яе бераце да сябе, то яна сама сабе дасць рады, калі вы хочаце нам яе на карак ускінуць!.. Але нічога з гэтага не выйдзе! Хапае нас і так!

— Плюнь, Максім! — выкрыкнуў дзед, стукнуўшы кіем.— Вось бачыце, як гэта з вялікай мудрасці вы адразу здагадаліся, што я надумаў! Найперш, каб вы і хацелі, дык я яе вам не аддаў бы. Па-другое, як да мяне, так і да вас яна не пойдзе! А чаго я хацеў, скажу: можа, ваш дар быў бы смачнейшы за маю жабраніну. Але і так, пакуль я жыву, яна з голаду не памрэ! Няхай жа і будзе ў вас тое, што і было, калі маеце такое сэрца!

Сказаўшы гэта, устаў, кіем застукаў і, не рэкнуўшы больш ні слова, грукнуў дзвярамі за сабой, а на дварэ сабакі заядлым брэхам азнаймілі яго адыход.

Браты і брацiхі стаялі хвіліну нахмураныя, паглядаючы адны на адных.

— Які мудры! — адазвалася ўрэшце Максіміха.— Хацеў нам яшчэ адно дзіця падкінуць, як быццам гэтага бобу ў нас мала!

— Ціха, баба! — прыкрыкнуў на яе Максім, падымаючы галаву ад работы.— Не наракай жа хоць на дзяцей, бо бог табе іх пазабірае!

— Што тут гаварыць,— неяк адважна, устаючы

з-за стала і надзяваючы шапку, сказаў Піліп,— па справядлівасці, дык нікому больш, а нам трэба апекавацца сіратой. Гэта ж роднай сястры дзіця асірацела, пакінуць яго і сорам, і грэх, а як хто іншы возьме, дык пальцамі пароць у нас будуць!

— Гэта ж цыганё, цыганё! — крыкнуў Максім.— Што ты гаворыш, дзіця сястры! Бацька ад яе адрокся... гэта не наша кроў! Няхай ідзе бадзяцца са сваімі, не наша гэта справа!

— А пэўне ж, гэтак! — дадала Максіміха.

А Піліпава жонка, кісла паглядаючы на мужа, шапнула:

— Ці мы такія багатыя, каб браць на галаву чужое дзіця? Глядзі, каб тваім хлеба хапіла!

Піліп узрушыў плячамі, паківаў галавой, уціснуў шапку глыбей на вушы, закінуў за плечы вузялок, заткнуў сякеру за пояс і, запаліўшы пры печы люльку, выйшаў да воза, што стаяў запрэжаны ля сяней.

У хаце запанавала доўгае маўчанне. А як не было з кім спрачацца і мінуў першы іхні неспакой, усе пачалі думаць пра сірату, як яна там засталася і як дае сабе рады. Не асмельваліся толькі адкрыць вуснаў, але ім карцела пагаварыць пра тое, пра што ўся вёска, плябанія і двор у гэты час гаманілі.

Ужо шырока разнеслася вестка пра смерць Матруны і пра дзяўчо і пра яго рашэнне застацца ў сваёй хаце на гаспадарцы, дык кожны дзівіўся, кожны цікавіўся, як гэта яно будзе.

І абедзве брацціхі і Максім не менш задумваліся, які можа быць гэтаму канец. А калі пачалі думаць і ўяўляць сабе тое адзінокае жыццё ў прымагільнай хатцы, тую нядолю, тую пустку, дык трохі літасці разбудзілася ў іх сэрцах. І хоць кожная брацціха вельмі баялася з той літасцю адкрыцца, каб не падахвоціць да ахвяр іншых, але ўжо было немагчыма не паказаць сваіх пачуццяў.

— Аднак гэта цікава,— адазвалася першая Піліпіха,— як там цыганка гаспадарыць. Ёй не больш як дванаццаць-трынаццаць гадоў, а яна думае, што абыдзецца без людзей... Хацелася б хоць крадком зазірнуць і ўбачыць, што там будзе дзеецца. Гэта ж нечувана, каб такое дзіця ды адно на ўсю хату!

Максім паківаў галавой.

— Ратаі забяруць яе.

— Саладуха мне казала, што гвалтам яе цягнула, але яна не паддалася.

— Убачыце.

— Ды ўжо ж пабачым!

— Усё ж, відаць, добра казаў мой,— прамовіла адсцішка Піліпіха,— узяць не ўзяць, бо гэта цяжка, аднак штосьці зрабіць для яе мы павінны. Людзі нас апошнімі лайдакамі назавуць. Пакуль жыла яе маці, дык была іншая справа, а над сіратой трэба злітавацца.

Гаварыла гэта, але так нясмела, так баязліва, так азглядаючыся на брацiху і на Максіма, як быццам баялася вялікага на сябе абурэння і гатова была зараз жа адступіцца. Аднак неспадзявана ніхто насупраць не сказаў ні слова.

Максім выняў з зубоў люльку і пачаў пакручваць галавой.

— Якая ты, Піліпіха, багатая! Ой, ой! Не кажу, каб у даўнейшыя гады, калі з году на год заходзіў снапок жыта і ў арудзе заўсёды быў запас. Але цяпер так вось і самім прыйдзецца пазычаць, а поле засяваем напалову з Сымонам, дык што з яго сабяром?

— Альбо ёй шмат трэба! — адазвалася ўжо адважней Піліпіха.— Вот, што-небудзь, каб людзі не абгаворвалі і сумленне было спакойнае.

— Якая мне пані! — пачала ў сваю чаргу Максіміха.— Даць! Даць! А скуль возьмеш?

— Э, э! На гэта нейкая крошка знайшлася б!

Максім маўчаў, а брацiхі першы раз здаўна зміры-ліся і пачалі шаптацца. Не сварыліся ўжо, але нешта жыва адна адной, завіхаючыся па хаце, расказвалі. Увайшоў у іх дух міласэрдзя, ведучы за сабой дух згоды.

Няма лепшых і справядлівейшых сэрцаў, чым у нашага народа, толькі іх цвёрдымі часта робіць галеча, зачыняе голад і смага. У цяжкой долі цяжка здабыцца на літасць, і не кожны можа падзяліцца апошнім кавалкам. У хаце было вельмі ўбога, аднак, калі прыйшлі на думку абавязкі, калі прыйшлося разгледзецца ва ўласным сэрцы, зварухнулася сумленне і з'явілася ахвота падзяліцца з бяднейшым сваёй нястачай. Праўду кажучы, той дар ішоў цяжка і доўга задумваліся над ім; у першым разгоне намерыўшыся даць больш, калі дайшло да справы, памалу пачалі абразаць. Аднак і Максім і брацiхі сышліся на тым, што трэба штосьці сіротцы занесці і заадно паглядзець, як ёй там паводзіцца.

Гэты вялікі паход адлажылі да заўтра, на чым дзяўчынка страціла, бо да раніцы раздумаліся і, азіраючыся адны на адных, той падарунак яшчэ зменшылі.

Вось так, здаецца, робім мы ўсе, сэрцы ў нас добрыя, [redacted] галава халодная і баязлівая.

Цяжка жылося дзяўчыне ў ляпянцы ў першыя хвіліны, аднак гэта не пустое слова, што ў патрэбе бог ссылае сваю ласку. Кожны чалавек у цяжкім становішчы, але [redacted] чыстым і справядлівым сэрцам, калі таго заслугоўвае, атрымае гэты асаблівы, дастасаваны да яго стану божы дар. Вышэйшая сіла праз анёла-апекуна нябачна сашле нейкую думку, патрэбную прыкмету, цярплівасць, вытрымку, зернетка будучыні, якога сам чалавек сваім стараннем здабыць не можа.

Беднай сіротцы ў яе цяжкой долі і адзіноце, як толькі абсохлі першыя слёзы, а сэрца пачало біцца спакайней, прыйшла ў галаву шчаслівая думка, прынесеная, пэўне, анёлам.

Назаўтра зрання ўстала больш бадзёрая, выйшла за парог і, глянуўшы на сонейка, на птушак, што навокал завіхаліся, на пацяплелую зямлю, на гаспадарскі рух вёскі, голас якой даходзіў да яе з нізіны, пачала нябога думаць.

Вочы яе машынальна сачылі за вераб'ямі, якія жвава лятал і з-пад страхі на дарогу і з дарогі пад страху.

«Вось якое гэта маленькае,— падумала,— якое яно беднае, дробнае, без апекі, гнанае, а бог дае яму і ежу, і жыццё. Працуюць небажаткі і будуюць у гнілой страсе свае гнёзды і яшчэ як весела спяваюць! Чаму ж бы я не магла даць сабе рады, узяўшыся за працу!»

Дзяўчо амаль даслоўна вычытала вачыма ў жывой прыродзе выпісаныя словы евангелля, якія паўтарыў з вуснаў Хрыста святы Матэвуш (Раздз. 6): «Воззрите на птицы небесныя, яко не сеют, не жнут, не собирают в житницы, и отец ваш небесный питает их: не вы ли паче лучши их есте?»

Гэта думка была сасланая богам, яна асвяжала сэрца, бо была напісана жыццём у жывой кнізе. Марыся глянула на магілу, і тая прамовіла да яе амаль тыя самыя словы.

— І мама працавала ў адзіноце, ды горш, бо за сябе і за мяне, на нас дзвюх, не маючы ніякай дапамогі, а пражылі ж мы столькі год.

Бадзёрасць прыйшла ў яе сэрца.

— А чаго ж я стаю на парозе? — запытала сама ў сябе.— Слёзы трэба выцерці, бо яны нічога не памогуць. Згавару пацеры за маму і вазьмуся за парадак у хаце.

І, пералсагнаўшыся, убегла ў ляпянку, першы раз

пасля смерці маці разглядаючы, як у ёй было насмечана, раскінута і непрылюдна.

Хутка заткнула за паясок канцы фартушка, закасала рукавы сукенкі і пачала завіхацца па хаце. У першую чаргу ўзялася за каморку, дзе ляжалі параскіданыя накрыўкі ад скрынь, трохі беднай вопраткі і іншыя рэчы. Прыхавала тое, што трэба было схаваць, накрыла скрыні, падмяла і ўвайшла ў хату. Тут стаяў яшчэ нечапаны ложак, у якім памерла матуля, а калі да яго падышла, сэрца сціснулася ■ жалю, але ці ж можна было так пакінуць той убогі бярлог на людскія кпіны? Уздыхнула і памалу з нейкім страхам і болем сэрца ўзялася за гэту балюча-сумную работу.

Паскладвала адзежу, заслала грубым палатном ложак, а як закончыла гэту найцяжэйшую працу, усё астатняе пайшло жвавей і лягчэй.

Замяла падлогу, ускінула смецце на прыпечак, бо магло спатрэбіцца на падпалку, павыцірала сталы і лавы, схавала хлеб, распаліла сціплы агеньчык, знайшоўшы вугольчык, у якім яшчэ тлела іскра, і, падпёршы дзверцы, пайшла ■ вёдрамі да крыніцы. Па дарозе шмат думак варочалася ў яе галоўцы, як яна агледзіць сваю хатку, якія зробіць запасы, адкуль дастане дроў ды гаршчок на страву. Не ведаю як, але на ўсё знайшла нейкі спосаб і раду, толькі трохі задумаўшыся.

— Устану рана,— казала,— дык на ўсё хопіць мне часу; вада недалёка, мне хопіць і аднаго вядра; дроў у зарасніку шмат, дык назбіраю іх змрокам, калі ўжо будзе цёмна прасці. Хіба бог не быў бы ласкаў, каб я сабе на хлеб не зарабіла... Кашульку адну і другую выкраю з маміных, дык мне хопіць надоўга. Світак хопіць мне на ўсё жыццё, у старой буду хадзіць у буднія дні, а на нядзелю ёсць тая яшчэ добрая, што мне мама пашыла... А як гэта парвецца, дык і да мамінай дарасту. Чаго ж яшчэ мне галаву ламаць?.. Хлеб і ва-

да — голаду няма... Э, дам сабе рады пры божай дапамозе, пры апецы маці, бо яна ж глядзіць на мяне. Во, глядзіць, я гэта адчуваю, аж мне лягчэй... і не дасць загінуць свайму дзіцяці! Адтуль яна мацнейшая, чым была тут, бо жыве ў бога і выпрасіць свайму дзіцяці што захоча.

Так летуцеючы, сышла Марыся да крыніцы, зачэрпнула ў ёй, разгарнуўшы вядром сабранае зверху смецце, і, не трацячы часу, нават не глянуўшы на вёску, якая адтуль была відаць як на далоні, заспяшалася дахаты.

Агонь яшчэ тлеў, але ўжо не было чаго ў яго падкінуць. Хвілінку падумала і падбегла да драбінкі, па якой лазілі на гарышча; узлезшы, аж крыкнула ■ радасці: там было поўна сухога галля. Калісьці назапасіў яго Матруне дурны Янак, а пасля яго смерці пра гэты запас забыліся. Дзяўчаці прыйшло на памяць, што, лазячы за апошняй курыцай, бачыла там дровы, і вось знайшла гатовы запас надоўга. Так гэта нябогу ўзрадавала, што аж слёзы пабеглі ў яе з вачэй.

— А як жа даў мне гэта бог у самую пару! — выкрыкнула.— Тым часам кончыцца зіма, сыдзе снег, у зарасніку высахне, і можна будзе збіраць галлё.

У печы запалаў прыгожы агеньчык. Марыся вымыла гаршчок, паставіла вады, але што тут зварыць? Выбару не было, накрышыла хлеба, кінула яго ў кіпень, трохі солі было ў драўлянай місачцы пад печчу, і смачная, о, вельмі смачная для галоднай атрымалася страва.

«Можна ж і гэтым жыць,— думала, чэрпаючы хлебную зацірку.— Вось і абед гатоў, а вечарам зраблю змену і з'ем сухога хлеба з халоднай вадой... не пamру з голаду!»

У хаціне пацяплела ад агню; Марыся вымыла старанна гаршчочак, пераважагналася і пайшла да акенца прасці. А як цягнула доўгую нітку, вока яе раз за ра-

зам бегала па хатцы, па сірочым спадку. Дзе ўбачыць шчылінку ў сцяне, думае, як яе залатаць, дзе адвалілася гліна, запамінае, каб вясной, як пацяплее, направіць. Працуе рукой, працуе думкай, а сэрца яе напоўнена надзеяй.

А час бяжыць, бяжыць, бяжыць, і не чуваць, як уцякае, і вось каля паўдня нехта за хатай загаварыў. Думала, што гэта Саладуха або стары Ратай, бо нікога больш да сябе ў госці не спадзявалася, дык, каб не траціць часу, не ўстала нават з лавы. І вось адчыніліся дзверы і дзве незнаёмыя жанчыны, баязліва папіхаючы адна адну і нешта шэпчучы, увайшлі ў хату. Гэта былі дзве брацíхі Максіміха і Піліпіха.

Марыся ніколі іх не бачыла, як і яны яе. Пачалі тады адны да адных прыглядацца, і цікавасць так апанавала абедзвюх баб, што, не гаворачы ні слова, вадзілі вачыма то з дзяўчыны на хату, то з хаты на дзяўчыну, не могучы надзівіцца.

Марыся ўстала, адставіла прасніцу і чакала, пакуль да яе загавораць. Ажно ўрэшце Максіміха, падштурхнутая локцем баязлівейшай Піліпіхі, пачала [redacted] усмешкай:

— Слава богу!

— На вякі!

— Мы хацелі паглядзець, што тут дзеецца, хоць мы і незнаёмыя... але...

— Дзякую вам,— адказала Марыся,— [redacted] што тут можа дзеецца? Гарую і жыву.

— Бачыш ты, бачыш,— шапнула Піліпіха,— як у яе чыста і які парадак! І ў печы паліцца, і вядро поўнае, і падмецена... А хто ж табе памагае?

— Ніхто, ніхто! — сумна адказала дзяўчо.— Дзве рукі, трэцяя галава, ды хто б хацеў сіраце памагаць? Часамі Ратаі заглянуць, а больш ніхто... вот бог ды мая нябожчыца маці.

Піліпіха, якая баялася нават успаміну пра нябожчыкаў, шчыра паражагналася, адганяючы неасцярожна вымаўленыя словы.

— Сядайце,— дадала Марыся, змятаючы для іх фартушком лаву, але не асмельваючыся пытацца, хто яны такія,— дзякую вам за тое, што прыйшлі, хоць слова загаварыць. Вы не ведаеце, як гэта цяжка быць адной!

— А ўжо ж гэта праўда,— адказала маладзейшая,— я не ведаю, як тут можна вытрываць. Так тут страшна ў вас, напэўна, і ціха.

— Толькі што бязлюдна,— адазвалася Марыся з усмешкай,— але мне тут вераб'і на сваёй мове ўвесь божы дзень пад страхой шчабечуць, і сарочка крычыць, і сонейка заглядае, і маю некалькі бурых мышак, якія прыйшлі з поля на зіму ў хату, а такія яны свойскія, што мяне не баяцца і прыходзяць па крошкі хлеба аж пад ногі.

Максіміха аж ударыла з наіўным рухам недаверу па сваім твары, а Піліпіха адкрыла вялікія вусны, і абедзве аслупянелі, так было ім гэта дзіўным і новым.

— А ўночы? — запытала, баязліва аглядваючыся, маладзейшая.

— Э, я, напрацаваўшыся, сплю ўночы, як камень, а мама казала мне, што калі чалавек кладзецца спаць са святым крыжам, дык яго анёлы пільнуюць.

«Як гэта яна гаворыць! — дзівілася ў думках Піліпіха.— Што ў яе за розум! Дык жа і стары лепш не сказаў бы... Нябачаная дзяўчына!»

Глянулі бабы адна на адну, штораз больш дзівуючыся, паціскаючы плячамі, як быццам пытаючыся, што гэта значыць?

Тым часам Марыся запрашала іх ветліва, даючы месца на лаве, і ўжо бралася за кудзелю. Жанчыны ўсё яшчэ не асмельваліся сесці, яны разглядаліся з цікавасцю, шапталіся і паштурхваліся локцямі. І адна,

і другая нешта тулілі ў фартухах, але не ведалі, як аддаць тыя падарункі Марысі.

Дзяўчынка зрабіла на іх вялікае ўражанне сваёй прастатой, смеласцю і непасрэднасцю, і яны не маглі надзівіцца. Было гэта больш чым здзіўленне: расчуленне і ледзь не нейкая пашана. Білася сэрца жанчын, хоць, хаваючы хваляванне, да якога не прывыклі, усміхаліся.

— Дык прысядзьце, калі ласка,— казала ім Марыся,— не маю чым вас пачаставаць, бо, апроч хлеба, што мне Ратай прынёс, нічога няма, але чым хата багата, тым і рада.

— Як гэта? Дык ты апроч хлеба нічога не ясі? — запытала Піліпіха.

— Цяпер жыву толькі хлебам, бо нічога не маю, але я з яго зварыла заціркі і цяпер не галодная, а дасць бог дачакацца, дык будуць і крупы, і скорам, абы я закончыла гэта прадзіва і абы знайшлося больш работы. Мне даюць работу з вёскі, бо ведаюць, што нічога не прападзе і аддам ніткі пад вагу. Сымоніха, Кацюкова, Паўлава, Лебядзянка мяне добра знаюць, бо я магу і дваццатку спрасці.

Жанчыны пільна слухалі і ўсё больш дзівіліся адвагі, смеласці, надзеі і розуму дзяўчыны. Углядаліся ў яе прыгожы тварык з трохі заплаканымі вачыма і абедзве тайна ў сэрцы ўздыхнулі, каб іх дочкам даў бог не такую долю, але гэтулькі розуму, як у гэтай сіраты.

— Але ж, мая ты маленькая,— адазвалася Максіміха,— дык хіба ты сама і дровы носіш і па ваду ходзіш?

— А што ж? Усё сама раблю, і неяк на ўсё рук у мяне хапае,— адказала Марыся.— Я ўжо ўсё праверыла і абдумала, як гэта будзе далей.

Тут пачала расказваць, як склала сваё жыццё і дзённыя гадзіны, а жанчыны з вялікага здзіўлення зноў замоўклі.

— Крыж з намі! — паўтаралі.— Крыж з намі! А гэта ж цуд гэта дзяўчына, толькі хадзіць да яе слухаць, глядзець ды дзівіцца!

Пабылі так хвіліну і нават не пасмелі паткнуцца са сваім дробным прынясеннем. Як сядзелі на лаве, так засунулі за сябе тое, што прынеслі ў фартухах, і, трохі яшчэ затрымаўшыся, развіталіся з дзяўчынкай і панеслі ў вёску пра яе цікавыя звесткі. Пайшла за імі гутарка па ўсіх Ставісках пра Марысю-цыганку. З кім ні сустрэліся, кожнаму расказвалі пра дзяўчыну і не маглі пра яе нагаварыцца, а пасля таго ў хатах, у двары, у плябаніі і ў карчме толькі і было чуваць пра яе. Нянавісць да цыгана і цыганіхі да гэтага часу ўжо прытухла і вычарпалася, людзі пра яе забыліся, а сірата ўзбуджала цяпер агульнае спачуванне і цікавасць. Тое, што пра яе расказвалі Ратаі і гэтыя дзве бабы, усіх зацікавіла, і людзі пачалі складаць пра сіротку-пустэльніцу цэлыя дзівы. У першыя тыдні пасля матчынага пахавання яна заняла ўвагу Ставіскаў і наваколля. Можна было не сумнявацца, што дзяўчына дасць сабе рады, і нават Ратай перастаў спадзявацца, што яна да іх пяройдзе. Дзівіліся толькі ўсе, адкуль у малой галоўцы ўзялося столькі розуму і ладу, а ў сэрцы столькі адвагі.

Гутарка пра Марысю не першы раз дайшла з вёскі ў двор, але тут на абыякавых людзей, якія акружалі пана, не зрабіла вялікага ўражання. Пан Адам, знаёмы чытачу сваімі шаленствамі, яшчэ тут панаваў, але і яго двор, і ён сам за гэтыя больш як дзесяць гадоў так змяніліся, што амаль нельга было пазнаць. Мы бачылі маральны стан гэтага няшчаснага, якому нічога не заставалася, хіба толькі памерці або знайсці якуюнебудзь новую апякунскую стыхію, якая ўтрымала б яго пры жыцці.

Яна знайшлася, хоць і не вельмі хутка.

Доўгай барацьбой і адранцвеннем прыйшлося аку-

піць змарнаваную маладосць, а апошнія часіны веку бурных пачуццяў цяжка было перажыць. Пан Адам віўся, як гадзюка ў полымі, вырываўся, кідаўся, думаў ужо пра самагубства, на якое не хапала сіл, калі нечаспадзявана бог саслаў яму ратунак у найнеспадзяванейшай сітуацыі, пры выпадковай сустрэчы.

Адной раніцы, калі выходзіў знуджаны на ганак, сам добра не ведаючы, чаго і куды ідзе, сустрэў яго на парозе дзівачна апрануты і падобны да жабрака чалавечак.

Быў гэта стары ў сівой капоце, пашытай на манастырскую моду, з ружанцам на поясе, з кіем у руках, з сівой падстрыжанай барадой, лысы і бледны трупнай беллю хваробы і знясілення. Ён стаяў каля прыступкаў, абапёршыся на свой кій, зложыўшы на ім рукі, у спакойнай і пакорлівай паставе.

Пан Адам, які пазбягаў сустрэч з людской галечай, адразу падаўся назад у пакоі, але, калі не пачуў ні слова просьбы, ні шэлесту слоў з вуснаў старога, калі той не змяніў ні паставы, ні твару, здзіўлены абыякавасцю прышлага, падышоў да яго.

— А чаго гэта ты хочаш? — запытаў.

— Вопратка, узрост і мой твар павінны сказаць табе, чаго мне трэба...

Гаспадар кінуў неахвотна зачэрпнутую ў кішэні залатоўку, амаль пагардліва дадаўшы:

— Ідзі з богам.

Стары прыняў пакорліва міласціну і застаўся стаяць, абапёршыся на кій, на тым самым месцы.

— Чаго ж яшчэ чакаеш? — зноў сказаў нецярпліва пан Адам.

— Не чакаю, а хачу да цябе прыгледзецца.

— Да мяне?

— Так... Ты мяне не пазнаў, а я знаў добра і тваіх бацькоў і цябе, пан Адам, калісьці ў маладосці... Мой божа, да якога заняпаду прыйшлося табе сысці!

— Мне да заняпаду?! Хто ты такі? Што гэта значыць? — выкрыкнуў абураны пан Адам, з разбуджанай цікавасцю звяртаючыся да жабрака.

— Я Юзаф Мнішэўскі... Га, усё ж такі прыпамінаеш мяне? Я быў суседам тваіх бацькоў.

— Як гэта? Ты, ты мог бы быць Мнішэўскім?

І пачаў углядацца ў яго твар [redacted] усё большым здзіўленнем. А праз нейкую хвіліну памяць стварыла са змененых рысаў твару сцёрты ўжо вобраз, і пан Адам заламаў рукі:

— Мнішэўскі, ты, у гэтакім стане!

— Як бачыш. Меў я дзве вёскі, быў багаты, гуляў, свяціўся, жыў... і хаджу з кіем, жабрую... А ведаеш, Адаме, я цяпер, можа, шчаслівейшы, чым быў, а ты пры сваім дастатку, мабыць, бяднейшы за мяне.

Пан Адам, які цяпер добра прыпомніў і пышны ў сваім часе дом Мнішэўскага, і пазнейшае знікненне зруйнаванага нашчадка багатай сям'і, узяў старога за руку і рады, што трохі развяселіцца, даволі ўзрушаны, увёў яго ў дом.

Тут стары расказаў яму гісторыю свайго жыцця, прывядомыя падзеі марнатраўства, якія, на шчасце, прывялі яго не да загубы, а да апрытомнення. Бо незразумелымі дарогамі вядзе нас бог, адных гасцінцам цнатлівага жыцця, другіх сцежкамі выпрабаванняў і праступкаў, пасля якіх настае вялікая, адпаведная праступку пакута. Гэтай дарогай прыйшоў Мнішэўскі да разумення, колькі варты свет і яго шчасце і што такое божы супакой, якога той даць не можа.

Ён ляжаў у бальніцы зусім зруйнаваны целам і душой, калі першае зерне паправы ўпала на яго з вуснаў сястры міласэрнасці, якая яго даглядала. Гэты анёл шаптаў над ім малітвы, поячы лякарствам, якое павінна было даць яму жыццё дзеля пакуты, заахвочваў да малітвы і зрабіў [redacted] бязбожніка сціплага божага слугу .

Мнішэўскі выйшаў з бальніцы і, жабруючы, падаўся да святых месцаў.

— Думаеце,— казаў ён Адаму,— што я калі-небудзь быў шчаслівейшы, чым тады, калі, пазбаўлены спадчыны і грамадства, знайшоў невыказны спакой душы, з кіем і торбай за плячамі на шляху пілігрымаў? Не, ніколі не зведаў я такога спакою, той цішы сэрца, той пагоды сумлення, як адрокшыся ад усіх зямных спакус. Можа, думаеш, што я зайздрошчу табе ці каму-небудзь іншаму з вас таго быту, які не мае мэты і вядзе, як блудная сцежка, у бездань? Не! не! Я заблукаў у гэтыя мясціны, каб наведаць магілы бацькоў, каб кінуць на іх апошнюю думку і грэшны жаль па мінулым... Іду зноў у свет з малітвай, з усмешкай і спакоем...

Так гаварыў Мнішэўскі, а яго мова зрабіла на пана Адама дзіўнае і глыбокае ўражанне. Прабіла для яго гадзіна змены, а рука жабрака прыскорыла яе прыход і накрэсліла напрамак.

Задумаўся знявечаны жыццём распуснік і бяздзельнік, а дзеля таго, што прывык да гвалтоўных пачуццяў і выбухаў, дык гвалтоўна і нястрымна звярнуўся да забытага бога.

Пасля таго за год нельга было пана Адама пазнаць, людзі пазіралі на яго, як на нейкае дзіва дзіўнае. Няшчасцем, паправа яго не была ні поўнай, ні чыстай, яна была толькі пераменай дарогі і надзеяй, што, ідучы па ёй, можна трапіць на сапраўдную.

Пан Адам стаў не проста набожным аскетам, але фанатыкам.

Ён адмовіўся цалкам ад дзейснага жыцця і прызнаў сябе да яго не абавязаным, цэлыя дні толькі гаварыў пацеры, цэлыя тыдні пасціў, ляжаў крыжам у касцёле, бязлітасна сцябаў сам сябе, надзяваў на сябе валасяніцу, падпяразваўся калючым поясам і такім чынам перайначваў сваё жыццё.

А надзяваючы на сябе валасяніцу, не пакінуў ні пыхлівасці, ні эгаізму...

У сэрцы яго не нарадзілася ні міласэрнасці, ні хрысціянскай пакорлівасці. Ён быў непрыступны для людзей, строгі да іншых, як і да сябе, бязлітасны ва ўтаймоўванні чужых памылак і толькі шукаў славы са свайго фанатызму, як даўней выносіўся сваёй распустай і бязвер'ем.

Спакушаў сціплых людзей сваёй тэатральнай, перабольшанай, дзівачнай, паказной набожнасцю, спакушаў тым больш, што, прызнаючы хрысціянскую навуку, не змог зачэрпнуць з яе жывой крыніцы духу любові і пакорлівасці і не кіраваўся ёю ў жыцці.

Асаблівым спосабам прыляпілася да яго нейкая скупасць і пачала выядаць яго сэрца. Ён стаў няўмольным да людзей, строгім панам, які невядома як пагаджаў набожнасць з хцівасцю, заклаўшы ў абедзвюх мэту жыцця.

Двор у Ставісках, сведка шалёных сцэн, замяніўся ў сумны кляштар, у невыносную турму. Пан Адам пакінуў жылыя пакоі, наладзіўшы ў адным ■ іх келлю з алтарыкам, упрыгожаным абразамі, там на зямлі і спаў, вартуючы адначасова крыжа і куфэрка. На апраўданне сваіх паводзін знайшоў у галаве найдзічэйшыя сафізмы, якімі выкручваўся перад спавядальнікамі і перад уласным сумленнем.

Кожны год стаўляў новыя крыжы, хадзіў пехатой да святых месцаў, пасціў, жывучы толькі хлебам і вадой па дзевяць дзён, амаль да знямогі. Адвент і саракадзённы пост праводзіў у строгім посце, але ўбогага збываў боскай міласэрнасцю, а сялян катаваў бязлітасна.

Вось у такім двары, які, як і яго пан, не прызнаваў літасці і быў засклеплены ў халодным выкананні знешніх абрадаў, Марыся не магла знайсці апекуноў, а пану пра яе ніхто не асмельваўся расказваць. Аканом

пайшоў паглядзець, што там робіцца, паківаў галавой і пакінуў сірату ў спадчыннай хаце, што ўжо было вялікай ласкай...

Адной нядзелі зрання, выйшаўшы на магілку маці, Марыся пачула царкоўныя званы, якія склікалі народ на богаслужэнне. Вырашыла і яна пайсці разам з іншымі памаліцца.

— Вот! Апрануся і пайду,— сказала сабе, добра ўбачыцца з богам! І так сягоння працаваць не буду!

Як падумала, так і зрабіла. Памылася, прычасалася, дастала белую кашульку, святочны фартушок, узяла белую світку і даўно не абуваныя чаравічкі, якія маці справіла ёй за апошні грош, і так прыбраная, бедна, але прыстойна, запёршы хатку, сышла ярам у сяло.

Прыгожа выглядала яна ў гэтым святочным убранні са сваім поўным жыцця, агню і кемлівасці тварыкам. Нейкая няўлоўная грацыя суправаджала кожны яе рух, зграбна ляжала на ёй простая світка, а стройна завязаная хустачка прыгожа асланяла яе твар, так што Марыся выглядала не на сірату, а на дзіця заможнага гаспадара.

Калі ўвайшла ў вуліцу і людзі яе ўбачылі, усе вочы звярнуліся на яе, і адны другім пачалі паказваць на яе пальцамі. Марыся зачырванелася, пайшла хутчэй, думала, што ўцячэ, але здалёк даганялі яе вачыма і знакамі здзіўлення, а равеснікі дзяўчаты і хлапчукі аж пабеглі за ёй услед.

Марыся, хоць жыла адзінока, зусім не была дзікай, наадварот, смеласці ёй хапала, і пасля пачатковай збянтэжанасці яна супакоілася і пайшла памалей. А цікавыя ішлі за ёй аж на цвінтар. Тут, як звычайна, чакаючы богаслужэння, стаяла і сядзела, гамонячы, смеючыся і збіраючыся ў групкі, грамада па-святочнаму апранутых людзей. Была тут і Саладуха, быў і стары Ратай, які спяваў вялікім голасам песню пра па-

часўскі абраз, і Максіміха, і Піліпіха, і два Матруніны браты, і старая паважная Сымоніха Білыкава.

Ледзь толькі дзяўчо паказалася ў браме, усе знаёмыя падбеглі да яе з цікавасцю, а ўбачыўшы румяны тварык, прыстойную вопратку і дзіця, якое яснела зграбнасцю, здзівіліся яшчэ больш. Той-сёй пачаў распытваць сірату, дзеці запрашалі да гульняў, дзяўчаты папраўлялі на ёй чырвоны паясок і хустачку, здзіўляючыся, як яна магла сама так да твару ўбрацца. Колькі там было шэптаў, гутаркі, позіркаў і пытанняў! Старыя бабы мералі яе зрокам здалёк, а адна з іх, адвёўшы ўбок Саладуху, вельмі ціха адазвалася да яе:

— Ці бачыце?

— А што, маці?

— А Марысю-цыганку?

— Бачу, бачу! А што ж, прыстойная дзяўчына, нічога.

— І як, і як! — пачала баба, круцячы галавой.— Тут нешта ёсць!

— А што мае быць? — запытала Саладуха.

— Вот, я вам скажу, што думаю. Жыву на свеце не ад сягонняшняга дня, бачыла шмат; цыганы чараўнікі, ой, чараўнікі! Няхай бы так каторае з нашых дзяцей адно засталося, дык да трох дзён прапала б... Гэта чартоўская тут справа.

— Ат, кінулі б вы, кума! Дзе Рым, дзе Крым, а дзе бабінская карчма!

— Чакай, ты толькі пачакай! Не адзін раз чула я пра такія рэчы. Матруна была характэрніца, чуваць, заўсягды мела малако, хоць каровы ў яе не было; уваткне калок у сцяну і доіць, як карову... Мужык яе быў характэрнік, усе ведаюць, што нячысцік памагаў яму хату будаваць... Яны цяпер напэўна прывідамі вяртаюцца да дачушкі, каб на яе паглядзець, апрануць і накарміць. Ужо вы мне паверце, інакш не можа быць.

Гэтыя словы, сказаныя з павагай і перакананнем, з таямнічай урачыстасцю, уразілі нават Саладуху. Яна азірнулася на Марысю, толькі ўзрушыла плячамі і замоўкла.

— Ну, ну, вы толькі паглядзіце,— дадала баба.— Гэта ж валаскі як залізаныя, бялізна як на сакавіцкім снезе выбеленая, і чаравічак, і паясок, і гарны гузік у кашулі, як не раўнуючы, у гаспадарскага дзіцяці. Адкуль жа гэта бярэцца? З неба звалілася? Або ці знаць голад ды бяду на яе тварыку?.. Гэта нячыстая справа!

Зараз жа вакол Саладухі і той здагадлівай старой сабралася і больш жанчын, якія пачалі падслухоўваць іх гутарку. А таму што нішто так не чапляецца да людзей, як найдзічэйшая, смела кінутая ім у вочы думка, дык зараз паверылі ў прывіды і праз хвіліну ўжо ў другім канцы цвінтара пачалі расказваць, быццам Саладуха з Марцініхай сваімі вачыма бачылі Матруну, якая выходзіла з магілы, кралася ў хату да дачкі, гладзіла ёй валасы і разам з ёй уночы прала кудзелю. Да гэтых дзіваў кожны дакідаў чагосьці свайго, і ў тую ж нядзелю злажылі казку, якую вечарам расказвалі па ўсёй вёсцы, як самую сапраўдную праўду.

Не ведала Марыся, чаму, калі выходзіла з царквы, ніхто ўжо да яе не гарнуўся, ніхто на яе не глядзеў. Дзеці засталіся збоку, скоса пазіраючы на яе, а жанчыны паадварочваліся, і яна адна выйшла з цвінтара, сумна і памалу вяртаючыся дамоў.

Таму што на заўтрашні дзень не было ўжо работы і трэба было пашукаць новага заказу, вырашыла зайсці па дарозе да Сымоніхі, якая выйшла з царквы раней. Застала Сымоніху, калі тая здымала намітку і села на лаву адпачыць. Была яна чамусьці маркотная і задуменная.

Гэта была жонка самага багатага ў вёсцы гаспадара; яна валадарыла хатай, мужам і даволі вялікай

сям'ей, якая з пашанай ставілася да гэтай пасівелай, добрай, працавітай і, як і іншыя, забабоннай жанчыны. Плётка аб прывідах, пушчаная на цвінтары, зрабіла на яе непрыемнае і глыбокае ўражанне; няміла было ёй падумаць, што прасці яе маткі памагала нейкая нячыстая сіла, а ніткі ж прызначаліся на палатно і на ручнікі, магчыма, у пасаг дарагім дочкам.

З першага позірку заўважыла Марыся, што прымаюць яе чамусьці не з тым, як заўсёды, добрым сэрцым, дык стала яшчэ больш пакорлівай. Пацалавала старую ў руку і стаяла моўчкі ля парога, просячы ў думках бога, каб Сымоніха дала ёй работу.

Старая ўсё яшчэ разблытвала закручаную па даўнейшай модзе на галаве намітку, паглядваючы з-пад сівых броваў на дзяўчыну, якая моўчкі і пакорліва стаяла ў парозе.

— А што там хочаш, Марыся? — адазвалася нарэшце.

— А што ж, матуля, работы! Як заўсёды, дзеля божай міласці, як міласціны... Каб вы не спачувалі беднай сіраце, дык яна магла б застацца без хлеба.

— Работы! — паўтарыла ўсё яшчэ заклапочаная і нахмураная Сымоніха.— Добра табе казаць, а тут мо і прадзіва ў хаце няма.

— А крыж госпадаў! У вас, матуля,— пачало дзяўчо,— у гэтакай гаспадыні, як вы, дык жа поўныя скрыні белага, як снег, лёну!

Сымоніха, падхваленая, нязначна ўсміхнулася.

— Хоць і быў бы, хоць бы і быў! — сказала.— Няхай свае прадуць. Чаго ім, і Касі, і Парасцы, і наймічцы, сядзець са складзенымі рукамі!

— А мне ж дык ужо і ні былінкі не застанецца? — запытала ціха сіротка голасам, так перапоўненым жалем і болем, што Сымоніха адчула сябе ўсхвалявалай.— Даўней вы былі для нас літасцівейшымі...— дадала дзяўчына,— а цяпер ці ж акінеце мяне, як я за-

сталася без маці? Э, гэтага не можа быць! Ваша сэрца, матуля, гэтага не дазволіць. А што ж я вінавата, што такая няшчасная?..

Сымоніха ўстала [redacted] лавы, штосьці паправіла ля агню і пачала праходжвацца і абмяркоўваць.

— Калі ж бо гэта,— сказала праз хвіліну,— людзі на цябе немаведама што выдумляюць, кажуць, што вы родам чараўніцы... характэрніцы... ліха ведае што, што быццам нячыстая сіла вам прадзе.

На ўспамін нячыстай сілы Марыся са страхам перахрысцілася і пляснула ў рукі.

— А мой божа! — выкрыкнула.— Хто ж мог, хто ж пасмеў так пакрыўдзіць сірату? Людзі ж бачылі мяне ў царкве, я ж хрышчуся і малюся, як іншыя, а што ж я зрабіла каму благога?

І нябога расплакалася.

Сымоніха наогул была добрай і літасцівай жанчынай, шкада зрабілася ёй дзяўчаці, гэтыя слёзы ўзрушылі яе, яна павярнулася да сіраты, махаючы рукой.

— Цыц! цыц! — сказала.— Во, бачыце, што гэта людзі плятуць. Ат, ім абы балбатаць! Я гэтаму не веру, не веру! Не любілі твайго бацькі, не любілі маці і табе былі б рады нашкодзіць... Я табе гэта кажу, каб ты ведала, што рабіць далей... Ім гэта дзіва, што ты адна даеш сабе рады, а іншаму зайздрасць, што ты падобная да людзей, што каля цябе парадак.

Марыся ўвесь час плакала, а Сымоніха суцяшала яе як магла. Нарэшце адняла гаршчок ад агню, дастала міскі і лыжкі і, наліўшы стравы, пасадзіла сіраціну, гладзячы па галаве, за стол, да ежы.

Гэта дабрата старой улагодзіла Марысю, [redacted] тады пачала Сымоніха распытваць пра дробязі яе жыцця, пра хату, пра гаспадарку, і дзяўчо памалу разгаварылася, выціраючы слёзы, якія яшчэ сцякалі па твары.

Пачалі сыходзіцца і іншыя ад богаслужэння: Кася, Параска, сыны, муж Сымоніхі, зяці і ўсе акружылі ці-

кавым колам цыганку, якая пачала расказваць пра сваё жыццё, працу і клопаты.

Пасля гадзіннай размовы так іх расчуліла дзяўчо сваім простым і шчырым апавяданнем, што кожны, хто чым мог і меў, стараўся ёй дапамагчы. Далі ёй хлеба, круп, сыру, сала, складаючыся патроху на яе, як на мачышына дзіця.

А Сымоніха, плацячы за слёзы, прычынай якіх было яе няўважлівае слова дала не толькі работу, але падаравала ёй яшчэ і курачку, якая неслася, і навучыла, як ёй і яе магчымымі нашчадкамі трэба апекавацца.

Пацалаваўшы рукі старой, ашчасліўленая сірата, поўная найлепшых надзей, заспяшалася да свайго пустога кутка, несучы ў руках невялікія, але дарагія для яе падарункі.

Вось так пачыналася гэта дзіўнае жыццё сіраты, якая, апрача дзвюх слабых рук і вялікай адвагі ці, хутчэй, неразумення свету, нічога больш не мела. Людзі глядзелі на яе як на якое цудовішча, як на штосьці небывалае, нібы на ўвасобленую казку пра залатую яблыню ці музыкальную крыніцу. Адны рабілі гэта з цікавасці, другія — шукаючы тлумачэння таямніцы ў чарах і прывідах. Плётка, пушчаная на цвінтары, кружыла не вельмі доўга, хоць і зусім не знікла, але разумнейшыя людзі, прыглядаючыся да Марысі бліжэй, пачалі неўзабаве з той байкі смяяцца. Зрэшты, такія людзі, як старая Сымоніха, прыхільная да працавітага дзіцяці, Саладуха, якая адчувала абавязак апекі над ім, Ратай, які штораз больш прывязваўся да яго, і нават хата братоў Матруны здалёк патроху за Марысяй наглядалі.

Змушаная думаць пра тое, як даць сабе рады, сірата тварыла цуды, і сапраўды здавалася, што нейкі добры дух нашэптваў ёй, як і што трэба рабіць.

Адзіным яе даходам было прадзіва, прала яна і Сымонісе, і іншым, штодзень набываючы вопыту, прытым на ўсё знаходзіла час. Раніцай і вечарам не забывалася навесці парадак каля хаткі, прынесці вады, чаго-небудзь сыпнуць курцы, каб яна мела чым заняцца, і прывітаць сваіх старых добрых знаёмых — вераб'ёў з-пад страхі, ластавак, што вярнуліся вясной, жвавых сарок, што крычалі на дарозе, і ўвесь той жывёльны свет, які акружаў яе пустку.

А вясной, калі зямля прасохла і сагрэлася, дадумалася нават, што за ляпянкай на вузкім паяску зямлі, аддзеленым мяжой яе селішча, а даўней зарослым пустазеллем, можа змясціцца некалькі градак. Адной нядзелі пайшла да Саладухі параіцца, што там можна было б пасеяць. Баба паціснула плячамі на гэту дзяўчынiну ахвоту да працы, але знайшла дзесьці ў запечку старэнькую лапату і дала насення і флянсаў са свайго расадніка, а таксама трохі бульбы.

І вось калі змяркалася і прасці ў хаце было немагчыма, Марыся бегла ў агародчык, на той малы глiністы акравак зямлі, і капала, перакопвала, садзіла, палівала, радуючыся, калі выскачылі зялёныя лісткі і глянулі цікавымі галоўкамі паверх чорнай грады.

Курачка таксама сябе павяла нядрэнна, бо няпрошаная, вyслаўшы сабе гняздо, выседзела дзесятак пацешных жоўтых куранятак. З прычыны гэтага прыбытку Марыся страціла цэлы дзень, бо, як толькі малыя выйшлі, пабегла напалоханая зноў вучыцца да Сымоніхі, што [illegible] імі рабіць і як іх гадаваць. Але тут вялікай мудрасці не трэба, і старанна дагляданыя кураняты сталі ў яе шчасліва гадавацца. Толькі адно нейкая настырная сарока схапіла на вачах у гаспадыні, за што Марыся прысягнула вечную нянавісць усяму іх крыкліваму роду.

З вясной, з зялянінай і цяплом жыццё станавілася лягчэйшым і весялейшым. Марыся магла сесці пад

хатай на старой абсечанай калодцы і прасці на дварэ да змяркання, паглядваючы то на птушак, то на сумныя пазелянелыя магілы. Часта нават з кудзеляй у руках пераходзіла праз дарогу, ішла на могільнік, сядала на матчынай магіле і там праводзіла доўгія гадзіны, задумаўшыся над сваёй аднастайнай працай.

Дні за днямі міналі хутка, усе аднолькавыя, падобныя адзін да аднаго, як блізняты. Патрэбы ладзілі іх аднастайным і нязменным спосабам, і толькі які-небудзь выпадак парушаў іхні рэжым.

Як пачынала днець, зрывалася Марыся з пасцелі і, распаліўшы невялікі агонь, бегла да крыніцы па сваё вядзерца вады, бо трэба было, пакуль настане дзень, падмесці хату і сенцы, спарадкаваць і за парогам — там падперці, тут залатаць ці заляпіць, у іншым месцы заткнуць дзірку, бо дзяўчынка вельмі старалася, каб у яе хатцы быў лад і парадак. Ледзь трохі што з'еўшы, сядала з кудзеляй або перад ляпянкай, або каля магілы пад старой вярбой, на якой заўсёды было поўна верабёў і рознага іншага дробнага птаства, якое зусім без страху шчабятала над галавой у сіраты. Толькі ў слотны дзень, у віхор ці навальніцу мусіла зачыняцца ў хаце, паглядаючы праз акенца на тое, што дзеецца на дварэ, і чакаючы пагоды. Другі раз удзень, падмацаваўшыся падагрэтай ежай, трохі адпачыўшы і пазабаўляўшыся са сваёй курынай грамадой, зноў вярталася да прасніцы і працавала да змроку. А потым ішла ў агародчык, завіхалася ў хаце да ночы і засынала глыбокім сном працавітых.

Хто б ні мінаў могільнік і цыганову ляпянку, не мог прайсці, каб не спыніцца і не падзівіцца ■ дзяўчынкі, якая кожнага вітала вясёлай усмешкай і добрым словам.

Даволі часта наведвала Марысю Саладуха, або прыходзіў Ратай, перастаўшы ўжо ўгаворваць яе, каб перайшла да іх, бо пераканаліся, што яна можа абысці-

ся без іхняй дапамогі. І ўсё ж кавалак хлеба ці трохі стравы былі для яе значным падарункам.

Тое, што спачатку здавалася для вёскі немагчымасцю, цудам і дзівам, хутка, калі з гэтым асвойталіся, стала звычайнай справай, і ўсе, радыя і не радыя, павінны былі прызнаць, што другога такога дзіцяці, як Марыся, ува ўсёй акрузе не было. Яе кудзеля, агародчык, куры, наведванне могільніка, на якім часта бачылі яе ў пагодлівыя дні, сталі ўлюбёнай тэмай гутарак на вечарніцах і досвітках, і не адзін ставіў яе ў прыклад сваім дзецям.

Так мінула вясна, так прайшлі лета і восень, і наблізілася зіма, але яна застала Марысю ўжо падрыхтаванай, бо ў сенцах было поўна дроў, печ нанава абмазана, хатка была накрыта і абтулена, а ў скрынях, хоць невялікія, на благую гадзіну запасы. Ратай справіў ёй новыя чаравікі, якія былі ўжо ёй вельмі патрэбныя, а Саладуха падаравала кажушок. І калі на акасцянелыя палі выпаў снег, першы вястун непрацяглай смерці зямлі, Марыся прывітала яго [redacted] дзіцячай усмешкай, не баючыся бедстваў, якія мог ён за сабой весці, толькі наракаючы, што дні станавіліся ўсё карацейшыя.

О, лятуць гады, лятуць! Ці паглядзіш на чалавека, ці на чалавецтва, ці на творы нашых рук — усё, як гадзіннікава стрэлка, выказвае мізэрнасць і пералётнасць пакаленняў. Камень, які за сто гадоў толькі пасівее, і той абрастае мохам, рассыпаецца ад споду ў порах, і на ім капа́е мох нябачныя ямкі старасці.

Дзяўчынка, стварыўшы сабе жыццё, якое было дзівам усім людзям у акрузе, непрыкметна расла пад убогай страхой і з кожным днём вырастала ў прыгожую істоту, як быццам цудам народжаную і даспелую сярод магіл на пустцы і бязлюддзі. Цыганская кроў не адбілася племеннымі рысамі ў яе зграбных і поўных жыцця рысах, [redacted] толькі прыдала ім агонь, якога не сустрэнеш сярод нашага простага замучанага люду. Гэ-

такі спосаб жыцця, хоць занятага, але адасобленага, самотнага і засядзелага, магчыма, зрабіў уплыў не толькі на развіццё яе прыгажосці, але і на афармленне розуму, збуялага ўяўленнем і ўзгадаванага летуценнямі. Змушаная жывіцца толькі тым, што ў душу ёй прыкнеслі з маўклівага свету вочы, творамі сваёй галавы, няспынным адгадваннем усіх таямніцаў свету, рэдка сутыкаючыся з людзьмі, стварыла ў сабе і выкалыхала нейкі асаблівы свет, не падобны да звычайнага, вытлумачаны з нябачнага для іншых боку, свет прыгожы, сумны, зачараваны, поўны з'яваў, духаў і цудаў.

Гэта паняцце таго, што ведала толькі з бачання і думак, малявалася ёй у цудоўных рысах, ажыўленых агністай душой і адначасова замглёных сумам сіроцтва і вясёлай усмешкай безабароннай несвядомасці.

Людзі перасталі здзіўляцца з спосабу яе жыцця, якое адразу здавалася немагчымасцю, аднак даказала, што моцная воля з божай дапамогай пераможа самыя заблытаныя цяжкасці, і толькі ўсе дзівіліся ■ прыгажуні, якой станавілася сірата, штораз буйней расцвітаючы ў чароўную дзяўчыну, пра якую селянін мог пачуць хіба толькі ў песні ці паданні або марыць здалёк пра ўбачаную зусім неспадзявана. Было ў ёй muштосьці такое высакароднае, панскае, вялікае, што, нягледзячы на сваю беднасць, яна выклікала ўва ўсіх пачуццё пашаны, амаль боязі. Старыя паказвалі яе на прыклад маладым, маладыя глядзелі на яе як на выключную з'яву, а вясковыя хлопцы рана пачалі ў яе ўлюбляцца.

Калі яна цяпер ішла нядзеляй у царкву або на талаку да жніва, бо яе запрэглі да некалькіх дзён адработку за хату і займаны ёю агародчык, моладзь ішла за ёй гуртам, звяртаючыся да яе словам, усмешкамі, паклонамі, хоць і здалёк і трохі баязліва. Марыся была ветлівай ■ усімі, але ні ■ кім лёгка не збліжалася, апроч старых. Нейкі інстынкт самазберажэння рабіў яе

сярод мужчын і моладзі баязлівай, нясмелай і засаромленай. Ніколі не хадзіла яна ні на забавы, ні на танцы ў карчму, ні ў двор на прыёмы вяскоўцаў, а найчасцей пакручвалася каля сваёй хаты.

І хоць у такім цяжкім становішчы, хоць такая вельмі адзінокая, за некалькі гадоў не пераЖыла ні найменшай няўдачы, паводзілася ёй самым асаблівым чынам. Да чаго ні дакранулася, усё расло, удавалася, множылася, ажывала, ішло, як кажуць, рукой. Народ, які, можа, не без нейкай рацыі бачыць у зямных удачах дапамогу нячыстай сілы, прыпісвае шчасце то ўкрадзенаму грашу, то іншым такога роду тлумачэнням і талісманам. І ў гэтым шчасці сіраты заўсёды нехта бачыў дапамогу прывідаў, спрыянне чараўнічых духаў, і зусім не хутка, калі нічога з дагадак не пацвердзілася, пачаў прызнаваць таямніцу працы і божага благаславення.

Адсюль узрасла пашана да Марысі, якую быццам нейкая нябачная апека акрывала сваім плашчом. Ніколі не было найменшай шкоды ні ў яе незамыканай хатцы, ні ў неабгароджаным агародчыку; цвінтар і магіла маткі вартавалі ўбогую ляпянку.

У спякотныя летнія дні дзяўчына як магла выконвала адносна прахожых і праезджых абавязкі гасціннасці: у яе ў сенцах заўсёды стаялі вядро са свежай вадой і чыстая конавачка, а сяляне ведалі пра Марысіну ваду, і рэдка хто, едучы [redacted] мястэчка, мінуў хату, не напіўшыся і не пакінуўшы падзякі або і дробнага падарунка.

За мінулыя гады амаль нічога тут не змянілася. Парадак жыцця ўсталяваўся яшчэ мацней, больш нязменна, праца ішла штодзень лягчэй, а сірата пачала памалу адчуваць сябе свабаднейшай, сабраўшы на чорную гадзіну нават нейкую капейку, трохі хлеба і такога-сякога рыззя.

У добрую пагоду заўсёды ішла на могільнік, сядала

на магілку пад старой вярбой і, наглядаючы на хатку, часам спявала слабым голасам якуюсьці песеньку, што прыблукалася разам з успамінам аб маці.

Тая хатка, пабудову якой мы бачылі на пачатку нашай аповесці, ужо вельмі пахілілася да зямлі і з гадамі значна адмянілася.

Інакш і быць не магло.

Злепленая на скорую руку з сырога і ліхога матэрыялу, трымалася божай ласкай, цудам, а можа, імхамі, грыбамі, якія склейвалі яе гнілыя часткі. Сцены, хоць абмазаныя глінай, мелі шмат незалечаных дзірак, апроч таго, яны так абсунуліся ў зямлю, што акенца было амаль на яе ўзроўні, а дзверы трэба было адкапаць і пры ўваходзе добра ў іх нахіляцца.

Дах, напраўляны дзярнінай, прыгнечаны яе цяжарам, быў увесь у зялёных ад моху і травы гарбах і выглядаў як узгорак, і каб не счарнелы комін, які тырчаў пасярэдзіне, дык цяжка было б пазнаць, што ён накрываў людское памяшканне.

Нягледзячы на гэта, і ўнутры і звонку было чысценька, утульна і міла, бо ўсюды была відаць старанная рука. Марысю акружала ўжо цяпер вялікая і багатая гаспадарка: больш за дзесятак галубоў, цэлая чарада курэй, некалькі гусак-баламутак, па якія штодня трэба было хадзіць на стаў, дзе яны гулялі з вясковымі суседкамі, а апроч таго былі і хатнія сябры: шэры кот і руды сабачка.

Гісторыя гэтых двух стварэнняў была даволі цікавая. Першы з іх, ужо амаль утоплены, быў выратаваны Марысяй са става. Яна яго адхукала і выгадавала, а другі прыблукаў да яе невядома як і адкуль. Знайшла яго аднаго вечара, як сядзеў пад парогам з вельмі спакойнай мінай, як быццам там нарадзіўся. Калі падышла да яго, ён адразу прывітаў яе як гаспадыню, палізаў руку і ўвайшоў за ёй у хату, нават не вельмі цікава разнюхваючы па кутах, нібы стары знаёмы.

Праўда, з'еўшы кавалак сухара і напіўшыся вады, скруціўся ў клубок і моцна заснуў. Аднак, калі назаўтра прачнуўся, нейкі час быў неспакойны, але на трэці дзень не было ўжо сумавання па даўнейшаму гаспадару.

Марыся радая была госцю, які неўзабаве пачаў шчыра набрэхваць уночы каля хаты, бо быў стварэннем чуйным, якое спіць удзень, а змрокам устае, пачуваючыся да абавязку вартавання, і неспакойна адзываецца на найменшы шэлест ветру. Марыся адразу пабойвалася, каб з яе другім выхаванцам Бурыкам, выратаваным ■ вады і карысным саюзнікам супраць мышэй, не было вайны і няспынных спрэчак.

Сабака, якога адразу назвала Сіроткам, убачыўшы на печы катка, які там выграваўся, спачатку адчуў непрыемнае хваляванне, паступіўся лапамі на печ і незадаволена завурчаў. Бурык падняў лапы, паказаў кіпцюры і некалькі разоў порснуў яму здалёк у вочы, нібы казаў: «Адчапіся ад мяне!» Але калі Марыся, гладзячы сабаку, прыкрыкнула на яго, адагнала ад ката і пачала дакараць яго словамі, якія ён, здавалася, стараўся зразумець, у хаце ўсталяваўся мір. Сіротка больш не чапаў Бурыка, а нават рабіў выгляд, што яго не заўважае, заплюшчваў вочы на яго злоўжыванні адносна гаршкоў, саступаў яму, нібы незнарок, з дарогі і аказваўся самым шчырым прыхільнікам міру. Бурык са свайго боку, нягледзячы на свой даволі задзірысты характар, умеў цаніць паводзіны сабакі і пазбягаў зачэпак да звады. Ён трымаўся пераважна вышэйшых сфер хаты: лавак, сталоў, печы, прыпечка і толькі вельмі рэдка, дзеля важных прычын, сыходзіў на падлогу, пакінуўшы яе Сіротку. Праз нейкі час сабака і кот, асвойтаўшыся, некалькі разоў панюхаліся і разышліся без адзнак гневу, што вельмі ўзрадавала Марысю. А кот, які быў смялейшы і больш актыўны, хутка адважыўся праходзіць перад самым носам у Сіроткі і

ўрэшце, калі аднойчы той спаў каля печы, лёг яму на спіну.

Сабака адразу быў моцна здзіўлены, падняў галаву, паглядзеў, нібы казаў: «Больш фамільярнасць, чым знаёмства», але, калі кот застаўся на тым жа месцы, спакойна лёг, і з той пары пачалі жыць у згодзе. Толькі кот, як слабейшы, але і зласлівейшы, выкарыстоўваў гэту сітуацыю і ўжо зусім не цырымоніўся ■ таварышам, разлічваючы на яго правераную лагоднасць характару. Аб'ядаў яго, вылежваўся на яго спіне, а часам біў яго па пысе, перш нагледзеўшы адпаведнае для рэтырады месца, на выпадак выбуху з боку Сіроткі. Але Сіротка ў найгоршым разе паказваў яму толькі два рады прыгожых белых зубоў і, завурчаўшы і прагнаўшы нахабніка, ■ глыбокім уздыхам прыгнечання клаўся на сваім месцы.

Калі Марыся выходзіла ■ хаты, сабака суправаджаў яе заўсюды і ўсюды, нават у вёску, дзе на яго нападалі сабакі з усіх двароў, між якіх даводзілася яму прабівацца, наставіўшы на хрыбце шэрсць і паказваючы зубы. А кот праводзіў толькі да парога і вяртаўся назад пільнаваць хаты і гаршкоў.

Сіротка, не адступаючы ад сваёй гаспадыні, ляжаў каля яе ног на магіле, калі яна прала, ішоў за ёй у вёску, хоць гэта каштавала яму шмат, а ўночы, нават у найбольшы мароз, не даваў сабе паблажкі і брэхам выслужваўся за ежу. А так заўсёды ўмеў даць сабе рады, што, калі нават на яго нападалі ваўкі, ён ускокваў на дах і, прыпёршыся да коміна, разганяў іх несусветным брэхам.

Такія былі насельнікі двара Марысі, якая карміла і пільнавала сяброў сваёй долі і амаль як людзей акружала сваёй апекай. Пачаўшы ад галубоў, неразумных гусей і мудрага Сіроткі, да ўсіх стварэнняў гаварыла тыя словы, з якімі не магла звярнуцца да людзей, размаўляла з імі, спрачалася, радзілася, гневала-

ся, хваліла, заахвочвала... Але хіба толькі адзін сабака разумеў тую гутарку, бо кот, хоць быў даволі злосны і рэзкі, быў абыякавы, сонны, і да яго гаварыць было тое, што кідаць гарох аб сцяну, ■ птушкі зналі толькі адзін голас, той, які клікаў іх да ежы.

Сіротка быў незвычайна разумны, ветлівы і здагадлівы сабачка. Марыся заўважала не раз, што пры сустрэчы з незнаёмымі людзьмі ён рабіў выразны выбар форм ветлівасці: адных вітаў моўчкі, не ўстаючы са свайго месца, другіх — махаючы хвастом, лашчачыся і прысядаючы, іншых — нюхаючы за імі паветра, а некаторых ■ брэхам і вурчаннем, нібы хацеў іх з'есці. Самых ненавісных хапаў за вопратку, але нікога не кусаў, не адчуваючы сябе на гэта даволі вялікім панам.

Ад такіх праяў прыхільнасці і непрыязнасці нельга было яго адвучыць: адкліканы, хоць і слухаў сваю гаспадыню, аднак іншым разам рабіў тое самае. На гэта быў у яго свой погляд.

Было гэта неяк летам. Спякотны дзень канчаўся адным з тых рэдкіх у нас без хмар, без ветру, пагодлівых, ціхіх, бліскучых краплістай расой вечароў, якія прадказваюць сушу, але ўвільгатняюць засмяглыя травы і быліны. Марыся, вярнуўшыся з могілак, паставіла прасніцу каля печы, пагладзіла натапыранага Бурыка, узяла вядро і збіралася схадзіць да крыніцы, бо ў хаце не было ўжо вады, калі яе спыніў конскі тупат.

Дарогай у вёску ехаў хтосьці на невялікім дэрашаватым коніку, весела насвістваючы нейкую гуллівую песеньку. Марыся зацікавілася, спынілася і пачала прыглядацца. Вечар быў яшчэ ясны, і праезджы, убачыўшы дзяўчыну, прыпыніў каня, уляпіў у яе зацікаўленыя вочы і нават перастаў насвістваць. Гэта быў малады светлавалосы хлопец, сціпла, але чыста апрануты, з выгляду мог ён быць ляснічым або пісарам. За

плячамі была ў яго паляўнічая торба, на нагах чорныя, па калені боты, на галаве вясковы саламяны капялюш, у руцэ арапнік. На яго загарэлым твары можна было заўважыць румянец маладосці, які прабіваўся з-пад загару, а ў поўных агню цёмных вачах гарачую цікавасць. На яго вуснах блукала вясёлая і залётная ўсмешка. Конь пад ім гарачыўся і звіваўся, як быццам здзіўлены тым, што яго трохі прыпынілі, відаць, не быў прызвычаены да павольнага ходу і такім чынам выкрываў жывы і дзейсны характар свайго гаспадара. Вопратка юнака, нягледзячы на сваю прастату, была пашыта з выразным стараннем, бо добра вырысоўвала яго гнуткі стан і шырокія плечы.

І ён і яна трохі запыніліся і неспадзявана зазірнулі адно аднаму ў вочы. Праезджы прыпыніў сівога, каб даўжэй паглядзець на прыгожае дзяўчо, а яна падалася назад, падумаўшы, што, можа, яму пасля дзённай спёкі захочацца вады. Але хлопец не адазваўся ні словам, зірнуў на хату, на могільнік, яшчэ раз кінуў смелым вокам на дзяўчыну, сцебануў каня і паскакаў, насвістваючы вясёлую песеньку. Марыся сышла памалу да крыніцы.

А сыходзячы, міжволі звярнула вочы ў той бок, куды паскакаў на сваім сіваку незнаёмы хлопец. Чамусьці прыемна было ёй бачыць, як ён кіраваў канём, як адважна імчаўся па поўнай выбоін грэблі, як змагаўся з жывёлінай, калі яна палохалася, і як перамагаў у гэтай барацьбе. Яго вясёлая юнацкая песня адбілася аб яе вуха, і яна амаль засумавала, калі ён схаваўся за хатамі і шум млынавых калёс заглушыў яго ўдалую песню.

Уражанне ад гэтага выпадковага спаткання не зацёрлася, як многа іншых, і хоць Марыся не мела часу ні сядзець без работы, ні марыць, усё ж перад яе вачыма часта пралятаў той, на сівым коніку, яздок.

— Тфу, прывід! — выкрыкнула ўрэшце.— Ды гэта ж нейкае насланнё! Чаго ж я пра яго думаю?!

Пасмяялася сама з сябе, паціснула плячамі і вярнулася да працы.

Калі назаўтра рана, як звычайна, выйшла за парог прывітаць птушак, агледзець гаспадарку і даць магіле вокам «добры дзень», убачыла пусты гасцінец, і на думку прыйшоў зноў той учарашні падарожны і яго цёмныя, што так палымяна глядзелі з-пад саламянага капелюша, вочы.

«Хто б гэта мог быць? — падумала.— Хто ён такі?»

Але не ведаючы акругі і нават сваёй вёскі, не магла дагадацца, дык, кінуўшы пытанне ветру ды прыбраўшы збольшага ў хаце, пайшла з Сіроткам на матчыну магілу прасці да паўдня, пакуль не прагоніць яе адтуль спёка.

Сабака, які ўжо добра ведаў штодзённую дарогу, павёў яе, падскокваючы і брэшучы, да зялёнага ўзгорачка, каля якога на замшэлым камені, пад старой спарахнелай вярбой, сядала Марыся.

Від з гэтага ўзгорка быў далёкі і мог забаўляць адзінокую, бо праз паваленыя паркан і нізкі вал відаць былі як на далоні вёска і палі з дарогамі на ёй, а направа яры, зараснікі і далёкі бор. Хоць рух на гасцінцы быў малы, бо ў гэты бок не вельмі хто ездзіў, апроч кірмашных дзён у мястэчка, куды ішла, праўда, бліжэйшая, але горшая дарога, затое вока магло здалёк нацешыцца рухам у ваколіцы і малюнкам людской працы. Усё, што адбывалася ў вёсцы, за вёскай, на палях, у млыне, магла Марыся бачыць, а часам яе зрок міжвольна лавіў прахожых і праезджых, і лёгка было здагадацца, куды і чаго яны накіроўваюцца, які вядзе іх намер.

Кожны плуг, які выходзіў на поле, кожны воз, што пад'язджаў да млына, магла сірата палічыць і пазна-

вала людзей па конях, па валах, па постацях падводчыкаў.

Ледзь толькі пачала выцягваць нітку з кудзелі, як ізноў адбіўся ў яе вуху тупат скакуна. Вока яе звярнулася на дарогу, і хлопец на сівым коніку паказаўся пры выездзе з вёскі ў бок могільніка. Ізноў ён жвава імчаўся, ■ сівы, засопшыся, ірваўся пад ім на гару.

Дзяўчына незаўважаная сачыла вокам і каня і яго гаспадара, цікуючы, куды яны накіроўваюцца. Хлопец, зраўняўшыся з хацінай, прыпыніў задыханага сівака і павярнуўся тварам да ляпянкі, на якую пачаў пільна глядзець, але ўбачыўшы дзверы замкнёнымі, хацеў ужо кіравацца назад, ды павярнуў галаву і ўбачыў на могільніку Марысю, якая сядзела за прасніцай.

Каля яе, разбуджаны незвычайным гоманам, успёршыся пярэднімі лапамі на крывую вярбу, вурчаў і пабрэхваў Сіротка, хоць было відаць, што вялікай ахвоты да гэтага ён не меў і брахаў больш з абавязку, чым з пачуцця гневу. Гэта можна было заўважыць па тым, што сярод яго брэху некалькі разоў прарвалася шырокае пазяханне.

Сівак ужо ўзнімаўся да галопу, калі яздок спыніў яго і са здзіўленнем пачаў пакручваць галавой, не ведаючы, з чаго пачаць размову ■ прыгожай дзяўчынай. Нарэшце запытаў:

— Гэй, дзевачка, ці вы, можа, з гэтай хаты?

— З гэтай. А што вы хацелі?

— А што вы робіце на могільніку?

— Тое, што і заўсёды, праду на магіле маці...

Здзіўлены хлопец паціснуў плячыма.

— Ці не далі б мне вады напіцца?

— А вось зараз, пачакайце!

І Марыся пайшла, пакінуўшы прасніцу пад вярбой. Выбегла разам з Сіроткам, пераскочыла праз дарогу, адчыніла хату і з усмешкай падала незнаёмаму драўляны кубак.

Да ўсіх гэтых рухаў прыглядаўся малады хлопец з вялікай зацікаўленасцю, як быццам не верыў, што меў перад вачыма такую незвычайную з'яву.

Узяў дрыготкай рукой кубак і нёс яго да вуснаў так памалу, як быццам піць яму зусім не хацелася. Тым часам сівы капаў нагой, а Сіротка, нюхаючы, абыходзіў наўкол прыезджага, стараючыся пазнаць носам, з кім мае справу. Відаць, яго следства нічога благога не выявіла, бо зараз жа сеў спакойна і пачаў глядзець падарожнаму ў вочы.

— Глядзіце,— паглядаючы то ў кубак, то на дзяўчыну, сказаў хлопец,— дык вы тут жывяце?

— А што ж тут дзіўнага, мой пане?

— Насупроць могільніка,— буркнуў яздок.— А з вамі хто? Бацька?

— Няма ў мяне бацькі...

— Маці?

— Не маю маці...— уздыхнула дзяўчына.

— То служыш у каго?

— Не, пане.

— А з кім жа тут сядзіш?

— Вот так зусім адна!

Хлопец падняў здзіўлена вочы, якія асабліва заіскрыліся.

— Як гэта зусім адна? А як жа гэта можа быць?

— Бо я сірата...— ціха сказала Марыся.

Падарожны напіўся вады з нейкім выразным рассеяннем, было відаць, што не разумеў ні Марысінага сіроцтва, ні яе кватэры наводшыбе, а далей распытваць не пасмеў. Паківаў галавой, паглядзеў, а дзеля таго, што сівак ірваўся ў бег, усміхнуўся, кіўнуў галавой і паляцеў як страла.

Сіротка, які дагэтуль сядзеў спакойна, збянтэжаны, як і яго гаспадыня, кінуўся з заядлым брэхам за канём, але хутка вярнуўся, спыніўшы свой раптоўны

рывок, і пачаў старанна абходзіць сляды конскіх ног, разглядаючыся ў месцы, з якога так хутка знік коннік.

Марыся доўга стаяла з напалову апарожненым кубкам, глядзела сумна ўслед уцекачу і вельмі памалу ў задуме вярнулася на магілу маці, а верны сабачка ішоў побач са спушчанай галавой.

Шмат людзей праходзіла і праязджала ў той дзень па гасцінцы, але знаёмыя, убачыўшы сірату на яе звычайным месцы, зусім не дзівіліся, кожны ківаў галавой, вітаўся і мінаў.

Адразу было дзівам для ўсіх бачыць яе [redacted] прасніцай на могільніку, але праз некалькі гадоў асвоіліся з гэтым і з сіратой і пачалі называць яе «дзяўчынай [redacted] могілак». І хоць старыя бабы падазравалі, што яна мае сувязь з духамі, ніхто ўжо не хацеў гэтаму верыць.

Яшчэ не зусім апаў пыл, узняты капытамі сівога коніка, калі пачулася на могільніку спяванне грубым, добра знаёмым дзяўчыне голасам песні. Па ёй пазнала Марыся Ратая і нават магла здагадацца, што ішоў ён проста з карчмы, бо цвярозы быў звычайна маўклівы, а чым больш выкульваў кілішкаў, тым мацнейшым голасам спяваў набожныя песні.

Сіротка брахнуў раз, як быццам даваў пра сябе знаць, наставіў вушы і замоўк.

— Ага! Ужо Марыся на могільніку! — адазваўся Ратай.— Добры дзень, дзяўчына! Бог з табой. А што чуваць?

Гаворачы гэта, спрытна прыблізіўся да ўваходу, усунуўся на могільнік і, выціраючы з твару пот, прысеў між дзвюма магіламі.

— Нічога, ойча, не чуваць,— адказала дзяўчына,— нічога новага!

— Го! го! Маніш, цыганка! — сказаў, смеючыся, муж Саладухі.— А хто тут учора праязджаў? А хто тут быў сягоння?

Марыся зачырванелася, як вішня, і верацяно вывалілася ў яе з рукі.

— Хто ж быў? Хто?

— На сівым коніку, гэй! быў хлопец, быў, дзяўчына! А моцны хлопец! Хоць вочы яго не бачылі, дык вушы пачулі.

— Як вы гэта знаеце?

— Але ж, Марыся! — крыкнуў Ратай.— Марысяцыганачка, сляпы заўсёды лепей бачыць і больш ведае за тых, што маюць вочы. Ужо гэта на свеце так заўжды... Учора вечарам цябе нагледзеў, а сягоння мусіў тут затрымацца. Вот лепш сама прызнайся старому.

— А чаму ж бы мне не прызнацца? — адказала Марыся.— Я вам усё раскажу. Вось як гэта было: праязджаў учора вечарам каля хаты нейкі хлопец, ну, праўда... агляну ўся на мяне, а сягоння зноў тут ехаў, папрасіў вады, дык я яму вынесла, трохі распытваў. А вы яго знаеце?

Ратай моўчкі паківаў галавой.

— Дык і я табе скажу, як гэта было,— сказаў,— бо не з чым іншым прыйшоў, а з перасцярогай. Маладому, як ты, кураняці лёгка трапіць у каршуновы кіпцюры, дык сцеражыся.

Марыся, дрыжачы і пачырванеўшы, глядзела ў твар старога, які тым часам дастаў з торбы хлеб і цыбулю і пачаў падмацоўвацца, кусаючы нацёртую духмянай гароднінай лусту.

— Гэты хлопец, ды я яго знаю,— гаварыў, жуючы,— гэта сын багатага будніка з Рудні... некалі гэта была шляхта... сын таго Адама Хваінскага, які гандлюе валамі, свіньмі і збожжам... а чуваць, грашавіты... імя сына Томка. Знаюць яго ў акрузе, добры, чуваць, хлопец, але гарэзлівы, за дзяўчатамі гатоў у агонь і ў ваду. Бацька, як быццам сыну ўдому хлеба не хапала, загадаў яму служыць, дык ён тут нядаўна стаў лесні-

ком. Вельмі братацца нам з ім не трэба, бо яно ганарыстае, адчувае ў кішэні грош, дык думае, што за грош усё дабудзе, а ў бацькі ён адзін сын. А шалапут-шалапут! Даволі ўжо набаламуціў і шляхцянак і нашых, вясковых, дзевак.

Марыся слухала і пацiснула плячамі.

— А што ж за дзіва, ойча,— сказала з гонарам,— што пабаламуціў такіх, якія толькі і пазіралі, каб хто кіўнуўў на іх пальцам?

— А пэўне ж, пэўне... во, і тая Кахна, даруй божа, пачала, кажуць, з ксяндзовага парабка, а пасля быў аканом з Войтаўкі, а на астатку Томка. Чыста шукала бяды і знайшла... Ага, чую, што ён небяспечны хлопец, бо і ■ выгляду нічога, і так увіваецца, і гатоў прысягнуць, што ажэніцца, абы яму небарачку ў поле вывесці. Сцеражыся і ты, бо, чуваць, учора ў карчме, заехаўшыся вечарам, моцна распытваў, хто жыве ў гэтай хатцы? Што за дзяўчына там сядзіць? А калі людзі яму не захацелі адказваць, дык збянтэжыўся і змоўк. Сягоння ізноў дарма хадзіў у разведку, а тое, што тут быў другі раз, нядобры знак. Абы гэта ліха да цябе прыблукалася, дык людзі пачнуць баяць рознае, а сірацe хапае і адной бяды на плячах.

— Дзякую вам, ойча, за перасцярогу,— сказала пасля хвіліны роздуму Марыся,— добра, што вы сказалі, хто ён такі... Няхай яшчэ раз паспрабуе да мяне зазірнуць, дык я буду ведаць, як яго адгэтуль адправіць.

— Вот за гэта ты ў мяне, дзеўка, маладзец! — выкрыкнуў стары, пляснуўшы ў далоні.— Навучы шляхціца розуму... У яго ў галаве шляхоцтва і бацькавы грошы ды гладкі тварык, дык ён думае, што можа беспакарана пакрыўдзіць, але і ты маеш розум!

— Эй, не маю я розуму, ойча, але мне бог і матуля з неба памагаюць... Я сірата, павінна была б сто разоў з голаду, холаду і галечы прапасці, ■ вот ласка божая

трымае мяне на нагах і сытай, і апранутай, і вясёлай, дык паратуе і далей.

— Сцеражонага бог сцеражэ,— сказаў стары, ківаючы галавой.— А сабе таксама лішне не давярай, ты маладая, ён малады, кроў не вада. Табе сумна адной, і можа прыйсці злая гадзіна... чалавек задурыцца, а колькі ж пасля таго трэба слёз выліць! А колькі нахаваць вачэй! Ці ж мала я пра гэта наслухаўся? Ці мала набыўся між такімі? Томку патрэбная каханка, вось ён і намеціўся на цябе... дык будзь жа асцярожнай.

— Але ж не бойцеся, ойча! Бог і ад гэтага абароніць,— адазвалася спакойна Марыся.— А ён, мяркуючы па вачах, на благога не выглядае.

— Во-во, чуеш! — крыкнуў, смеючыся, Ратай.— Дык ты ўжо яму і ў вочы заглядала, распусніца! Асцярожна з гэтым, асцярожна!

Сірата толькі сумна рассмяялася, а дзед гаварыў далей:

— Га! га! Калі б хацеў ажаніцца, не гавару, але гэта вялікі пан, дзе там! Ён высока глядзіць, вышэй, чым лятае варона. Але я тут з табой тое ды сёе, а сабака ў крупніку. Мне на заўтрашні дзень на фэст ісці трэба, бо найлепшае месца там зойме кульгавы Лайда!.. Ну, пільнуйся ж, Марыська, і замыкай хату ад злодзея.

І, смеючыся, пайшоў жабрак з могільніка, а на гасцінцы прадоўжыў сваю набожную песню ад той страфы, на якой раней спыніўся. Марыся пачала жвава прасці, і толькі бог ведае, якія думкі кружыліся ў яе галоўцы, бо часта чамусьці страсалася. То яна пагля-дала на дарогу, то кідала вокам на поле, то задумвалася, пакідаючы верацяно, аж нарэшце як быццам перамогшы мары, што яе праследавалі, жвава ўзялася за кудзелю і дапрала да сваёй звычайнай гадзіны.

А калі вярталася з Сіроткам дахаты, пераходзячы месца, на якім былі сляды конскіх капытоў, сабака

зноў спыніўся, абышоў іх з вялікай увагай і разгледзеў яшчэ раз.

Гэта навяло Марысю на роздум, зразумела гэты рух як доказ чуйнасці свайго вартаўніка, дык паклікала яго, пагладзіла, пацалавала ў лоб, а Сіротка, як ашалелы з радасці, налашчыўшыся са сваёй гаспадыняй, дапабег брахаць на чатыры вятры, праслаўляючы яе дабрату і сваю дбайнасць.

Ужо пачало добра змяркацца і Марыся замкнулася ў хатцы, калі на дарозе зноў пачуўся тупат коніка і каля дзвярэй забрахаў сабака. Конь памалу запыняўся і стаў. Відаць, Томка асадзіў яго каля хаты. Марыся падбегла да акенца, выглянула і хутка схавалася каля печы.

Хвіліна прайшла ў маўчанні, ды вось пачулася «стук, стук» у замкнёныя дзверцы. О! І сэрца стукнула ў беднай дзяўчыны, а сабака, разгневаны за настырнасць, пачаў моцна брахаць.

І зноў: «стук, стук» у дзверы, а пасля ў акенца.

— А хто там? — дрыготкім голасам запытала Марыся.

— Гэта я!

— Хто ж гэта такі «я»? Чаго хочаце? — запытала дзяўчына, смела падыходзячы да акна.

— Э, гэта я! Не бойцеся... Што гэта ў вас і хата запёртая... так рана?

— Бо я тут адна, мушу замыкацца і нікому ўночы не адчыняю.

— Я хацеў вам штосьці сказаць і вады напіцца, а за ранішні кубак я прывёз вам штосьці з кірмашу... Дык і сапраўды не думаеце мяне ўпусціць?

— Едзьце далей з богам, да вёскі два крокі,— сказала Марыся.— Уночы ніхто да мяне не заходзіць, бо мой сабака мог бы пакалечыць.

— Дык хоць падыміце акенца і прыміце мой гасцінчык.

— Акно не падымаецца,— адказала дзяўчына,— а гасцінцаў я не бяру.

— Што ж гэта за праклятая хата! — выкрыкнуў хлопец.— Ну дык дабранач! А гасцінец я пакіну на прызбе... Бывай жа здарова!

І адступіўся ад дзвярэй, бо зараз пачуўся і тупат каня на дарозе, і паляцела з ім разам у бок вёскі вясёлая песня.

Сэрца Марысі білася і білася непамерна. У галаве муцілася, і чарадзейнае слова «гасцінец» блішчала перад яе вачыма тысячай ясных, іскрыстых, багатых колераў. Вельмі хацелася ёй выйсці і глянуць на той падарунак, але нейкі інстынктыўны страх хапаў яе за рукі і адымаў сілу нагам. Ужо Томка быў далёка, ужо ніхто на яе не глядзеў, а яна неспакойна ішла да дзвярэй, ды каля парога Сіротка глянуў у яе распалымнелы твар і, быццам перасцерагаючы, палашчыўся і забрахаў. Марыся спынілася, пачала думаць і засталася каля печы.

«Ці ж магу я прыняць падарунак? — запытала сама ў сябе.— Што на гэта скажуць людзі? Як вазьму раз, дык ад яго не адчаплюся».

Ніхто не мог яе навучыць, як вырашыць гэта пытанне, і каб не перасцярога старога Ратая, дык напэўна сквапна хапіла б гэту кінутую пад яе акно прынаду.

І ўсё ж патрэбная была барацьба з сабой і доўгае ціхае змаганне ў душы, каб у канцы цвёрда сказаць сабе: «Не пайду, не крану, не прыму».

Нялёгка далося ёй гэта пастанаўленне, а цікавасць, які там можа быць падарунак, доўга не давала ёй сплюшчыць вачэй, і сон яе быў неспакойны.

Назаўтра світаннем ужо не магла выцерпець. Высунулася з ляпянкі, шукаючы вокам таго ўчарашняга гасцінца... столькі здагадак непакоіла яе ўсю ноч, што там магло быць... Перш нічога не ўбачыла, але, падышоўшы яшчэ, заўважыла квяцістую, чырвоную, пры-

гожую... а якую прыгожую навюсенькую хустку і некалькі локцяў шырокай ярка-чырвонай стужкі. Вочы яе, не прызвычаеныя да падобных убораў яшчэ павялічвалі прыгажосць тых, зрэшты, вельмі простых анучак, але ж яна ніколі не мела і такіх... Агледзела іх, узяўшы ў дрыготкія рукі са страхам, пажаданнем, спакусай, нават з нейкім жалем, але прадчуванне не дазволіла прыняць ад незнаёмага такой вялікай і падазронай ахвяры. Рассталася, бедная, не без болю ■ той хусткай і стужкай, пакінуўшы іх на тым месцы, дзе яны былі пакладзены, ■ сама, хутка схапіўшы вядро, пачала свой звычайны дзень спускам да крыніцы па ваду.

Сіротка абнюхаў пасля гаспадыні Томкаў падарунак, абышоў яго навокал, буркнуў і пабег неадступна за Марысяй.

Дзяўчына, хоць гэта ёй шмат каштавала, ужо нават не зірнула на гасцінец і, узяўшы кудзелю, пайшла са спушчанай галавой да магілы. Аднак вочы яе ўвесь час павярталіся на дарогу, а сэрца дрыжала нейкім незразумелым неспакоем. Сонца ўжо добра паднялося, калі здалёк пачуўся тупат сівога коніка, і дзяўчына пачала прасці жвавей.

Ляснічы спыніўся насупраць халупы, азірнуўся, і брэх сабакі звярнуў яго вочы на дзяўчыну, якая сядзела пад вярбой.

— Што за чорт? Чаго яна заўсёды сядзіць на могільніку? — прабурчаў нездаволена, сходзячы з каня.

Як увесь просты народ і буднікі, малады хлопец быў забабонны і нізашто не пайшоў бы заляцацца на могільнік. Маркотна было яму, што там застаў Марысю, дык спахмурнеў і не ведаў, што рабіць.

— Добры дзень! — адазваўся, прыбліжаючыся да прымагільнага вала, што аддзяляў яго ад Марысі, якая сядзела недалёка.— Добры дзень! А што? Хоць бы дзякуй належыць мне за гасцінец.

— Нічога вам не належыць,— падымаючы галаву, паволі сказала Марыся,— знойдзеце свой гасцінец там, дзе ўчора палажылі, калі яго хто за ноч не забраў... Толькі, пэўне, раса яго намачыла.

Томка, здзіўлены, спыніўся.

— Дык не хочаце яго ад мяне прыняць?

— Бо не магу,— адказала Марыся.— А за што і нашто мне браць ад вас падаркі? А што людзі на гэта скажуць?

— Ці ж гэта абавязкова, каб пра ўсё людзі ведалі? — сказаў соладка спакуснік, падкручваючы вусікі і са страхам і пажадлівасцю пaглядаючы на праклятыя могільнік.

— А бог? — адазвалася Марыся.

— А ці ж бог забараніў даваць і браць гасцінцы?

— Я гэтага не ведаю, бо не мудрая я,— сказала сірата, падумаўшы,— але я ніколі ў сваім жыцці ні ад кога нічога дарма не брала і не вазьму...

Томка, яшчэ не давяраючы, кінуў вокам у бок хаты і ўбачыў на прызбе хустку і стужку і нецярпліва пацiснуў плячамі.

— Ну як сабе хочаце,— сказаў насмешліва.— Знойдзецца такая, што возьме.

— Вось такой гэты гасцінчык і аддайце,— адказала Марыся.— Хоць бы Кахне...— дадала з усмешкай, прыпомніўшы гутарку з Ратаем,— я, будзьце пэўныя, не пазайздрошчу...

«Прайдоха дзеўка! — сказаў у думках, закусваючы вусны, Томка.— Трапіла каса на камень... Але няхай! Не адна яна на свеце».

А дзеля таго, што гэта быў буднічук і сын багатага гаспадара, прызвычаены да лёгкіх перамог і ганарысты сваім даўнейшым шляхоцтвам, дак ажно абурыўся на сірату за тое, што пасмела абыякава аднесціся да яго; свіснуў песню, сеў на каня, пад'ехаў пад хату,

схапіў, нахіліўшыся, хустку і, уціснуўшы яе за венгерку, не зірнуўшы на Марысю, паімчаўся.

Калі гэта адбывалася, Марыся прала з апушчанай галавой, прала, не гледзячы на яго, аднак бачыла кожны рух загневанага хлопца, кожны скіраваны на сябе позірк, і сэрца яе сціснулася, калі ён паехаў без добрага слова і без развітання. Яе сабака брахаў услед ездаку, а яна... яна плакала...

Нікому не магла б вытлумачыць, нават сабе, прычыны гэтых слёз, але так было ёй сумна, цяжка пасля ад'езду Томака, як быццам яна страціла найдаражэйшае са сваіх стварэнняў, наймілейшы прадмет. Ужо ёй у той дзень не пралася, не вялося, не спявалася... і, як прыйшла ноч, не спалася. Яе вуха міжвольна шукала ў паветры гукаў знаёмай песенькі і тупату каня, але на гасцінцы панавала глухая ціша...

Томка падумаў словамі песенькі:

Невяліка ў сэрцы туга,
Не будзеш ты, будзе друга.

І паляцеў на танцы ў карчомку за прыгожым тварыкам, за белым абліччам і чорным вокам, па якіх ён звычайна сумаваў. Многа было дзяўчат каля карчмы, дзе гралі музыкі — скрыпач-шавец, басетліст-ткач і бубніст — пастух дворскай жывёлы. Ляснік частаваў, прымільваўся, выкручваўся, абдымаў, паіў і ўдосталь наскакаўся, але калі, нагуляўшыся, вярнуўся ўночы ў свой пакойчык, здзівіўся, што перад яго вачыма ўвесь час стаіць прыгожы тварык цыганкі.

«Што за ліха! — падумаў.— Напэўна ж, яна з іх не найхарашэйшая... А не хоча, дык і без яе абыдуся і думаць аб ёй перастану! Яшчэ яна чупырыцца, строіць з сябе дворскую паненку, чорт яе бяры!»

Старая гэта гісторыя людскіх сэрцаў: дай ім найдаражэйшыя скарбы, сыплючы поўнай жменяй, адвернуцца ад іх абыякава, а адымі толькі дробнае зернетка

і крыху ім падаражыся, дык ужо не змогуць без яго жыць. Дарма ўталкоўваў сабе Томка, што Марыся яму ніхто, злосць на яе брала ды горш, што параўноўваючы яе з іншымі вясковымі дзяўчатамі, добра бачыў, што была за ўсіх прыгажэйшай, хоць і не хацеў гэтага прызнаць.

— Ужо што прыгожая, дык прыгожая,— уздыхаў,— але невыносна ганарыстая. Не буду ж я абыякой цыганцы кланяцца і ручку цалаваць!

І як заця́ўся Томка, дык не паехаў той дарогай і праз цэлы тыдзень не паказаўся каля хаты.

А што думаеце, тыдзень, дык гэта мала для маладых? У гэтым шчаслівым перыядзе жыцця гэта цэлы век. Гэта эпоха мае чарадзейную ўладу рабіць гады з гадзіны, з гадоў імгненне вока... Тужыла і сумавала Марыся, злаваўся Томка і не заўважыў, як аднаго ранку сівак занёс яго пад могільнік.

Марыся прала на магіле. Хлопец мінуў яе, свішчучы і нават не зірнуўшы, але абое бачыліся, хоць галовы іх былі паадварочваныя. А сабака, які ўжо адвык ад каня і яго гаспадара, выскачыў брахаць на іх аж да брамкі. Мільгнуў Томка, нібы з'ява, і зноў няма яго і няма.

Мінула так некалькі дзён, і ўрэшце Томка высачыў, у які час хадзіла яна на могільнік, і над'ехаў раненька, калі яна толькі выбіралася з вёдрамі па ваду.

— А! Добры дзень, красуня!

— Добры дзень!

— Што гэта? Вы самі сабе носіце ваду?

— А хто ж мне павінен насіць і навошта, калі я сама здужаю?

— Э! Бо мне шкада тваіх белых ручак, Марыся, бо сапраўды,— сказаў, прыбліжаючыся,— не мужыцкія ў вас рукі!

— А што ж тады я імі рабіла б? — адказала, смеючыся, цыганачка.— Вядома, што я не тая паня, пра

якую кажуць, што цэлы дзень сядзіць склаўшы рукі. Ды я ж памерла б з нуды!

— Якая ж будзе з цябе гаспадыня! — сказаў спакуснік-ліслівец, штораз падсоўваючыся да яе.

— Чаму вы кажаце «будзе»? — адазвалася сірата.— Ці ж я цяпер не гаспадыня? А хто ж у мяне ў хаце гаспадарыць, калі не я?

— Чуў я, чуў. Дык жа тут у вёсцы не могуць надзівіцца з вашай работы і ахвоты.

— Але, калі б я вось так стаяла пасярод дарогі і штодня гутарыла з хлопцамі, як сягоння з вамі, знаю, як ішла б гаспадарка! Сонца высока, пара мне да крыніцы...

— Дык і я з вамі,— адазваўся Томка, пакідаючы каня, чапляючы яго спехам да калка,— і я з вамі...

Марыся не асмелілася яму нічога сказаць, узяла вядро і падалася наперад, за ёй пайшоў Сіротка, а за Сіроткам Томка. Але калі хацеў яе дагнаць і прыблізіцца да дзяўчыны, сабака, чуткі вартаўнік, спыняўся, паказваў яму зубы і не дапускаў.

— А добрага маеце вартаўніка,— сказаў з'едліва хлопец.— Можа, яшчэ і кусаецца?

— Часам,— паціху смеючыся, адказала Марыся,— але абы да мяне не падступацца, дык нічога не зробіць.

Томка зменшыў крокі, пачаў падспеўваць і, заходзячы збоку, зраўняўшыся з дзяўчынай, аднак у прыстойнай да яе адлегласці, завязаў гутарку.

— Чаму гэта вы ніколі не прыходзіце ў карчму на танцы?

— Не маю часу.

— А ў нядзелю?

— Трэба ж зварыць есці, накарміць курэй, гусей, галубоў, хату спарадкаваць, адпачыць.

— І не нудна вам тут на адлюддзі?

— Не... нудзіцца таксама няма часу.

«Трыста чарцей! — сказаў у думках Томка.— Адкуль яна навучылася так прыгожа гаварыць?»

— Праўда,— дадаў,— што дзіўнае з вас стварэнне. Іншая прапала б з нуды, а вы цудам даяце сабе рады.

— Не цудам, паніч, а божай ласкай.

І Марыся ўздыхнула.

Тым часам Томка паядаў яе вачыма. Гэта першы раз ён быў з ёй так доўга і мог зблізку да яе прыглядзецца, і яна выдавала яму штораз прывабнейшай, параўноўваў яе з усімі, якіх дагэтуль бачыў, нават з чарнабровай Петранеляй-гардэробшчыцай [redacted] суседняга двара і мусіў прызнаць, што пры Марысі пагасала нават тая белая, румяная і свежая прыдворніца.

Адзіноцтва вызначаецца тым, што калі не псуе чалавека, дык дзіўна, асабліва выдатнейшым натурам, надае высакароднасць, а чыстата душы павінна пераліцца ў рысы твару, у кожны рух, у позірк, гук голасу, сказаў бы, у колеры і формы, якія адкрываюцца свету. Дзівіўся Томка, што сірата мела для яго такую чароўнасць і прывабнасць, пашану, прынаду, якіх ніколі раней не адчуваў. Яго настырная думка, прызвычаеная лёгкімі перамогамі да нахабства, кідалася на сірату, але калі падымаў на яе вочы, адчуваў нейкую невыказную няёмкасць і баяўся сказаць якую-небудзь непрыстойнасць. Яе позірк непакоіў яго, бянтэжыў, і ён не ведаў, што гаварыць, хоць звычайна валодаў языком вельмі спрытна, словам, пры Марысі адчуваў сябе быццам звязаным.

«Вот ліха! — казаў сам сабе.— Ці ж я тут з гэтым куранём не дайду да ладу? Дык жа быць не можа! Хто яна такая? Прынцэса зачараваная? Тфу! Цыганка, сірата, прыблуда! А так зручна было б тут да яе заляцацца: хата на бязлюддзі, навокал ні жывой душы, толькі нас двое, прыязджай, калі задумаў, ніхто не ўбачыць, ніхто не аблае, нікому не трэба кланяцца».

Гэтак думаў, ідучы побач [redacted] дзяўчынай аж да студ-

ні, і штораз пазіраў на яе скоса, а калі хацеў прыблізіцца, Сіротка бурчаў. Ляснік мог бы адагнаць яго арапнікам, аднак лічыў за лепшае трохі адступіць. Так дайшлі да крыніцы пад гарой.

Гэта крыніца была такая, якую вы, напэўна, не раз у жыцці бачылі: студзенька — не студзенька, крынічка, якая прасочвалася з-пад глiністага абрыву на белай крэйдавай скале, абстаўленая старым спарахнелым пнём. Вакол яго сачылася вада, сцякаючы ў стаў дробнымі вужакаватымі струменьчыкамі, праз якія, каб не кладкі, каменьчыкі і цэглы, цяжка было б перайсці.

На пяньку ляжаў драўляны крук апускаць вядро, хоць сюды няшмат хто прыходзіў, бо крынічка была далёка ад вёскі, аднак дасціпнейшыя гаспадыні прыбягалі сюды аж з-за грэблі, бо вада тут была выдатная. Навокал, направа і налева па баках узгорка разрасталіся кусты цярноўніку, каліны, дробнай ляшчыны і бэзу, напаўняючы паветра міндальным пахам. Вышэй сярод гэтай дробязі выносілася старая абламаная чарэшня, абуджаючы жаль сваім выкрыўленым ствалом, штогод паараным новымі рубцамі.

Месца было пустое і прыгожае. Наводдаль віднеўся стаў, за ім былі грэбля, млыны і частка вёскі як на далоні...

Томка хацеў памагчы дзяўчыне зачэрпнуць вады, але пакуль да гэтага па-шляхоцку падрыхтаваўся, ужо Марыся прабегла па знаёмых кладках, схапіла крук, апусціла вядро і, смеючыся, паставіла поўнае, а потым хутка зрабіла тое самае і з другім.

Сіротка, карыстаючыся выпадкам, напіўся са струменьчыка вады, папільнаваў, пакуль Марыся дастала вады, і зноў, паважна вартуючы, пайшоў дахаты. Томка, які меў пэўную надзею, што каля студні што-небудзь абарве, хоць бы крадзены пацалунак, ад якога пачынаюцца вясковыя заляцанкі, вярнуўся ні з чым і ў благім настроі, злы на сабаку і на дзяўчыну. Было

яму смешна, і не мог сам сабе вытлумачыць, чаго схадзіў уніз. Па дарозе толькі размаўлялі. Але замест таго, каб яму набіраць адвагі, а Марысі яе траціць, дык ён штораз больш адчуваў сябе нясмелым, а яна станавілася весялейшай і адважнейшай.

«Га! — падумаў Томка.— Пайду за ёй да хаты, а там убачым».

Але дзяўчына паставіла ў дзвярах вядро і села на прызбе. Томка зноў праклінаў яе палітыку, якой не прадбачыў. І ўсё ж сеў ля яе. Што ж, калі як знарок Сіротка ўмясціўся паміж імі на варту, штохвіліны паказваючы яму, абы паварушыўся, вострыя зубы.

Праз нейкі час, пераканаўшыся, што нічога не здабудзе, злы і загневаны Томка, хоць быццам і жартаваў, падняўся, прысягаючы ў душы, што больш сюды не вернецца, і паскакаў у двор.

Яшчэ не паспела Марыся адысці са свайго месца, як перад ёй з'явілася задуменная і маўклівая Саладуха. Сірата радасна кінулася да яе, так ёй было пільна адкрыць сэрца і пагаварыць пра свежыя падзеі, на вока невялічкія, але значныя ў жыцці дзяўчыны, якая адчувала, што лёс яе важыцца на шалях першага ў жыцці рашучага кроку.

— О, матуля, матуля! — выкрыкнула, кінуўшыся да яе, Марыся.— Якая ж я радая, што вы да мяне прыйшлі! Гэта страх, колькі я маю да вас пільных спраў... аж ужо хацела бегчы!

— Пэўне, гэты шалапут, што толькі што адсюль паехаў, задурыў табе галаву... Ну прызнайся! — адазвалася, усміхаючыся, Саладуха.

— Э, не! — цярэбячы канец фартуха, адказала дзяўчына.— Але што з ім рабіць, калі так да мяне прывязаўся?

Баба круціла галавой.

— І як жа табе здаецца? — запытала, відаць, выпрабоўваючы.

— Шчыра сказаць, матуля?

— А шчыра!

І старая цікава ўляпіла вочы ў сірату.

— Ну дык так! — сказала смела Марыся.— Ажаніцца ён не ажэніцца, бо і добры гаспадар не захацеў бы мець нявесткі-сіраты, якой няма каму справіць вяселля, ані нават даць ручнікоў. А што гаварыць пра буднічука, ганарыстага сына такога багатага бацькі, як Хваінскі! Пакруціцца, пакруціцца, пакіне, і толькі жаль у сэрцы застанецца. Навошта дарма куміцца, калі хрэсьбін не будзе?

Саладуха неяк дзіўна засмяялася з прастадушнага расказу дзяўчыны.

— Няблага,— сказала,— няблага. Ужо ён у нас досыць дзевак набаламуціў. Пара, каб яго таксама катора прытрымала... А ці спадабаўся ён табе? — запытала падазрона і хітра баба, паглядаючы спадылба.

Марыся апусціла вочы і зачырванелася.

— А чаму ж не мог бы спадабацца? — шапнула.— Хлопец нічога і такі паніч! Але тым больш ён не для мяне!

І ўздыхнула.

— Э, гавары здарова! Абы розум, дык не такія рэчы дзеюцца на свеце. А хоць бы сын Хваінскага і ажаніўся з цыганскай дачкой, дык што ж там было б за дзіва, калі нават паны ці раз жэняцца з такімі флёндрамі, што і пальца твайго не варты! Толькі ўмей падаражыцца сабой, дык завядзеш яго куды захочаш.

Сказаўшы гэта, хвіліну маўчала.

— Ага,— дадала, нібы надумаўшыся,— калі гэтыя заляцанкі пачаліся, дык ці не лепш было б табе цяпер на нейкі час схавацца ў нашай хаце? Было б бяспечней... Эй, было б бяспечней! А асабліва калі і гэтыя прыблуды зноў сюды прывалакліся...— дадала цішэй.

— Хто? — запытала Марыся.

— Ну, хіба ж не ведаеш, што тая цыганская хеўра, з якой быў твой бацька, зноў, чую, прыблукала ў вёску?

На гэтыя словы дзяўчына раптам ускочыла з лавы, як перайначаная, яна збляднела, спалохалася, задрыжала. Заламала рукі і не магла вымавіць ні слова.

Старая не разумела, што з ёй сталася, бо не магла зразумець пачуццяў дзяўчыны. А сіраце, сіраце напамін пра нейкіх далёкіх сваякоў, якія ад яе не адмовяцца, якія могуць яе прыгарнуць, ударыў у сэрца дзіўным уражаннем... Апроч маці, не мела яна нікога, хто мог бы яе прытуліць, палюбіць і прызнацца да яе.

Саладуха палічыла страхам тое, што было толькі моцным пачуццём, парывам сэрца... О, сям'я, гэта чарадзейнае слова! Колькі радасцяў і ўцех, колькі вузлоў, што вяжуць нас з усім грамадствам, у ім захавана!.. Гэта як быццам звяно вялікага цэлага ланцуга, ад якога адарваўшыся, блукаем, не ведаючы, што зрабіць з жыццём. Хто ніколі не меў сям'і, хто не адчуў салодкіх абдымкаў брата, бацькі, сваяка, як жа марыць аб іх, як горача іх жадае!

— Што з табой, дзяўчына? — запытала праз хвіліну Саладуха.— Ці ты іх так баішся? Ну, пайшлі са мной, я цябе перахаваю, няма чаго баяцца.

— Я? Баяцца? А чаго ж мне сваіх баяцца? — адазвалася дзяўчына.— Гэта ж мае! Гэта ж мае!

Саладуха абурылася.

— Якія яны твае! Плюнь на прывід! Паганцы! Нехрысці! Маці твая была хрысціянкай, а бацька павесіўся, не захацеўшы быць тваім бацькам. Чым жа яны могуць быць тваімі?

— Браты бацькі! — енкнула дзяўчына.

— Што так яго каталі, аж мусіў ад іх уцякаць.

— Ці ж лепшымі былі браты маці? — запытала Марыся.

Саладуха скрывілася.

— А ведаеш ты, што гэта за люд? — запытала горача.— Маці табе, напэўна, пра гэта не расказвала, а чужыя не пасмелі. Увесь божы свет уцякае ад іх, як ад пошасці: злодзеі, забойцы, чараўнікі і горш, яшчэ горш — паганцы, нехрысці!

Марыся задрыжала.

— А ці праўда ж гэта? — запытала, напалоханая.

— Як мне бог мілы! Даведайся ад людзей, ідзі з вёскі ў вёску, ніхто табе іншага не скажа, гэта граза акругі. А калі б гэта было што добрае, дык ці ж валачыліся б так па свеце, не могучы нідзе сагрэць месца? Ім гэтага і трэба,— дадала старая,— як толькі даведаюцца, што тут жыве дачка іхняга брата цыгана, ды сірата, ды зусім адна, а яшчэ і маладая і прыгожая, дык злятуцца і гатовы гвалтам захапіць цябе з сабой. Гэтыя латругі гандлююць і сваёй крывёю і чужой... Як быццам людзі не помняць, як іхняя дзеўка нашага пана баламуціла!

Марыся слухала, дрыжала і не ведала, што рабіць. Агарнуў яе нейкі страх, шкада было пакінуць хату, а сэрца і цікавасць цягнулі да цыганоў...

У галаве ўсё змяшалася, заламала рукі, глянула на магілу маці.

— Ну, дык што думаеш?

— Але бо гэта, бачыце...— адказала дзяўчо, стараючыся сабраць думкі,— што ж я зраблю з гаспадаркай? Вы думаеце, што мне толькі сабраць манаткі і калком падперці дзверы? А я ж маю гусей, галубоў, і сабаку, і ката, якіх не пакіну, бо яны паздыхалі б з голаду. Вы ж гэтага не забераце.

— Дык лепей табе гінуць?

— Знаеце што? — падыходзячы, сказала дзяўчына.— Цыганы тут доўга не будуць, калі такая іх доля валачыцца па свеце. Томка таксама доўга дакучаць мне не будзе. А каб вы пажылі ў мяне з які тыдзень?

— Дык мой Ратаішча памёр бы з голаду, а я са

страху, начуючы тут пад могільнікам! — адказала, ускочыўшы, старая.

— Ратай цяпер ходзіць з кірмашу на кірмаш, бо пачаліся валовыя таргі і фэсты ў акрузе... Ну а могільнік, бачыце, што мне не пашкодзіў, дык і вам пры мне нічога б не сталася.

Старая задумалася.

— Вот, падумаю,— сказала ўстаючы,— калі старога не будзе ў хаце, дык прыйду і пасяджу.

Марыся пацалавала ёй руку, і на тым яны разышліся.

За вёскай на пустцы сапраўды ад учарашняга дня размясцілася група цыганоў, тая самая, якая была ў Ставісках больш за дзесяць гадоў таму назад, калі ёсць нешта на свеце, што праз гэтулькі гадоў магло б назвацца тым самым.

Тая самая была і не тая!

Апрашавы дзеці павырасталі, Апраш, хоць моцны, як дуб, сагнуўся ад працы, цяжкасцяў і ўзросту, а Аза, тая цудоўная Аза была ўжо не той, што некалі! Усё ж мусіла стаць жонкай цыгана і цяпер панавала над ім і над усёй грамадой. У меру таго, як ён старэў, яна набірала сілы і волі. Ад яе знаку дрыжаў стары каваль, хаваліся яго дзеці, якіх яна не раз сцябала ўласнай рукой, і грамада слухала яе, як валадара. Пасля доўгага вандравання па свеце, нідзе не сагрэўшы кута, зноў прыблукала ў тое сяло, у памяці якога так крывава запісалася першае іхняе з'яўленне. Хто ведае, можа, гэта дзікая жанчына захацела наведаць чыю магілу і аплакаць памяць маладосці?

А калі паказалася ім з узгорка знаёмая аколіца з зялёнай магілай, з ясным ставам і лугам, на якім ужо двойчы спыняўся іх абоз, у вачах у Азы бліснуў нейкі страшэнны агонь, і яе сінія вусны сцяліся.

Аза не была ўжо той зграбнай, чароўнай цыганскай дзяўчынай, вока якой паліла кожнага, на каго ўпала, зніклі яе даўнейшая свежасць і прынадная рэзвасць маладосці. А ўсё ж і пасля доўгіх год бадзяння, галечы, пакут была яшчэ прыгожай і прыцягвала на сябе вочы. Захавала свой даўнейшы стан і форму, вочы яе сталі яшчэ большыя, не ведаю, ці ад вылітых слёз, ці ад строгай роспачы, якая праз іх глядзела. Зацісну-тыя вусны, калі растуляліся, дык яшчэ свяцілі белымі зубамі, а чорны волас не зляцеў са скроні, як асенні ліст... Нягледзячы на смутак, які яе з'ядаў, цыганка інстынктыўна захавала нейкае жаданне прадаўжэння маладосці і захавання грацыі: сведчыла аб гэтым яе адзенне. Тады, калі іншыя ў яе веку былі ўжо завялыя, шэрыя, абыякавыя, абы-як атуленыя радзюжкай, яна шукала ў вопратцы колеру і формы і апраналася, як каралева.

Толькі твар яе прымаў з кожным годам дзічэйшы і суровейшы выраз, вусны выкрыўляліся больш пагарджальна і больш палымяным папрокам глядзелі на свет вочы. Яна як быццам хацела ўсім помсціць за свае пакуты і да тых, што яе акружалі, была няўмольнай і гнеўнай. А Апраш, які шалеў і гінуў за сваёй *эгашы*, рабіў тое, чаго яна хацела.

Ужо ў першую ноч пасля прыходу ў Ставіскі Аза раптам знікла з табара. Апраш схапіўся за свае сівыя валасы і памчаўся ў двор, але вярнуўся ні з чым, бо і нагі яе там не было. Здагадаўся, дзе была, але не ваяваць жа жывому з мёртвымі ў сэрцы жанчыны.

Аза, нямая, задуменная, страшная, як прывід, выкліканы з труны, сапраўды прасядзела ўсю ноч на магіле Тумрага. Толькі сэрцам, ні ў кога не пытаючыся, знайшла зялёны ўзгорак, які хаваў у сабе цела яе каханага, бо за гады магіла апала і так зарасла пустазеллем, што зусім не было яе відаць. У цемры, калечачы рукі, абрывала запальчывая цыганка з магілы сама-

губца быллё і кусты, а як раніца застала яе лежачы на зямлі, курганок быў цалкам ачышчаны.

Блiснуў ясны дзень, і разам з ноччу ўцяклі думы і жальбы. Цыганка ўстала, схапіла з дзікім смехам жменю зямлі з магілы, укінула яе сабе на грудзі за кашулю і пабегла ў двор.

У дварэ хацела ўбачыць пана Адама, другога каханка, каб, магчыма, кпінамі астудзіць свой жаль. Была гэта хвіліна, у якой адвернуты грэшнік выязджаў на маленькай брычцы ў недалёкі касцёлак на імшу... У гэты дзень фурман запазніўся і атрымоўваў за гэта ў стайні адпаведную порцыю розгаў, а пан Адам з малітоўнікам і ружанцам чакаў на ганку, каб пасля бацькоўскага напаміну прыехаў па яго той хлопец... І вось з'явілася Аза, але не настолькі змененая, як ён. Пан пазнаў яе адразу і з крыкам канвульсіўным рухам закрыў рукамі твар, а цыганка рассмяялася, толькі па гэтым руху і па голасе пазнаўшы вялага юнака, што зрабіўся адрахлелым дзедам.

— Гляньце! Дык гэта ж ён! — загаманіла.— А як жа ты маешся? Ха! ха! ха! А што з цябе зрабілася?

— Ідзі прэч, ідзі прэч, распусніца! — закрычаў пан Адам, увесь час закрываючы вочы.— Прэч, сатана, бо загадаю адсцябаць цябе розгамі і выгнаць з вёскі!

— А! Ветліва мяне прымаеш! — засмяялася цыганка.— А ты толькі паглядзі, я яшчэ сапраўды не такая старая і брыдкая, як ты, здыхляк! Не далей як тыдзень таму два малакасосы лятали за мной, што ажно кіем прыйшлося іх адганяць! Знімі з вачэй *ангушці* (пальцы), зірні... пераканаешся, што не лгу.

Але пан Адам не слухаў гэтых слоў і, спалоханы, уцёк у свае пакоі.

Аза паглядзела, плюнула, адвярнулася і пайшла проста да Тумравай хаты.

Па дарозе спаткала людзей, запыніла нейкую дзяўчыну і даведалася ад яе пра дачку Тумрага. З агнём у вачах выслухала апавяданне і пайшла ў задуменні ў бок могільніка. Паважная і сумная набліжалася да хаты і раптам, калі з-пад вярбы на магіле забрахаў на яе сабака, здзіўленая спынілася.

Сіротка, як і ўсе асвоеныя стварэнні, якія нас акружаюць, прывык ужо да нейкіх твараў, вопратак і фігур, да свойскага паху селяніна, дык спалохаўся цыганкі з накінутай на плячо каляровай *уракгай* (рагдзюжкай), ад якой даляцеў да яго дым цыганскага вогнішча і палаткі. Брахаў не як, бывала, звычайна здалёк, абапёршыся на дрэва, а выскачыў на зялёны вал і ўзняў заядлы злосны брэх.

Цыганка спынілася, разглядаючыся, і ў тую хвіліну заўважыла ўзнятую галаву Марысі, якую адразу пазнала, не пытаючыся. Было штосьці ў рысах яе твару такое, што выяўляла яе паходжанне, штосьці, што напаміналa Тумрага, і [redacted] грудзей Азы выплыў замглёны ўспамін каханага, стаўшы перад яе вачыма ў асобе яго дзіцяці. Сэрца яе білася гневам на ўвесь свет, які адабраў ад яе любага, і з жаданнем помсты на людзей гарачая сляза пацякла [redacted] яе чорнага вока.

— А, *бынкі*,— лаялася ціха,— гэта яна! Гэта яго дачка! Тумрага *ціай*! Якая прыгожая! Якая прыгожая! Я нават ніколі такой не была! І пайшло яно на сіроцтва паміж *гадзяў*, на здзекі і галечу, у няволю, прыкаванае да мізэрнай *кгэры* (хаты)!

Аза стаяла, мармычучы гэтыя словы, і ўсё глядзела на Марысю, якая са страхам таксама ўглядалася ў дзіўную яе постаць, поўную нейкага грознага і дзікага хараства. І яна адгадала ў ёй цыганку, можа, сваячку, і сэрца яе пачало біцца нейкім незразумелым пачуццём боязі і любові.

Тым часам Сіротка то саскоцваў з насыпу, то ўскокваў на яго і брахаў, ажно грыз зямлю.

— Дзяўчына, *раклёра!* — адазвалася Аза.— Пакліч свайго сабаку! Я хачу падысці да цябе і пагаварыць з табой.

Марыся адазвалася да Сіроткі, але ён толькі павіляў хвастом, закруціўся і брахаў далей.

Цыганка гэтым часам наблізілася да могільніка, прайшла праз брамку і спынілася каля Марысі. Яе зрок затапіўся ў рысах, на якіх чытала сваё мінулае... Села блізка, не звяртаючы ўвагі на сабаку, узняла вочы і, маўклівая, панурая, заплаканая, глядзела, не магла наглядзецца на сірату. Позірк яе апякаў Марысю... Пасля доўгай хвіліны яна запытала лагодным голасам:

— Чаго вы так да мяне прыглядаецеся, добрая жанчына?

Аза горка засмяялася.

— О, я не *лаціо эгашы* (добрая жанчына), о не, не! Але я знала твайго бацьку Тумрага і гляджу на яго дзіця... А па тым плачу...

— І маці маю вы зналі?

Аза нічога не адказала.

— Даўно твая маці ўмерла? — адазвалася жыва пасля маўчання.

— О, ужо некалькі гадоў таму,— заплаканым голасам адказала Марыся.— А вось... яе зялёная магіла.

І паказала ўзгорачак, пры якім абедзве сядзелі.

Аза з гідлівасцю адсунулася ад яго, не хаваючы пачуцця, якое яе страсянула.

— А хто ж быў табе за маці, за бацьку? — запытала.

— Адзін бог! — адказала сірата.

— А людзі?

— Мне не вельмі былі патрэбныя людзі.

— І жыла ты так... адна?

— Як бачыце, у гэтай ляпянцы адна-адзінюсенькая.

— А хто ж цябе карміў? — здзіўлена дапытвалася Аза.

— Дзве мае рукі, божая апека і малітвы маці...

— І ніхто не злітаваўся, ніхто не памог?

— Ды не, я не жалюся, не! — жыва перапыніла яе Марыся.— Толькі мне не была патрэбная дапамога, і я не прасіла літасці, навучылася сама сабе даваць рады. А так было двое добрых людзей, якія мяне сцераглі і сцерагуць, што памагалі хлебам, сэрцам і словам... О, ды і больш чым двое!

— Хто ж гэта такія? — перапыніла цікаўна цыганка.

— Старая Саладуха, жонка жабрака, і стары Ратай, яе муж.

— Так! Цыганская доля злітавалася над цыганскім дзіцём,— шапнула Аза і задумалася.— Але хопіць ужо такога жыцця! — прамовіла праз хвіліну, уставіўшы вочы ў сірату.— Ты дзіця *ромаў*, пара табе пакінуць *гадзіаў* і ісці з намі. Ты прыгожая і маладая, у нас табе будзе лепш. Што гэта за жыццё? Жыццё *шукелі* (сабакі), жыццё *зыцая* (ката), якіх дурная прывычка прыкоўвае да хаты, да парога, да кута і змяняе ў камень. Штодня тое самае перад вачыма, штодня тое ж жыццё, тая самая галеча і праца. Пойдзеш з намі і ўбачыш, як свет засмяецца дачцэ Тумрага, крыві *ромаў*. Тут на цябе глядзяць як на чужую і брыдзяцца табой, а з намі будзеш валадарыць, будзеш *рані* (пані), як я!

І ўстала, патрасаючы рукой у далеч...

— Які свет шырокі, якая *пфуф* (зямля) вялікая, усё гэта наша валадарства. Як глянуць — айчына, ніхто не вызначаў ёй граніц! Кепска тут — запрагуць коней і далей, пад цяплейшае неба за горы, у Венгрыю, вунь, вунь, аж на сіняе мора, у горад, які плавае ў вадзе! А ідучы пяём, бо не маем часу сумаваць, бо ў вачах штораз нешта новае! Убачыш, *раклёра*, убачыш!

Кінь толькі хату, плюнь на гэту *гадзеўскую* кудзелю, вазьмі на плечы *ўракгу* і — з намі, з тваімі братамі...

Гэтыя словы, вымаўленыя жыва, горача, хоць на ламанай мове, поўныя агню і пачуцця, дзіўна падзейнічалі на сірату, прызвычаеную да простай халоднай сялянскай мовы. Адазваліся ў ёй заснулая, можа, цыганская кроў і вандроўны інстынкт. Сэрца яе задрыжала, але вусны не маглі адкрыцца. А Аза гаварыла, і лунала, нібы спяваючы якую песню, выстаўляючы бадзяжніцтва раем, а галечу, якая іх ела, раскошай... А на яе вуснах блукала чужая страшная ўсмешка.

Вось закончыла сваю прамову, а Марыся ўсё яшчэ слухала, бо гэты малюнак няведамага жыцця спакушаў яе, як бездань,— і баялася яго і жадала.

— Добрая жанчына,— адазвалася, падымаючы вочы, якія наткнуліся і на зялёную магілу і на старую матчыну хату,— а не мне ісці з вамі. Я ўжо не цыганка, не, не! Бацькі я не знала, ссала грудзі маці маёй, з яе і прывязанасць да кута і страхі... А вось магіла беднай маці, а вось бацькава праца! Вось сцежкі, па якіх я бегала ў дзяцінстве, а вось і мае сябры...— дадала, паказваючы курэй, сабаку і статак галубоў, які ўзвіўся над могільнікам.— Што ж бы я з вамі рабіла? Што вы са мной? — гаварыла далей.— Я вас, вы мяне б не разумелі, і ў першы дзень пасля таго, як знікла б з вачэй гэта хата і магіла, я памерла б з тугі па іх. Навошта мне свет? Альбо ж цікавяць мяне шырокая зямля і сіняе мора? Дзе каго доля пасадзіла, там яму жыць і паміраць! Чым лепш вам, што вашы косці ляжаць параскіданыя па свеце, а сэрца не мае дзе, не мае да каго прытуліцца?

— Ну дык гнії ж тут, *гадзява цяй*! — крыкнула гнеўна цыганка.— Хочаш быць каменем, дык будзь сабе ім! Дурнога не шнур вяжа, а яго воля. Ён і скавыча, як сабака на ланцугу, і адарвацца не можа, не

мае сілы... Я памылілася, няма ўжо ў табе цыганскай крыві.

Гаворачы гэта, устала абураная, але калі зноў глянула на Марысін засумаваны твар, на тыя рысы, якія ёй ува ўсім росквіце маладосці напаміналі Тумрага, змякчэла і затрымалася, змяняючы голас, які зноў хацеў выбухнуць новымі праклёнамі.

— А што твая за доля? — запытала.— Вот праседзіш маладосць на магіле! Каму ты будзеш патрэбная? Хто цябе прытуліць? Змарнуеш сваю маладосць, прадасіся за хлеб і, можа, за страх, а пасля пойдзеш з кіем жабраваць, зарабляць абра́зы і кпіны. Шчаняты твайго сабакі будуць абрываць твае ногі!

— Няхай і так будзе! — адказала Марыся.— А ці ж жыццё такое доўгае?

— Шкада мне цябе, дзяўчына, бо не створана ты на здзекі,— дадала Аза.— О-о, як бы я цябе ўбрала па свойму і навучыла скакаць і спяваць! Паны шалелі б за табой, грошы сыпаліся б градам... Хто знае?! Цыганкі часам ходзяць у золаце і жменямі золата раскідаюць.

Гэтых спакуслівых слоў дзяўчына нават не зразумела, бо расплакалася, успомніўшы, што маці марыла бачыць яе прыгожа ўбранай.

— Эй, дарма ўсё гэта,— шапнула ціха,— сваёй долі не пераробіш, лёсу нанава не ператчэш. Чалавек, як нітка, якую бог прадзе, з грубой на тонкую людзі выпрадуць, але з тонкай грубой не зробяць. Нашто ж мне лятаць за лепшым, калі яго для мяне на свеце няма?

І ў гэтай хвіліне румянец, як кроў, загарэўся на твары ў дзяўчыны, бо пачула тупат сівога коніка і падумала, што калі Томка ўбачыць яе з цыганкай, дык і глядзець на яе не захоча.

Аза заўважыла Марысін неспакой, адвярнулася і ўбачыла юнака, які неспакойным вокам вышукваў сірату, і ўсё адгадала.

Томка бачыў пралятаючы, што яна была не адна, дык нават не затрымаўся, толькі з усмешкай азірнуўся і паляцеў у вёску.

— Га, цяпер я разумею,— сказала, смеючыся, Аза,— дзеля гэтага белавалосага не хочацца табе ад хаты і магілы... Зарана, дзевачка, зарана! Каб ты была з намі, дык палюбіла б каго захацела, адыходзячы пакінула б, і ніхто б не ведаў, што прайшло табе праз сэрца. А тут! Тут прыйдзецца табе марна згінуць, не пакаштаваўшы жыцця! Адзін цябе збаламуціць, а ўсе пальцамі тыцкаць будуць! Ты думаеш, што гэты малакасос ажэніцца з табой? О, ці гэта яму ў галаве?! Даволі глянуць на яго, каб цябе пашкадаваць,— гадзіна весялосці і плач на ўсё жыццё. Датуль ён сюды ездзіць, пакуль не ўбачыць першай слязы. А потым, бывай здарова! Нават просты мужык цябе не возьме, бо і яму захочацца чырвонага пояса і на вяселлі пляшкі, абвязанай чырвонай стужкай... Думаеш, людзі любяць? А, дурная, дурная! Сабакі — дык яшчэ, але людзі!..

Страсянула галавой, пачакала адказу і зрабіла выгляд, што адыходзіць. Марыся маўчала, а ў яе вачах круціліся слёзы.

— Не пойдзеш з намі? — запытала Аза.

— Не, не! — адказала сірата.— Няхай споўніцца доля, не ўцяку я ад яе.

— Дык гніі ж, гніі! — адказала цыганка гнеўна.— На долю чалавек мае волю... але дурному не ўталкуеш!

І высунулася з могільніка, але аглядаючыся і спыняючыся, вагаючыся, як быццам яе што цягнула назад. А Сіротка правёў цыганку брэхам і выццём ажно за гару.

Калі ў чалавеку будзіцца гарачае пачуццё, усё тое, што павінна спыняць яго ход, яшчэ мацней распальвае. У гэтым ёсць штосьці незразумелае. Змагаемся

самі з сабой, пакутуем, а з болю і барацьбы карыстаецца вораг. Трэба прызнаць, што перашкоды маюць у сабе пабуджальную сілу, якой не мае поспех. Гэту заўвагу — не смейцеся, чытачы,— робім з прычыны прыхільнасці Томкі Хваінскага да цыгановай дачкі. Альбо ж Томка не такі чалавек, як і мы ўсе? Ці ж не таму самаму падпарадкоўваецца закону, што і браты яго па Адаму ў слабасці і падзенні?

Томка, як і ўся збяднелая, але трохі багацейшая шляхта, нягледзячы на сваё сціплае леснікоўства і будку, у якой жылі яго бацькі, быў ганарысты, як быццам помніў яшчэ прыказку: «Хто ў шляхоцкім родзе, той роўны ваяводзе».

Першы яго крок да Марысі быў кіраваны толькі легкадумным намерам звесці бедную дзяўчыну. Наблізіўся, пазнаў, прыгледзеўся і зразумеў, што гэта будзе цяжэй, чым яму здавалася. І вось калі вырашыў спыніць дурныя заляцанні, было ўжо запозна: адчуў, што без гэтага прыгожанькага стварэння, з вачэй якога напіўся райскіх надзеяў, жыць не зможа.

Сабе гэтага хлопец не казаў, пасміхваўся з сумавання свайго сэрца, але рады на яго не было. Куды б ні паехаў, бог ведае якой кружыў дарогай, ды мусіў прасунуцца каля ляпянкі. У той дзень, калі не ўдалося ўбачыць дзяўчыны, сумаваў і аж шалеў. У канцы зразумеў, што гэта не жарты, дык спахмурнеў і задумаўся.

«Чараўніца, ці што? — казаў сам сабе.— Не першыня ж мне кахацца, а такой дакукі, як цяпер, ніколі не меў. Вось ліха надало: прыгожае, голае, а ганарыстае, што не падступіцца. Ой, цыганка, цыганка! Дала ты мне нейкага ліха ў той вадзе, якой я тады на сваю бяду напіўся».

Так думаў Томка і не мог сабе даць рады. Ужо прыняў рашэнне, што будзе, тое будзе, фармальна пачаць да яе заляцацца, хоць бы прыйшлося канчаткова стра-

ціць галаву, ды праязджаючы каля хаты якраз як там была Аза, так абурыўся адносінамі Марысі з гэтай бадзяжнай хеўрай, што вырашыў з гэтага часу на дзяўчыну нават не глянуць.

Цэлы дзень лятаў, лаючыся, злуючыся, пагражаючы, таўкучы за свае грахі няшчаснага сівога, і ўсё гэта завяршылася на цыганах, бо прагнаў іх сваім одумам з вёскі так, што яны ледзь паспелі ўскінуць на воз свае манаткі і хутка падаліся ў суседняе сяло.

Томка пакляўся нават сваім шчасцем, хоць гэта не вельмі яго абавязвала, што зусім забудзе Марысю, не загляне ў хату за вёскай і пачне заляцацца да сотнікавай дачкі Гарпіны, дзе, ён быў упэўнены, прымуць яго прыхільна. Аднак усе гэтыя пастановы і рашэнні трымаліся непарушнымі толькі дваццаць чатыры гадзіны.

Нават на працягу іх праехаў раз Томка, праўда, не гасцінцам, а нейкай замагільнай сцежкай, недалёка ад хаты і скоса глянуў у бок Марысі. А назаўтра было яму ўжо вельмі цяжка, дык на лякарства ўпрасіўся да сотніка. Гарпіна была нішто сабе, здаровая, свежая, маладая і надзвычай смелая. Сотнік быў удаўцом, у хаце — толькі старая маўклівая наймічка, словам, залёты ішлі б як па масле, бо паніч дзяўчыне вельмі падабаўся. Аднак у параўнанні з Марысяй сатнічанка выдала такой звычайнай і бессаромнай прасцячкай, вешто, пакруціўшыся каля яе, хоць яго запрашалі на вечарынку, апраўдаўся абавязкам аб'езду лесу і вярнуўся на сваю кватэру.

Сам на сябе злы і пануры, лёг спаць і звечара хутка заснуў. Але той сон, які павінен быў яго вылечыць, наблытаў яму ў галаве такіх сцэн і вобразаў, што наранку ўстаў у горшым настроі, чым быў звечара.

І ў гэты дзень і некалькі наступных круціўся, блукаў як Марка па пекле, і быццам нічога яму не было, але такая прывязалася да яго туга, што ажно пачала выдаваць на хваробу.

Усюды было яму дрэнна, нудна, адзінока, а дзеля таго, што даўнавата не наведваў бацькоў, узяў дазвол у дварэ і паехаў да Будак.

Гэты шляхоцкі пасёлак знаходзіўся недалёка ад Ставіскаў на граніцы паміж Рудняй і вёскай пана Адама і складаўся [redacted] дзесятка хат арандатараў, даўнейшай шляхты, прывезенай сюды калісьці карчаваць лес і выпальваць паташ, якая цяпер ператварылася ў земляробаў і прырасла да кута, у якім гняздзіліся ад прадзеда.

Хаты арандатараў былі раскіданы сярод лесу на гарыстай паляне, якую выкарчоўвалі з кожным годам шырэй. Кожную з іх аддзялялі ад суседняй ладны агарод, поле, вішнёвы сад, невялічкая пасека, старыя грушы, чарэшні, паміж якіх прыгожа выступалі белыя дамкі.

Пры краі паляны на ўзгорку стаяла хата найбагацейшага будніка, пана Хваінскага, які меў каля дваццаці рабочых коней і багатую гаспадарку. Апроч таго, гандлюючы товаламі, то свіньмі, Хваінскі вядомы быў між сваімі, як Крэз. Нядаўна збудаваны з добрага дрэва даволі высокі, [redacted] комінам і з ганачкам на двух слупках, акружаны акуратнымі забудовамі дамок выразна сведчыў, чым быў пампашканнем.

Адам Хваінскі, сівavailableаваты, працавіты і хітры чалавечак, каштаваў хлеба не з адной печы, бываў на возе і пад возам. А таму што ўсё, за што ні браўся, яму ўдавалася, дык штораз прыдумваў нешта новае, каб не гультаяваць і не даваць грашам ляжаць дарма. Браў напалавіну чужыя палі, купляў валоў, карміў свіней, прадаваў масла і сыры ад таго вялікага статка, якім апекавалася пані Адаміха, наймаўся на перавозку драўніны і збожжа і, урэшце, як быццам яму не хапала заняткаў, ездзіў у Канстанцінаў па соль і ў Пінск па рыбу, штогод павялічваючы свой капітал. А калі ўзяць пад увагу, што і пасека пашыралася, бо Адаміха была выдатнай гаспадыняй, і ўдому жылі даволі эка-

номна, дык Хваінскі з кожным днём адчуваў сябе мацней.

Томка быў яго любімым дзіцем, адзіным сынам, трохі нават распешчаным матуляй. Аднак пан Адам не даваў яму лайдачыць і страляць варон. Найперш аддаў яго ў парафіяльную школку, а пасля ў Ставіскі на службу, хоць і лёгкую, каб ён абавязкова што-небудзь рабіў. Паколькі працаваў ён недалёка ад дому, дык з бацькамі бачыўся амаль штотыдня, бо калі не прыязджаў Томка, то пані Адаміха, запрогшы каня ў каламажку, ехала наведаць сына.

Стары быў дома, а маці аж на парог выбегла, калі на двары пачуўся тупат капытоў сівака. Пан Адам выбіраўся ў гэты дзень кудысьці на кірмаш, дык перад хатай стаяў нарыхтаваны воз, а сам ён, калі з'явіўся сын, апранаў шарачковую капоту. Пан Адам, хоць яшчэ трымаўся моцна, быў ужо немалады, воласу меў яшчэ дастаткова, але быў ён ужо сіваваты, тварам быў ён, можа, залішне румяны, але загарэлы, вочкі шэрыя, быстрыя, вусны шырокія, усмешлівыя, а над імі вусы асаблівага фасону. Такую форму выдумаў, пэўне, хтосьці, хто згаліць іх шкадаваў, хоць з вопыту ведаў пра іх нязручнасць і стараўся хітра ад іх вызваліцца. Гэта было штосьці такое, што мела кшталт сівога шнурочка ў аднолькавай адлегласці ад вуснаў, каб не лезла ў страву, і ад носа, каб не запэцкаць табакай, амаль непрыкметная рыска натапыранага і коратка прыстрыжанага воласу, якая дазваляла пахваліцца вусамі, а зімой і летам ні ў чым не перашкаджала. Нязручнасць, напэўна, была там толькі пры галенні, каб пасля тыднёвага ці даўжэйшага адросту трапіць на пазіцыю тых вусоў, але навошта ж вопыт? Галіўся пан Адам заўсёды сам і ніколі вусоў не выкусіў і не даў ім лішне па твары разлягацца.

Ледзь толькі Томка злез з каня, як клапатлівае вока маці і ўважлівы позірк бацькі абхапілі яго ўсяго і

абое заўважылі, што хлопец змізарнеў і тую весялосць, якая заўсёды віднелася на яго твары, страціў. Ён пацалаваў рукі бацькоў і маўкліва памалу, без голасу і без свавольства ўвайшоў у хату.

Бацька не запытаў у яго, што з ім сталася, а маці адразу шапнула на вуха:

— Што гэта, ці не хворы ты, Томак? Ці, можа, што з табой здарылася? Чамусьці ты мізэрна выглядаеш?

— От, так,— сказаў сын,— нешта мне на сэрцы цяжка.

— Ну, ну,— сказаў, прымаючы нюх табакі, стары Хваінскі, які пачуў і пытанне і адказ,— бо замнога дзяўчатамі займаешся... Добра твоя бодня... але не штодня... Ужо была б пара закінуць гэта, а то здароўе страціш або трапіш на якое ліха, што наварыць табе кіслага піва!

Томка, які баяўся і саромеўся бацькі, адклікнуўся адразу:

— Дзе мне, тата, тыя глупствы ў галаве! Хапае работы... Цяжка ўпільнаваць лесу, няма дня, каб не прыходзілася адбіраць сякеры... Пан не жартуе, сам па дарогах квіткі правярае, дыхнуць няма часу.

— Вось і добра гэта, што мусіш працаваць! Вось і добра!

— Аднак жа каб здароўе не пашкодзіў,— дадала маці.

— Пакінь, маці,— перабіў стары.— Праца не пашкодзіць, абы была ў тым праўда, што ён кажа, дык гэта паўбяды. Выспіцца, пад'есць і будзе здароў.

Маці глянула, уздыхнула і замоўкла. Але, прыпомніўшы, што сын, можа, галодны, пабегла ў камору па перакуску. Стары, яшчэ раз глянуўшы збоку на сына, падаўся да рыхтаванага на кірмаш воза, бо звычайна гаварыў: «Справа справе не перашкода». І зараз жа, запрогшы коней, сеў і паехаў; хоць і не хацелася яму расставацца з сынам, але кірмашу пакінуць не мог.

Адаміха была маці свайго адзінага сына, дык як жа было ёй перанесці яго прыкметную перамену, смутак і турботу? Пачала каля яго хадзіць, каб дапытацца праўды.

Томка нічога ад яе не таіў, і хоць маці, можа, залішне яму патурала, затое сэрца яго мела для сябе заўсёды адкрытым. І цяпер няцяжка было ёй дапытацца прычыны яго задуменнасці.

— Вот, ліха да мяне прыблукалася...— сказаў ціха, хаваючы вочы, як злачынец.

— Не інакш як зноў там нейкая праклятая дзеўка! — прамовіла маці.— Гавары ўжо, гавары, каб я ведала, у чым там справа.

— Цяпер дык хіба што горш чым калі,— адказаў Томка. І пачаў спавядацца маці і не скупіўся на словы, бо яны ў яго доўгі час збіраліся. Як пачаў гаварыць, дык не мог закончыць.

Адаміха стаяла, слухала, круціла галавой і, вельмі засумаваная, думала.

— Гм, гм! — сказала праз хвіліну.— Лепш было б, каб ты выбіў сабе гэта з галавы... Цыганка... чорт яе ведае, можа, яна што знае! Пра яе бацькоў дзівы расказвалі, я наслухалася, што аж валасы на галаве становяцца... А той цыганішча ў канцы павесіўся! І трэба было табе туды нос сунуць!

— А! Калі ж яна такая прыгожая, што я другой такой у жыцці не бачыў,— выкрыкнуў Томка,— ды шчырая і сціплая!

— Э! Плюнь ты на гэта! Адкуль маглі ўзяцца ў яе тая шчырасць і сціпласць?.. Відаць, толькі дурыць людзей!.. Эй, Томак, будзь асцярожны, бо дагуляешся! Больш мне на гэту дзяўчыну не глядзі! Мала табе шляхты, дзе кожная пайшла б за цябе! Лепш ужо жаніся, чым маеш так баламуціцца...

Доўга яшчэ так гаварыла пані Адаміха. Сын слухаў яе моўчкі, але было відаць, што гэта гутарка не трап-

ляла ў яго сэрца, і маці зразумела, што не змагла яго пераканаць, бо, паўтараючы адно і тое, ад яго не пачула больш ні слова.

Калі нарэшце ён паехаў сумны і маўклівы, села на лаву і горка расплакалася. Бедная жанчына ўяўляла ўсе магчымыя вынікі сынавага захаплення і дрыжала за сваё дзіця. Ужо хацела забраць яго з леснікоўства і выправіць куды-небудзь далёка, такі ёй быў страх цыганскіх чараў.

Уся заглыбленая ў будучыню, не заўважыла, як пачало змяркацца. У хаце зрабілася цёмна, але вось адчыніліся дзверы, і хрыпаты голас прывітаў яе:

— Добры вечар, пані!

Тады страпянулася, павярнула галаву, але, не могучы пазнаць гасця, запытала:

— А хто там?

— Ой, а гэта ж, бачу, вы мяне, старой служкі, не пазналі? — адказала, хрыпла смеючыся, Саладуха.— Старая Ратаіха са Ставіскаў! Была я тут на будках у Марцініхі, якой бог даў сына... і да пані зайшлася з радзінамі, як да кумы.

Шляхцянка ўскочыла, клікнула служку, і зараз запалілі лучыну. Прыняўшы падарунак і загадаўшы дзеўцы прыправіць крупніку — гарэлкі на мёдзе і карэннях,— запрасіла Адаміха бабу прысесці і сама да яе падышла. На руку былі ёй тыя радзіны і гэта з'яўленне Саладухі, бо, не ведаючы пра блізкія адносіны старой з Марысяй, а добра знаючы лекарку, хацела даведацца ад яе што-небудзь пра цыганку.

Такім чынам спрытна бабу падпаіўшы, пачала выпытваць яе пра тое ды пра сёе.

— Ой,— сказала нарэшце ўздыхаючы,— бяда гэта мая, што мой Томка ў вас у Ставісках. Хлопец малады, ахвочы да дзяўчат, а пра вашых здаўна нядобра гавораць. Усе яны там абы-што, гатовы мне яго разлайдачыць.

— Мая панечка,— адказала старая,— як што мае сапсавацца, дык рабі што хочаш, нічога не паможа. А я так дрэнна пра вашага сына не думаю, ды і дзяўчаты нашы цяпер не такія, як былі, калі маладзейшы пан гуляў і псаваў людзей.

— І цяпер яшчэ знойдзецца там не адна, што захоча майго сына баламуціць... а мо ўжо знайшлася? — запытала з цікавасцю шляхцянка.

— Не ведаю... не ведаю...— адказала, смеючыся, баба.— Ат, звычайна, не да адной усміхнецца, як, напрыклад, да сатнічанкі Гарпіны, ды на гэта ж маладосць.

— А там у вас,— не могучы даўжэй выцерпець, сказала Хваінская,— ёсць нейкая цыганка, якую хваляць, што нібы вельмі прыгожая?

Саладуха ўжо падпіла, яе ўзяла вялікая ахвота гаварыць, дык узарвалася, як апараная.

— Гэта, бачу, вы пра Марысю гаворыце! — перабіла яе.— О! о! Дай нам, божа, усім такіх дзяцей, як удалася гэта дзяўчына! Цыганка не цыганка, а такой другой у вёсцы не знойдзеш. Ці ж вы нічога пра яе не ведаеце?

Маці рада была даведацца як найбольш і, наліўшы Саладусе яшчэ кілішак, стала выпытваць.

Тут і пачала ёй Ратаіха спяваць дзівы пра дзяўчыну, пра яе жыццё, працу, прыгажосць, сумленнасць, вытрымку, якая яна прыгожая, якая добрая і як гэта сам бог памагаў ёй у яе сіроцтве. Старая Адаміха задрыжала, яе наморшчаны лоб спацеў і сэрца парушыў цяжкі неспакой. Заламала рукі, выдаўшы сваю таямніцу.

— Тут няма ўжо што таіць,— сказала.— Мой Томка да смерці ў яе закахаўся. Быў тут у нас вось толькі што... прызнаўся мне, шо шалее за ёй... Што нам рабіць, Саладуха?

Баба маўкліва апусціла галаву.

— Альбо я ведаю! — адказала.

— Жаніцца з цыганкай, з убогай сіратой і да таго ж прыгоннай вашага пана, Хваінскаму і падумаць нельга! — ганарыста зазначыла пані Адаміха.

— Гэта добрая дзяўчына,— спыніла яе Саладуха,— яна яго баламуціць не будзе. Томка выб'е сабе яе з галавы.

— А калі гэта чары? — ціха запытала шляхцянка.

— Якія чары? — сказала, пацепваючы плячыма, Саладуха.— Чорныя вочы, прыгожы тварык, вось і ўсё...

— Але ж мой Томка ашалеў!

— Альбо ж гэта яму першыня?

Пляшка стаяла гатовая, баба схапіла яе пад паху і збіралася адыходзіць. Занепакоеная шляхцянка палезла яшчэ ў шафу па нейкі грош і, уткнуўшы яго бабе, старалася яе задобрыць.

— Паслухайце,— сказала ціха,— а каб вы мне памаглі і наглянулі б там на майго хлопца? Даліпан, я гатова была б даць вам такога гасцінца, якога вы нават і не снілі.

— А што я магу? — адказала Саладуха, адпіхаючы спакусу і хутка пасоўваючыся да дзвярэй.— Будзьце спакойныя, я да Марысі хаджу, вока з іх не спушчу і што змагу, тое зраблю. Нічога благога не станецца! Бог з вамі, няма чаго баяцца.

Хоць баба была ўжо п'янаватая, аднак старалася ўтрымаць язык за зубамі і хутка выйшла з хаты, а апынуўшыся на панадворку, аж схапілася за сваю сівую галаву.

— Цыц! цыц! — сказала сама сабе ціха.— Дык жа тут наклёўваюцца вялікія справы! Я думала, што Томка толькі яе баламуціць і спрабуе ўдачы, а ён сапраўды ўграз! Ну, ну! Можа, бог дасць сіраце шчасце!

А дзеля таго, што ў кожнае, нават самае лепшае, дзеянне трапляе кавалак чортавага хваста, бо сатана

павінен памяшаць ім кожную справу, дык да добрых пажаданняў Марысі прымяшалася ў Саладухі і пачуццё благое, дадаючы, як дрожджы ў цесце, сілы і росту рабоце. Хваінскія былі багатыя, стары надзімаўся і закладваў руку за пояс, а Адаміха ў нядзелю выглядала на паню, у іхняй хаце быў дастатак, дык думка прынізіць іхнюю пыхлівасць уладкаваннем за нявестку сіраты-цыганкі старой Саладусе значна ўсміхнулася.

«Вот паспускалі б насы,— дадала ў думках,— яны, што раілі б сыну ўзяць найменш якую-небудзь дачку аканома ці паненку ■ гардэроба. А тут прыйдзе да іх галюсенькае цыганя, дачка шыбеніка!»

Поўная думак спынілася Ратаіха пасярод дарогі.

«Што б тут зрабіць? — пыталася сама ў сябе, ажыўленая гарэлкай.— Як тут распачаць справу?»

Хвіліну стаяла так, глыбока задумаўшыся, а пасля, напэўна штосьці прыдумаўшы, весела падалася да хаты Марцініхі. Хоць збіралася пабыць тут некалькі дзён, але так пачала непакоіцца за Марысю, што назаўтра раніцай падалася ў Ставіскі пехатой, не чакаючы падводы. Мясцовасць была ёй добра знаёмая, дык пайшла праз лясы сцежкай, якая вяла проста на могільнік.

Падыходзячы да яго, здалёк пазірала, ці не ўбачыць дзяўчыны на магіле. Аднак, хоць дзень быў прыгожы, нікога там не ўбачыла, толькі Томка праляцеў на сіваку ў хмары пылу і мільгануў перад яе вачыма, як страла.

— Ляці, ляці,— сказала, усміхаючыся, баба,— зловім мы цябе, птушачка! Але дзе мая галубка? Дзе Марыся?

І, перайшоўшы праз дарогу, падышла да хаты, дзе пачула брэх сабакі. Дзверы былі замкнёныя, дык пастукала, і праз хвіліну падышла да іх адчыніць Марыся. Старая быстрым, поўным падазрэння вокам змерала спакойную і сумную дзяўчыну.

— А чаму гэта ты ў хаце?

— Вот так,— адказала Марыся,— не хацелася мне пячыся на сонцы...

— Баламуціш! Гавары праўду!

— Гэты ўсё цягаецца і цягаецца,— ціха шапнула Марыся,— раз за разам чапляецца да мяне... мусіла ад яго схавацца.

Саладуха міргнула вачыма.

— І нейкая цыганка ўжо два разы да мяне прыходзіла, усякія дзівы расказвала... Ужо баюся выйсці на могільнік.

— І добра робіш,— сказала Саладуха, сядаючы.— Я са страху, каб з табой чаго благога не здарылася, ляцела да цябе аж з Будак ад Рудні як падсмаленая... Хлопцу нават канца носа не паказвай! Ужо што я знаю, тое знаю!

— А што вы знаеце?

— Ён у цябе да шаленства, на смерць закахаўся,— на вуха асцярожна шапнула баба.— Абы ты мела розум, дык ён возьме цябе замуж.

— Ён? Мяне? — штораз мацней чырванеючы, выкрыкнула Марыся.— Жартуеце хіба з мяне.

— Але ж дзе там! Так яно ёсць. Май розум і не падпускай яго да сябе на гоні, дык будзе так, як я кажу. Ты дурная, а я пажыла на свеце і ведаю: чым больш мужчыне дакучыш, тым мацней цябе палюбіць.

— Гэтага, мацi, я не разумею!

— Разумееш не разумееш, а рабі тое, што я кажу! Убачыш, што выйдзеш за шляхціца і ўся вёска будзе табе зайздросціць. А тады старая Саладуха на вяселлі, узяўшыся ў бокі, усёй вёсцы скажа: «А што? А што? Во як мая цыганка выйшла замуж! Вы не хацелі на яе глядзець, а цяпер будзеце ёй кланяцца. А хто гэта зрабіў? Саладуха!»

І баба сапраўды ўзялася ў бокі і пачала прытупваць, стаўшы насупраць Марысі, якая, спалоханая і

здзіўленая, больш чым узрадаваная, глядзела на Сіротку, што пачаў брахаць, здзіўлены незвычайнымі паводзінамі старой.

— Матуля,— паўтарыла дзяўчына,— але я вас не разумею.

— Цыц! — закрываючы ёй вусны, адазвалася старая.— Толькі слухай мяне, а галавы ламаць табе не трэба.

— А што ж мне рабіць? — запытала Марыся.

— У хаце сядзець, носа на двор не паказваць, гэта першае... Убачыш, шчасце само ляжа ў цябе на парозе і возьмеш яго жменяй...

Сказаўшы гэта, Саладуха села на лаву і, трохі адпачнуўшы, пачала тлумачыць больш выразна.

— Пэўне, шляхціц прабалбатаўся,— сказала,— калі ўжо і маці яго пра гэта ведае і паміраe ад страху, бо аж перада мной спавядалася. Цяпер толькі падзьмуць, і будзе агонь. У нядзелю ў царкву прыбярыся, маё дзіця, але калі ён цябе сустрэне, зачэпіць, загаворыць, нават не азірайся... Томка ўбачыць, што няма тут іншай рады як толькі ажаніцца. І альбо я да нічога не здатная і не маю галавы, альбо прысягну, што возьме замуж! Бацькі будуць злаваць на яго і на цябе, але ў канцы мусяць дазволіць... Хлопец відны, хата — рай, грошай у старога хоць шапкай мерай... Спадзяюся, што не забудзешся і пра старую Саладуху.

Здзівілася старая, убачыўшы Марысю ў слязах.

— А што ж з табой?! — крыкнула.

— Ай, матуля! — ціха адказала Марыся.— Ці ж я не маю розуму? Калі б гэта і здарылася, дык што б мяне чакала ў іхняй хаце?

— А што? — здзівілася баба.

— Ці ж прынялі б мяне як сваё дзіця і бацька і маці? Хто ж сказаў бы мне добрае слова? Хіба б на няволю і на здзекі пайшла б я туды!

— А хіба старыя вечныя?

— А навошта ж мне чакаць іхняй смерці? — адазвалася Марыся.

— Дык што ты думаеш? — спыніла яе Саладуха.

— А што ж? Калі б такое шчасце мяне і спаткала, дык я яго не хачу.

Баба аслупянела ад здзіўлення, заламала рукі, перахрысцілася, мармычучы сабе пад нос штосьці незразумелае.

— Альбо ж мне тут блага? — запытала Марыся.— Ці мне не хапае хлеба або вады? А навошта мне больш? Прывыкла я да хаты і свой век у ёй пражыву. Шляхціц усё жыццё ўпікаў бы мне, што выцягнуў мяне з балота. А калі б не ён, дык і селянін, які б мяне ўзяў, не раз у ліхую гадзіну назваў бы цыганкай і дачкой шыбеніка... Лепш няхай мне тут сцены маўчаць, чым такое слухаць.

Саладуха слухала моўчкі з разяўленым ротам, і здавалася, што хацела зразумець словы дзяўчыны, але сэнсу іх зусім не цяміла.

— Вось жа табе і розум,— засмяялася нарэшце,— вось жа табе і доля! Як ёй пачынае ўсміхацца шчасце, дык яна хацела б, каб бог і ўчарашні дзень перамяніў. Тфу! на прывід... ліха там ведае, чаго табе хочацца! Я і слухаць гэтага не буду. А што знаю, тое знаю і што кажу, тое зраблю.

Сказаўшы гэта, ускочыла абураная з лавы, але, супакойваючы сябе тым, што дзяўчо па сваёй неразумнасці вярзе невядома што, пайшла, пакінуўшы Марысю ў слязах.

Бедная дзяўчына засталася адна і села на лаву такая задуменная і сумная, як ніколі дагэтуль. Вочы яе не маглі абсохнуць, а неспакой вярэдзіў яе ўсхваляваныя грудзі. Што тут рабіць і як пагадзіць столькі розных пачуццяў? Сіротка быццам адчуў, што перажывала Марыся, падышоў да яе, сеў ціха побач і пачаў лізаць яе рукі, грэбаючы лапай па каленях, каб разбу-

дзіць ад задумы. Аднак цяжка было яму гэта зрабіць, цяжка!

Першы раз у жыцці нехта стараўся падабацца і спадабаўся. Першы раз чужы адазваўся да яе той мовай, якая такім салодкім гучаннем спакушае маладое вуха. А ўсміхнуцца да яго, павярнуцца ў яго бок, як хацела сэрца, не было магчымасці! Перад сіратой стаяла ўся будучыня чорнай, панурай, страшнай...

«І заўсёды будзе так,— думала,— і ніколі не змагу знайсці роўнага сабе! Хіба каб выйшла за сына жабрака і падалася ў свет са сляпым... Хто возьме цыганку? Хто знае, хто знае, можа, і добра радзіла тая цыганка пайсці з імі на вечнае бадзянне. Але як пакінуць маю любую хату, магілу і маё спакойнае жыццё?.. А,— дадала плачучы,— ужо яно не будзе такім, якім было! Адзін падышоў і глянуў... спадабаюся другому... не дадуць спакою, пакуль не знямславяць мяне, базабаронную і бяссільную... Што мне рабіць? Што рабіць?»

І заламала рукі.

Аднак у хвіліны найбольшай роспачы прыходзіць часам бадзёрасць, завітае неспадзяванае суцяшэнне. Марыся глянула ў акенца на яснае неба, на мітуслівых птушак, пачула шчабятанне сваіх крылатых сяброў, і ёй дадалося крыху адвагі.

«Бог ласкавы! — сказала, пацяшаючы сябе ў думках.— Што будзе, тое будзе, а я вярнуся да сваёй працы, да магілы і да ранейшага звычаю... А прыйдзе час паміраць, дык не пашкадую свету, бо я яго не зведала. Столькі яго для мяне, што ў акне».

Тым часам, як лёгка можна было прадбачыць, шалёны хлопец, хоць кожны дзень заракаўся, што Марысі ўжо не ўбачыць, з кожным днём больш за ёй прападаў, а ў канцы цалкам паддаўся свайму гарачаму пачуццю і пастанавіў ні на што не звяртаць увагі.

Марыся прыкідвалася абыякавай і ў нічым не змяніла сваіх паводзін, аднак часамі мусіла хоць міжволі

на яго глянуць, і гэты позірк працінаў яго да душы; была змушана сказаць слова, і яе мова кідала яго ў дрыжыкі і наводзіла дзіўныя сны; змушана была паказацца хоць на хвіліну, і, убачыўшы яе, ляснік зусім траціў розум. У канцы дайшло да таго, што па пяць і па шэсць разоў на дзень падыходзіў да хаты, у якой Марыся са страху, каб з ім не спаткацца, мусіла сядзець замкнуўшыся, як нявольніца. Немагчыма было з ім размінуцца, круціўся па гасцінцы, каля студні, за магільнікам і ўвесь час падпільноўваў, каб яе ўбачыць.

Людзі маюць добрыя вочы, асабліва на чужыя справы, дык хутка пранеслася па вёсцы вестка аб лесніковых залётах да Марысі, а сам пан Адам, які стаў аднначасова і набожным і гаспадарлівым, цяпер амаль штодня лавіў на дарозе людзей, якія без квіткоў везлі з лесу драўніну. Томку зусім не было ў галаве ляснікоўства. Пан прабраў яго раз і другі, ён выслухаў лаянку, але паводзін не змяніў. Пан Адам папярэдзіў, што за трэцім разам яго адправіць, і назаўтра злавіў у шкодзе хлопцаў з суседняй вёскі, якія абдзіралі для гарбарні дубовую кару. Моцна разгневаўся пан Адам і адразу звольніў Томка з пасады. Страта працы не вельмі яго збянтэжыла, але баяўся бацькі і не ведаў як апраўдацца, аднак, паколькі сэрца звязвала яго са Стаўіскамі, вырашыў да часу ўтаіць адправу і прыпыніцца ў сотніка, каб адтуль бегаць да магільніка і Марысі.

Моцнае і нястрымнае пачуццё, якое прывязвала яго да дзяўчыны, цалкам ім завалодала. Спачатку была гэта толькі маладая фантазія, ветранае пажаданне, прывабнасць прыгожага тварыка. Томак меў намер пагуляць і пакінуць. Але вось яго думкі цалкам змяніліся, ён ужо хацеў ажаніцца і сам перад сабой з гэтым не таіўся. Ён знаў немагчымасць гэтага кроку для бацькоў, але па-дзяцінаму, па-вясковаму казаў сабе,

што ўцячэ з дзяўчынай, што недзе з ёй схаваецца, а ажаніўшыся, вернецца, і бацькі будуць змушаны іх прыняць.

«А як не,— дадаваў у думках,— дык пайду служыць на край свету, пайду працаваць на яе і на сябе, а яе не пакіну».

Находзілі на яго хвіліны ацверазення, у якія насміхаўся сам з сябе, што лятае за цыганкай, што здурнеў, але хутка гарачае пачуццё брала верх, і зноў снаваў у марах райскае жыццё з Марысяй. У вёсцы, дзе пра гэта скрозь гаварылася на вечарніцах, на паўдзёнках, пад царквой і ў карчме, Томка даведаўся, што Сымоніха і абое Ратаі мелі над сіратой нейкую ўладу і апеку, дык як толькі падхапіў гэту звестку, назаўтра зрання паляцеў да хаты Ратаёў.

Саладуха чакала яго, бо добра ведала, што прыйдзе коза да воза. Як толькі заўважыла яго здалёк, адразу піхнула мужыка за печ, здагадаўшыся, што хлопцу не вельмі захочацца пры ім шчыра гаварыць. Дзед адразу заказырыўся, але як старая шапнула яму на вуха, што справа датычыць сіраты, узабраўся на запечак і пачаў храпці, хоць вуха настаўляў вельмі пільна. Саладуха зрабіла выгляд моцна занятай і пачала хадзіць з пустымі гаршкамі то ад стала да печы, то ад печы да стала. Як быццам нават не заўважыла, калі Томак увайшоў у хату.

— Добры дзень, матка! — сказаў крыху збянтэжаны шляхціц, разглядаючыся па хаце.

— А, гэта паніч?! — прыкідваючыся здзіўленай, адазвалася старая.— Можа, вароты на поле замкнёныя? Зараз пайду адчыню...

— Не, не, не трэба...— адказаў, сядаючы на лаву, Томка.— Я тут, маці, да вас па раду...

— Пане божа, а гэта што? — адазвалася са смехам старая.— Ці ўжо я вам спатрэбілася? Тады кажыце, чаго вам трэба. Але я папярэджваю, што любчыку ў

мяне няма, ды вы гэта і без мяне, і без яго спосаб на дзяўчат знойдзеце.

— Што тут доўга гаварыць і недагаворваць...— устаючы з лавы, сказаў Томка.— Вы мне скажыце, маці, ці ваша сваячка, ці хрышчоная дачка, ці што... Марыся-цыганка!

— А кім яна мае мне быць? — паціскаючы плячыма, адказала старая.— Нікім...

— Але вы сустракаецеся з ёй?

— А гэта, бачыце, маці яе перад смерцю нам дару. чыла. А што вам да яе?

— Што мне да яе?..— выбухнуў хлопец.— Тут няма што маніць, вот, шалею за ёй!

Баба прыкінулася вельмі здзіўленай, пляснула ў далоні, пачала ківаць галавой, зморшчыла бровы, зацмокала, нарэшце з фамільярнасцю прысела на лаве.

— Навошта вам гэта здалося? — сказала, падпіраючы паморшчанай даланёй адрахлелы твар.— Вы думаеце, што дзяўчына сірата, адзінокая, дык яе можна ўзяць, як грыб, але, бачу, вы Марысі не знаеце.

— Як жа не знаю, калі ў мяне галава трашчыць, што не магу да яе падступіцца!

— І ўсё ж вы гэта пакіньце! — шапнула Саладуха.— Паверце мне, што нічога з гэтага не будзе, збаламуціць яе вы не збаламуціце, а што ж?.. Пра жаніцьбу вам няма чаго і думаць, бо ўся шляхта крыку б нарабіла.

Хлопец сумна задумаўся.

— А я без яе не буду жыць! — сказаў ціха.

— Што вам сталася? — прамовіла баба.— Маладому гэтак здаецца... Ой, ой, альбо ж толькі адна яна на свеце? Крыж з вамі! Што вы гаворыце? А што Марысі так не атрымаеце, не пайшоўшы з ёй у царкву, гэта пэўна. Яна дзяўчына паважная, набожная, працавітая ды і не дурная, з хлопцам не звяжацца, на гасцінец яе не зловіш.

— Ну дык вазьму яе замуж! — сказаў рашуча Томка.— Няхай што хоча будзе, а я з ёй ажанюся.

— Альбо ж гэта разумная гаворка? — запярэчыла старая.— Што вам, паніч? Ці вы не ведаеце пра Марысю, што яна цыганова дачка? Ці не знаеце сваіх, як яны задзіраюць насы ўгору. Бацькі могуць ад вас адрачыся.

Томка звесіў галаву.

— А вы сабе гэтым дарма крыві не псуйце, бо што нельга, тое нельга...— дабавіла Саладуха.— О, ужо гэта праўда, што другой такой прыгажуні, як гэта дзяўчына,— канчала старая памалу, раздзьмухваючы агонь, якім ляснік гарэў,— такой прыгажуні не толькі няма ў акрузе, але і на свеце не знайсці! Каб чалавек не ведаў, дык падумаў бы, што гэта панскае дзіця.

Ляснік глыбока ўздыхнуў.

— А тут,— сказаў раптам, нібы сам сабе,— ані прыблізіцца, ані пагаварыць, ні вачэй пацешыць...

— Ды дарма ўжо гэта...— дакінула баба.— Яна такая баязлівая і сціплая, што ледзь пачуе на дарозе тарахценне, адразу хаваецца ў хату... Выбіце сабе гэта з галавы.

— Калі ж жыць без яе не магу! — роспачліва выкрыкнуў Томка і пабажыўся, а баба прыкінулася, што кляцьба яе напалохала.

— О, мой божа! А што ж гэта будзе? — выкрыкнула.— Што ж гэта будзе?

— А хоць бы прыйшлося дзеля яе загінуць!

— Цыц, цыц, ціха, не кажыце ў ліхую гадзіну, я на гэта не маю рады...

— Каб хоць убачыць, хоць пагаварыць,— сказаў Томка.— Вы туды ходзіце?

— Гэта праўда,— буркнула старая,— штодня.

— Слухайце, Ратаіха! — перапыніў рашуча ляснік.— Вось кладу рубля на стол, не адмаўляйце мне, а памажыце.

Баба абурылася і адскочыла.

— Што вы, сапраўды ашалелі? Каб я за грошы губіла дзяўчыну і памагала яе баламуціць?

— Але ж паслухайце...— дакончыў Томка.— Я не хачу благога і нічога ганебнага ў вас не прашу, толькі, як будзеце ў яе ў хаце, дайце мне знак, упусціце за сабой, хай пры вас з ёй я хоць гадзіну пабуду. Будзеце на нас глядзець.

Саладуха яшчэ абуралася.

— Але ж гэтага не можа быць!

— Богам прашу! — пачаў заклінаць Томка.— Бачыце, што я нічога благога не думаю.

— А як даведаюцца Хваінскія?

— Не даведаюцца... а калі б і так сталася, дык няхай дзеецца што хоча. А то прыйдзецца мне праз гэту любоў засохнуць і памерці, бо ўжо даўжэй не вытрымаю!

Бабе так усё цудоўна складвалася, што ў яе аж сэрца расло, але прыкідвалася заклапочанай, дык не адразу, а нацмокаўшыся, пачала штосьці ціха шаптаць Томку на вуха. А той, павесялеўшы, быццам ажыў, сеў на сівака і паскакаў.

Тады зваломся чым хутчэй з-за печы дзед па рубля, пра які пачуў, і пачаў крадком сунуцца да стала, але Саладуха прадбачліва даўно ўжо схавала яго ў вузельчык і заткнула ў ложак, дык Ратай яго не знайшоў.

Пачаліся звада, крык, тузаніна, Саладуха зраклася, што грошай не брала. Ратай махнуў некалькі разоў кіем, аднак бура, залітая меркай гарэлкі, у хуткім часе заціхла.

Змрокам, апрануўшы світку, пайшла Саладуха не без здзеклівай усмешкі праз вёску ў бок могільніка да цыганскай халупы.

Вялікая была радасць самотніцы, калі ўбачыла бабу, якая падыходзіла да хаты, бо змрокам гэта быў рэдкі госць. Марыся якраз адпачывала на прызбе каля сенцаў, акружаная ўсімі сваімі прыдворнымі, а баба,

убачыўшы гэту карціну, спынілася, каб лепш прыгледзецца.

І сапраўды было на што паглядзець.

Марыся ў белай кашулі і каляровым фартушку рассявала шчодрай рукой зерне, а яе выхаванцы, спрачаючыся і патроху б'ючыся, навыперадкі беглі да яе. Шэрыя і белыя гусі, стракатыя галубы, чубатыя куры — увесь жывы гурт, не выключаючы ката і сабакі, акружаў сваю гаспадыню. Нават некалькі смелых вераб'ёў прыблукаліся да раздаванай ежы, і, ўкраўшы зернетка, чым хутчэй уцякалі з ім пад страху.

Зайздрослівы Сіротка, убачыўшы, што куры і гусі пачалі есці, прыскочыў да іх, панюхаў іхнюю ежу і, не могучы зразумець, адыходзіў у задуме, быццам гаварыў: «Што гэта за харчы ў гэтых дурных стварэнняў?»

Марыся смяялася з гэтых амаль штодня паўтараных дзеянняў свайго любімца. Пры з'яўленні Саладухі дзяўчо ўскочыла са свайго сядзення, сабака пачаў брахаць, і напалоханыя птушкі, што мага ўхапіўшы, разбегліся ў розныя бакі, а праз хвіліну на іх месцы гаспадарыў ужо драпежны гурт вераб'ёў.

Апошнія сонечныя промні асвятлялі ясным бляскам гэту сельскую сцэну, характэрную сваёй ідылічнай прастатой. Праз хвіліну Саладуха падышла бліжэй і, узяўшы Марысю за руку, увяла яе чым хутчэй у хату.

— Паслухай,— сказала,— не будзь дурная! Томка абавязкова возьме цябе замуж, бо без цябе бедны загіне. Ёе зараз сюды прыйдзе, толькі што яго яшчэ не відаць. Пры мне ж ён цябе вачыма не з'есць, пусці яго ў хату, няхай хоць з табой пагаворыць.

Марыся зачырванелася, быццам яе аблілі варам.

— Ах, божа мой! Ах, я няшчасная!.. А што ж скажуць людзі? — выкрыкнула ў страху.

— А што яны маюць гаварыць, калі я тут! — спы-

ніла яе баба.— Я цябе на благое не павяду, толькі слухай мяне, і ўсё будзе добра. Цыц! цыц!

Яна прылажыла да вуснаў палец, і раптам пачуўся тупат сівака. Марыся не ведала, што рабіць, кінулася да дзвярэй, але баба пасадзіла яе на лаву і прычыніла дзверы. У той жа момант у хату ўскочыў Томка. Убег і адразу кінуўся да дзяўчаці, хапаючы яе за рукі.

— Марыся, любая Марыся, не ўцякай! — сказаў задыханы.— Не бойся, ты мілейшая мне за жыццё, дазволь, галубка мая, пабыць з табой хоць хвіліну. А як загадаеш, пайду!

Баба ўсміхалася, а Марыся ледзь не млела і правяла рукой па чале.

— Дык не губі ж ты мяне! — адазвалася, дрыжучы, да яго з просьбай.— Калі я табе, як кажаш, мілая, дык не атручвай майго жыцця!

— Я? Ды я за цябе ў агонь скочу!

— О, не кажы такіх слоў! Не кажыце, бо я ім не дам веры. Узяць мяне замуж вы не можаце, дык навошта губіць вам дарма сірату? Бацькі вам не дазволяць.

Томка ўвесь час глядзеў у яе чорныя вочы і ўвесь гарэў.

— Слухай,— сказаў,— навошта доўга супраціўляцца? Калі мне бацькі не дазволяць, дык я ўцяку з табой на край свету.

— Не,— адказала Марыся жывейшым і смялейшым голасам.— Бачыце праз акно дзве магілы на могільніку? Адна з іх майго дзеда, другая маці. А ведаеце, ад чаго яны памерлі? Адзін за тое, што пракляў сваё дзіця, другая за тое, што на ёй было бацькава праклянцце. Я не хачу праклянццяў на сваю галаву, пакіньце мяне, пакіньце!

Старая слухала, і бровы яе наморшчыліся, а вусны сцяліся. Томка задзіўлены заламаў рукі.

— Гавары інакш! — сказаў.— Хіба ты не маеш да мяне сэрца! Ну дык гавары і забі ўжо адразу!

Дзяўчына павярнулася да яго з усмешкай.

— Чаму б я не мела да вас сэрца? Вы першы прамовілі да мяне добрым словам і прыблізіліся да сіраты. І калі б, калі б не страх вашых бацькоў, а...— не закончыла.

Томка зноў схапіў яе за рукі і пачаў цалаваць, але старая, якой прыйшло на думку, што павінна была дзеля вока стаяць на баку сіраты, адцягнула яго ад яе.

— Пакінь...— сказала,— пакінь! Вот сядай на лаву і разгаварыцеся па-людску.

Марыся, заўважыўшы, што старая кіруецца да дзвярэй, падбегла і затрымала яе.

— Крыжам божым прашу, не адыходзьце! — крыкнула.— Злітуйцеся! Я не застануся адна... гэтага быць не можа!

— Сядайце,— сказаў Томка,— дазвольце мне быць здалёк... хоць паглядзець.

Марыся, на якую ўсё гэта рабіла нейкае дзіўна сумнае ўражанне, падперлася рукой і горка расплакалася. Хлопцу зрабілася прыкра, балюча, дык адсунуўся да парога і стаў як укопаны.

— Эй, дзеці, дзеці! — адазвалася Саладуха.— Вот дурныя, вось мелі б час пацешыцца, хораша пагаварыць, дык абое падурнелі і строяць ліха ведае якія фохі... Ну пакіньце... Марыся табе да ўпадобы, і ты ёй не *гыдкі*, хочаш ажаніцца, дык чаго ж тут плакаць? Весяліцеся, дзеткі!

— Не вяселле мне ў галаве...— адказала Марыся.— Мне так страшна, так страшна! Ад часу, як ён пераступіў парог маёй хаты, трачу галаву...

— Марысенька! — адазваўся Томка.— Богам клянуся, што няма чаго табе баяцца... Я твой, зраблю, што загадаеш, абы мяне не праганяла.

— Што мне пра гэта гаварыць? — адказала Марыся.— А бацькі? А вашы? А як даведаюцца? Заўтра вас вышлюць далёка, а мяне людзі ачэрняць, і прыйдзецца марна загінуць...

Цяжка было сірату супакоіць, дарма стараліся і Томка і Саладуха. Гутарка не вязалася, а дзеля таго, што набліжаўся вечар, пасля кароткай бяседы баба кіўнула на Томка, хлопец уздыхнуў і мусіў пайсці. Сівак пасвіўся на прымогільнікавым насыпе, дык ледзь яго злавіў, а Ратаіха аж за галаву ўхапілася, убачыўшы, што ў момант, калі Томка выходзіў з хаты, каля могільніка прасунуўся воз Марціна з Рудэнскіх Будак. Хваінскі не бачыў гэтага, бо быў заняты Марысяй і канём, сірата нічога не бачыла за слязьмі, але баба адразу вылічыла, што з гэтага можа вынікнуць, і, вельмі затурбаваная такім здарэннем, пабегла ў вёску.

Марцін быў ёй добра знаёмы, бо нядаўна хадзіла пільнаваць яго жонку. Саладуха хацела яго дагнаць і папрасіць, каб маўчаў, але дзе ўгнацца старым нагам за маладымі коньмі!

Шляхціц падаўся ў хмары пылу ў адзін бок, Томка ў другі, а Саладуха павалаклася з кіем у карчму.

Яна ведала, што Марцін балбатун, якога свет не бачыў, што карчмы напэўна не міне, і разлічвала яго там застаць. Аднак надзея яе не спэўнілася. Пакуль сышла з гары, пакуль мінула грэблю, пакуль размінулася са статкам, дык нарэшце дайшла да карчмы, калі Марцін сцёбнуў па конях і паімчаўся ў Рудню.

Баба была злая, прыйшла ў карчму толькі на разведку. Шынкар Шумка стаяў з некалькімі сялянамі пасярод хаты і размаўляў з імі ціхім голасам, не зважаючы на бабу.

— Гэтак, гэтак,— казаў, частуючы табакай царкоўнага старасту, шынкар.— Ён тут гуляе і круціцца каля дзяўчыны, а там бацькі думаюць, што ён служыць у двары. Марцін аж пад столь рукамі ўзмахнуў, як я яму

сказаў, што леснікоўства перададзена Паўлу. А то, чуваць, яшчэ ўчора стары Хваінскі выхваляўся, што сын займае такую пасаду напачатак! Вось што! Вось што!

— А каб на вас, а каб на вас, доўгаязыкія! — крыкнула баба з-за плячэй Шумку, што аж той страпянуўся.— А свярбеў табе язык спавядацца Марціну?

— А, ведзьма праклятая, гэтак мяне спалохала! Каб на цябе трасца! — крыкнуў Шумка.

— Балбатун ты, балбатун! Вось на цябе б наслаць трасцу, дык забыўся б плесці пра чужое.

— А ці мяне хто прасіў, каб я трымаў сакрэт? — адказаў Шумка.— Га? Марцін пытаецца, дзівіцца, што бачыў Томку каля хаты пад могільнікам, і кажа: «Што гэта ў вас ляснік вербы на могільніку вартуе, ці што?..» Ну дык мне трэба было маніць?

— Дайце мне кілішак гарэлкі,— махаючы рукой, крыкнула з гневам Саладуха.— Ану, гарэлкі! І хопіць гэтага! Каб табе тое слова праз бок вылезла!

Шумка пайшоў па пляшку, астатнія змоўклі, а Саладуха, выпіўшы запар адну і другую порцыю, больш не сказаўшы ні слова, хутка падалася дахаты.

Сусед з Будак, вядома, вяртаючыся са Ставіскаў, адразу спыніўся пры хаце Хваінскага, бо яму вельмі карцела прынесці благую навіну.

Стары гандляр сядзеў на прызбе, папыхкваў люлькай і глядзеў на свой статак, што вяртаўся з поля.

— Добры вечар, кум! — сказаў Марцін, затыкаючы пугу ў воз.

— А, як маецеся, пан Марцін? Што чуваць у мястэчку? Ці прадалі ж вы сваё жыта? А пачым?

— Цана ліхая! Яшчэ хочуць, каб ім мераць мужыцкай дзесяцігарцовай мерай, гэтыя жыды-няверы! Вот!.. і жыта вяртаецца дамоў.

Стары Хваінскі ўсміхнуўся.

— А вы ж не хацелі мне прадаць за хрысціянскую цану і дзень дарма стацілі!

— Дарма альбо і не дарма...— сказаў з усмешкай Марцін.— Куме, дайце па шэсць злотых за карэц, дык я вам штосьці такое скажу, што аж угору падскочыце!

— Паўшаста і ані шэлега больш не магу. Ну, але што ж там такое? — запытаў, падыходзячы, Хваінскі.

— Як паўшаста, дык нічога! — засмяяўся Марцін і падаўся да падводы.

— Што ж там за такая навіна, каб за яе паўзлотку плаціць? Тфу,— сказаў буднік,— яшчэ чаго не хапала. Ну і гандаль жа вы прыдумалі!

— Воля ваша,— сказаў шальмавата Марцін.— Не хочаце даць паўзлотка, дык пазней, можа, заплаціце за гэта не адной сотняй, ды будзе па часе.

Стары, быццам яго што кальнула, затрымаў суседа:

— Слухай, кум, ці ты кпіш, ці дарогі пытаеш?

— Што праўда, то праўда. Заплаціце за жыта, дык у прыбаўку дам вам такога гасцінца...

— Ну што там за ліха? Які чорт? Ці не баламуціш, пане Марціне?

— Далібог, святую праўду кажу. Але калі вы суседу, куму, паўзлотка шкадуеце за яго кроўнае, дык няхай будзе што хоча, а я таксама рот стулю.

— А жыта ж сёлетняе? — запытаў, мякчэючы, стары.

— Леташняе, сухусенькае.

— А здатнае?

— Ды вы ж яго знаеце.

— Але ў вас поўна і гарошку і аўсюку.

— Ну, дык не купляйце...— сказаў Марцін, зноў кіруючыся да воза,— не купляйце.

— Эй, куме, куме! Які вы гарачы! Вы думаеце, што я хачу на вас зарабіць? — прамовіў пан Адам.— Ну ссыпайце збожжа, грошы зараз заплачу. Але што ж такое вы прывезлі? — дапытваўся жыва стары.

Марцін азірнуўся.

— Вот што! — сказаў.— Як вы думаеце, што ваш сынок робіць у Ставісках?

— А што ж мае рабіць? — абурыўся стары, адскокваючы.— Вы ж ведаеце, што служыць.

— Так? Дык ведайце ж, што ўжо, кажуць, два тыдні таму звольнілі яго са службы ў двары.

— Што кажаце?

— Праўду, кум! Так яно ёсць.

— Я ж у яго пазаўчора пытаўся... ён казаў...

— Дык лгаў, куме! Не служыць, прагналі яго, і ён бадзяецца.

— Выгналі Томака! Што ж гэта такое? Гавары ж, куме Марціне, ды толькі ціха, каб Агата не пачула, і не цадзі мне па кропельцы... Што ж ён там натварыў?

— А што ён меў рабіць? Усё адна і тая гісторыя,— сказаў, прысунуўшыся да вуха, Марцін.— Трапіла яму ў вока нейкая дзяўчына, цыганка ці якое ліха, дык ён так праз яе галаву страціў, што ўсе абавязкі закінуў. Пан папярэджваў, папярэджваў і ўрэшце прагнаў. Вот што, куме... І так звар'яцеў, чуваць, што кватэру сабе ў вёсцы наняў, перад вамі выкручваецца і штовечара ходзіць да дзяўчыны. Я сам бачыў, як ён выходзіў ад цыганкі.

Стары схапіўся за галаву.

— Кара божая на яго! — выкрыкнуў.— Цыганка... што ж гэта за ліха?

— Што за ліха? — сказаў Марцін.— Га, гэта, чуваць, прыгожая дзяўчына, другой такой няма ў акрузе, а ганарыстая, а хітрая! Яна яго далёка завядзе! Яшчэ і сірата, сцеражы, божа, бяды!.. Балбочуць нават, што чараўніца...

Ён гаварыў, але стары ўжо яго не слухаў, так моцна ўдарыла яго гэта неспадзяваная бяда. Стаяў як укопаны, абапёршыся аб варотцы, доўгую хвіліну прабыў у здранцвенні, і толькі голас жонкі прывёў яго да прытомнасці.

— Высып жыта, пане Марціне,— сказаў,— заплачу. Але сцеражыся прабалбатацца аб гэтым перад мачэй Агатай. Яна з'ела б мяне за тое, што я яго туды аддаў, ды і так даволі дасца ў знакі.

— А па шэсць злотых дасце?

— Яшчэ і кілішак гарэлкі ў нас вып'еце,— сказаў Адам.

Аднак як увайшоў у хату, хоць стараўся не паказваць выгляду, але не вельмі змог. Жонка вычытала на яго твары засмучэнне.

— Што ■ табой, Адаме?

— Вот... здаецца, сівую сплячылі...

Гэта была любімая кабыліца Хваінскага, ад яе ён меў амаль палову конскага пагалоўя. Яе сынам быў той сівак, на якім так сваволънічаў Томка. Жонка паверыла Адамавай мане, бо сплячэнне сівой магло вельмі заклапаціць. Тым часам Марцін, выпіўшы гарэлкі, рады ад продажу, паехаў дахаты.

Назаўтра, ледзь толькі развіднела, Хваінскі, зноў салгаўшы штосьці жонцы, злы, гнеўны, шалёны, сеў на каня і, хоць стары, паляцеў рысcю ў Ставіскі. Па дарозе кідала яго як апантанага, і конь, які добра ведаў гаспадара, не мог яго зразумець. Адам абураўся, гаварыў уголас сам з сабой і сцябаў верхавога, які штохвіліны брыкаўся.

Каля вёскі спыніўся і, ударыўшы зноў сівога па баках, накіраваўся ў бок могільніка, бо добра распытаўся ў кума Марціна.

З апавядання ён зразумеў, што дзяўчына залётніца, сумысле баламуціць яго сына, і рыхтаваўся навальіцца на яе з усім сваім сабраным за ноч гневам.

Хоць была яшчэ раніца, Марыся ўжо сядзела каля магілы. Конскі тупат звёў яе, падумала, што зноў едзе Томка, а калі замест яго ўбачыла старога з панурым тварам шляхціца, у сэрца кальнула яе нейкае прыкрае прадчуванне, спалохалася і задрыжала.

Стары нават не глянуў на могільнік, злез з каня каля хаты і адчыніў дзверы.

Марыся ўстала, і пачаў брахаць Сіротка.

— Чаго вы хочаце? — запытала.

Стары змераў яе вачыма.

— Ты тут жывеш? — запытаў гнеўна.

— Я,— адказала Марыся.

Нейкі час трывала маўчанне. Стары азірнуўся на могільнік, але, не хочучы туды заходзіць, павярнуўся і падышоў на некалькі крокаў.

— Хадзі сюды! — сказаў загадна.

Сірата, уся дрыжачы, паслухмяна выбегла разам з сабакам з варот могільніка і, зачырванелая, спынілася перад Адамам, які не спускаў з яе вачэй.

— А, дык гэта ты тут жывеш? — паўтарыў распальваючыся.— Гэта ты, нягодніца, сына майго зводзіш... паганая душа!

— Чаго вы ад мяне хочаце? — збянтэжаная, адступаючыся, запытала сірата.

— Чаго я хачу? — крыкнуў са злосцю шляхціц, тупнуўшы нагой, на што сабака, стаўшы паміж ім і сваёй гаспадыняй, адказаў заядлым брэхам.— Чаго хачу? Вось сумысле прыехаў я табе, няўстыдніца, сказаць, што як гэты лотра яшчэ будзе да цябе прыязджаць, а ты яго будзеш прымаць, то клянуся богам...

Тут слёзы хлынулі з вачэй сіраты, устрашанай нестрыманасцю старога, і была яна з імі такая прыгожая, так узбуджала літасць, так выглядала шчырай і нявіннай, што стары, хоць і злосны, адчуў сябе напалову раззброеным.

— А, тысяча чарцей! — адазваўся.— Чаго равеш? Робіш блага і плачаш! А што тут слёзы памогуць? Чэрці забяруць і цябе і таго трутня!

— А не гневайцеся, богам прашу, не гневайцеся! Што я вінаватая?.. Я скажу вам усю праўду! — пачала з плачам Марыся.

— Што ты мне тут будзеш дубы смаленыя плесці?!

— Я знала, што гэта так скончыцца...— сказала сірата.— Клянуся богам, што я яго не прымала, не слухала яго, не гаварыла да яго. Учора адзін-адзіны раз быў тут у мяне ў хаце і то пры людзях.

Стары ўсё глядзеў на яе, і бог ведае што адбывалася ў яго душы, але твар яго мяняўся, было відаць, што мякчэў і астываў.

— Кажу табе...— адазваўся ўжо далікатней,— сына мне не баламуць, бо дрэнна табе будзе! Клянуся, што ён з табой не ажэніцца, а цябе чэрці возьмуць! Чэрці возьмуць!

Шляхціц яшчэ крычаў, але гнеў ужо пакідаў яго.

— Вот і цябе было б шкада...— дадаў.— За нейкага сапляка свет сабе завязваць... Ён табе ліха ведае, што наабяцае, тое, чаго ў яго ў руках няма. Ты можаш выйсці замуж, выгляд у цябе нічога, а ён цябе толькі згубіць, як і іншых пагубіў... Ён шляхціц... я яму з валацугай сасватацца не дазволю... Дык не будзь дурная і яму не вер...

«Але не дзіва,— сказаў сам сабе ў душы стары, скоса паглядаючы на дзяўчыну,— далібог, шэльма, прыгожая, як каралеўна... Ой, благая справа!»

І паківаў галавой.

— Я клянуся вам,— адазвалася Марыся,— што я тут зусім не вінаватая. Я ўцякала і ўцякаю ад вашага сына. Ён мне спакою не дае.. Бог сведка, што я не вінаватая!

— Вінаватая ці не вінаватая,— сказаў Хваінскі,— а трэба скончыць. Няхай ён яшчэ раз з'явіцца, дык убачыць!

— Самі трымайце свайго сына... я...

— А ты што тут робіш? — запытаў стары.— Не магла б пайсці куды служыць?

— Я? Служыць? Ніхто мяне не возьме. Ды і на-

вошта мне служыць, калі я маю сваю хату? Мне і так добра, на хлеб сабе зарабляю, і ўсё.

— Зарабляеш? Якога чорта? А хто ж з табой жыве?

— Ніхто, я адна.

— Адна? — Стары патрос галавой.— Адна! — паўтарыў.— Добра ён нагледзеў. Маеш шчасце, дзяўчына! Я яго сягоння, гэтага блазнюка, навучу! А калі ён тут з'явіцца, не паказвайся яму! Ані носа!

Марыся заплаканая, закрываючы вочы, убегла ў хату. Шляхціц застаўся пасярод дарогі адзін. Сабака ўслед за гаспадыняй акружыў ворага, перабег праз дарогу, стаў у парозе і пачаў брахаць.

Стары Хваінскі задумаўся.

— Нічога сабе вочы мае гэты лотра! Дзяўчына цудоўная! Сірата, аж жаль... гатоў яе загубіць. А цяпер да яе за гэтым чортавым сабакам не падступіцца... Гэй! — крыкнуў.— Адклічце сабаку, у мяне ёсць яшчэ да вас слова.

Не ведаю, ці Марыся чула гэта, ці Сіротка сам адступіўся, ды Хваінскі, цікаўна разглядаючыся, увайшоў у хату.

Тут сірочая галеча, а пры ёй лад і парадак у беднай ляпянцы відавочна кінуліся яму ў вочы. На хвіліну анямеў, бо павінен быў уявіць сабе тое жыццё, зважыць тую працу, якая яго ўтрымлівала.

«Гэта не абы-якая дзяўчына! — думаў.— Як яна дае сабе рады! Бог ведае, можа, з грэху жыве, але, відаць, не дурная».

Марыся стаяла па-вясковаму пры печы і плакала. Стары пачаў ужо зусім іншым голасам:

— Эй, слухай, ну бо гэта... не з'ем жа я цябе, я не разбойнік, нічога благога табе не зраблю... Ды ты сама павінна разумець, што я не на тое сына гадаваў, каб ажаніць яго з цыганкай. Мне і маці ўкарацiла б за гэта жыццё.

— Але ж я ні ў чым не вінаватая,— паўтарыла заплаканая дзяўчына.

— Дык не наводзь жа на сваю галаву нашага праклящця, а яго няхай твае вочы больш не бачаць...— сказаў стары.— Ты думаеш, можа, што гэта жарты! А гэта мая смерць і смерць маці зваліцца на тваё сумленне... Ён у нас адзін, я аддаю душу, каб яго вывесці ў людзі, і не магу дазволіць, каб ён свет сабе фартухом завязаў.

Стары памалу пераходзіў з гневу амаль да просьбы, і ёю, больш чым лаянкай, закрануў Марысіна сэрца.

— О, богам вам клянуся! — адгукнулася жыва.— Я не хачу быць прычынай вашага засмучэння. Зраблю ўсё, што загадаеце, абы вы мяне не праклінаді.

Гэтыя словы і слёзы, поўныя пачуцця, трапілі ў сэрца шляхціца, які жадаў ужо толькі хутчэй вырвацца, так яго неяк дзяўчына расчуліла, так адчуў у яе словах праўду і пакуту, што амаль пачаў дакараць ужо сябе за сваю палкасць.

«Што бо яна вінаватая? — пачаў думаць.— Гэта таму нягодніку варта было б даць сто бізуноў... Але ж малады! Кроў не вада, а дзяўчына, як яблычак... Ліха яе тут дало! Каб ведаў, не выправіў бы яго ў Ставіскі... Каб куды да ліха выбралася адгэтуль... можа б, тады выбіў яе са сваёй галавы. Вось каб не Марцін са сваім жытам, дык нарабіў бы гэты дураслівец сораму і бяды. Але я яму натру вушы!»

— Няхай жа тут больш нага яго не ступіць! — дадаў Хваінскі гучна. Пасля гэтага ўзяўся за клямку і, мармычучы і плюючы, прыкінуўшыся больш гнеўным, чым быў, выйшаў, сеў на каня і заспяшаўся ў вёску шукаць сотнікавай хаты.

Не пытайцеся ў мяне, што сталася з сіратой. Звалілася яна на лаву каля печы і ляжала так, як слуп, нерухомая і адранцвелая. Можа, думаеце, што простая

дзяўчына нічога апроч страху не адчула? О! бываюць у жыцці хвіліны, у якіх чалавек мацнее духам, больш бачыць, больш адчувае, шмат больш можа, чым звычайна. А Марыся была пустэльніцай, дзіцём магілы, выкалыханым думкай у адзіноце і тым вышэйшым ад навакольнага люду, што, жывучы ўся ў сабе, павінна была сабой валодаць і кіраваць. У сэрцы беднага дзяўчаці гэта сцэна пакінула балючае ўражанне і прадчуванне, што са сваім цяперашнім лёсам прыйдзецца ёй расстацца. Гэта было як быццам яснабачанне неабходнасці, і цяжкі строгі жаль сціснуў яе неперанасычанае ўцехамі сэрца. Яшчэ не ведаючы, што з ёй станецца, Марыся знала, што ёй прыйдзецца пакінуць хату. Ужо толькі думала над тым, што з сабой зрабіць. А ад думкі аб расставанні цісnуў яе невыказны жаль. Пашкадавала ўсяго, што яе акружала, усяго таго маленькага свету, якога была цэнтрам: Сіроткі, Бурыка, галубоў, гусак, сваіх курак і пад страхой вераб'ёў...

І пабегла глянуць на матчыну магілу.

На двары была нейкая злавесная цішыня, парна, душна і страшна. Яшчэ хвіліну перад гэтым марыла снаваць прадзіва свайго жыцця, а цяпер тая нітка была парваная.

«А! — гаварыла сабе, прабягаючы праз хатку, куды вярнулася, і ламаючы рукі,— я ўжо не магу тут заставацца. Пайду ў свет служыць, жабраваць, бо не хачу, каб мяне гэты сівы стары праклінаў, не хачу на сваю галаву чужых слёз і няшчасцяў... Доля мая быць адзінокай і беднай, навошта ж да яе вязаць другую? Цярпець, пакутаваць, дык адной!»

Калі яшчэ так бегала амаль непрытомная, у хату ўвайшла Аза і спынілася каля парога. Яна доўга моўчкі глядзела на дзяўчыну, ківаючы галавой і чытаючы з яе рухаў, што з ёй адбывалася, нарэшце са смехам наблізілася. Марыся, спалоханая, адступілася.

— А, гэта вы!

— Гэта я, дзіця маё! — адазвалася цыганка.— Я прыйшла па цябе.

— Па мяне? — запытала здзіўленая Марыся.

— Праўда, што цяпер пойдзеш з намі? — прадаўжала Аза.— А што? Добра жыць з *гадзямі*? Можна з імі выжыць?

— Вы ўсё знаеце?

— Усё, усё! — сказала цыганка,— і пра яго, і пра цябе, і пра бацьку, які прыходзіў сюды з лаянкай. Я глядзела здалёк і ведала, чым гэта скончыцца. Няма чаго даўжэй чакаць, людзі ўжо цябе ачарнілі. Няхай хоць раз хто чужы пераступіць парог, дык зараз зробяць з яго каханка і ты, хоць нявінная, для іх будзеш асуджаная...

Дзяўчына спынілася і збляднела.

— Эй! — дадала, выпростваючыся і прымаючы прарочую паставу, цыганка. І, дабіраючы словы, каб лепш задурыць дзяўчыне галаву, працягвала: — Ёсць доля, ёсць лёс, для кожнага чалавека напісаны. Каб нават меў крылы, дык не ўцячэ ад яго, каб меў сто ног, не збяжыць і ў *ягаро* (у пекле) ад яго не схаваецца. А чаго мы сюды прыйшлі праз столькі год? А чаму табе якраз вось у гэту гадзіну *Мродэн-ора* даў слёзы і праклён? Глядзі, як склалася, каб кроў *ромаў* пайшла з *ромамі* на вандраванне... Ты наша кроў, не чыя... Што табе тая хата? Што табе тая магіла? Нам увесь свет хатай, неба дахам, магілай уся зямля. Куды ні ступіш, усюды топчаш косці прабацькоў і праматак. Нідзе няма недахопу ў вадзе, каб наталіць смагу і месца, каб паставіць палатку ды галля на агонь. А хто сядзіць, той гніе, прыкаваны, як сабака на ланцугу...

Марыся дрыжала, слухаючы, але прыкметна была ўзрушаная, і мала не хапала, каб сказала: вось я гатова ісці з вамі...

Але кожны позірк на хату напаўняў яе жалем.

— А,— выкрыкнула,— як жа ўсё гэта пакінуць?.. Вы не разумееце майго жалю, бо прывыклі вандраваць, а я не ведаю, як адарвацца ад свайго кутка! А што ж сталася б з імі? — І паказала на сваю жывёлу.

Аза рассмяялася, бліснуўшы белымі вострымі зубамі.

— Што? — сказала.— Хто твой і без цябе жыць не можа, той пойдзе за табой; кот не варты слязы, ён застанецца. Гэтым стварэнням, як траве, што расце на страсе, не той патрэбны, хто жыве пад дахам, а грудка зямлі, што іх жывіць... Дык ці ж павінна ты быць іхняй нянькай?

— Косці дзеда, косці маці,— прамовіла дзяўчына,— і гэта месца...

— Дзіця! — перапыніла Аза.— Дух маці пойдзе за табой, а месца тваё ўсюды, дзе ні сядзеш.

— А хата, збудаваная рукамі бацькі?

— Ужо і так валіцца на тваю галаву. Нам вялікі бацька збудаваў вечную хату. У дарогу, у дарогу! Яшчэ сягоння ўночы адыходзім, і ты з намі! Заўтра станем за некалькі міль адгэтуль, і ўсё забудзецца.

— О, ніколі, ніколі!

Аза ўсміхнулася.

— Гаворым «ніколі», а заўтра, дзіця маё, заўтра сэрца цвярдзее, як камень, і таго следу, і таго, хто яго пакінуў, не будзе.

І з дзікай энергіяй ударыла ў засохлыя грудзі.

— Наш лагер у Рудэнскім лесе. Маеш цэлы дзень на продаж свайго барахла, а світаннем вырушым. Але нікому пра гэта не кажы. Я сама па цябе прыйду.

Сказаўшы гэтыя словы, кінуўшы іх, як насенне, якое павінна прарасці, высунулася з хаты і пакінула сірату адну.

Марыся ўжо бачыла неабходнасць уцёкаў і паверыла ў тое нейкае прызначэнне, якое гнала яе за цыганамі, адзінай сям'ёй, якая сірату прызнавала. Перажы-

вала з болем, але не бачыла спосабу перамяніць той лёс і занялася зборамі ў дарогу.

Замкнуўшы дзверы, пабегла да Саладухі, якой не застала дома, потым да Сымоніхі, адносячы ёй маткі і кудзелю.

Здзівілася старая, убачыўшы буднім днём Марысю, а яшчэ больш, калі ў яе руках убачыла недапрадзеныя скруткі лёну.

— А гэта што? — запытала.

— Гэта, маці,— адказала, цалуючы яе ў руку, сірата,— гэта рэшта прадзіва. Ужо я вам яго не дапраду, бо... бо іду служыць.

— Як гэта? З вёскі? Куды? Чаго?

— Недалёка... не ведаю, у Рудню...— заікаючыся, сказала дзяўчына.

— Да каго?

Дзяўчыне вельмі цяжка было лгаць першы раз у жыцці, дык лгала так няўмела, што старая, не могучы яе зразумець, толькі ківала галавой.

— Рабі сабе што хочаш,— дадала старая,— але помні, каб толькі не згубіла душы. Дагэтуль была ты сумленнай, сядзела дома і хлеба табе хапала, ідзеш у свет, хто знае, ці будзе там табе лепш... Ты прыгожая, людзі бываюць усякія. Добра глядзі сябе, Марыся!

Што ж можна было адказаць? Расплакалася зноў і, не чакаючы платы, выбегла, каб не выдаць сябе слязьмі і словам.

Саладуха ішла дарогай, і яны на гасцінцы сустрэліся.

З гэтай было шмат цяжэй.

— А вы нічога не ведаеце?

— А што мне трэба ведаць?

Цыганачка пачала расказваць ёй пра старога Хваінскага і пра ўсю сягонняшнюю раніцу, а Ратаіха з гневу аж губы кусала.

— Я так і знала, як Марцінішча гэту справу пра-

нюхаў, дык ужо яна не ўтоіцца. А што цяпер думаеш рабіць? — запытала.

— Сягоння прадаю ўсё, што маю ў хаце, рэшту пакідаю на божую волю, і заўтра мяне тут няма,— цвёрда сказала дзяўчына.

— Ці не ашалела ты?

— Гаварыце сабе што хочаце, сталася... Прыязджаў мешчанін з Табарышак, я прыняла службу ў мястэчку і ўзяла задатак...

— Калі? Як?

— Сягоння паўднём...

Старая пакруціла сівой галавой.

— А дзе табе тут хто так хутка купіць?

— Рэшту пакіну вам...

— Але нашто ісці па загубу, на пагібель! Пакінь, перайдзі да мяне, ніхто цябе ў нас не ўбачыць, а людзі перадзівяцца, перагавораць, і тады вернешся дахаты.

У дзяўчыны пацяклі слёзы, яна моўчкі патрэсла галавой.

— Не, не! Бывайце здаровыя, матуля! Гэтага ўжо быць не можа... Я ўзяла задатак, дала слова... Толькі б я хацела развітацца з дзедам Ратаём і таксама за хлеб яму падзякаваць.

— Стары валацуга недзе ў Бярозавай гары на фэсце, нічога пра яго не чуваць...

— О, шкада!.. шкада!..

— Лепш не ідзі, калі шкадуеш,— сказала, угледаючыся ў яе, Саладуха.— У горадзе ты з такім тварам прападзеш... Прыгожы тварык, гэта дзяўчыне клопат, спакою табе не дадуць.

Марыся перапыніла яе гутарку.

— Маці,— адазвалася,— заўтра зрання прыйдзіце ў хату, і што ў ёй застанецца, усё ваша... Толькі прашу вас, прашу, вазьміце Бурыка, галубы і птаства, хай не здыхаюць з голаду, вазьміце іх, дзеля божай міласці...

Саладуха хацела яшчэ штосьці сказаць, але Марыся,

хутка пацалаваўшы яе ў руку, падалася ад яе бягом. Ёй рупіла нацешыцца той хатай, якой ужо больш магла не ўбачыць, сваімі вернымі сябрамі і апошнім днём маладосці. Пабегла, пабегла проста на могільнік, найперш на матчыну магілу, і там заплаканым тварам утулілася ў зямлю.

Не ведаю, колькі часу ляжала яна так на магільнай гліне, але, калі паднялася, была зламанай болем і слаб'ай; стома зрабіла ў ёй нейкую перамену, яна здранцвела і астыла. Машынальна ўстала і памалу пайшла ў хату. Зборы былі кароткія, і малы быў падарожны клунак. Кінула яго на лаву, пакідаючы ўсё нязрушаным, каб даўжэй паглядзець на сваё беднае багацце. Потым абышла ўсё, развітваючыся [redacted] кожным месцам, з кожнай сценкай, [redacted] кожным куткам хаты. Занепакоены Сіротка не адступаў ад яе. І не заўважыла яна, як ёй, стомленай і галоднай, праляцеў стралою дзень і сонца пачало хавацца за лясы і горы.

Кусаючы кавалак сухога хлеба, выйшла Марыся за парог, а ў думках яе неадступна паўтараліся найстрашнейшыя людскія словы: «Апошні раз! Апошні!»

А ці ж не кожная хвіліна ў нашым жыцці апошняя? Хоць мы аб гэтым забываемся, але ў кожнай [redacted] іх абсыпаецца нейкая цаглінка з той руіны, якую мы называем жыццём.

У імгле гэтага слова «апошні» ўсё выдала ёй іншым, пашкадавала нават сваіх боляў і свайго сіроцтва. Сон не збіраўся клеіць яе павекаў, і засталася так на прызбе, пакуль не разбудзіў яе крык птаства, якое патрабавала ежы.

Пабегла і, плачучы, вынесла ўсё, што яшчэ мела, рассыпала зерне па зямлі, а галодныя птушкі пачалі яго старанна падбіраць. Гледзячы на гэтае мо сотае паўтарэнне штодзённай сваёй забавы, заснула беднае дзяўчо, зморанае пачуццямі і болямі, з якімі стомленае цела ўжо не магло справіцца.

Калі адкрыла вочы, месяц быў ужо высока на небе, а насупраць яе стаяла чорная постаць цыганкі Азы.

— Пара, пара! — адазвалася да яе прышлая.— Збірайся і хадзі са мной!

Марыся здрыганулася, крыкнула, але пасля хвіліны роздуму ўбегла ў хату і хутка, як быццам баялася сама сябе, схапіла нарыхтаваны клуначак і, не гледзячы і не аглядаючыся, пабегла за Азай на шырокую дарогу.

Перад ёй быў могільнік. Аза цягнула яе за руку, але дзяўчо, якое не развіталася з хатай, мусіла развітацца з матчынай магілай. Цыганка не пасмела ўвайсці за ёй на поле памерлых, сярод якога, як чорныя прывіды, густа ўзнімаліся крыжы.

Адна ўвайшла туды сірата і па сваёй сцежцы трапіла на знаёмае месца, пацалавала халодную зямлю і памалілася.

— Мама,— шапнула ў канцы,— ты бачыш, што мне трэба ісці. Тут не браты мае, тут чужыя; быў адзін, ды і за яго праклялі б мяне ягоныя старыя бацькі... Ты ведаеш, што такое праклён старога бацькі на сваё дзіця! Трэба мне ісці ў свет, у свет!

І абняла яшчэ рукамі старую вярбу, на якой вешала кудзелю, ды вось пачуўся нецярплівы голас цыганкі, і дзяўчына, паслухмяная яму, як голасу свайго прадвызначэння, вырвалася з могільніка.

А месяц так серабрыста асвятляў старую ляпянку, на страсе яе варкавалі галубы, а на парозе бялелі гускі, якія збіралі астаткі аўса, і мурлыкаў на прызбе лянівы Бурык. Адзін верны Сіротка ішоў за сваёй гаспадыняй і, ліжучы яе руку, нібы абяцаў, што яе не пакіне.

Мімалётным позіркам абняла гэты незабыўны від дзяўчына і кінулася дарогай, каб чым хутчэй ад яго ўцячы. Аза, ледзь паспяваючы за ёй, мармытала пад нос:

— Кроў бацькі!

Моўчкі мінулі гару, акружылі вёску і наблізіліся да другой магілы на ростані, дзе цыганка запынілася.

— Чакай...— сказала напалоханай Марысі,— і гэта магіла, з якой трэба развітацца... магіла твайго бацькі... Ты памалілася за маці, хай жа і я скажу слова духу майго сябра...

Дзяўчо спынілася з дрыжаннем, у абдымках нейкага страху, а цыганка ўзышла памалу на ўзгорак, павярнулася тварам да месяца, вырвала з магілы жменю засохлай травы, прыкінула жменю сухога галля і, вырасаўшы іскру, запаліла нейкую таемную ахвяру.

Кінула на агонь пахучае зелле і штосьці, вынятае з хусты, і пачала шаптаць нейкія словы і таямнічыя заклінанні, а пасля, скіраваўшы руку на вёску і двор, пачала слаць у той бок праклёны. Вецер, які спачатку раздзьмухаў вогнішча і распаліў сушняк, неўзабаве збіў гэта пахавальнае полымя, дык агонь, бухнуўшы ўгору, апаў і раптам згас. Толькі свіст ветру, як быццам разносячы словы цыганкі, паплыў па акрузе.

— А цяпер далей, далей у свет,— адазвалася, сыходзячы з магілы, Аза,— у свет, дачка цыгана... Помні, што твайго бацьку забілі *гадзі*... помні!

Праз два дні пасля гэтага Марцін з Рудэнскіх Будак вярнуўся дамоў са Ставіскаў і зноў спыніўся каля варот Хваінскіх.

Адам сядзеў каля хлеўчыка на калодзе і курыў люльку, якая ў яго штораз тухла.

— Добры дзень, куме!

— Добры дзень вашэці... А што, можа, зноў з жытам?

— А скуль яго набрацца? Еду з млына са Ставіскаў.

— Ну дык едзьце з богам! — сказаў пан Адам.— А якую мерку там бяруць?

— Дзесятую з чубам,— адказаў, уздыхаючы, Мар-

цін.— Вось які цяпер час! Але, але, куме! Маю я для вас за пазухай навіну.

— А чорт бяры цябе з тваімі навінамі, за якія загадваеш плаціць па паўзлотка за штуку. Можа, і гэту хочаш прадаць?

— А як жа, я за яе і злота ўзяць не пасаромеўся б.

— Паглядзіце! Спекулянт! Цяпер мяне ўжо не зловіш. Сын дома... праўда, штосьці трохі занямог, але яно, маладое, перахварэе, і чэрці яго не возьмуць.

— Бывайце, куме, здаровы! — сказаў з усмешкай Марцін, нібы збіраючыся ехаць.

— Ну а ваша навіна?

— Я маю яшчэ чацвяртак гароху, што б вы мне за яго далі?

— Вот жыдзішча! — забубніў пан Адам.— А на чорта мне твой гарох?

— А свіням. Прадам нядорага.

— Я знаю яго: напалову чарвівы і поўна ў ім зелля. Але як жа навіна?

— А што дасце за гарох?

— Ды супакойцеся, дрэнныя вашы жарты!

— Дабранач, куме!

Якраз, калі ён гэта гаварыў, хворы Томка вывалакся ў сенцы, але, убачыўшы бацьку, не пасмеў ісці далей і міжвольна слухаў гутарку.

Марцін адыходзіў, а пан Адам яго спыніў.

— Ну, ну! — сказаў.— Куплю ваш гарох. А што там?

— А дзівы! — адказаў Марцін, якому, быццам цудам, развязаўся язык.— Дык гэта ж тая Марыся-цыганка, як вы яе напалохалі, дык, нябога, усё пакінуўшы, уцякла з хаты.

Хваінскі сарваўся з месца.

— Ці ж можа быць?

— Як бог богам...

— А, дык гэта лепшая дзяўчына, чым я думаў.

— Дык жа ўсе ў вёсцы шкадуюць яе і трывожацца па ёй. А колькі, кажуць, бедная наплакалася, пакуль пайшла! А адыходзячы, сказала Саладусе, што не хоча мець на галаву вашага праклящця.

— А куды ж яна дзелася?

— Бог ведае! Адны кажуць, што пайшла да кагосьці ў мястэчка служыць, а другія, што яе ўгаварылі і забралі цыганы, якія тут былі і нядаўна ўночы зніклі...

— А, шкада мне яе, нябогі,— уздыхнуў стары,— калі яно такое сумленнае... Га! але, можа, гэта і лепш!

— А калі ж вам мой гарох прывезці?

Але заклапочаны пан Адам пайшоў да жонкі і не пачуў гэтага пытання.

Калі ён праходзіў праз сенцы, Томка стаяў, затаіўшыся, за дзвярамі. А як толькі бацька зайшоў у хату, вымкнуўся на падворак. Пан Марцін, паківаўшы галавой і памармытаўшы штосьці пра свой гарох, скіраваўся ў бок дому.

Тым часам хлопец, як быццам нічога не ведаючы, што навокал яго адбывалася, пабег у канюшню, дарваўся да сівака, закінуў яму вуздэчку на карак і, ускочыўшы на яго без сядла, сціснуў каленямі.

Вароты былі адчыненыя, і, пакуль хатнія заўважылі, Томка быў ужо на дарожцы і знік у лесе.

Маці і бацька не здагадваліся аб уцёках і яшчэ ціха гутарылі між сабой, калі сын, спыніўшыся на палянцы ў дубняку, абдумваў, што рабіць далей...

«Памчуся за ёй хоць на край свету! — казаў сабе ў думках.— Толькі як яе знайсці? Дзе яна, бедная, падзелася? У каго пра яе запытаць?»

Конь спуджана пырхнуў, і, быццам на выклік, з'явілася з кіем у руках за некалькі крокаў старая Саладуха.

— А гэта вы, панічыку,— адазвалася,— ледзь вы маіх старых касцей не растрэслі.

— Саладуха! Гэта ты! Нячысцік, ці што, водзіць цябе па лесе ўночы?

— Нясу Марцінісе лякарства. А вы ж гэта куды? Томка ўздыхнуў.

— У свет! — адказаў.

— О гэта далёка, панічыку,— адазвалася старая.— У які бок? Можа б, вы каму ад мяне пакланіліся?

— А ці я ведаю, куды паеду? — адказаў хлопец.— Толькі што даведаўся я пра сваё няшчасце. Паеду шукаць яе, хоць бы карак зламаць давялося.

— Панічыку, а бацька, а родная маці?

— Не хацелі майго шчасця, няхай і мяне не маюць,— сказаў Томка.— А ты не ведаеш, дзе яна падзелася?

— Дзе? Не інакш як пайшла з цыганамі... яе тая бэстыя вельмі спакупала. А як ваш бацька прыгразіў, дык павінна была, няшчасная, паслухаць бадзяг.

— А куды падаліся цыганы?

— Ага! Шукай ветру ў полі!.. Яшчэ два дні таму былі ў Рудэнскім лесе, а цяпер трэба ў людзей пытацца...

— А, праўда, які ж я дурань! — выкрыкнуў Томка.— Даведаюся ад тутэйшых людзей і пайду следам.

І паціснуў каня і, не сказаўшы бабе за параду добрага слова, знік у лесе, нібы наўздагон ветру.

Саладуха ўсміхнулася і міргнула вокам.

— Вот табе, шляхціц, заляцанкі! Вот табе, стары, дзёрці нос угору! Будзеш калыхаць цыганскіх нашчадкаў!

Назаўтра ўзняліся ў хаце Хваінскіх плач і лямант. Сын як у ваду ўваліўся, невядома дзе дзеўся. Бацька вінаваціць маці, яна наракае на бацьку, і абое плачуць. Усе Будкі сышліся на іхні панадворак, кожны са сваёй парадай, спачуваннем, з добрым словам, а пан Марцін з гарохам. Саладуха таксама прыпёрлася да плота, нібы нічога не ведае, маўчыць і толькі ўздыхае.

На дзядзінцы, як у дні вялікіх няшчасцяў, усе разам: і пан Адам з заламанымі рукамі, і Агата рве валасы з сівой галавы, і найміты, якія шэпчуць пра Томака розныя звесткі, бог знае, на чым заснаваныя.

— Ды няхай бы жаніўся з кім хацеў,— лямантавала Агата,— з цыганкай, жыдоўкай, апошняй валацугай. Магло б гэта ліха памалу навярнуцца і выправіцца нашымі стараннямі і малітвай. Але гэтак пайсці, уцячы ад нас на край свету!

— Няўдзячнае дзіця! — крыкнуў пан Адам.— Даў бы я яму сто розаг, каб злавіў!

— Вот гэтыя твае пяцьдзесят і сто розгаў, пра якія ты няспынна балбатаў, і нарабілі гэтага ліха,— сказала маці.— Ты б і пяці не даў, а на языку толькі розгі ды розгі.

— Але ж гэтага не можа быць! — заяўляў бацька, ходзячы па двары.— Я мушу яго знайсці, каб ён і пад зямлю схаваўся.

— А калі пайшоў за кардон? — адазваўся адзін з суседзяў.

Хваінскі цяжка ўздыхнуў, дапусціўшы такую думку, бо яна ўжо прыходзіла яму ў галаву. Рудня ж знаходзілася не далей як за дзве мілі ад галіцыйскай граніцы.

— Цыганы, напэўна, падаліся ў Венгрыю, дык і яна і ён пайшлі, напэўна, за імі,— дадаў другі.

— А, няшчасная мая гадзіна! А ўжо ж вочы мае больш яго не ўбачаць! — лямантавала маці.— Адаме, злітуйся дзеля ран Хрыстовых, іх трэба дагнаць!

— Што даганяць? Каго даганяць? Дзе? — адказаў бацька, не менш затурбаваны.— Вецер у полі! А хто ж ведае, дзе ён?

І тут з-за плота паказалася Саладуха.

— З дазволу вашэці,— адазвалася,— я тут яго ўчора вечарам спаткала ў лесе, як ён на сіваку без сядла ехаў.

— Спаткала ты яго? — крыкнулі разам бацькі, падбягаючы да яе.— Дзе? Як? Калі?

Усе абкружылі Саладуху. А тая радая, што так на яе звярнулі вочы і настроілі вушы, пачала расказваць. Аднак думаеце, што яна проста паўтарыла ўсё, як было? Старая мела звычай заўсёды што-небудзь прыкінуць з галавы, дык і цяпер без дабавак не абышлося.

— Іду гэта я, іду ўчора дарогай,— казала,— а быў ужо дабраваты змрок. Іду той дарогай, што ідзе на Будкі са Ставіскаў праз лес каля ксяндзовай пасекі. Іду і малюся сабе... А тут раптам — Ісусе Хрысце! — як быццам дуб зваліўся на мяне, шум, трэск, ледзь адскочыла ўбок, гляджу, перапалоханая, хрышчуся, а гэта Томка так імчыць на сівым. Вот так без сядла сядзеў на ім, а такі страшны, такі бледны, як хуста, без шапкі, з узнятымі валасамі на галаве... Сам не свой, ці хворы, ці ўсхваляваны? Аж я крыкнула... А ён спыніўся і глядзіць... глядзіць, а вочы ў яго блішчаць, божа мой, так страшна! А потым да мяне, бо ён мяне даўней знаў, дык і цяпер не мінуў, добрага слова не сказаўшы: «Добры вечар, маці!» А я: «Добры вечар, панічу. А куды ж гэтак?» Ён толькі рукой махнуў: «У свет, куды вочы панясуць!» Я тады: «Мілы божа, куды? як? што? што ж гэта такое?» Дык ён тады ўздыхнуў, аж мяне дрыжыкі праняллі. «Не хацелі,— сказаў,— майго шчасця, дык няхай і мяне не маюць. Вот паеду да цыганоў і падамся разам з імі на вандроўку». Я тады, убачыўшы, што тут не жарты, як ні пачну яго адводзіць, ды дзе там! ледзь не набіў мяне... А потым кажа: «Чуеш, старая, няма ўжо на гэта рады, я пайду за ёй хоць у пекла, бо не магу без яе жыць. А каб мяне і злавілі — дабавіла хітра Саладуха,— дык сам сабе смерць зраблю, бо жыццё мне абрыдла...»

Пасля гэтага настала доўгае маўчанне. Маці зірнула на старога Хваінскага, які сціснуў зубы, галаву апу-

сціў, а бязлітасны Марцін благую выбраў пару, пытаючыся, куды высыпаць гарох.

Нічога не адказаў Адам, у вачах у яго закруцілася няпрошаная сляза, ён загадаў хутчэй запрагаць коней. Загадваў стрымана, дабраў трох суседаў, вызначыў ім коней, а сабе падрыхтаваў брычку і выдаў загады наконт пагоні.

Маці стаяла і глядзела моўчкі, бо бачыла стрыманасць Хваінскага, і чакала толькі пары, каб што з яго дабыць, каб хоць трохі яго змякчыць. Палохалі яе сціснутыя вусны, насупленыя бровы і яго пабляднелы твар. Не магла здагадацца, што ён задумаў, дык і не ведала, з чаго пачаць. І толькі калі, пакінуўшы цікавых і занятых на двары гутаркай суседзяў, увайшоў у хату, каб захапіць дарожны кашалёк, жонка паспешліва ўціснулася за ім.

Былі адны ў хаце.

Старая сівавалосая жанчына ўкленчыла перад мужам і панам і моўчкі прыцягнула да вуснаў яго спрацаваную далонь.

— Адаме,— сказала па хвіліне,— адзавіся, скажы, што ты думаеш пра наша дзіця? Што ў цябе на душы? Не забівай мяне без пары... Навошта яго даганяць, калі не хочаш яму, беднаму, ні даравадь, ні патураць?..

Не заўважыла, што і ў бацькі трэсліся рукі, калі даставаў капшук, што вочы ў яго былі поўныя слёз і ён ледзь не ўсхліпваў. Не дагледзела, што ўвесь бацькаў гнеў перапаліла журба па адзіным сыну, што не было ў яго другой думкі, як толькі вярнуць яго дамоў.

— Ах, Агата,— выкрыкнуў з пачуццём,— на боскія раны! ці ж ты яшчэ мяне не знаеш? Дай бог, каб мы яго знайшлі, і не бойся за хлапца. Людзі даказваюць, што дзяўчына вартая, дык няхай выпаўняецца воля божая! — дадаў з павагай. Хацеў нас бог прынізіць перад людзьмі такой нявесткай, каб наш запрацаваны грош не ўздымаў нашай ганарыстасці, дык няхай

будзе яго воля... Няхай станецца... Абы мы яго вярнулі! А што я не пашкадую ні коней, ні грошай, ні самога сябе, пра гэта можаш быць спакойнай. Вось уклянч перад найсвяцейшай дзевай і святым Антонім, каб яны вярнулі нам нашу страту...

Сказаўшы гэта, пацалаваў яе ў лоб і, вырваўшы руку, якую яна цягнула да вуснаў, паважным крокам рушыў з хаты. На двары ўжо ўсё было гатова, тры шляхціцы, коні, воз. А цікаўныя гуртам акружылі іх. Адам стаў пасярэдзіне.

— Ну,— сказаў,— васпан, пане Вінцэнты, едзь, калі ласка, на Ставіскі. Хоць туды цыганы не маглі пайсці, але я ніводнага шляху пакінуць не магу. Вы, куме Мацею, паедзеце каля Парванца ў бок граніцы. Едзьце жвава і не шкадуйце маіх коней... Ты, Бартак, праз лясы скіруйся на мехаржынскую карчомку. А я буду распытваць у вёсцы і, куды падкажуць, туды павалакуся. Калі сустрэнецеся з цыганамі, хапайце Томака і дзяўчыну... Няхай дзеецца божая воля, калі не можа быць інакш. Скажыце яму, што ўсё яму дарую і пабагаслаўлю... пабагаслаўлю,— паўтарыў дрыготкім голасам.

Саладуха, пачуўшы гэта, рассунула натоўп і наблізілася.

— Пачакайце,— сказала,— найперш трэба ехаць у вёску распытаць людзей, а тады проста па слядах цыганоў, бо ён жа казаў, што іх дагоніць. Абы паспець, пакуль дабяруцца да граніцы, бо, як мінуць кардон, тады ўсё прапала.

Ужо шляхта села на коней і Адам збіраўся сесці ў вазок, калі Саладуха пляснула ў рукі, убачыўшы Ратая, які набліжаўся дарогай ад вёскі да Будак.

— Пастойце, пастойце! — крыкнула зноў моцным голасам.— Вунь валачэцца мой стары, ён ведае ўсё, што робіцца на тры мілі вокал, вы толькі ў яго запытайце, ён вам найлепей раскажа, дзе шукаць цыганоў!

Хваінскі выскачыў з вазка, шляхта саскочыла з коней, і покуль Ратай падышоў, апіраючыся аб плот, ужо засыпалі яго пытаннямі.

— Чакайце, памалу,— сказаў жабрак, спыніўшыся,— а навошта вам цыганы? Ці яны коней пакралі?

Саладуха наблізілася, і стары пазнаў яе па хадзе, перш чым яна раскрыла рот.

— А, і мая старая тут,— сказаў,— га, кінула хату і цягаецца па свеце!

Але Саладуха, не даўшы яму разгаварыцца, пачала штосьці шаптаць яму на вуха. Стары паківаў галавой і зняў шапку.

— А нашто вас столькі? — сказаў паволі.— Вот няхай мяне пан Адам возьме на воз, дык я давяду яго да цыганоў.

— Ты? Сляпы?

— Ну, ну, лепш я бачу без вачэй, чым вы, што маеце іх па двое на аднаго. Сядайце і не трацьце часу, стары Ратай не падвядзе.

Не вельмі ўсмак было Хваінскаму браць жабрака да сябе ў брычку, але што ж было рабіць? Ратай толькі схапіўся за ўскрай і рэзва ўскочыў на воз.

— Ты, Бартак, за намі! — сказаў Хваінскі.

Сцёбнулі па конях і падаліся бездарожжам праз лес так, як падказваў дзед.

Ад Рудні да Рудэнскіх будак цягнецца прастора лясоў, перарываная толькі палянкамі і лугамі, на якіх стаяць векавыя дубы і бярозы амаль без перапынку да самай галіцыйскай граніцы, якая праходзіць гарыстым зараснікам.

Мала хто так добра знаў тутэйшую акругу, як стары Ратай, які, пакуль не страціў вачэй, шмугляваў тавары ды і цяпер, молячыся, перанёс у жабрацкай торбе не адну кантрабанду. Усе, хто круціўся каля граніцы, жыдкі і іхнія памочнікі былі яго добрымі знаёмымі, ні адна схованка ў лесе не была для яго тайнай, і

кожную сцежку так апісваў, што Адам не мог надзівіцца, як ён так без вачэй мог усё запомніць!

Таўкліся так па лясах і па бездарожжы цэлы дзень, два разы пакрысе адпачывалі, а як настала ноч, Ратай запрапанаваў пакінуць воз з фурманам у гушчары і павёў Хваінскага [redacted] Барткам пехатой. Праз нейкі час, падумаўшы, зноў загадаў ісці коням за імі. І вось тут аказалася, што часам лепей не мець вачэй, бо толькі для Ратая не было ночы. Вёў іх, як днём, ні разу не спыніўшыся і не згубіўшы дарогі.

Так у маўчанні наблізіліся да акружанай узгоркамі даліны, пасярод якой стары Хваінскі першы заўважыў агні. Запыніліся на ўзгорку і, падкрадваючыся цішком, убачылі маляўнічы, дзікі і своеасаблівы, дзіўнай прыгажосці від.

Цыганскі табар размясціўся ў даліне каля вялікага вогнішча пад разложыстым спарахнелым дубам. Палатняны шацёр быў прыпёрты да ствала і прымацаваны да грубых пакручастых галін. Побач стаяў воз і пасвілася пара спутаных коней.

Відаць было кацялок (какабія), павешаны над агнём на трох палках, баб, якія мітусіліся каля агню, Азу, што сядзела, успёршы галаву на рукі, Апраша, які ляжаў каля яе ног і некалькі падлеткаў, якія круціліся каля старэйшага, што іграў ім на друмлі. Спярша неспакойныя вочы шляхціца не заўважылі ні сына, ні дзяўчыны, і яго сэрца пачало неспакойна біцца.

— Няма іх тут, няма! — прамовіў, ламаючы рукі. Але ў той жа хвіліне Бартак паказаў яму збоку ў цені, ледзь рассветленую слабым водбліскам, пару, у якой вока старога распазнала Томака і Марысю. Сірата сядзела, закрыўшы рукамі вочы, на спарахнелым пні, каля яе ног ляжаў малы клуначак. Томка стаяў збоку і, быццам кленучыся, штосьці ёй гаварыў і біўся ў грудзі. Сабака сядзеў [redacted] настаўленымі вушамі побач са сваёй гаспадыняй, неспакойна азіраючыся навокал.

.Калі-нікалі падаў на іх цікавы насмешлівы позірк Азы, поўны нейкага пачуцця, амаль помслівай радасці.

Хваінскі, разгледзеўшы ўсё гэта, хацеў адразу кінуцца да сына, але іншыя, а галоўнае Ратай, стрымалі яго, што могуць уцячы, што цыганоў большая сіла і дражніць ліха небяспечна. Пасля, паказаўшы рукой старому, каб заставаўся збоку, Ратай сам трохі адсунуўся і, сышоўшы ў яр, скіраваўся проста на дым цыганскага вогнішча.

Ужо блізка падышоў, але яшчэ ніхто яго не заўважаў, ды раптам забрахаў Сіротка, а за ім узнялі брэх і два цыганскія сабакі. Аза зірнула, Апраш падняўся, і ўсе пачалі купіцца, кіруючыся да дзеда.

— Супакойцеся,— сказаў Томка,— гэта стары Ратай са Ставіскаў. Напэўна, пераносіць жыдкам пасылкі ды, знюхаўшы дым, прыйшоў пагрэцца.

Цыганы спыніліся, быццам раіліся, што рабіць, а стары смела ўвайшоў у лагер. Намацаў кіем, пачуўшыся ля агню, месца, прагнаў сабак і сеў на траву, не звяртаючы ўвагі на цыганскае зборышча.

Убачыўшы Ратая, Марыся ажно крыкнула ад радасці, так ён напомніў ёй Ставіскі, хату і даўнейшае жыццё, дык, забыўшыся пра страх, не збіраючыся таіцца, зараз кінулася да яго.

— Як маецеся ойча, як маецеся?

— А гэта ты, Марыся, га? — сказаў стары, які толькі і чакаў, каб яна адазвалася.— Не навіна мне, што ты тут. Я здагадаўся, што ты пойдзеш за цыганамі, улюбіўшы ляха, а і лях, каб яго ліха не брала, за табой пацягнуўся, бо здаецца, яго голас чую. Вот як гарна вы надумаліся.

Марыся стаяла моўчкі.

— Ойча,— адазвалася праз хвіліну,— відаць, што калі каму ў долі выпадзе быць праклятым, дык ужо ад праклянцця не ўцячэ. Вы ведаеце, што ніколі, ах, ніколі я не пакінула б і сваёй хаты, і магілы маёй маці, каб

лях за мной не ганяўся і каб мне яго бацька не пагражаў праклящцем. Я не хацела, каб мяне, убогую, клялі яго старыя бацькі. Аднак відаць, што на гэта была божая воля!

Дзяўчына глыбока ўздыхнула.

— Я прасіла яго на каленях, плакала, каб вярнуўся дамоў. Малю яго і цяпер, а ён не хоча... О, скажыце вы яму, скажыце, няхай вяртаецца!

— Я іду з Рудні,— сказаў стары,— а там жа ў Хваінскіх судны дзень. Дрэнна зрабіў ты, хлопча: бацька і маці разбіваюцца па табе, аж мне шкада іх было, што плачуць па такім, як ты, валацузе... Як табе не сорамна! Як не шкада!

Томка панура маўчаў, Марыся, заламаўшы рукі, выкрыкнула:

— Ойча, гаварыце яму, кажыце, можа, узрушыцца яго сэрца. А ці ж выпадае так пакідаць добрых бацькоў? О, каб у мяне такія былі!

— Хіба ты вернешся са мной, інакш ніколі,— сказаў Томка,— ніколі...

— Ой, доля ж мая нешчаслівая,— заплакала Марыся.

— Дзе ты, там і я, альбо загіну! — дадаў хлопец.

Ратай дастаў з торбы кавалак хлеба і пачаў яго памаленьку рэзаць. Аза падышла, спынілася і, слухаючы размову, углядалася ў старога, і дзікая ўсмешка блукала па яе вуснах.

— Пашалеюць старыя бацькі,— сказала,— пашалеюць. Варты яны гэтага! Хацелі другога шчасця сыну, няхай сабе другога сына пашукаюць.

— Жанчына! У цябе хіба няма дзяцей! — адазваўся сурова Ратай.

— Не маю і не хачу іх мець,— ганарыста адказала Аза,— датуль з іх пацеха, пакуль вісяць пры грудзях, а саскочыўшы на зямлю, вырываюць у бацькоў хлеб з рота і спакой з душы. Ці ж няпраўда, стары?

Ратай патрос галавой.

— Не, не,— дадала Аза,— ужо ні яна, ні ён не вернуцца да вас, яны мусяць ісці з намі! Гэта дзіця нашай крыві, а гэта яе муж, ён адмовіўся дзеля яе ад усяго і добра зрабіў... добра! Гадзіна шчасця лепшая за век спарахнелага жыцця.

— Мая дарагая,— жуючы хлеб, адказаў Ратай,— гэта як што каму да ўпадобы. А я гадзіны сваёй нягчаснай долі не зганддяваў бы на карацейшую хвіліну лепшага шчасця, вось так і жывецца...

— Ты такі цыган, як і мы, такі ж бадзяга,— адказала Аза,— а лепшага жыцця за цыганскае няма, і табе яно падабаецца. Я плюю на долю, бо пакідаю яе за сабой, яна ў мяне штодня новая, новае неба, новае жыццё... Гэй, далей і далей, абы дзень да вечара!

— Як вы можаце так гаварыць! — нясмела запярэчыла ёй Марыся.— Ах, мой божа, мой божа! А я за той куток, за магілу, да якой прырасло маё сэрца, і за даўнейшую долю аддала б палову жыцця, каб іх хоцьува сне ўбачыць... Нядаўна пайшла я адтуль, і не маю спакою ад тугі, аж мая галава разрываецца... аж шалею ад плачу...

— Бо ты нядаўна пайшла,— сказала Аза, смеючыся.

— А гора мне прыбаўляе яшчэ і тое, што Томка з намі і за ім ляцяць праклёны добрых людзей. Мне здаецца, што я адчуваю, як іх прыносіць вецер, як яны мяне валяць і сушаць маю душу.

— Ну дык вяртайся назад,— сказаў Ратай.

— Я? Ці ж я магу? — уздыхнула дзяўчына.— Ніколі ўжо, ніколі! Да тых людзей на кпіны, на пагарджанне, на праклёны!

Ратай пачаў моцна кашляць і так аддыхваўся, што можна было пачуць яго за гоні...

— Вот, што мне дасі, Марыся,— сказаў,— дык я завяду цябе дахаты?

— О! я і сама туды трапіла б, каб мне было можна,— адказала дзяўчына.— Перш завядзі туды ляха...

— Не гавары гэтага, Марыся! — абурыўся Томка.— Ты ведаеш, што я пакляўся і ніколі цябе не пакіну.

— Гора маё, гора! — заплакала Марыся і закрыла твар рукамі.

Тут Ратай ускочыў, выпраміўся і павярнуўся тварам назад. А на гэты ўмоўны знак, як цудам, выступіў з-за кустоў Хваінскі, які чуў усю гутарку.

Ледзь толькі бляск агню абліў яго твар, як крык Томака, якога жабрак схапіў за руку, пранёсся па лесе і ўвесь цыганскі табар, як гурт дзікага птаства пасля выстралу паляўнічага, узарваўся з месцаў. Аза клікнула сваіх, Апраш, яго дзеці, бабы — усе схапіліся за кіі, сякеры і нечуваным гоманам напоўнілі даліну.

Цыганы яшчэ не разумелі, што сталася, ім здалося, што на іх напалі, дык выкрыквалі:

— *Катарсот? Катарсот?* (Адкуль? Хто гэта?)

Марыся села на зямлю, як нежывая ад страху, закрываючы рукамі вочы. Томка вырываўся і тузаўся. І можа б, усё закончылася якім-небудзь крывавым ударам, каб Ратай не крыкнуў гучней за ўсіх:

— Чакайце, слухайце, цыганы, паганцы, сабачае племя! Нас жа тут толькі два, дык жа мы вас не паямо... А ты, дурны лях, замест уцякаць, падай разам з ёй да бацькавых ног...

— Я дамоў не вярнуся! — выкрыкнуў заўзяты Томка.

— Ціха! Маўчы! — спыніў яго жабрак.— Бацька табе даравау, вернецеся ўдваіх... Да ног старому, да ног!

Пачуўшы гэта, Томка, якога руку Ратай ужо пусціў, стаяў як аслупянелы, а пасля скочыў, абняў бацькавы ногі і пачаў цалаваць. Але Марыся, пачуўшы і

ўбачыўшы гэта, узарвалася з зямлі і, уся дрыжучы, схавалася між цыганоў за плечы Азы.

Стары Хваінскі, моўчкі, разам грозны і расчулены, не могучы вымавіць слова, ціснуў сына да грудзей.

— Я дараваў табе! — адазваўся нарэшце.— Бяры яе і вяртайся дамоў. Але помні, хлопча...

Тут слёзы спынілі яго словы.

Томка вызваліўся [redacted] бацькавых абдымкаў шукаць Марысю, якая стаяла воддаль, шэпчучыся з цыганкай.

Цыганскі лагер, як быццам закрануты чарадзейнай палачкай, гуртаваўся, завіхаўся і хутка збіраўся пакінуць вогнішча. Ускінулі на воз палатку, паспешліва запрагалі коней, усе памагалі адны адным пакавацца, а Апраш, не гледзячы, на каго трапяць, густа раздаваў удары арапніка.

Томка працiснуўся да дзяўчыны.

— Бацька нам прабачыў! — крыкнуў.— Хадзі, хадзі! Схіліся разам са мной да яго ног.

Але Марыся, плачучы, схавалася за Азу.

— Яна не хоча! — адазвалася цыганка.— Чуеш, што не хоча...

— Як гэта не хоча? — крыкнуў Томка.

— Запытайся ў яе самой. Яна ідзе з намі.

— Тады і я з вамі! — выкрыкнуў Томка.— Але гэтага не можа быць!

— Дзяўчына не хоча! Ці што? — адазваўся стары Хваінскі.— На боскія раны! Ці ж мы яшчэ будзем яе прасіць?

Ратай са шляхціцам падышлі да сіраты.

— Што [redacted] табой сталася, дзіця? — пачаў Ратай.— Ашалела, адпіхаць такое шчасце? Гавары! Гэта цыганская справа, абдурылі ці зачаравалі?

— Ніхто мяне не зачароўваў,— адказала, збіраючыся, Марыся — але ці ж магу я, скажыце самі, навязвацца некаму за нявестку? Ці ж будзе там шчасце, дзе няма любові, дзе няма добрай волі? Вы пагарджаеце

мной як цыганкай, а я міласціны не хачу. Прымаеце мяне з жалем, каб вярнуць сына, а заўтра можаце выгнаць прэч з торбамі ці праз год, калі дажывём, калоць мне вочы цыганствам, сіроцтвам і беднасцю... Не! Гэтага я не хачу!

Хваінскі, задуменны, маўчаў.

— Слухай! — адазваўся пасля хвіліны развагі.— Слухай і павер мне, дзяўчына, бо тое, што кажу, я мог бы паўтарыць і перад божым алтаром... Я лічыў цябе за абы-што, не хаваю, але калі я цябе ўбачыў і пачуў, а цяпер яшчэ больш... клянуся богам, што калі б я гэтаму гультаю выбіраў жонку, а сабе нявестку, то ўжо іншай не жадаў бы... Ты сумленная і ганаровая, а мне ў хату грошай не трэба, а толькі шчасця.

Дзяўчына стаяла як укопаная. Слёзы пацяклі ў яе з вачэй, падбегла, пацалавала руку старога і ціха прамовіла:

— Хай бог заплаціць вам за добрае слова. Але людзі! Але маці!..

— Э! Дурная ты! — крыкнуў Ратай, падымаючы сукаваты кій.— Ат, не дурылася б дарма... А мала табе, што вернешся ў сваю хату, у свой кут, да матчынай магілы і не будзеш валэндацца і губіць душу з цыганамі?! Да ног старому, да ног і ў дарогу!

Калі гэта адбывалася ў маленькай групе, якая складалася з Хваінскіх, Ратая, Бартака і Марысі, цыганская грамада, трохі адступіўшы, стаяла моўчкі. Пакінуўшы нават пакаванне і зборы ў дарогу, дзівіліся з дзіўных, незразумелых ім таргоў.

Аза стаяла маўклівая, спахмурнелая, загневаная, а калі нарэшце ўбачыла, што Марыся кланяецца старому, рассмяялася дзікім смехам, жахлівым, як праклянцце.

— Дурная дзяўчына! — сказала.— Ідзі на загубу, калі хочаш, ідзі...

І павярнулася да сваіх.

— Апраш, у дарогу! У Венгрыю!

— І мы ў дарогу,— прамовіў Хваінскі,— у хаце чакае нас, молячыся, маці...

Калі сірата адвярнулася, каб развітацца з цыганамі, Аза падалася назад, адпіхаючы яе рукой.

— Ідзі прэч! Кроў ненавісных *гадзяў*! — замармытала праз зубы.— Ідзі на зламанне да сваіх! Ты не варта вогнішча *ромаў* і сэрца *ромаў*... прэч, белая!

Мужчыны падхапілі Марысю і пасадзілі яе на воз. Тут жа селі стары, Томка і Бартак і так хутка памчаліся, баючыся нападу цыганоў, што нават забыліся пра старога Ратая, які з кіем у руках, мармычучы, паваloкся за імі. І сапраўды, паслухмяная Азе банда цыганоў нейкі час радзілася, як адбіць дзяўчыну, але пакуль там надумаліся, што рабіць, Хваінскія, падсцёбнуўшы коней, падаліся хутка праз лясы ў бок Рудні.

Толькі сівы Томкаў конь стаў ахвярай перапуду, бо Апрашы павялі яго з сабой у Венгрыю.

Праз некалькі тыдняў пасля гэтага — закончым так, як канчаюцца казкі,— было спраўлена гучнае вяселле... І было яно багатае, і было вясёлае, і было радасна, і гасцей на ім не злічыць. І я там быў, мёд, віно піў, па барадзе цякло, а ў роце не было...

Старэнькая хата за вёскай яшчэ стаіць, але побач, на пляцы, адпушчаным Хваінскім на чынш, пасяліўся Томка і пабудаваў шляхоцкі дом, пра які некалі, некалі, як будзе ў мяне весялей на душы і свабадней на сэрцы, а на свеце лепей, можа, калі раскажу, бо толькі ў казцы ўсё канчаецца вяселлем, а на свеце ад яго пачынаецца... а хата за вёскай яшчэ стаіць.

**Крашэўскі Ю. І.**

К78 Хата за вёскай: Аповесць/Прадм. і пер. з польскай мовы П. Бітэля.— Мн.: Маст. літ., 1989.— 374 с.— (Б-ка замеж. прозы).

ISBN 5-340-00172-5 (беларус.)

Крашевский Ю. И. Хата за селом: Повесть.

Польскі раманіст Ю. І. Крашэўскі (1812—1887) быў адным з найбольш пладавітых пісьменнікаў у свеце. Пакінутая ім спадчына складае 600 тамоў. У іх адлюстравана гісторыя Польшчы пачынаючы са старажытных часоў. У аповесці «Хата за вёскай» паказана жыццё валынскай вёскі І-й пал. XIX ст., у эпоху існавання патрыярхальнай прыгоннай вёскі. Апавяданне грунтуецца на вобразах з натуры, на жывых, узятых з народнага побыту матэрыялах.

К $\frac{4703010100-093}{М 302(03)-89}$ 153—89 ББК 84.4П

*Литературно-художественное издание*

**Крашевский Юзеф Игнацы**

**ХАТА ЗА СЕЛОМ**

**Повесть**

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Крашэўскі Юзаф Ігнацы**

**ХАТА ЗА ВЁСКАЙ**

**Аповесць**

Рэдактар Л. І. Каўрус. Мастак В. А. Тарасаў. Мастацкі рэдактар А. М. Малышава. Тэхнічны рэдактар Г. П. Тарасевіч. Карэктары К. У. Дзмітрыенка, Л. М. Маслоўская.

ІБ № 2887

Здадзена ў набор 06.06.88. Падп. да друку 28.02.89. Фармат $70 \times 100^1/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 15,28. Ум. фарб.-адб. 15,61. Ул.-выд. арк. 17,14. Тыраж 8000 экз. Зак. 1531. Цана 1 р. 70 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.